# Змест

**ПАЭЗІЯ**

**Таццяна Казановіч.**
*Быць з табой...* Вершы. .................... 7

**Кастусь Нашчынец.**
*Зімовы блюз*. Вершы. .................... 11

**Кацярына Ваданосава.**
*Я не гуляю словамі.* Вершы. .................... 15

**Алесь Яшчанка.**
*Беларускае неба.* Вершы. .................... 27

**Ірына Грумандзь.**
*Глыток любові.* Вершы. .................... 37

**Валерыя Кустава.**
*За паўначы да прычасця.* Вершы. .................... 41

**Марыя Сцяфанава.**
*Завірушаныя дні.* Вершы. .................... 51

**Васіль Зуёнак.**
*Падпяваючы жаўранку.* Вершы. .................... 57

**ВЕРАСОК**

Вершы вучняў СШ № 19 г. Мінска. .................... 71

**ПРОЗА**

**Яніна Пінчук.**
Апавяданні. .................... 77

**Надзея Філон.**
Апавяданні. .................... 91

**Мікола Ляшчун.**
*Рэкс і рыжык.* Апавяданне. .................... 97

**Наталля Галавач.**
*Казачны трыпціх кахання.* Экспрэсія. .................... 101

**Вячаслаў Лапцік.**
*«Інфлянцыя»*. Апавяданне. .................... 109

**Алесь Аркуш.**
*За таемнымі дзвярыма.* Урывак з рамана. .................... 115

**Лявон Валасюк.**
*Я буду цябе ўспамінаць...* Трыпціх. ........................................................ 125
**Вінцэсь Мудроў.**
*Дзень нараджэння.* Апавяданне. ............................................................ 139

## ПЕРАКЛАДЫ

**Дагнія Дрэйка.**
Казкі. ............................................................................................................. 159
**Ісмаіл Кадарэ.**
Апавяданне. .................................................................................................. 171

## КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ

**Кацярына Массэ.**
*Называю, значыць, існуе...* Эсэ. ............................................................... 197
У спадзяванні на Бога...
*Гутарка Эдуарда Акуліна з Андрусём Такіндангам. .............................. 201*
**Кацярына Шчасная.**
Беларускі «Кінаконг». Артыкул. ............................................................... 207
Трэба толькі трошкі ўключыць фантазію...
*Гутарка Альдоны Мартыненка з Вольгай Кардаш. .............................. 213*
**Ала Петрушкевіч.**
*У гады вайны.* Урывак з кнігі....................................................................... 219
**Сяргей Чыгрын.**
*Песні Жальбы.* Артыкул. ............................................................................... 227
**Анатоль Трафімчык.**
*Паміж невымоўным і невыгаўкным...* Рэцэнзія. ........................................ 235
**Анатоль Мяльгуй.**
Дыскаграфія. ................................................................................................. 241



# Таццяна Казановіч

паэтка, музыка. Студэнтка тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва. Кіраўнік музычнага гурта «Тутэйшыя» (2014 г.). Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Быць з табой...

***

Нічога значнага, проста нядзеля,
Бязгучна плача мая надзея.
Згубіла сонца часінай хмурай,
І неба стала такім панурым.

Я абяцала сабе не плакаць,
Хоць пад нагамі ўсё тая ж слякаць.
Не буду, праўда, я маю сілы,
Дагэтуль веру я ў дзень шчаслівы.

Нічога значнага, проста нядзеля.
Няважна, з кім я, ўсё роўна, дзе я...
Прабач за сум мой, прабач за крыўды,
За недарэчны душы надрыў мой.

Ламае вецер галлё старое —
Зноў не зрасцецца, ужо не тое.
Давай не будзем, давай пакінем,
Хай застанецца ўсё ва ўспаміне.

***

Ціха ноч апусцілася
Ды заплюшчыла вочы.
Божа, як я стамілася
І няма куды збочыць.

Я свабоду нашу з сабой,
Нібы цяжкі заплечнік.
Не магу болей быць адной,
Вельмі хочацца збегчы.

Не патрэбна сама сабе,
Што хачу я ад свету?
Па калені стаю ў вадзе...
Як мне сплысці адгэтуль?

Добра, што хоць надзея ёсць
На шчаслівае заўтра.
Можа, я зразумею штось,
І ўсё зменіцца раптам.

***

Нашто пісаць, калі шчаслівы?
Што свету гэтаму сказаць?
Я прагну жыць! Дай, Божа мілы,
Штодзень як свята сустракаць.

Але чаму так дыхаць лёгка?
І хочацца любіць ўвесь свет?
Бо ўсё самотнае далёка,
А я шчаслівы чалавек?

Пытанняў шмат, адказ жа просты —
У кожнай літары нямой,
У зрэнках колеру нябёсаў,
Ў маім жаданні быць з табой.

***

Ніколі мы не будзем разам,
Нібыта лета і зіма,
З табой падзеленыя часам,
Між намі восень і вясна.

Між намі горы, акіяны,
Вятры, туманы і дажджы,
Бясконцы боль, любві падманы,
Гарачы стэп і халады.

Начное неба, пацалункі,
Журба і ціхі шум вады.
Расчараванне і пакуты,
Хвіліны, месяцы, гады.

Ніколі мы не будзем разам,
Нібыта неба і зямля,
Навек падзеленыя часам,
Дзве адзіноты — ты і я.

***

Я уявіла, што цябе няма.
Ніколі я цябе не сустракала,
Што гэтая халодная зіма
Маю душу з тваёю не звязала.

І ахапіла лёгкія туга,
Я дыхаць на хвіліну перастала.
Кахаю я цябе? Напэўна, так.
Бо ўсё адразу мне няважным стала.

Каханне — гэта музыка сустрэч.
Нярвовыя гадзіны у чаканні...
Калі спадае ціха футра з плеч,
І сыплюцца гарачыя прызнанні?

А, можа, гэта цёплы акіян,
Бясконцы, таямнічы і глыбокі,
Калі не разумееш ўласны стан,
Ды ўсведамляеш: ты не адзінокі.

Я уявіла, што цябе няма.
Ніколі я цябе не сустракала —
І раптам сэнс майго ўсяго жыцця
Згубіўся ў цёмных нетрах акіяна.



# Кастусь Нашчынец

паэт. Закончыў факультэт міжнародных зносін БДУ. Магістр кіравання і эканомікі. Нарадзіўся ў 1993 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Стоўбцах.

# Зімовы блюз

## Надзея

Аскепкі разбітых начэй.
Роспач паніклых вачэй.
Ізноў адзінота агорне,
Лязом паласне па горле.

Уздрыгнуў. Прачнуўся. Дзе я?
У ложку цёплым. Ёсць надзея...

***

Калі на сэрцы тонкі лёд,
А баравіны патанаюць ў багне,
Тады гібее ў бездані народ
І больш жыцця не прагне.

Калі у плыні тваіх любых рэк
Уздоўж і ўпоперак віруе нафта,
Пакута раз'ядае незайздросны век,
Жывецца ўжо зусім не надта.

Губляеш ты свой шлях дадому,
Скуголіш і блукаеш па зямлі,
Гамоніш, ныеш, але невядомы
Лёс сябрукоў, радзіны і сям'і.

У думках — спроба ашуканства.
Заўважыўшы пустэчу ў гаманцы,
Зноў хочаш запытаць у панства,
Як зводзяцца з канцом канцы...

## Туман

Кудзелісты туман хавае дрэвы,
А сам — нібы ўцякае ўсё далей.
Ледзь-ледзь даносяцца з касцёла спевы,
Жалобным рэхам гінуць між алей.

## Дзень

Ізноў знікае ў змроку дзень,
Самотны адвячорак выплывае.
Не сонца, а ліхтар кідае кволы цень.
Над рэчкаю сівы туман лунае.

Сціхаюць вуліцы. На змену ім —
Святло агеньчыкаў акон маўклівых.
І толькі не спыняецца, клубіцца дым,
Над комінам вытаньчвае гулліва.

Што дзень прынёс табе, што даў?
Хіба ўсе спраўдзіў намаганні й мары?
А што ты сам яму падараваў?
Ці з гонарам ты вытрымаў яго удары?

Расчаравана ты махнеш: «Даволі.
Дзень не прынёс ніякае карысці.»
Але ж! Ён не паўторыцца ужо ніколі,
А мо з усмешкай узгадаецца калісьці.

Пазней падумаеш: «Які я быў дурны...
Эх, каб цягнуўся ён ды быў даўжэй.
Не так і марна ўсё было у той пары.»

Бо заўтра можа быць яшчэ цяжэй...

## Зімовы блюз

Ён спяваў ветру песні
Пра свой шлях і тугу.
І казаў: «Напрадвесні
Сваё шчасце знайду».

Вострым струнам паветра,
Промням сонца чуллівым
Адкрываў душы нетры,
Быў заўжды з імі шчырым.

## Будзе вечар

Будзе вечар і сонца ўзарвецца —
Распадзецца мільёнамі зор.
Пачуццё у душы адгукнецца,
Вусны самі адчуюць дазвол...

Будзе вечар і сонца ўзарвецца,
Срэбны месяц заменіць яго.
Пачуццё, што каханнем завецца,
Выйдзе прэч са сваіх берагоў.

## Дзяды

Яны вяртаюцца ў снах і адганяюць ліха.
Без іх балюча, пуста на душы.
Яны сышлі і спачываюць ціха,
А нам пакінулі самотныя крыжы...

Над імі верхавіны дрэў старых,
Над імі дождж, а не птушыны спеў.
Ўсё менш слядоў той сонечнай пары,
Знікае свет, які калісь грымеў.

## Будучыня

Нас будучыня вабіць і хвалюе,
Надзеямі і планамі
Наш новы дзень
Малюе.
Але ж, даведайся мы пра свой лёс і долю,
То кінулі б змаганне
І не выжылі б
Ніколі.



# Кацярына Ваданосава

паэтка, музыка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Лаўрэат конкурсаў бардаўскай песні: «Пецярбургскі акорд–2008», «ОРРА–2009», «Бардаўская восень–2009», «Культурная эвалюцыя–2009», «Подых струн–2016». Аўтар паэтычнага зборніка «Міфатворчасць» (2015 г.) і музычнага альбома з аднайменнай назвай. Нарадзілася ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Я не гуляю словамі...

## Эвалюцыя

На ўсіх кантынентах зямлі,
На ўсіх раздарожжах нябёсаў
Мы разам з табою былі —
Ніколі нас лёс не разносіў.

Мы побач ляжалі ў вадзе
Ды бачылі новае сонца,
А горы, як пікі грудзей,
Ўздымаліся ў моры бясконцым.

І лава цякла малаком,
Каб выкарміць юную сушу...
Мы чулі, як родавы стогн
Арбіту планеты парушыў.

Без скуры, без твараў, без ног
Мы кінулі водныя нетры,
Ўспаўзлі на гарачы пясок,
Глытнулі сухое паветра

І сталі хадзіць па зямлі
Ў абліччах пачварных ды грозных.
Мы разам з лясамі раслі,
Сталелі зільдом ды марозам.

Мільёнамі жыццяў-дарог
Ішлі мы з табою, каханы,
Змінаўся смарагдавы мох
Пад лапамі ды капытамі.

Я помню цябе ды сябе
Са скрэблам, сякерай, сахою,
А тысячы нашых дзяцей
Ссякалі магутныя хвоі.

Раслі і раслі гарады...
Змяняліся бітвы ды песні,

І мы пакідалі сляды,
Каб разам хутчэй уваскрэснуць.

Мы перанародзімся зноў —
Законаў зямлі не парушыць,
Бо вечна жывая любоў
Каханым дае неўміручасць.

*26-27.01.2016*

## Каіну

Колькі патрэбна вякоў, каб ты здолеў забыць,
Як падалі зоры з нябёсаў халодным дажджом,
Пер'е камет на бязлітасных крылах бяды
І страх у вачах нерухомых адвечным ільдом?..

Дым на травах ляжыць,
Дагарае агонь,
І анёл у цішы
Адпускае далонь.

Ценяў адбіткі ў келіху з горкай вадой,
Рэзкія блікі на твары ад цяжару сноў...
Кім стала тая, што доўга ішла за табой
З усёдараваннем, з літасцю да камянёў?..

Дзе былі гарады —
Толькі сныць ды палын...
«О, Адаме стары,
Я — таксама твой сын!»

Рэха цалуе абломкі бажніцаў пустых,
Зноў паўтарае імёны забітых братоў,
Цьмяная смальта мазаік спявае пра тых,
Хто ў полымя дню невядомага прагна сышоў.

На бяссільных плячах
Засыналі ільвы...
Кроў на чорных крыжах...
Помні кожнага з іх.

Тысячагоддзям вядзецца бязлітасны лік,
Памяць — таўро на ілбе, бессмяротнасці знак,
Душа разальецца ў адзіны нястрыманы крык,
Ды стане адказам халоднай зімы цішыня.

Слаў, забойца, жывых
Ля царкоўнай сцяны!..
Рудым пасмам тваім
Не прыдбаць сівізны.

Тысячагоддзяў ланцуг на далонях ляжыць...
Страшнейшае ў свеце — ўсе царствы зямлі пераажыць.

***

Белая лесвіца, чорны парог,
Дзвярэй расхінутых разлом.
Хтосьці дабраўся, хтосьці не змог —
Зямля не пакіне слядоў.

Зліпліся вусны, гараць языкі
Ад смаку сваёй жа крыві.
Страху адбітак на тварах людскіх —
Скамечаных, сонных, крывых.

Гвалт і вайна. Надыходзячы дзень
Бомбаю грудзі ўзарве.
Пырсне шрапнеллю калючы прамень,
Сонца патоне ў смале.

Як невыносна, балюча цярпець
Груз нездзяйсняльных надзей!..
Выбар адвечны: бой альбо смерць.
Ўмерці, вядома, прасцей.

Белая лесвіца, чорны парог...
Мне не дайсці да мяжы...
Падаю ўніз. Б'е ў вушах крыватoк.
Значыць, працягваю жыць.

*2.02.2016*

## Бяссонніца

Зноўку ноч. І халодная стома
Праліваецца ў розум ды плоць.
Адзінота, як млын стогадовы,
Прынялася ўспаміны малоць.

Жорны змеляць дашчэнту сусветы,
Страх праніжа ўсё цела да дна...
Сёння зноў не хапае паветра.
Сёння зноў не заснуць да відна.

*8-9.02.2016*

## Інтымны дыялог культур

Твае вузкія тонкія пальцы —
Як сцяблiны пяшчотных лілеяў...
Нам ніколі б не перасякацца —
Лёс іначай дарогі адмераў.

Мы стаім, як на розных планетах,
Ў гуках горада рэзка-празрыстых:
Ты — ў паклоне, бы кедр пад ветрам,
Я — прамая, бы ствол кіпарыса.

І лязом, што не ведае хібаў —
Безнадзейнае асэнсаванне:
Нам не дадзены шанец ды выбар —
Толькі холад і ўзнёсласць маўчання.

Але раптам ты рушыш насустрач,
Гонар кінуўшы ў нетры спакусы,
Скажаш: «Kon'nichiwa» ледзьве чутна.
«Прывітанне», — табе ўсміхнуся.

## Калыханка для ненароджаных

Спіце, анёлы, спіце
Ў зорных нябесных высях...
Плывіце ў сваіх калысках
Па аблачынах-снах.

Вам, туманом спавітым,
Ніколі не нарадзіцца...
Спіце, анёлы, спіце
Ў Госпада на руках.

Спіце, малыя дзеці,
Ўсмешкамі хмары цешце;
Ціха спявае вецер
Песні без слёз ды слоў...
Той, хто не жыў на свеце,
Не забаіцца смерці.
Спіце ды цвёрда верце
Ў святасць сваіх бацькоў.

Вам не далі імёнаў,
Вас не бралі ў далоні:
Чыстых, безабаронных,
Вас аддалі зямлі...
Ціхім нябесным звонам
Люлькі гайдаюць зоры,
З ласкаю дораць тое,
Што людзі даць не змаглі.

Спіце цішэй, анёлы...
У неабсяжным моры
Калыскі, нібыта чоўны,
Плывуць у далёкі шлях...
Вечнасцю ды прасторам
Дыхаюць мамы-зоры...
Спіце ў начным спакоі
Ў Госпада на руках.

*13.02.2016*

***

Я не гуляю словамі.
Яны для мяне — святыя.
І кожны мой верш — бажніца,
Светлы іканастас.
Словы стаяць іконамі,
Дзіўнымі, залатымі:

Я толькі магу маліцца,
Каб веры агонь не згас.

Я не гуляю словамі.
Дзеля адной забавы.
Стужкаю алітэрацый
Крылаў ім не звяжу.
Кожны мой верш узброены
Велічнай светлай марай,
Кожнае слова — збаўца,
Што мне зберажэ душу.

Я не гуляю словамі,
Як не гуляюць сэрцам:
Ахвяраваць сумленнем
Навыкаў не стае.
Будуць радкі апораю
Ў пошасці, паняверцы;
Кожны мой верш — імкненне
Не здрадзіць самой сабе.

*8.02.2016*

## Віленскае прысвячэнне

*А. П.*

Ты мне пакінуў стыгму —
Чорна-чырвоны стрэл.
Я вызваляю рыфму —
Новай вясны спадзеў.

Рэха па брукаванцы
Коціцца, быццам мяч:
Дайце мне праўды, дайце!..
Праўды няма, хоць плач.

Сярэднявечны горад
Льецца дажджом сляпым...
Зараз не час для гора —
Роўнасць даецца ўсім!..

Ты ціха скажаш: «Роўнасць?..»
Лёд у тваіх вачах.

Мне на вякі запомніць
Свой неадольны страх.

Страх падарыў мне зброю —
Гнеў, што мацней за сталь.
Сонца над галавою
Свет апячэ: «Паўстань!»

І расцякуцца словы
Чырванню, быццам кроў.
Ты падарыў мне волю.
Я не збаюся зноў.

Словам, душою, сэрцам
Шанец даю вясне!
Стане адказам смерці
Белае слова «не».

*19.07.2016*

***

Не хадзі да мяне з дэпрэсіяй.
Дэпрэсія — мой канёк.
Ты ж бачыш — зусім нявесела
Рэфлексаваць удвох.

Сваім хваравітым эга
Ўхваляешся? Не смяшы!..
Павер, каб ты толькі ведаў
Згрызоты маёй душы!..

Я бачу сябе... такою!..
Прыўкраснай ды трапяткой,
Я тонкім крылом-рукою
Палкі адпраўляю ў бой.

Я песняй сваёй збуджаю
Каменні, людзей, лясы,
І золата небакраю
Ўвенчвае валасы...

Ах, нерэалізаванасць!
Руціна багемных дзён!..

Адчуем сваю выбранасць,
Натхнення святы праклён!..

Дык што ты зацята кажаш?..
«Жыццё — безнадзейны склеп?»
А Божачкі!.. Усё па плане ж!
Пакуты — паэтаў хлеб!

Дэпрэсію не насі мне!
Ўсё роўна прыйшоў?.. Сядай.
Я ведаю лек адзіны:
Давай, дружа, налівай.

*23.06.2016.*

***

Скажы мне, што я прыгожая,
Скажы, што кахаць — не грэх,
Нават калі ты сам не верыш у гэта...
У цішыні варожай
Пачуй мой шчаслівы смех,
Скажы няпраўду, хлуснёй адрадзі
Ў горка-заснежаным забыцці
Лета...
Скажы, што любіш мяне —
І сонца растопіць снег,
Скажы, што будзеш са мной
Золатам ды зямлёй —
Кветкі ды карані
Згараць на тваім агні.
Я буду табе ўдзячная
За кожны твой лёгкі жэст...
Ці знаеш, наколькі смачны
Вуснаў тваіх агрэст?
Скажы мне, што я прыгожая!..
Ўсяго — далонь працягні!..
Душу супакой трывожную,
Вучы мяне верыць хлусні.
Скажы, што любіш, скажы!..
Я больш не магу так жыць!..
Скажы — я буду з табой

Сонечна-трапяткой,
Я паверу табе,
І час перапыніць бег,
Як плынь перасохлых рэк.

*23.07.2016*

## Санет

Мой горды сябар, у віры падзеяў
Ты, як раней, мне будзеш дарагі.
У момант слёз, бясслаўя і тугі
Я паспрабую даць табе надзею.

Не растрывожу суцяшэннем слых
Ды не прыніжу жаласнай атрутай —
Я буду побач у журбе, пакутах,
Не адвяргай нямоцных рук маіх.

Ты не скараешся пад неадольным болем,
Свабоды прагнеш, як найлепшай долі —
Не адступай у годнай барацьбе.
Падчас вайны, хваробы, страху, цемры
Не забывай: камусьці ты патрэбны,
І хтосьці вечна помніць пра цябе.

*28.07.2016*

***

Аднойчы рана, на світанні,
Пакіне ён твой ціхі дом,
Каб паглядзець на акіяны
Ды гмахі дзіўных гарадоў,

Суцешыць ён слабых, лядашчых,
Смех будзе жменяй раздаваць...
Ты ведаеш — сысці няцяжка,
Цяжэй — застацца ды чакаць.

Чакаць яго ты будзеш марна:
Не раз твой дах пакрые снег,
І адзінота, бы пачвара,
Святло і мары праглыне.

Бывае ноч настолькі страшнай,
Што ў горле крыку не стрымаць.
Ты ведаеш — сысці няцяжка,
Цяжэй — застацца ды чакаць.

Цяжэй — глядзець праз цемру вокнаў
У неспакоі ды журбе,
Бляднець пад гук далёкіх крокаў
Ды знаць: ідуць не да цябе.

І ляжа, бы адбітак важкі,
На сэрца холаду пячаць...
На жаль, сысці зусім няцяжка.
Страшней — застацца ды чакаць.

*21.08.2016.*

## Санет

Мая любоў! Бяссоннымі начамі
Ці ты глядзела, як зіхцяць снягі,
Як бог зімы заганы ўсе знішчае
І з рэкамі раўняе берагі,

Як хмар армады ў велічным спакоі,
Нібыта процьмы, праглынаюць свет,
І як завея срэбнаю касою
Сцінае зоры — ураджай планет?..

І строй зямлі халодна-бездакорны:
Яна — нявеста, і ўяўляе ў сне,
Як цноту возьме крыгаход шалёны...

Насуперак марозу ды зіме —
Мая любоў! — у цішы ночы зорнай
Прашу, святая: ты ўзгадай мяне.

*21.10.2016*



# Алесь Яшчанка

паэт, празаік, перакладчык. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Вучыўся на філалагічным факультэце ва ўніверсітэце горада Трэнта (Італія). Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Барысаве. Жыве ў Варшаве.

# Беларускае неба

***

Канец. Ён прыходзіць са штылем.
У нерухомасці, у паняверцы,
У тым твой адказ рытарычны
На пытанне, што мне рабіць без крылаў?
На безнадзейнасць у абразах,
На застылае сэрца.
Цябе выслухае алтар
І скажа, што трэба сцерці.
Ці прамаўчыць ад свайго імя,
Ці ад імя чужога
За даляглядам вечны скарб,
За двума даляглядамі — золата,
За трыма даляглядамі ты сам
Пра нешта пытаеш Бога.
І больш не здаецца, напэўна,
Што памяняў аблічча
Той, каго ты раней не ведаў,
Той, каго звалі прыўкрасным імем,
А цяпер назавуць ганебна.
У тым твой адказ рытарычны
У вантробах духаў стракатых,
У глыбіні іконаў,
Што гнуцца пад пальцамі,
У медзі званоў блюзнерскіх.
У моху вежаў былых гатычных,
У апошнім дыханні перад сконам,
У ценях таўстых аэрастатаў,
На кожным з якіх — свой шпіль,
Стромы, як клічнік.
У тым твой адказ рытарычны,
Таму, хто болей не мае сэрца,
Наканаваны штыль.

*Варшава, 20 кастрычніка 2015*

***

Цяжка вяртацца ў дзяцінства гарод
Жаданы,

У халодны дом уваходзіш, як кот,
У пошуках смятаны.
У ёй успаміны дзясятка гадоў
Роўна.
У ёй адбіваецца стома і кроў
Чорным.
Стогне-рыпіць пад ключом замок
Іржавы.
Дзверы важкія, ты робіш крок
Млявы.
Посуд у кухні памыты, даўно
Не кранутыя.
Два рушнікі вісяць на цвіках,
Як вобраз пакуты.
Стары тэлевізар і Езус у куце
Лёгкі
Крочыць з іконы наўпрост па вадзе
Крохкай.
Дыхаюць холадам ложкі, без сну
Стогнуць.
Пыл на паліцах памерам з руку
Роўны.
Мышы ў шафе пасеклі абрус
Бабулі.
Час тут спыніўся, у доме ўсе
Паснулі.
Толькі над дахам зораў плывуць
Чоўны.
Космас не спіць, космас для ўсіх
Роўны.

## Чырвоны куток

**I**

Ты галодны, мой Божа, ў куточку?
За вакном у смузе патанае
Гай бярозавы. Лісце страсае,
Ды ад ночы хавае вочы.

Рэдка сонца ды ў небе просінь
І віны пачуццё ліхое...

Дай руку і вядзі з сабою
У куток свой чырвоны, восень!

**II**
Верасень. У сажалцы яблыкі, як караблі на рэйдзе,
Дарма тут шукаеш ветразяў, паўночна-заходні вецер.
Твой тут канцавы прыпынак, сюды адлятаюць душы,
Гніе пад дажджом шыпшына, і вераб'і пад душам.
І клёны з чырвоным сорамам да голага распранаюцца,
Ды з першымі маразамі спаць не кладуцца — валяцца.
І гэты трыпціх ліпавы ў памяць пра сны — сорам,
Што ў вочы глядзіць рыбаю, якую не ўзяць зморам.
Баішся, дык бі набатамі, кружыся вужакай голаю,
На беразе, выклятым катамі, ты ветразі ўбачыш пунсовыя.

*2014*

## Р.Б.

Шэры шлях шашою
Меў дадому весці.
Абдымі рукамі —
Смутку не адвесці.
Не запэцкаць сонца,
Не абрэзаць хмары,
Не напіцца соку
Восеньскіх пажараў.

Як ты жыў, кім зваўся,
Як цябе хавалі,
Напісана золатам
На ваблокаў хвалях.
Зоркі на гарышчы
Згаснулі-паснулі,
Спіць у вечнай цішы
Наш нябёсны вулей.

## Снежань

Снежаньскі блюз.
Быццам і не было снегу.
На ботах — соль і маразы
адгрукаталі рэхам.

А ты баішся, як шэры звярок,
Як павучок пад пральнай машынай.
І крокі ў цемры, нібы знарок,
Такія каменныя ды цяжкія.
Табе падкідвае прусакоў
Лёс, пажоўклы ад сценаў,
Даруе думкі пра сны, пра кроў
Зайздросную, як мегера.
Ён і не думае варажыць,
Ён ад пачатку ведаў,
Што ў снежні трэба шмат дзён пражыць,
Каб дачакацца снегу.

*2012*

***

Дзве збегліся сцяжыны пад белым, чыстым месяцам,
І толькі вецер шамацеў барвовым шэптам лісця.
І разышліся поступам няспешным, бо прывеціцца
Наканавана ім было, а потым разысціся.

Хоць сэрца крыкнула: «Чакай! Цябе я зачакалася!»,
У вуснах клей закамянеў, бы здрадаю нямою.
У сваёй мелодыі дажджы, што ў нас не атрымалася,
Табе і мне распавядуць пра зніклае былое.

Я прысягаў табе адной віном — крывёй чырвонаю
І праганяў тваю любоў глытком сляпой атруты,
І вусны звільжваў, бо твой крыж цяжэй за сто анёлаў,
Не апраўдае ў жыцці Сізіфавай пакуты.

З наступным крокам берагі-дарогі абяздушаны,
Негаваркая, горка мне і цяжка праглынуць
Слязу, што горла каменем без перапынку душыць.
Дажджы ў сваёй мелодыі нам ўсё распавядуць.

*2010*

***

Аб чым ты маўчыш, беларускае неба?
Ці сыплеш снягамі, дажджамі сцякаеш,
Ці зорамі вольнымі ў цвёрдую глебу
Уразаешся ды знікаеш?

Бусла твайго падцэліла куля,
З васількоў дрот калючы сплячалі,
Асілкі твае ў зямлі паснулі,
Бульбу злодзеі пакапалі.

Аб чым жа маўчыш? Ці табе ўсё роўна
Дзе вісець, над якой краінай?
І толькі аблокі плывуць, нібы чоўны,
У бок Украіны.

*Крупкі, 2010*

## Дзень падзення І.Б.

Я верыў, што недзе ён,
І даў бы ліцвіна слова,
На свеце сам, як рабінзон,
Як пылам пакрытая кніга Ёва.

І першы міф, як твае фрэгаты
Свае напаткалі рыфы.
Ён меў дзяцей, два разы жанаты
І духам, і гаманцом багаты
З ільготным на ўсё тарыфам.

Змог перадаць хараство сцягоў
Умбэрта Сабы або Мантале
Ён геній, ніяк не іначай, слухай,
Чым перакласці хаця б аднаго,
Лягчэй зрабіць сальта мартале.

І міф другі, як вітраж з Мурано,
Свой напаткаў камень.
Кроў італійская ў ёй плыла,
Як По па вергільскай Паданіі,
Кроў яго жонкі, а з ёй нутро,
Ведалі ды не слаба
Мову Дантэ. Дык што там ужо
Апанаваць Мантале з Сабам!

Узяць ад яе патаемны сэнс,
Смак камянёў шматлікіх,

Можна кідацца смела ў вір,
У глыбіню Адрыятыкі дзікай
Перліны вершаў, як ювелір,
Ці іншы майстар выточваць,
Сплесці карону з тасканскай лазы,
Зорам канец прарочыць.

І трэці міф, ён тут побач б'ецца,
Кружыць сакрэтным грыфам
Мацней за сонца любіў Венецыю
Не ашчаджаў ні душы, ні сэрца
Дзеля марскога міфа.

І пахаваць сябе тут нібыта
Ён завяшчаў, каб мелі
Мы дываны з рамантычных нітак
Цагляных, як Сан-Мікеле.
На гэтай выспе, дзе правіць баль
Мёртвы, й на мёртвым едзе
Ізноў італійка яго хавала
Каб быць недалёка недзе.

Расчараваўся ліхі паэт,
Свае расчахліў гарматы?
Расправіў крылы, пакінуў свет
З вуснамі, як вулканічны кратэр.

І кропку ставячы тут, цяпер
У мільённы раз зачыняю
Том геніяльны, дзе плача звер,
І дзе Бобо памірае.

*2016*

***

Памаліся за мяне, птушка белая,
Рэчкай быстраю ўздоўж шашы бяжы,
Ні спяваць не ўмела ты, ні лятаць не ўмела,
А лягла хусцінкай на маёй душы.

Белая, нястомная, рвалася ў нябёсы
З-пад іржавых кратаў, з-за калючых дротаў,

Па слядох замеценых, па нямых іконах
Не ляцела — падала на мае далоні.

Бо тут як ляцець у віхорах злых,
Бегчы як, скажы, дзе шляхоў няма?
Валіць роспач з ног, годна б'е пад дых,
І варожыць кроў белая зіма.

Так і я стаю сярод тых дарог,
Дзе налева йсці за праклёнамі,
Дзе направа — смерці касцісты лог,
Але змерзнуць — не справа гонару.

## Адрыятычны конь

Чароўныя выспы і безліч аблокаў
Над Маркам святым, па-над вечным ільвом,
Венецыя, маці, ты сыну далёкаму
Дашлі прывітанне ў песнях званоў.

Хай хуткай маланкай касцёльныя спевы,
Рыбацкія песні, усплескі гандолаў
Ў душы адгукнуцца тугою ссівелай,
Халоднай, як рыба, марской прахалодай.

Твой бераг аздоблены пенай салёнай,
Дзе чайкі самотна ды велічна кружаць,
Тут час запаволіўся ў важкіх калонах,
І стрэлкі гадзінніка з месца не зрушыць.

Венецыя, маці, чаму не мая ты?
Ў нягодных вачах, у начной цішыні,
Калі не кахаеш, дык будзь маім катам
На адрыятычным кані.

## Італьянскі верлібр

Разлівае дзень на захадзе неба
Сваё чырвонае сонечнае віно.
Дзве дарогі нам з табой прайсці,
І будзе мора...

Блакітнае, як дзявочая сляза.
А дзень, нібыта свечка: запаліцца, успыхне і згасае,
Як усё на гэтым свеце...
Як згасне мора з нашымі смяротнымі грахамі.

***

Фларэнцыя — мана
З персідскага дывана.
Глядзіць на свет з вакна,
З талеркі парцэлянавай.

Мана ў сонечных
Сярэднявечных фрэсках,
Мана пад назвай
«Купал Брунэлескі».

Хлусня у конях,
Формах аграмадных,
У фіялетавых заўзятарах
На stadio.

У аматараў Давіда
І наліўкі,
Ва Ўфіццы,
І ў памяці ўрыўках.

Няма яе,
Няма Тасканы, Арно.
І толькі парцэлян,
І толькі фарба...

## У парку Marenzi

Сівы карабель у каменнай раме
На сажалцы, быццам дзікай.
Ля колішніх сцежак калматых дзікаў,
Дрыжэла лісце ад іхных рыкаў
На стромых, бы мачты, пальмах.

І толькі б, здавалася, каб ён мог,
У момант расправіў ветразі

Ды шпораў споры ўбівае мох
У бераг. Тут затрымаўся Бог
У белым аблічча лебедзя.

Свабода вартая, каб пра яе
Ніколі ў снах не мроіць,
За крок адсюль — мітусня і кроў,
Жыццё за грошы, а з ім любоў,
І смерцю кашляе зброя.

У віры, дзе кожнаму — свая бель:
Снягі, сівізна ці лебедзь,
І дзе не лічаць памяць ды медзь,
Яму далёка яшчэ ляцець,
Яму і ягоным ветразям.

## Сакавік

Гэта не ты.
Не ты ў сэпіі стужак на вострым краю,
Лік пайшоў на гады, а на беразе кроплі...

Ці то ад гарачай гарбаты, ці проста ад слёз мне мокра.
І мароз шалёны, ваўчыны мароз. Ці будзе сонца?
Ці тэлевізар вакна пакажа прамень, ці навокал
Мне распавядуць, што нічога не зменіш
Без умяшальніцтва вока?

Дзякуй за аквамарын і рыбу, якая на беразе просіць піць.



# Ірына Грумандзь

паэтка, літаратуразнаўца, журналіст, краязнаўца. Аўтар кнігі вершаў «Мая душа» (2011 г.). Друкавалася ў часопісе «Верасень», альманаху «Ратуша». Нарадзілася ў 1985 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Наваполацку.

# Глыток любові

## На Раство

Ціхі студзеньскі ранак —
Прадчуванне Раства.
На заснежаным ганку
Кроў ад ранаў Хрыста...

Хоць штодня ў запаветах
Сэрцу біцца дазволь,
Толькі з церняў — не з кветак
Нараджаецца боль.

Пакланіся Дзіцятку
як належыць спярша...
Калі сэрца ў парадку,
То спявае й душа!

***

Рукі лашчаць агонь
І трымаюць цяпло.
І душа, у якой
Малітва ды боль,
Асвячае жыццё.

***

Смак горкай кавы
Зберажэм на вуснах.
Святая рэшта слодыччу гарыць.
Пачуццяў не хавалі,
Але пуста —
Глытка любові больш не паўтарыць.

***

Самае пакутнае — чакаць.
Самае няёмкае — не ведаць.
Самае пякельнае — кахаць.
Самае цяжкое — шчыра верыць.

А калі не верыш — не чакай.
І калі гарыш — то ад любові.
Палыновы чалавечы рай
Не заменяць слодычныя словы.

***

Мы б з табой малявалі неба
У пастэльных асенніх танах,
Калі б нам хапіла веры
Разам пэндзаль трымаць у руках.

Мы б з табой малявалі промні
І гарэлі агнём любові,
Калі б нам хапіла волі
На агульную нашу долю.

Мы б з табой малявалі разам,
Шчыра, гожа жыццё узорам,
Калі б хтосьці агеньчык згаслы
Разадзьмуў між халодных зораў.

***

Колькі шчасця і няшчасця на Зямлі
Існуе заўжды адначасова.
Расквітнела пустазелле на раллі...
А любоў?.. Ці не пустое часам слова?

## На прыходзе

Маленькае дзіця адбеглася ад маці,
Каб чыстасцю сваёй пацалаваць Распяцце.
Душа мая сустрэлася з дзіцячай
Ля Крыжа над Галгофскім плачам.

Мы усміхнуліся адна адной
Пад спеў вячэрні херувімаў
І сталіся Апостальскай Царквой
У еднасці на Літургіі.

***

Любоў вымяраецца зорамі і расстаннямі.
Шлях вымяраецца марамі і спатканнямі.
Ды дзе б вы ні былі, заўсёды будзе той,
Хто любіць вас!



# Валерыя (Валярына) Кустава

паэт, літаратар, сцэнарыст, вядоўца аўтарскай праграмы «Прыват». Аўтарка кніг паэзіі: «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» (2009 г.), пераможца літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Р. Барадуліна (2015 г.) а таксама конкурсаў журналістыкі «Твой стыль» і «Вольнае слова». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# За паўначы да прычасця...

## Спачывай, мая князёўна...

*Ахвярую бабулі Валі*

Вяртацца ў слова ад болю.
Намацваць радок у вусці.
І з хвораю галавою
ў ноч ісці,
нібы заўтра адпусціць.

Набыцца б з табою
тою,
што адлятае ў вырай,
набыцца з табой
жывою,
малітвамі выйсце вымыць.

Вывуджваю рэшткі сонцаў
з пальцаў тваіх галінаў.
Нырца даю ў сны да донца,
бы ў вочы твае,
Валянціна.

... Дыхаеш — а я чую,
як дрэвы шумяць табою.
І развітанне начуе
на падушцы адною з болем,
пад адною коўдрай з палёгкай,
на адною прасціне са стратай.

З жыцця звадаў і з цела кратаў
голас твой узлятае над воляй.

Ты — мая казка растальная —
пульсуеш артэрыяў мовай.
Дачкою маёю — дамова? —
адродзішся на світанні.

Ты доўжышся ў нашых лёсах,
у песнях, у добрых словах.

Звышні забраў да Нябёсаў
на Вербніцу адмыслова.
...
Спачывай, мая князёўна.
Вялікдзень. Яблыні цвітуць.
Ты ўжо дзевяцідзённа
да Госпада трымаеш пуць.

*23 красавіка — 1 траўня 2016*

***

Ён казаў —
будзь з іншымі,
не па зубах
мне аднаму ты.
Дужа моцная,
дужа прыгожая,
катэгарычная,
крыху вальтанутая.

Яна прасіла —
стану мяккай,
як вераснёўскі яблык,
каб мог увайсці
ў мяне ты
ікламі.
Толькі пасля
не забудзься
падзьмуць
на раны,
каб ад майго болю
не зніклі мы.

Здаецца,
нібыта ў фінале, —
важна зрабіць балюча,
каб лепей адцянялася
растанне гаючае.
Вось і будзе нагода
піць з сябрамі
пры браме
за будучыя радасці
новага

дваццатага —
на самым канцы хвосціка! —
года.

...Цішэй, цішэй,
душа, плач,
бо чутно ажно
нават знутры.
Гучней радуйся,
усміхайся часцей
і не зрывайся на крык.

*2014*

***

Халоднае неба верасня.
Палова другой начы.
Я ведаю, ты не вернешся,
замаўчы.

Я ведаю, ты не вернешся,
бо цябе я больш не прыму.
Пусціла — вянок ад берага —
праз Заходнюю ды Дзвіну.

Не эканомлю метафары —
нарыданых штодня іх болей.
Людзі кажуць, што ты мой фаварыт,
а ты ж толькі ў мяне ў фаворы.

Мне не трэба цябе перачытваць,
зразумела і з першага разу:
ты не з класікаў.
Гэй, дарослы, салідны, мужчына,
заканчвай расцягваць фразу,
паскачам па класіках?

Акурат цяпер восень,
і ў школу
суседскія дзеці пайшлі.
Па нябеснаму пратаколу —
мы чужыя на гэтай зямлі.

Ох, прыгожыя віражы няпростыя
пры пасадачнай паласе
выпрабляюць твае
вострыя
фантазіі пакрысе...

Да крыві аб іх часам калюся я,
але ведай:
калі вайна —
за табой пайсці не збаюся я,
за цябе прад Ім памалюся я,
вось цана.

...Можаш на мяне разлічваць,
мой слічны.
Калі кулі збіраць ці зоры —
ты ў фаворы.

*2014*

***

Запрасіла б цябе паляжаць поруч
на маім вялікім ложку,
дзе хопіць месца нават Месяцу,
нават трэцяму.
Але далягляд не церпіць трох.
Запрасіла б цябе паляжаць поруч,
пачытаць вершы Мілаша.
Але маўчу цяпер.
Дый не настолькі далёкія
мы, не настолькі блізкія,
каб маўчаць разам.
Запрасіла б цябе паляжаць поруч
у гатэльны горад,
самотны і гучны,
што прымае ў сябе
мужчын і жанчынаў,
паасобку й супольна.
Запрасіла б цябе.
Ды не ўбачымся болей
так, як бачыліся аднойчы.

Што ты думаеш пра верш,
вось гэты,
на пятнаццатай?
Кажы.
На тое гэта і паэзія добрая,
што магчыма лічыць па-рознаму,
але атрымліваць
задавальненне
аднолькавае.

Хаця не — не старайся,
не шукай словаў,
давай усё ж паспрабуем
памаўчаць разам,
хаця гэта не так і проста,
як здаецца.

Запрасіла б цябе...
*Кракаў, 2014*

***

Нейк жа выжывалі
і да цябе.
Па зямлі вунь столькі ходзіць
такіх
выжылых
пасля кахання.
І нічога,
ядуць марозіва,
гадуюць дзяцей,
ладзяць паўстанні.
Нейк жа выжывалі...

Страшна толькі ў пачатку
канца.
А калі канец наступае —
кажуць,
пачынаеш зноў есці і спаць,
дыхаць без цяжкасцяў,
хадзіць на спатканні.

Табе такія пішуць:
чаму праект не даслалі?
Прайшлі дэдлайны!
А ты такая:
соры,
была занятая
адсутнасцю асабістага жыцця,
перажываннямі.

Сядзіш маладая прыгожая
пры вакне.
І ўзрост не той, каб скакаць.
І ў трэнажорку столькі хадзіла —
шкада труціцца.
Сядзіш паўдня,
а потым — пара спаць.
А сонца, сабака, не садзіцца,
марудзіцца.

*2014*

***

Зоры — саспелыя яблыкі,
гронкі белых наліваў —
скачуць па небе,
як д'яблікі,
падаюць да шчаслівых.

Тваё ж трывожнае шчасце
у вечаровых абдымках —
за паўначы да прычасця
дыхай.

Лета сыходзіць дажджамі
і гарадамі чужымі.
Калі ты ў апошнім часе
плакаў начамі,
скажы мне?..

Плывуць туманы з сівінкамі,
як пры тваіх скронях.
З цукровымі журавінкамі
атрута ў знаёмых далонях.

Доўгія ночы, бясконцыя,
бы ў юных мнішак спадніцы.
Зоры
саспелымі сонцамі
падаюць,
падаюць
ніцма...

*2014*

***

Часам хочацца саму сябе паслаць.
Плач, дарагая, плач.
Будзь шчаслівай. Плач.
Будзь шчаслівай.

Соладка пахнуць ліпы.
Бы ў ліпені.
Хаця чэрвень.
Чырвона ўнутры.
Пабіта.
Лета.
Разагрэтае
сэрца на ходніку.
Кожны мінак можа ўступіць.

Напіцца б.
Ноч піць. І дзень піць.
Але ты не мужык — цярпі,
вер: дольчэ віта.
Гавары, прагаворвай боль,
загаворвай,
як бабка-шаптуха вучыла.
І маўчы.

Ідзеш прызнавацца ў каханні —
памый кеды.
Лягчэй быць чыстай,
калі ва ўсім.
Прынамсі, ведаць,
што ты іх памыла.
І маўчы. Маўчы.

Кавярня. Аптэка. Гатэль.
Давай па-лёгкаму.
Белыя столі.
Ніякай логікі.
Колькі хочаш —
столькі
лімітаванага
прынагоднага
кахання
ля стойкі.

Сэрца
скуголіць,
рычыць,
устае на дыбачкі.
А ты яго прывучы —
да нітачкі,
да павадку.
Дай сэрцу руку,
супакой,
пагладзь яго.
Маўчаць —
навучы.
І сама — маўчы.

*2014*

## Яго грахі яе перамаглі...

*...І глыбокай вадзе, і высокай цвердзі*
*Ён і Яна былі больш чым роўнымі.*
*І кахалі яны — і былі несмяротнымі.*
*І каханне было мацнейшым ад смерці.*

...Яго грахі яе перамаглі.
Дзяўчына крочыла ў кірунку княжай поўні.
Хацела з ім ісці на край Зямлі
і пацалунак кожны ксціць —
і ўсё запомніць.

Багаміла Яго — не варта так
багаміць простых і зямных мужчынаў.

Ды было позна.
Бог яе няўзнак
сышоў з любові
не найлепшым чынам,
з сабою захапіўшы цішыню.
Іх цішыню на два зямныя светы,
іх цішыню,
дзе душы цалкам «ню»
сыходзяцца, як прывіды да Леты.
Зрастаюцца ў адзіны дзіўны лёс
на ўзмежку ўсмешак, шчырасці і слёз.
Зліваюцца, як фарбы ў небасхілах,
сплятаюцца, як кветкі на магілах.
Як чужаніцы ў вусціш,
словы ў ціш,
зжываюцца, нібы адно ў іх вусце.
І крык балючы едны: «Не адпусціш?!»
звініць па-над усім, звініць, звініць!..

Ды ім не выпала... На злом усё, на злом!
Дзяўчына йшла ў кірунку княжай поўні.
І шыю дратва абпаўзла вузлом.
Ракою пачало нутро ўсё поўніць.

Танулі вочы, поўныя святла,
Танулі вочы, поўныя блакіту.
Цяжарнаю яна была не мітам...
Цяжарнаю яна была...

Ды на апошнім ўздыху заняло:
здалося, што магло жыццё адбыцца...
Ды згасла ўжо
ўнутры яе святло.

Да скону будзе
немінуча
сніцца

Яна яму.



# Марыя Сцяфанава

паэтка, празаік, драматург. Скончыла Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А.С.Пушкіна. Падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы. 29 гадоў працавала ў інспекцыі па справах непаўнагадовых Бярозаўскага РАУС. Нарадзілася ў 1954 годзе ў Мінску. Жыве ў Бярозе.

# Завірушаныя дні

## А чэрвень цвіў...

А чэрвень цвіў. Спакусліва. Дажджліва.
Галовы бессаромна ўсім кружыў.
Хацелася і мне пабыць шчаслівай
На тым, амаль смяротным, віражы.

Рабінавыя гронкі сарамліва
З-пад пасмаў веццяна сусвет глядзяць.
О, горкі лёс іх: кожны год цярпліва
Нябачнымі улетку прастаяць.

Калі ж усе адшэпчуцца прызнанні
Й дашчэнту краскі чэрвеня згараць,
Гронкі надзей збалелых і кахання
Крывёй на белам снезе пракрычаць.

А чэрвень цвіў...

## Колькі мне гадоў?

У празрыстых днях
Справы — мурашы.
Лёгка у нагах,
Светла на душы.

Бы ў чароўным сне
Песня-лёс цячэ,
І здаецца мне —
Не жыла яшчэ.

Калі ж дні мае
Маюць горкі смак,
Сонца не ўстае —
Невыносна так.

Каб жа ж гэта ўсё
Ды прыснілася!

Жыву столькі ўжо,
Што стамілася.

Колькі ж мне гадоў?
Колькі мне вякоў?

***

Найвялікшая
й найудзячная —
радасць
матчына.
Найгаючае
і найзначнае —
слова
матчына.
Найгарчэйшыя
й саланейшыя —
слёзы
матчыны.

***

Не спяшаюся ўжо. Ды й куды?
Я нікуды ужо не спазнюся.
Адцвілі мае мроі-сады,
У пялёсткавасць іх не вярнуся.

Ўсё кудысьці ляцела раней,
І ўсё часу мне так не хапала.
Не шукала жыцця, дзе лягчэй,
І дзе ружы адны — не шукала.

Перажытага ўжо не змяніць.
Ўсё прымаю. І крыўдам дарую.
Дык чаму ж маё сэрца баліць?
І чаму ж я яго не ўладкую?

Мо, таму, што любові свае
Самым родным аддаць не паспела?
Другой спробы жыццё не дае.
Праляцела, як дзень. Праляцела.

Ах, мае вы гадочкі-гады!
Перад вамі я сёння скаруся...
Не спяшаюся ўжо. Ды й куды?
Я нікуды ужо не спазнюся.

***

Калі ты ў завірушаных днях,
Што каменнем ляжаць на плячах,
Раптам счуеш мае прамяні —
Праміні ты мяне. Праміні.

І калі я сама, на бяду,
Самай грэшнай вазьму і прыйду,
Шапну згубна: «Мяне замані!» —
Прагані ты мяне. Прагані.

Калі ж роспач твой дзень апячэ
І усмешлівасць сыдзе з вачэй,
Перакрэслі ўсе рыфмы мае.
Знай, што мне цябе так не стае!

## Памяці Ніны Мацяш

*«А што пакіну? Толькі жменьку слоў,*
*Мелодыйку любові і змагання...»*
Ніна Мацяш

Вершаваныя словы — збавенне
Ад пакутлівых дзён быцця.
Як знайсці у жыцці натхненне,
Калі ценю няма ў жыцця?

Поўны келіх прагорклага шчасця
Ўгатаваў незгаворлівы лёс.
Другой долі нікому не скласці,
Колькі б ўпотай не выплакаў слёз.

І хай жменька тых слоў набярэцца,
Што ўзышлі ля палескіх азёр,
Але ж кожнае слоўка — у сэрца!
Але ж кожнае слоўка — да зор!

І мелодыйка ў рытмах пульсуе
Заваражанасцю вышыні...
Хай жа Вечнасць цябе завальсуе,
Раз хадзіць не дала на зямлі!

***

Перасолены лёс. Перасолены.
Хоць бы трошачкі падсаладзіць.
Дзе ж, мае вы ўсмешкі, утоены?
Як у госцейкі вас запрасіць?

Зачакалася вас. Зачакалася.
Хоць адненька зайшла б калі?
О, як я ж бы тады заўсміхалася!..
Не салі ўжо, лёс. Не салі.

***

Спаліць лісты хапіла сілы.
На вецер попелам пусціла.
А ён — у чорныя рады
І праз няўмольныя гады
Папрокам мне:
«Што нарабіла?»

## Шчаслівыя вершаў не пішуць

Шчаслівыя вершаў не пішуць —
Ім шчасце пісаць не дае.
То проста да зор закалыша,
А то дыфірамбы пяе.

Ў шчаслівых кароткія ночы
І ў сонейку песцяцца дні.
Ў шчаслівых шчаслівыя вочы
І птушак палёт ім зрадні...

Калі ж боль у сэрца ўварвецца
І ўсё у жыцці, як знарок,
Душа за збавеннем памкнецца
У рыфму.

У рытм.
У радок.

Чаму ж мне так пішуцца вершы?

## Чэрвеньскія гронкі

Я думала — усё яшчэ паспею.
Усё адолю. Усё яшчэ змагу.
Святочнасцю сустрэч перахварэю,
Ад адзіноты век не застагну.

Я думала ўсё можна перайначыць,
Шматкамі памяці залатаць лёс.
Як цяжка у сабе мяжу азначыць
І зразумець: жыццё — не навырост.

Я думала, што развітанне — дробязь:
Будзённасць у турботы ахіне...
А тут ўспаміны непрытомнай робяць
І вырашыць ўсё хочуць за мяне...

Я думала...



# Васіль Зуёнак

**паэт, перакладчык, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг паэзіі: «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.**

# Падпяваючы жаўранку...

***

Прыходзяць нам на змену
Ужо сыноў сыны —
Праз трэцяе калена
Забыты жах вайны.

Як не было нічога —
Ні смерці, ні пакут...
Ну то ж і дзякуй богу —
Што ж абурацца тут!..

Не верaць? Хай не вераць —
Хай будзе казкай больш.
За іх — мы поўнай мерай
Нясём пакутны боль.

Б'е забыццё цапамі...
А што тады было б,
Калі б не наша памяць,
Надзейны іх акоп?..

Хай лёс наш паспрыяе
Ім сёння адшукаць
Шлях да зямнога раю...
А нам — не прывыкаць.

А нам яшчэ б пабачыць
Адну ці дзве вясны, —
Хоць нельга й там інačай —
Без страшнай той вайны...

У душах пакалення
Пажар той не ачах.
Дні нашых нараджэнняў —
З Хатынямі ў вачах...

***

Жыццё маё, — як дагукацца
Да сэнсаў, дзе ілжывы час

У бляску танных дэкарацый
Хавае ісціну ад нас?..

Я не пра гэтую, зямную,--
Багоў наслухаўся зямных,
Што вечны рай зямны трактуюць
Для абяздоленых жывых.

Ад папяровых землятрусаў
Трымцець душой няма прычын.
Зямным не ўстрашыш беларуса!
Я не аб тым. Я вось аб чым:

Як завяршыць без шкадавання
Маё імгненне на зямлі,
Калі ўжо «я» не мною стане
І знікнуць «дзе?», «куды?», «калі?»...

Хоць неба не хачу аспрэчваць —
Хто я? — зямны часовы госць, —
Цікава ўсё ж — па-чалавечы:
Мяне няма, а вечнасць — ёсць...

Пяклуецца душа ў памкненні
Сябе нябеснаю лічыць —
А несмяротнае тварэнне,
Душа сусветная, — маўчыць...

## Лес

Ці ж выпадкова, на кароткі век
І ў корань ён, і ў крону ствол гадуе.
І гэтак жа, адвечна, як на здзек,
То спачувае вецер, то сярдуе

І дзьме у трубы: — Небарака — ці ж
Так і звякуеш век, у дол уросшы, —
Крылаты лес, — чаму ж ты не ляціш?
— З такой зямлі?! Куды? Ды і навошта?..

## Праз агонь

Бог зляпіў чалавека з гліны
І, напэўна ж, агонь скарыстаў,
Бо інакш, калі б лівень хлынуў,
Ён ізноў бы глінаю стаў...

А пасля і нашчадкі агнямі
Так абпалены!..
Што ні кажы —
А з такой загартоўкай, між намі,
Яшчэ доўга мы думаем жыць!

## А травы глядзяць...

А травы глядзяць па-рознаму:
То асакою пагрознаю,
То цеплынёю мурожнаю —
Гатовай аддацца пожняю,
То ўкаранелым сіўцом,
Што спрэчку вядзе з касцом,
То пекна дзяўчынай сасватанай —
Бела-ружоваю дзятлінай,
То па-жаноцку ўкоснаю
Зябкай парою роснаю
Ці то ўдавіцай-атаваю,
Зноў да жыцця адталаю...

А мне даспадобы траўка —
На родным двары мураўка.
Здаецца, й няма нічога —
А ўжо вітае з парога.
На сонейку, у зацішку,
І пыхі ніякага лішку.
Рахмана і мякка глядзіць —
Ну так — хоць да вуха кладзі.

Яшчэ яна й тым мілей,
Што скача па ёй верабей,
Мой закадычны сябрук —
Шэры дамашні жаўрук.

І певень з сям'ёй пахаджае
І мне не перашкаджае.
Хоць стой, хоць сядзі, хоць ляжы, —
Рамонкаю паваражы:
Кахае ці не кахае?.. —

Прыходзь, тут месца хапае!

***

Помню, помню — як грэшнік —
Быў ва ўсмешцы сакрэт:
Калі ты засмяешся,
Засмяецца ўвесь свет.

Нібы грэшніка, цягне
Да тых сцежак ізноў,
Дзе вясна наша прагне
З горкіх вырвацца сноў.

Час, палоннік сакрэта,
Не пытае ў мяне:
Тайну знаць — я на гэта
Маю права ці не?..

Што згубіў — на вяртанне
Ўсе згубіла шляхі.
Памяць богам не стане —
Не даруе грахі.

І ніколі ўжо неба
Не наблізіць той час.
І разгадкі не трэба:
Тайна знікне без нас.

## Матэматычнае пытанне

Клёк які, колькі вас ні тузаў,
Мне з таго, чарцяжы пляскатыя,
Што квадрат гіпа-
                    тэнузы
Роўны суме квадратаў катэтаў?..

***

Бывае ж так: з лясной сінечы,
Касуючы журботны дзень,
Прыходзіць вечар і на плечы
Руку сяброўскую кладзе.

І па-сяброўску суцяшае
Сваёй спагаднай цішынёй,
І ўсё кудысьці запрашае
Мяне з журботаю маёй.

Куды? Адкуль мне здагадацца.
А ён затоена маўчыць,
І толькі знаю: ён не здрайца
З рукою на маім плячы.

Хоць ясна ўсё даўно і пуста
На сэрцы — як жніўя прысуд
На полі ў золь з іржэўным хрустам, —
Зноў у зямны паверыш цуд...

***

Ад клопатаў зямных і дум
Прасіў я ў неба паратунку,
Шукаў між зор: якая б сум
Сплаціла мой сваім рахункам.

І адгукнулася адна —
Я імені яе не знаю:
— Пі скруху на зямлі да дна:
Хоць горкая яна, зямная, —
Гарчэй, чым наша не бывае...

## Лесавік

Як не чую пілу,
Як сякера не глушыць,
Днём — узношу хвалу
Небу, сонцу і птушкам.
А ў начную пару,

Што цямней, чым паданні,--
Сам з сабой гавару,
Сам сябе спавядаю...

***

Не да сонца ўзлятаюць Ікары,
Не ашчадзіўшы крылы ляднём:
Ад зямных уцякаюць пачвараў —
І становяцца душы агнём.

Ці то боская ласка, ці кара
Праз вякі агонь той нясуць,--
І згараюць, згараюць Ікары,
А пачвары жывуць і жывуць...

***

У прадажніцкім гэтым свеце
Пад сабой мы згубілі глебу,
Разгубіліся, нібы дзеці,
І адно ў нас апірышча — неба.

Там — наіўныя нашы чаканні,
Дзе пакуль што не ўкрадзена сонца,
Тут — стаіць над душою Каін
З чорнай хваткаю бізнэсоўца.

Не забіць — ён купіць ахвочы,--
Ён упэўнены: свет прадаецца.
Прадавайся — штодня і штоночы,--
Гэта ўсё барышом завецца.

Не па Бібліі — па Карнегі
Пад руку штурхаюць хрысціцца, —
Што ім смутак тваіх элегій
І тваіх трыялетаў трысцінкі.

Ні здабыць тут нічога, ні ўкрасці,
І хіба тут дасі што ў лапу?!
Слёзы рыфмаў ты лічыш за шчасце? —
То й рыфмуй — на мазгі сабе капай!..

Валасатым нутром уласнік
Зноў людскія душы палоніць,--
Стой сабе васільком парнаскім
І гібей пры ўласніцкім троне...

Гэта ўсё, што табе застаецца...
Дзе ж ты, дзе ты, дух непакоры?!
Рэвалюцыя не прадаецца —
Ці не час Пегаса прышпорыць?!.

## Вырай

Не вясна, а восень якраз
Самы прыдатны час,
Каб святкаваць пад нябесным выраем
Песню — вясны хаўрусніцу шчырую.

Тую, што платы папсовай не просіць,
Тую, што птушкі шчодра прыносяць.
І зноў забіраюць даніну летнюю,
Мне пакідаючы думу сусветную

Без слоў і без голасу — песня такая,
Што ніколі ў душы маёй не змаўкае.

А як душа адляціць у вырай,
Ці не знямее ў нябеснай шыры,
У неабдымнасці боскай, песня?
Ці будзе маёю, як уваскрэсне?

Хоць застаецца той самы час:
Ваш без мяне, як і мой без вас,
Ды птушак зямных тую песню зямную
Вы будзеце слухаць, а я — ці пачую?..

***

Жыццё ідзе, а ты ў палоне
Адвечнае бяды:
О Божа, каб не горш, чым сёння,
Было заўжды...

За мэту скварку дабрадзееш
І чарку на губе.
Нахабна думы і надзеі
Украдзены ў цябе.

Нябеснай манны харчаванне —
Уладнае лато.
І хто табе паспачувае?
Лічы, ніхто.

Як на чужой зямлі радзіўся:
Ні гаспадар, ні госць.
Няўцям: ты збыўся ці згубіўся —
І хто ты ёсць...

Калі ж ты духам прасвятлееш,
Падмануты народ,
І ашуканскіх маўзалеяў
Растопіш лёд?

## Як разгадаць?..

І я Васіль, і тата мой Васіль.
А ён ужо Захаравіч, і дзеда,
На жаль, не знаў я і ці буду знаць...
Не знаю — хоць у вечнасці прасіў
Не раз: пакуль пайду за імі следам,
Мне дзедава аблічча паказаць.

Бо як жа *там*, сустрэўшыся, пазнаць,
Што гэта ён, мой дзед, мой прашчур крэўны?..
А што ўжо пра пра-пра-дзедаў казаць!..
Ды ўсё ж разгадка тайны ёсць, напэўна...
Вось толькі як яе жывому разгадаць...

***

У цёмнай ночы навіду —
Адна яна і знае, —
Зноў тымі сцежкамі іду,
Што памяць мне вяртае.

Іх шмат — і ўздоўж, і папярок
Майго зямнога лёсу:
Вітае рэхам кожны крок,
А гэты — безгалосы.

Такія можна толькі сніць —
Бязгучны, як сняжынка:
Няма куды яму ступіць,
Няма ў яго сцяжынкі...

Згубілася... І што магу —
Ды і каму? — параіць?
Няма й надзеі, што ў смугу
Апошняй памірае...

О сцежкі людныя, я вас
Аддаў бы ўсе за тую.
Ды сцежкі не вяртае час —
Ён з небыццём нітуе...

І ўсё ж, і ўсё ж, здаецца мне,
На той вярсце расстайнай —
Хай год, хай сто гадоў міне —
Жыве яна чаканнем.

Я знаю: ёсць над ёю знак,
І знаю: зноў саб'юся...
Іду — і не знайду ніяк, —
Ці то знайсці баюся?..

## Падпяваючы жаўранку

З будынка, што ў шэрых адценнях
Мне ўзоры вясновыя ткаў,
Я выйшаў — і так жа пацэліў:
Якраз цябе напаткаў!

Якою была дарога,
Я толькі спытацца хацеў,
А ты над прыгрэтым узлогам —
Як сам адказ — узляцеў.

І што тут пытацца: надзея
Імкне, як травінка праз брук.
Таму цябе й разумею,--
Я з вашых, браце жаўрук!

Такога шчасця ніколі
Не зведаю больш і я, —
О сонца, о неба, о поле!
О родная наша зямля!..

## Спакушэнне

Калі няспраўджаных памкненняў міражы
Цяжкою скрухаю на сэрца ападалі,
Калі здавалася: ці ёсць патрэба жыць,
Жабруючыся з вечнасцю гадамі,
Калі пятлёй дарога — як сіло
Зімою долю снегірову — душыць,
А д'яблава высвечвае табло,
Што ты ідзеш па моры, як па сушы,
Калі спакуснік ставіў лёс на кон,
Калі ўжо ты амаль яму паверыў,
Гатовы ў храме жыць, дзе ні вакон
І на сямі замках да выйсця дзверы...--

Тады зямля адкрыла мне сакрэт,--
Прабачце, калі вам ён без патрэбы:
Я ў песню адыходзіў, як у свет,
Затоены далёкім зорным небам...

## Калыханка

Асобна ці на дваіх
Будзе жыццё, — як міг:

Будуць удачы і страты,
Будуць палацы і хаты,
Будуць суцехі і звады,
Будзе хаос і парадак,
Будуць і будні, і святы,

І рэквіемы, і санаты,
І да крыжоў далягляды —
І правым, і вінаватым,
Будуць каханне, і здрады,
І адварот, і прынады...--

Будуць. А як жа без іх?!
Шкада: не вечна — а міг...

***

Прастора — ты бясконцасць ці нішто?
І хто наважыць паспрачацца з Богам —
Хто спыніць час? Ніколі і ніхто! —
Бо ў вечнасці яго няма наогул.



# Гэта назаўсёды!

**«Я не ўмею пісаць вершы! У мяне не атрымаецца!», — чуеш на прапанову паспрабаваць сябе ў паэзіі. І часцей за ўсё ў такіх вучняў атрымліваюцца нядрэнныя вершы. Падбадзёрваеш — і глядзіш: ужо зноў падыходзяць да цябе з акуратна перапісаным вершыкам.**
**Для мяне вельмі важна, каб дзіця адчула мелодыю роднага слова, задумалася над сэнсам сказанага, дакранулася душой да вечнага... . Так узнікла неабходнасць у стварэнні школьнага літаратурнага гуртка «Натхненне», дзе вучні не толькі пісалі вершы, але і былі ўдзельнікамі ў розных конкурсах, выпускалі школьную газету «Вытокі», друкаваліся ў часопісах, ладзілі цесныя стасункі з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы, ставілі на школьнай сцэне спектаклі. Так, пасля спектакля «Паўлінка», Жэня Колтун, вучань, які выконваў ролю Сцяпана Крыніцкага, прынёс мне верш «Дзякую Купалу»:**

*З маленства мне імя знаёма*
*Свайго да болю Песняра.*
*Ён па жыцці са мною крочыць,*
*І дзе б сягоння ні быў я.*
*Гаворыць голасам Радзімы*
*У маім сэрцы напамін*
*Аб чыстым полі, небе сінім —*
*Ён Беларусі родны сын.*
*Таленавіты самародак,*
*«Мужык» — вясковы як ніяк,*

*Пісаў ён творы аб народзе:*
*«Паўлінка», «Лён», «Яна і Я».*
*Жыве Купала з намі й сёння,*
*У кнігах ды і ў сэрцы з ім мы,*
*І нават родная мне школа*
*Купалы носіць імя!*
*Пашанцавала мне дазвання,*
*Бо я ў купалаўскіх радках*
*Знайшоў сапраўднае прызванне:*
*Артыстам стаў, іграў спектакль!*

**Прайшло ўжо шмат гадоў з таго часу. І я не ведаю нічога пра лёс Жэні, але ўпэўнена, што гэта сумленны чалавек, з вялікім і адкрытым сэрцам. Я вельмі шчаслівая, бо на маім жыццёвым шляху сустракаліся і сустракаюцца такія цудоўныя дзеці.**
**Мяне вельмі радуе, што мае вучні любяць беларускае слова, менавіта на ім растуць творча. І няхай іх жаданне пісаць абмяжуецца толькі «школьнымі вершамі» — яны ніколі не забудуць пачуцця радасці і асалоды ад здабытага. Гэта назаўсёды!**

**Шапкова Іна Міхайлаўна,**
***настаўнік беларускай мовы і літаратуры***
***СШ №19 імя Янкі Купалы г.Мінска***



**Яўгенія Драгун,**
*вучаніца 8 «А» класа*

## Родная мова

Гэту мову не любіць краіна,
Адхіляе яе ад сябе,
І па-руску заве маці сына,
Калыханку па-руску пяе.

Моладзь роднае мовы не любіць,
І цураецца слова сказаць,
Але ж гэта яе толькі губіць,
Бо Радзіму нам трэба ўздымаць.

У Польшчы ўсе размаўляюць па-польску,
У Амерыцы — мова свая,
У Японіі — ўсе па-японску,
Беларусы — па-руску змалля.

Нам павінна быць сорамна з вамі,
Зберагчы мы не можам таго,
За што прадзеды так ваявалі,
За што страцілі столькі ўсяго.

Але веру настане хвіліна,
Мова наша ізноў расцвіце,
Калі маці любімаму сыну
Беларускую песню спяе.



**Кацярына Бурко,**
*вучаніца 9 класа*

## Можа, хопіць чакаць...

Можа,
хопіць чакаць,
пакуль стане спакойнай у далонях вада.
Можа,
некалі зменіцца
думак трывожных маіх чарада,

Хоць гэта няпроста!
Мне дазволена бегчы,
Але нешта трымае.
На хвіліну заплюшчу я вочы,
І зноў у цемры той сустракаю...
Словы...
Нам нельга было,
нельга было сустракацца —
Абяцанні трымаць мы не можам.
За што ж нам трымацца?
Ты абдымі апошні раз...
Ёсць толькі «Я», няма больш «Нас».
Хопіць
быць у маіх марах
або ў рэалях хлуслівым героем.
Хопіць
мне спрабаваць
сябраваць з гэтым болем,
Які ты прыносіў!
Мне дазволена бегчы,
Але штосьці назад вяртае.
На хвіліну заплюшчу я вочы,
І вецер з вуснаў маіх зрывае...
Словы...
Нам нельга было,
нельга было сустракацца —
Абяцанні трымаць мы не можам.
За што ж нам трымацца?
Ты абдымі апошні раз...
Ёсць толькі «Я», няма больш «Нас».

**Марыя Ляўчэня,**
*вучаніца 9 «В» класа*



## Не проста мне вершы пісаць...

Не проста мне вершы пісаць,
Бо магіяй слоў не валодаю.
Затое намаляваць
Магу хоць людзей, хоць прыроду я.

Мне фарбы і пэндзлікі дайце,
Паперу, аловак з крэйдай
І я намалюю вам зайцаў,
Ці грушу, ці яблык спелы.

І лепей, чым слоў павуцінаю
Паверыць усіх вас змушу,
Як свет намалюю карцінаю —
Хоць акварэллю, хоць тушшу.

**Людміла Макарэвіч,**
*вучаніца 9 «А» класа*



## Лістападны дзень

Лістападна-змрочны дзень...
Лямпа ў шэрым абажуры.
На абрусе белым — цень,
І знікае мой настрой пануры.

Незагорнутая кніга на стале,
Ціхі шэпт гадзінніка на сценцы,
Ліст кляновы развітальна мне
Стукнуў у акенца.

# ВЕРАСЕНЬ
# ПРОЗА

яніна пінчук надзея філон
мікола ляшчун наталля галавач
вячаслаў лапцік алесь аркуш
лявон валасюк вінцэсь мудроў



# Яніна Пінчук

празаік, паэтка, перакладчыца, мастачка. Скончыла факультэт міжнародных зносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкавалася ў «Маладосці». Нарадзілася ў 1991 годзе ў Бабруйску. Жыве ў Бабруйску.

# Унутраны замак

Час спыніўся, а гукі нечых стрыманых крокаў толькі адцянялі маўчанне. Выразнае, але лёгкае. Якое як быццам мела колер — прыглушана-вохрыстае, цёплае, падобна вялікаму драўлянаму ўкрыжаванню, што лунала над алтаром, панэлямі сцен, лавамі, арганам.

Я б не сыходзіла адсюль.

На вуліцы, нягледзячы на люты, была ўжо сапраўдная вясна. Іншымі словамі, золкі вецер, змрочныя фарбы і раскіслыя абрысы, вільгаць і туман. Хочацца сказаць «лонданскі» — але гэты эпітэт гучыць так рамантычна. А рамантыкі нідзе няма. Ёсць проста каламутная слотная сумесь са снегу, вады і бруду. І яшчэ анемічнае шэрае неба, што забівае веру ў само існаванне сонца.

Але заставацца мне хацелася з іншай прычыны.

Надвор'е не так ужо засмучала. Найчасцей супакою не даюць не аб'ектыўныя акалічнасці, а нашы ўласныя думкі.

Падчас малітвы словы з'яўляліся самі, на паверхню мімаволі выходзіла ўсё самае патаемнае. Я верыла, што ўсё змагу. Увасобіць свае планы, не шкодзячы ні іншым, ні сабе, родных і сяброў не засмучаць, а натхняць, быць шчырай, але не раздражняць, пры дасягненні мэт не губляць сваю душу ў мітусні, ісці па жыцці, не загразаючы ў незадаволенасці, злосці і маркоце...

Іншымі словамі, я верыла, што здолею захаваць блізкасць да Бога. Мае думкі і імкненні можна было звесці да гэтай спрадвечнай кропкі. Да асновы асноў.

Пры гэтым фармулёўка не здавалася мне напышлівай і надуманай. Можа, звонку часам так здаецца.

Але гэта можна толькі прачуць.

Знутры.

Прыцемак. Залацістыя агеньчыкі свечак. Вітражы ў спічастых вокнах — ад іх немагчыма адарваць позірк. Не таму, што яны нейкія асаблівыя, мудрагелістыя, вычварныя — яны зачароўваюць глыбінёй колеру: ультрамарынавым, кармінавым...

Я проста сядзела на лаве. Людзей было няшмат — і я падзяляла з імі маўчанне. Усіх іх я бачыла першы раз у жыцці, але штосьці нас злучала нават у гэтай прахадной сітуацыі — тое, што няможна апісаць.

За сценамі касцёла зямля ўздрыгвае ад трамваяў, паветра — ад гудкоў машын, там крычаць, спрачаюцца, пляткараць, лаюцца матам, спазняючыся, губляючы тэлефон, трапляючы малатком па пальцы, смажаць бульбу, мыюць падлогі, пляскаюць дзвярамі, стукаюць клавішамі, знемагаюць ад бюракратыі, ізноў пляткараць і спрачаюцца, клянуць сваю працу, грамадскі транспарт, крыўднікаў, няшчасці.

Але наогул — усяго гэтага не існуе.

Гэта ўсё ілюзія, наноснае — насамрэч ёсць толькі цішыня. І для мяне яна цяпер тут, у касцёле.

Помню этналагічны артыкул пра паганскія вытокі блэк-метала з антытэзай «паганскага шуму» і «хрысціянскага маўчання».

Асабіста я ніколі не змагу шмат чаго дамагчыся падганяннем, накручваннем, нярвовай ашалеласцю, дыянісійскім афектам, старанарвежскім застрашваннем злых духаў шляхам прыпадабнення...

Прабачце, але я злячу са шпулек. І гэта скончыцца самаразбурэннем.

Мой Шлях — цішыня. Толькі ў ёй ваяр чэрпае раўнавагу і сілу. Мая крэпасць — храм.

Але мне давядзецца выйсці адсюль — на слату і вецер, насустрач мітусні і бюракратыі. А значыць, мне застаецца толькі адно: насіць сваю цішыню і свой храм усярэдзіне. Таму што шуму, які наўкола, — не існуе.

Я глыбока ўдыхнула лёгкае, цёплае паветра і заплюшчыла вочы. На сцяне нада мной вісеў гадзіннік. Апроч нечых з глыбокаю пашанай прыглушаных крокаў і рухаў чулася толькі яго нягучнае цíканне.

І тут я зразумела: яго таксама не існуе. Няма часу — ёсць вечнасць. І яна таксама ўсярэдзіне нас, бо душа несмяротная.

Тады які сэнс увесь час заломліваць рукі і панікаваць, калі штосьці не паспяваеш, ганяючыся за ілюзорнымі секундамі і хвілінамі? Вядома, на зямлі нам адмераны свой тэрмін — найчасцей кароткі, ды яшчэ з непрадказальным фіналам. Тады чаму б не расставіць прыярытэты і спыніць пагоню абы за чым?

Я ўпэўнена, што калі звярнуся да Бога, то Ён ужо падкажа мне, што галоўнае, а што — другаснае, што дапасуецца з Яго воляй, а што — не вельмі.

У мяне ёсць цішыня і вечнасць. У мяне ёсць унутраны замак. Каб не страціць ключы ад яго, трэба часцей прыходзіць у дом Божы — вось і ўсё.

Я ўстала з лавы, закінуўшы сумку на плячо, прайшла паміж лавамі, міжволі ступаючы на дыбачках, перажагналася, стоячы на каленях тварам да алтара, устала і выйшла, акуратна зачыніўшы за сабой высокія дубовыя дзверы.

На вуліцы было ўсё тое ж надвор'е, на парадку дня — тыя ж пытанні. Але мне было добра.

# Дзяўчынкі з запалкамі

Я б не задумвалася і прапускала міма сябе многія рэчы, калі б толькі іншыя не надавалі ім такой пільнай увагі.

Спачатку ігнаруеш, бяжыш па сваіх справах, між іншым адзначыўшы штосьці ці нават уразіўшыся, але — перамагае лёгкасць, павярхоўнасць, безважлівасць, так што нават ўражанні твае рассейваюцца, як дым.

Але дзе дым, там і полымя.

Ніколі б не звярнула ўвагі на такую банальную рэч, як запалкі, калі б адна з маіх сяброўак не адчувала да іх незвычайнай, ніяк рацыянальна не вытлумачальнай жарсці — яна не паліла, а пліта ў яе была электрычная.

Мімаволі і я стала заўважаць, у каго якая манера запальвання, назіраючы за сваімі сяброўкамі і знаёмымі. Адна чыркае запалкамі так, нібы жудасна іх баіцца, рух нязграбны, няцвёрды, нібы робіцца ўсё для таго, каб запалка насамрэч не ўспыхнула — а потым, калі іскра ператвараецца ў полымя, нават позірк робіцца баязлівым, ад запалкі нібы хочацца пазбыцца. Іншая паводзіць сябе, як салдат з крэсівам з казкі Андэрсана: заліхвацкі, але з дакладным разлікам б'е запалкай па пачку, высякаючы іскры, але падносіць яе да пліты ці цыгарэты павольна, паважна, з пачуццём уласнай годнасці. Мая манера — штосьці сярэдняе: рух падобны папярэдняму, але больш плаўнае, амаль лісліваe, асцярожнае, як у таго, хто ўпотай займаецца распальваннем вайны, а прыкрываецца дыпламатыяй. Такіх назіранняў можна было б зафіксаваць вялікае мноства.

Аднак яны не выходзілі за рамкі маляўнічага біхевіярызму, фіксацыі паводзін а-ля эскізы з натуры. Мабыць, я наблізілася — не да разумення, а да адчування праўды ў адзін з вечароў на шпацыры.

Зусім сцямнела, ногі стаміліся, у алеі бульвара няможна разглядзець ні твараў, ні сілуэтаў, аднак усё кіпіць жыццём — адтуль смех, найгрышы на гітары — занятак па іспанскім прайшоў на славу, шпацыр па праспекце таксама, смузі ў кавярні быў смачны, але цэны ж у іх — проста абдзіралаўка, пасядзіш дый застанешся ні з чым! Але лепшыя рэчы ў жыцці часта бываюць бясплатныя або танныя — мы вырашылі зайсці ў краму і паласавацца хто чым хоча: я ўзяла марозіва і малочны кактэйль, а яна маленькія круасаны і — пачак запалак.

Мы сядзелі на лаве пад згаслым ліхтаром і елі, і смяяліся, і запальвалі запалкі адну за адной, цешачыся кароткімі, апельсінна-залацістымі азарэннямі ў сіняй цемры.

Раптам са змроку выплыў сілуэт і прагучаў голас:

— Добры вечар, дзяўчыны, можна да вас далучыцца?

— Гледзячы з якой мэтай, — ветліва адказала Арына.

— А вы выпадкова не плюшкі курыце?

— Прабачце, што?

— Увогуле, гэта круасаны, — насцярожана прабурчала я (знаходлівасцю я не адрознівалася ніколі).

— Не, гэта не тое, што вы падумалі, — хутка загаварыла Арына, і юнак разгублена адышоў. Потым яна растлумачыла мне, што гэта быў аматар траўкі — але да мяне ўжо і так дайшло.

Ну так, з намі ўсё ясна: павышаны апетыт у спалучэнні з павышанай смяшлівасцю. І, канешне ж, запалкамі.

У мяне гэта проста не ўкладалася ў галаве. Не гэтулькі з-за кансерватыўных прынцыпаў, з-за якіх часам даводзілася цярпець здзекі і кпліваe неўразуменне. Хутчэй, з-за разумення непатрэбнасці якіх бы там ні было «плюшак»... Навошта нам штучна сябе падсцёбваць, калі мы і так досыць дзівакаватыя: якраз гэтак, каб знаходзіць такую радасць у ласунках, травеньскім надвор'і і назіранні за тым, як гараць запалкі?

Мы запальвалі іх і гутарылі пра свае жаданні, планы, прагаворвалі іх услых — і агеньчыкі загараліся на шчасце, сваім бегам па маленькай драўлянай палачцы, запісваючы нашы мары, а потым ставілі дымную кропку, нібы жадаючы сказаць: «Заказ прыняты. Будзе выканана».

Запалкі — гэта магічны прадмет. Таму што кожны агонь — нешта святое, нават гэткі малюсенькі — нават кропелька святой вады па сутнасці сваёй не перастае быць святой вадой.

Для нас з Арынай запалкі — гэта зашыфраваны сігнал са шведскіх берагоў, у іх агеньчыках выступаюць радкі са Стыга Ларсана.

Запалкі — гэта мініяцюрныя сонейкі ў нашых сінявата-пахмурных кватэрах, радасныя секундныя праблícкі ў няўсмешлівай паўночнай атмасферы. Яны — як мімалётнае абяцанне хуткай вясны і сонца.

Запалкі — гэта прыручанае полымя, гэтак жа, як котка — ручны тыгр.

Запалкі — гэта знак нашых надзеяў, імпульсаў. Занадта многія з іх згасаюць і знікаюць бясследна. Аднак кожная запалка нясе ў сабе выяву вогнішча ў лясной цемры, свечак у велічным храме, хатняга агменю, алімпійскай паходні... Таму што ўсе агні — агонь.

# Ліфт на поўдзень

Горад зваўся Сан-Марціна. Але пра гэта я ўспомніла ўжо днём, пахадзіўшы, пазаймаўшыся справамі, больш-менш неадкладнымі, і выклікаўшы ў памяці перажытую прыгоду.

Нейкі час мне больш падабалася лічыць, што гэта проста Горад з вялікай літары, дзіўны і адначасна звыклы, таму што многія гарады са старажытнымі вуліцамі і архітэктурнымі помнікамі бываюць падобныя. Асабліва — тыя, што валодаюць такім няўлоўным, падступным зачараваннем. Вось ты ідзеш па вуліцы, напоўнены глыбокай павагай, убіраючы хараство вакол сябе. Захапляе літаральна ўсё: медальён з хітрым тварыкам купідона, завіткі ляпніны, строгі каваны балкон, сам будынак, немудрагеліста просталінейны, у стылі класіцызму, калоны, шрыфт аптэчнай шыльды, рэстаранчык пад маркізай, а пры ўваходзе на ліхтарах — збаны з геранню, што чамусьці вісяць дагары нагамі, кветкамі ўніз — як! Дзе гэта бачана? І саму герань язык не паварочваецца назваць проста «ружовай» — не, ты ведаеш, што гэтыя раскошныя адценні завуцца «маджэнта» і «сальферына».

І вось рука звыкла цягнецца да фотаапарата, ты хочаш адлюстраваць тое, што ўбачыў і адчуў. Вось ужо шукаеш ракурс і пстрыкаеш, але... Атрымліваецца не тое. Хоць забі — не тое. Уздыхаеш. Выходзіць выява без уяўлення, невыразны эрзац, і вось зразумей, што такое: у адсутнасці ў цябе майстэрства? Ці ў тым, што такую вуліцу ў прынцыпе немагчыма сфатаграфаваць з выгаднага ракурсу?

Як бы там ні было — усё гэта мне было добра вядома, я спазнала нямала такіх расчараванняў. І таму са свядомай бесклапотнасцю пакінула фотаапарат дома. Такое харaство можна насіць толькі ва ўспамінах.

Такім чынам, Сан-Марціна. Самым характэрным было сонца — горад быў літаральна напоены ім, струмені залатых карпускулаў пераліваліся праз краі лавак, рамы ровараў, каменныя сцены, бардзюры тратуараў і асабліва праз зазоры паміж пальцамі, афарбоўваючы не проста іх контуры, а запальваючы буянарубінавым святлом амаль усю далонь. Нават цень тут быў не такі, як у нас — не змрочны, а пяшчотны, млява-вабны, здаецца, нават іншага адцення.

Спякота не душыла — з мора ўвесь час дзьмуў свежы брыз, што даваў магчымасць не ладзіць сіесты і не чакаць цемры, каб выбрацца на шпацыр. Аднак і мясцовыя жыхары, і турысты ўсё адно не маглі выстаяць перад спакусамі фіялетавай аксаміцістай ночы, падобнай да пялёстка архідэі з мігатлівымі светлячкамі.

З'язджаць было, вядома, шкада. Аднак мяне зусім не мучыла меланхолія. Я знаходзілася ў дзіўна бесклапотным настроі, як чалавек, які ведае, што можа вярнуцца сюды ў хоць які момант. Нават гэта маё падарожжа было вяртаннем — мы з Арынай ужо былі тут год назад, я ўзгадвала, што мы ўжо хадзілі на экскурсію ў палац чэшскага графа — ці то дыпламата, ці то мецэната, багацея, які аддаў перавагу цёплай краіне, а не роднай зямлі. Мы адправіліся сюды і зараз, але гэтым разам не столькі для таго, каб глядзець па баках і блукаць па залах, слухаючы імёны і даты, якія ўсё адно не запомніш.

— Есці хочацца...

— І піць! У-ух, у мяне ногі гудуць...

— І ў мяне... Вось бы соку! Халодненькага, з запацелай шклянкі...

— Не псуй настрой, давай да нейкай забягалаўкі дойдзем...

— ...сок з сіцылійскага апельсіна, чырвоны, яго яшчэ «крывавым апельсінам» называюць... — пачала занудлівічаць я.

— Якія мы крыважэрныя ды бязлітасныя! Апельсін — толькі крывавы, толькі сіцылійскі! — падкалола мяне Арына.

— А то. А давай нікуды не пойдзем, збочым ды вернемся туды.

— У палац? Навошта? Ці ты маеш на ўвазе рэстаран?

— Але. А што, можам жа сабе дазволіць.

Арына запаволіла крок (мы перайшлі на зусім чарапашую хаду), і праз пару секунд вымавіла:

— А давай. Хопіць ужо фігнёй з пераходаў харчавацца, хоць тут бы разгуляцца! Будзем мой грант праядаць.

Я не вытрымала і зарагатала:

— Вось гэта клас!

Далёка мы не паспелі адысці — трэба было толькі прабрацца праз фігурныя веснічкі з усходняга боку і перасячы парк (наогул розных уваходаў на тэрыторыю маёнтка было шмат, затое амаль усе — патаемныя).

***

З графскім палацам неяк зусім не вязалася слова «музей» — хутчэй, культурны цэнтр. Самай галоўнай і незвычайнай рысай была адкрытасць — можна было ўваходзіць у любыя памяшканні, сядаць на крэслы, вальсаваць па паркеце, іграць на фартэпіяна. Тут увесь час праводзіліся экскурсіі, выставы, літаратурныя вечары, парк быў упадабаным месцам шпацыраў для гараджанаў і вандроўнікаў. Дзіўна, але тут зусім, у прынцыпе не бывала смецця, хоць я не бачыла ніводнай сметніцы. Да таго ж, нягледзячы на ажыўленне, маёнтак не здаваўся перапоўненым.

Мы з Арынай падняліся на другі паверх і прайшлі ў паветраную бела-залатую банкетную залу, дзе і знаходзіўся знакаміты рэстаран. Тут стаялі велізарныя сталы з кіпнева-белымі абрусамі, з крэсламі а-ля Людовік XV, у келіхах і вазах са свежымі букетамі адбіваліся свечкі.

Кожны проста сядаў на вольнае месца, да яго падыходзіў афіцыянт у фраку (яны у мностве бегалі туды-сюды, выяўляючы дзівы манеўру), прымаў заказ, але таксама на стале заўсёды стаялі іншыя стравы — за іх належала фіксаваная цана, а за тое, што заказвалася апроч таго — асобная плата. Таму ўсё тут пакідала ўражанне нескончонага банкетавання, урачыстага балю — і гэта ўражанне давяршалася жывой класічнай музыкай.

Мяне заўсёды асляплялі і чаравалі ўсе гэтыя палацавыя атрыбуты: пазалота, вытанчаная разьба на мэблі, цяжкія парцьеры, кандэлябры і жырандолі, роспіс на столі, высачэзныя дзверы, гербы. Нада мною пакеплівалі, але ў такіх месцах і мне хацелася выглядаць як мага болей шыкоўна, паважна. Сёння я не ведала, куды мы пойдзем, але нейкім шостым пачуццём адгадала, што трэба надзець белыя сандалі з залатымі спражкамі і доўгую пунсовую сукенку, прыпол якой развяваўся і напамінаў мяккую, пышную кветку.

Арынін падыход быў прынцыпова іншым. Зараз яна сядзела ў бандане, брыджах, майцы і зручных адкрытых красоўках. Яна лічыла, што ва ўмовах турыстычнага падарожжа галоўнае — мабільнасць і трываласць, а нездаровае эстэцтва да дабра не даводзіць. Што я на сабе і прачула, калі жорстка спаліла плечы на летнім шпацыры ў Вене, апрануўшы эфектную адкрытую сукенку.

— Так якім чынам? Грант, кажаш, далі?

— Умгу. Я зараз грантасос.

— Ачмурэць проста. А што за тэма, што за...

— Ой, ды тая ж тэорыя камунікацыі, культурныя ўсялякія фішкі. Заадно тут канферэнцыя перакладніцкая, я і на яе вырашыла зматацца.

— Нішто сабе, так ты даклад будзеш чытаць альбо некага перакладаць?

— Не паверыш, і тое, і іншае! Ужо і не радая, што гэтулькі на сябе ўзяла.

— О та-ак...

— Ну, а наогул — тут будуць італьянцы, немцы, шведаў нават парачка. Хоць як яны тут ад спякоты не здохнуць?

— Ой, не кажы дарэмшчыны, нармальны тут клімат.

У адказ скептычнае чмыханне — і настолькі ж скептычнае маўчанне пры жаванні блінца з пячоначным мусам. Гэта адзін з пунктаў, па якім мы з Арынай разыходзімся. Яна спякоту цярпець не можа, а я проста абажаю — вядома, у разумных межах, але да такой ступені, што Сан-Марціна здаецца мне раем на зямлі.

Пасля абеду мы адправіліся ўсё ж пахадзіць па палацы, змяшаўшыся з групкамі людзей, якія перацякалі з залы ў залу, з паверха на паверх. Мы разам з імі слухалі смутна вядомыя фразы экскурсаводаў, разглядалі карціны, люстэркі і статуэткі, лавілі нечыя рэплікі, дый самі паволі гутарылі.

— Ну, а ты так і не расказала, што тут робіш.

Летась мы былі тут праездам падчас адной з гэтых утомных аўтобусных экскурсій у стылі «галопам па Еўропах». Але гэтым разам...

— Ды я тут па розных пытаннях: продаж карцін, купіць сёе-тое і з гэтым італьянцам сустрэцца, які маю калекцыю ў стылі мілітары выклікаўся на паказы выводзіць і піярыць... І сваякам ізноў жа сёе-тое перадаць ды ад іх забраць — бедная мая валізка, не ведаю, як яна зачыніцца.

— Ого, ну ты таксама дзелавая кілбаса.

— Так. Неяк так.

Я заўважыла, што людзі тут больш падобныя не да турыстаў, а да запрошаных на раўт ці канферэнцыю.

— Так тут насамрэч усё і будзе праходзіць. Сёння, бачу, народ прыйшоў пацікавіцца. О, я вунь таго шведа ведаю! Hej, Ulle![1]

З камунікацыяй у Арыны не толькі ў плане тэорыі, але і на практыцы заўсёды было лепш, чым у мяне — я б яшчэ пару хвілін стаяла, каб набрацца адвагі.

Мы падышлі да высокага сухарлявага мужчыны ў сінім гарнітуры, які так гарманаваў з яго светлымі скандынаўскімі вачыма і юнацка адкрытай усмешкай. Я таксама, прывітаўшыся, прамовіла пару фраз і падзялілася ўражаннямі ад горада, а потым, папрасіўшы прабачэння, адышла, пакінуўшы калегам балакаць колькі заманецца.

Я спусцілася ў сад і пайшла блукаць па звілістых пліткавых сцяжынках, накрытых плямістым паўднёвым ценем. Сад і парк плыўна пераходзілі адзін у адно, і ў цэлым напаміналі казачны лабірынт з фантанчыкамі са старога каменя, статуямі антычных персанажаў, з плюшчом на сценах і мноствам пераходаў. Там былі і альтанкі, і павільёны, і аранжарэя, і нават невялікі музей з калекцыяй халоднай зброі.

У парку ўвесь час адчувалася бурленне жыцця, але шмыгнуць у зацішны куток было вельмі проста — вось што мяне здзіўляла ў гэтым загадкавым месцы. Роўна як і тое, што ніводны турыст не спрабаваў штосьці сфатаграфаваць — няўжо яны спасціглі тую ж марнасць?

Неўпрыкмет для самой сябе я апынулася каля пахавальні графа. Не ведаю навошта, але вырашыла ўвайсці. Гэта было напалову адкрытае памяшкан-

[1] Прывітанне, Улле! (шв.)

не, выкананае накшталт грота, з паўкруглым скляпеннем столі, у светла-кобальтавых тонах. Надмагільная пліта была зроблена з ляжачай статуяй а-ля крыжа: сурова выцягнутае цела, рукі складзены на грудзях, толькі заміж даспехаў — сурдут канца васямнаццатага стагоддзя. Гэтае мастацкае рашэнне таксама аддавала дзіўнасцю. Але чамусьці імпанавала. Ля сцен паўколам былі расстаўлены чорныя каваныя падсвечнікі на высокіх нагах. Мігацелі лампадкі, дзе-нідзе ляжала некалькі букетаў півонь. Каменная падлога нават праз падэшвы абутку струменіла холад і волкасць — рэзкі кантраст са спякотаю ў горадзе.

Я загледзелася на скульптуру, на кветкі, і тут мяне прадраў па спіне непрыемны халадок. Дакладней — не холад, а штосьці накшталт электрычнага імпульсу. І не па спіне, а неглыбока пад скурай. Але ўнутр закралася непрыемная, прыгнятальная жудасць — пагрозлівае нябачнае дакрананне. Дакучлівая бясцялесная прысутнасць. Тое, што заўсёды так палохала і дагэтуль палохае мяне ў цёмных пакоях.

Самае жахлівае: гэта ж не праігнаруеш, не скінеш высілкам волі. Я праглынула камяк. Для гэтага Нешта няма прыдатнага кантэксту: за маёй спінай разагрэты сонцам парк і горад, які дзе-нідзе парадаксальна напамінае Прагу, што пераходзіць у Сан-Рэма.

Я разумела, якое цяпер мізэрнае гледзішча ўяўляю сабой у ментальным плане: аднак я знайшла сілы выціснуць пару ветлівых фраз і папрасіць прабачэння за турботу. Я ледзве павярнулася і выйшла на ватовых нагах; так, павярнуцца было найцяжэй — так заўсёды сыходзіш з цёмнага пакоя з чаканнем нажа ў спіну.

На зялёнай алеі з платанаў я ледзь адвязалася ад ванітоўнага пачуцця. Хоць у прынцыпе зразумела, што граф проста не ў гуморы.

Стрэс часцяком заядаюць — я купіла марозіва.

— А-а, вось ты дзе!

Арына ўволю нагаманілася са шведам і адправілася шукаць мяне — мы знайшлі адна адну без тэлефанавання. Зараз мы падмацавалі сілы, але нас чакаў шлях да аўтобуснага прыпынку, а там з'езд у Ніжні Горад па серпанціне. Па дарозе да прыпынку адбылося здарэнне: Арына страціла прытомнасць. Не звалілася як падкошаная, але стала павольна абсоўвацца проста мне на рукі — я ж, хоць і спалохалася не на жарт, кінулася падхапіць яе.

На спробы адвалачы яе на лаўку Арына запратэставала. Праз паўхвіліны яна змагла цвёрда стаць на ногі, а потым яшчэ і пайсці як ні ў чым ні бывала. Потым змрочна запатрабавала мінералкі. Вылаялася з-за таго, што вада цёплая, але ўсё адно зрабіла два-тры глыткі. А потым расхістаным жэстам шпурнула бутэльку проста пад абрыў, у зарасці тыгровага альясу. Нехта мог бы абурыцца, але там, унізе, стаялі смеццевыя бакі. Ці завершыўся кідок трапленнем, было ўсё роўна — галоўнае было даехаць зараз дахаты жывымі-здаровымі.

Што мы, увогуле, і зрабілі насуперак задусе і трасенню: Арына шчасна даехала да гатэля, а я да хаты сваякоў. Па прыбыцці сцэнар у нас быў адноль-

кавы: скінуць усё адзенне, залезці пад душ, а потым — абваліцца ў пасцелю, пад накрухмаленую халаднаватую прасціну.

Цётка Маўрысія зайшла запытацца, калі я буду збіраць рэчы. Я штосьці прамармытала і, перавярнуўшыся на спіну, заснула. Яна махнула рукой і пайшла на кухню. У сне было не бачна. Проста я ведала за ёй гэты жэст.

Самалёт заўтра. Вылятае ў тры. Адранку ўсё спакую.

Увечары я выбегла ў бліжэйшую крамку купіць крэветак і памідораў. Вярталася, адчуваючы, як пакет адцягвае руку, а вецер гуляе па лапатках: выйшла я ў лінялых шортах і белай барцоўцы. І, натуральна, у пляскаючых в'етнамках «у палец».

Потым мы ўсёй шаноўнай кампаніяй вельмі душэўна пасядзелі, едучы «марскіх гадаў» і запіваючы іх напалову разведзеным ружовым вінам. На шпацыр не выбраліся, проста час ад часу падыходзілі да акна, балазе краявід у гэтым элітным раёне быў шыкоўны, як з паштоўкі.

Дый кватэрка ў іх нічога так. Пяць пакояў, іспанскі стыль — светлыя сцены цёплых адценняў і насычана-цёмная мэбля. Камусьці здасца цяжкавата, а па мне — прыгажосць. Трэба ў сябе прыдумаць нешта падобнае.

Але самым цікавым у гэтым доме быў ліфт. Прасторны, з люстэркам, медзянымі акантоўкамі, вялікай панэллю з кнопкамі, на якой — дзіўна! — была яшчэ і мапа, што напаміналa схему метро са станцыямі. Прытым назвы галоўным чынам былі нейкія дзіўныя і бязглуздыя. Прыкладам, нейкая «Альфа-крама» ці «Электрасіла»... Усе надпісы на плане я не змагла ўтрымаць у памяці. Але мне гэта нагадала падарожжа на Ўвядзенскія могілкі ў Маскве і станцыі Электразаводскую і Баўманскую.

Мяне гэта інтрыгавала, але ў кнопкі я не тыцкала, карыстаючыся паказанымі мне ў першы дзень знаходжання. Навошта прызначаліся астатнія, было няясна, але нават дэкаратыўная іх каштоўнасць была неаспрэчнай: абцякальныя, бронзавыя, гладкія навобмацак, яны ўтваралі на светлай панэлі эцюд нейкага ўзору.

Назаўтра цётка, дзядзька і ўсе мае кузіны займаліся маімі зборамі і па чарзе правяралі багаж, меркавалі, як лепш дабрацца да аэрапорта. Аднак нерваванне не назіралася. Абмеркаванне ішло так, нібы гаворка ішла пра тралейбус, а не пра самалёт.

Нарэшце пакеты былі кампактна ўпакаваныя, дробязі разапханыя, валізка зашпіленая. Абдымкі, поціскі рук, усмешкі, словы падбадзёрвання. Я стаяла і чакала свой жоўты аўтобус на чысценькай пляцовачцы, дзе з аднаго боку была скальная сцяна з гірляндамі з пранізліва-ружовай бугенвілеі, з іншага боку — панарама бухты і горада з тэракотавымі дахамі, нарэшце, праз парэнчы — проста мора. Спакойнае, сіняе, ужо не пашарэлае ад спёкі, якая спала ўчора пад вечар — з сённяшняга дня наставалі больш свежыя дзянькі, часам з аблокамі. Мы глядзелі ўчора прагноз.

Пэўна, з'язджаць быў самы час. Пра гэта я думала, разгублена паглядаючы за акно аўтобуса і машынальна прытрымваючы валізку ў праходзе. Калі нас страсянула на павароце, пагляд мой мімаволі адарваўся ад краявідаў і...

Я ўбачыла генерала, які сядзеў крыху наводдаль. У такіх выпадках належыць драматычная паўза. Але нічога драматычнага не адбывалася, мы проста заставаліся на сваіх месцах. Тым больш, мне не ўпершыню сустракаць у транспарце выбітных асоб.

Здавалася, яго ніхто не заўважаў. А ён — не бачыў мяне. Генерал выглядаў вельмі патрапаным, старым, стомленым, і яўна меў патрэбу паправіць здароўе. Яшчэ крыху, і твар яго будзе ў тон мундзіру — а быў ён у сваёй звычайнай шэрай уніформе. Дзіўна, што і гэтага ніхто не заўважаў, нібы так і трэба (ага, гэткую фуражку не заўважыць!). Нейкі пасажыр звярнуўся да майго генерала з зануднымі роспытамі.

Той адказваў на здзіўленне цярпліва, павольна вымаўляючы словы сваім надтрэснутым голасам, у якім спалучаюцца каціная рэзкасць і лёгкая аксамітавая хрыпатасць — проста цадзіў фразы, не ў сілах супрацівіцца. Не кажучы ўжо пра тое, каб крыкнуць і адшыць. Выраз твару ў генерала быў стомлены і сумны — хутчэй, не ад душэўных хваляванняў, а ад дрэннага самаадчування.

Я была ўзрушана. Я паспрабавала прыцягнуць яго ўвагу пільным позіркам. У адказ, адгукнуўшыся на адчуванні, ён цвёрда, неадрыўна паглядзеў мне проста ў вочы. Ох, усё ж даў зразумець, што бачыць мяне, ведае, што я тут. Але больш — ніякіх знакаў збліжэння. Найхутчэй, так было трэба. Ён не жадаў прыцягваць увагі. А я — калі б я памахала рукой ці пралезла да яго — я б яго проста выдала.

І тут мяне ахапіла дзіўнае пачуццё. Аўтобус ехаў назад. Няўжо ён зрабіў недзе крук? Калі так — чаму?! Ці я нейкім неспасціжным чынам трапіла з аўтобуса, што едзе ў аэрапорт, на той, што адпраўляўся адтуль у горад? Але мне ўжо было напляваць — чорт з імі, з квіткамі. Я была рада, што мы вяртаемся.

У генерала былі ў Сан-Марціна свае справы — гэта адчувалася. Заставалася толькі высветліць, якія. Але першым чынам я б параіла яму арганізаваць сабе тут працяглы адпачынак і аднавіць сілы. Хай бярэ прыклад з дваранаў, якія ездзяць «на воды».

Жоўты аўтобус затармазіў на цэнтральнай плошчы, пасажыры высыпалі з дзвярэй, ажыўлена балбочучы. Генерал таксама накіраваўся да дзвярэй, я ішла ззаду; тут ён знік у арэоле дзённага святла, а потым яго і зусім нехта захінуў. Але можна было заўважыць, што валізку ў яго адразу забралі і падалі яму руку. Сустракала яго сама донна Люсія, ці былі з ёю дзеці, я не ўбачыла (адцерлі, адціснулі!) — але адчула: так. Жаклін і Марка Антонія.

На свежым паветры ўжо можна было закрычаць, пагукаць, памахаць рукамі — але нагода для гэтага знікла, я згубіла сваіх з віду! — так, расштурхала незадаволеных пасажыраў, прадралася, спудзіла цэлую чараду шызых галубоў — але ўсё марна. Я ўбачыла толькі таксі, якое ўжо ад'язджала.

Нічога. Я выразна ўцяміла дзве рэчы. Першая: незразумела, навошта, але (я ўсцешана!) яны накіроўваюцца да маіх сваякоў. Другая: прасцей простага:

трэба іх дагнаць. Што б там ні стала. А там — пагаварыць з генералам і ўзнагародзіць яго порцыяй абдымкаў і пяшчот.

Мы з таксістам засунулі вішнёвую валізку ў багажнік, і вось я ўжо сядзела на пярэднім сядзенні, пагружаная ў думы. Наўрад ці мне ўчыняць наганяй з-за нечаканага вяртання. Так, не паляцела, так, прымчалася назад. Ці мала, можа рэйс адмянілі? Што-кольвек набрашу.

А яны ўжо падняліся.

Я расплацілася і адмовілася ад дапамогі, валізка нібы ператварылася для мяне ў мініяцюрны заплечнічак: я адным махам увалакла яе па ўсходах і штурхнула ў ліфт, мімаходзь пляснуўшы па панэлі амаль усляпую.

Кабіна мякка рушыла і праехала патрэбны лік паверхаў. Званочак. Ад'язджаюць дзверы. Хутчэй!

Пстрыкнула ручка валізкі. Колы прыглушана засакаталі па стыках пліткі, загрузлі ў ворсе бэжавага дывана на пляцоўцы — я рванула валізку за сабой, рынулася наперад: дзверы кватэры былі адчыненыя.

— Ужо іду! — прагучала знутры.

Але я спынілася як скамянелая. Насустрач мне выйшла не цётка, а нейкая незнаёмая маладая кабета з каштанавымі валасамі. Яна была ў хатніх джынсах і белай маечцы-пола. Дый кватэра была не нашай — хоць за спінай у незнаёмай была відаць падобная секцыя цёмнага дрэва з расстаўленымі там кнігамі і вазонамі.

— Э-э... добры дзень.

І мне давялося збянтэжана тлумачыць, што я мела намер трапіць зусім у іншае месца — але, пэўна што, прамахнулася па кнопцы.

— О-о, ну канешне! — пляснула рукамі кабета. — Вы выпадкова перайшлі на Ламбардскую лінію, вось яно што. З гэтымі ліфтамі трэба быць уважлівей — гэта ж сапраўдны лятальны апарат.

Мне казалі, што я нікчэмная акторка; найцяжэй у мяне атрымоўваецца хаваць гнеў — у прынцыпе, зусім ніколі не атрымоўваецца. Тут ж на маім твары занадта выяўна выступіла неразуменне.

Незнаёмая нават засмяялася:

— Ах, хвілінку, я вам усё вытлумачу! Ды вы пакуль праходзьце, не саромейцеся. Ну і што, валізку пастаўце тут, у пярэднім пакоі.

На працягу некалькіх наступных хвілін мяне паілі капучына з бісквітамі і тлумачылі прынцып дзеяння ліфтаў. Яны не проста могуць ездзіць гарызантальна, яны рухаюцца па каардынатах, паказаным на мапе. Прафан проста не зверне на яе ўвагі, але жыхары ведаюць, у чым уся справа. Назвы станцый сапраўды з'яўляюцца шыфрам. Таксама гэтыя ліфты служаць сродкам зносін паміж усімі хатамі элітнай пабудовы, выкананымі па адным вялікім праекце (прытым, што некалькі такіх хат знаходзяцца ў іншых гарадах).

І распісвала яна мне ўсё гэта не проста так.

— Вы ж сваячка сямейства Рыкардзі?

— Так, — важна адказала я. Таму што «сямейства Рыкардзі» прагучала неяк вельмі значна.

— Я ім зараз патэлефаную, папярэджу, — усміхнулася кабета, — і можаце адпраўляцца, зараз вы не згубіцеся.

Яна набрала нумар на апараце, зробленым пад даўніну, і пачала штосьці казаць у трубку, я ўяўна ўлавіла цёплую сяброўскую атмасферу і наяўнасць Люсіі ў хаце (яна чамусьці адчувалася вельмі яркай), я паправіла валасы...

І прачнулася. Рука была закінута на падушку, пальцы зарываліся ў валасы, як грэбень. За акном світала, але ўсё яшчэ гарэў гэты ліхтар, які то згасаў, то запальваўся і змяняў колер...



# Надзея Філон

празаік, паэт. Скончыла філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі святла». Друкавалася ў часопісах «Верасень», «Полымя», «Бярозка», тыднёвіку «ЛіМ» і інш. Нарадзілася ў 1988 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мазыры.

# Здарэнне на возеры

— Мама, мама, я сёння та-а-акое бачыў! — усхвалявана закрычаў Пеця, з шумам адчыніўшы дзверы. Маці, пачуўшы мітусню і крык, здагадалася, што сын, нарэшце, прыйшоў са школы, і выйшла ў калідор, каб сустрэць малога. Праўда, гэтаму малому праз некалькі месяцаў ужо будзе дванаццаць год, але для маці дзеці заўсёды застаюцца дзецьмі.

— Ну, расказвай, што там здарылася? — Кацярына прысела побач з сынам, абдымаючы яго адной рукой, — Чым ты так узрушаны?

— Мама! Яны пайшлі без дазволу туды, самі, іх выхавацелька са школы дадому адправіла, а яны... яны ж малыя зусім. Двайняткі ў першым, а сусед іх у другім класе. Мы таксама ішлі там, калі яны ўжо на лёдзе гулялі. Кінулі рэчы на беразе, уяўляеш, і пайшлі гуляць на сярэдзіну возера. А потым... адзін з іх праваліўся ў ваду. Сам, упаў, пасля другі, трэці... Яны крычалі так жудасна, аж у мяне ўнутры стала так халодна і няўтульна. Мы з сябрам, таксама пачалі крычаць, прасіць дапамогі. Патэлефанавалі ў 101. Адзін мужчына, што праходзіў побач, кінуўся ў ваду, пасля другі... Аднаго хлопчыка выцягнулі, а астатніх... Мама, яны загінулі... Нават служба бяспекі не змагла дапамагчы... Яны там доўга шукалі, ліхтарыкамі свяцілі, ныралі. А вада халодная, бр-р-р... Прайшло хвілін пяць-дзесяць, пакуль выцягнулі аднаго хлопца, другога з паўгадзіны пасля яшчэ шукалі... — Пеця ўзахлёб дзяліўся з матуляй уражаннямі. Ён не мог зразумець, чаму так атрымалася.

На наступны дзень ад навіны гула ўся школа. Здавалася, што кожная цаглінка гэтага будынку ведае жахлівую гісторыю, але яе пераказвалі зноў і зноў з падрабязнасцямі.

Двайняткі Міша і Паша Карымавы вучыліся ў першым «А» класе. Звычайна пасля заняткаў хлопчыкі ішлі ў групу падоўжанага дня, дзе бавілі час з аднакласнікамі да таго часу, пакуль іх не забіралі бацькі. Рома Платонаў вучыўся у другім класе, і наведваў групу падоўжанага дня з першаклашкамі. Хлопчыкі сябравалі яшчэ і таму, што жылі побач, нават у адным доме, толькі пад'езды розныя. У гэты нешчаслівы, а для некаторых апошні дзень жыцця, дзеці пайшлі дадому без бацькоў. Выхавацелька адпусціла іх, таму што маці Платонава патэлефанавала і папрасіла па прычыне хваробы малодшай Ромінай сястрычкі адпусціць двайнятак дадому з Ромам, бо тата тры тыдні таму напісаў заяву на імя дырэктара, каб яго дзяцей адпускалі з бацькамі Платонава ці з самім хлопчыкам, пад ягоную адказнасць... Вось у гэты раз хлопчыкі пайшлі дадому адны. Сказаўшы «Да пабачэння!», весела пабеглі ўбок дому. Не ведалі яны, што больш не пабачацца з настаўніцай. На срэдзіне дарогі Рома прапанаваў сябрам зайсці на пратоку, бо там добрая коўзанка ёсць і можна некалькі раз з'ехаць з горкі. Разумееце, там так цікава і весела! А горка якая! Мы ж толькі некалькі разоў з'едзем уніз хуценька і дадому!

— Ну, хлопчыкі! Вы ж мае сябры! Хадземце, — упрошваў Платонаў і цягнуў хлопцаў за рукі да небяспечнага месца. Падышоўшы да пратокі, хлопцы скінулі заплечнікі на снег і пачалі коўзацца. Адзін раз, другі, трэці... А пасля Паўлу стала цікава, ці можна перайсці на супрацьлеглы бераг, бо так бліжэй было, не трэба вяртацца назад. І ён, нават не ўспомніўшы пра рэчы, пабег. Але праз хвіліну ўжо Міша і Рома пачулі незвычайны гук і крык Пашы. Дзеці падбеглі да таго месца і самі нечакана праваліліся пад лёд. Што тут пачалося, крыкі, паніка, спрабуючы выбрацца і дапамагчы адзін аднаму, яны яшчэ больш апускаліся ў ваду. Намоклая вопратка стала цяжкай і зацягнула дзяцей пад ваду. Больш не даносіліся крыкі і енкі. На імгненне ўсё сціхла. Але ў гэты ж момант мужчына, здымаючы на бягу куртку, скокнуў у ваду і нырнуў у тым самым месцы, дзе толькі што зніклі хлопцы. Некалькі спробаў былі няўдалымі, але недзе ўжо праз хвіліну ён выцягнуў аднаго хлопчыка з вады, узяў на рукі і асцярожна панёс на бераг. Мужчына быў мокры, яму было вельмі холадна, але на сябе звяртаць увагу не было часу, трэба ратаваць дзяцей. Яго сябар у гэты час ужо шукаў астатніх дзяцей, але безвынікова. Пад'ехала Служба бяспекі, і занялася пошукамі. У гэты ж час хуткая дапамога забрала Мішу ў шпіталь. Хвілін праз 5 дасталі з вады Паўла, зсінелага ад халоднай вады і недахопу кісларода, але яму дапамога ўжо была непатрэбна. Было позна. Рому знайшлі праз паўгадзіны.

На беразе за гэты час сабраліся людзі. Пеця з Міцем ішлі праз гэтае небяспечнае месца, заўважылі тонучых хлопчыкаў і выклікалі МНС. Тыя ў сваю чаргу хуткую дапамогу. Мужчыны, што выратавалі Мішу, вярталіся з працы. Адзін з іх быў суседам Ромы, ён не ўмеў плаваць, а яго сябар кінуўся ў ваду. Астатнія людзі збегліся на мітусню. Нехта спачуваў, нехта не разумеў, задаваў шмат пытанняў. Доўга яшчэ высвятлялі асобы хлопцаў. Знайшлі заплечнікі, дасталі з іх дзённікі, але цяжка было зразумець, хто з іх хто.

Пеця быў вельмі неспакойны пасля здарэння. Нешта турбавала яго, клапаціла, не давала спакою.

— Мама, — паклікаў хлопчык аднойчы вечарам, — а гэты мужчына, што кінуўся ў ваду ратаваць дзяцей, такі рашучы і смелы. Ён жа сам мог загінуць, замерзнуць, рызыкаваў жыццём... Я хачу быць на яго падобным, калі вырасту. А пасля ціха дадаў: — Я ж з Міцем таксама ішоў на пратоку коўзацца...

Маці моўчкі прыціснула да сябе сына. Яе вочы сталі вільготнымі ад слёз.

# Дзве птушкі

Гадзіннік на сцяне паказваў поўнач. Стрэлкі не рухаліся, і здавалася, час прыпыніўся. Ненадоўга, але ўсё ж. Гадзіннік ужо пяць год паказваў час дакладна і старанна. Ён быў белы, з дзвюма чорнымі птушкамі. Адна, вялікая, сядзела на галінцы, другая — маленькая, з самага краю, нібы ляцела.. Гэтыя птушкі ведалі шмат таямніцаў сям'і і многа маглі расказаць, каб толькі ўмелі размаўляць.

Адэля сядзела за сталом і глядзела на гадзіннік. Поўнач. Ужо пяць гадзінаў, як Стас павінен быў вярнуцца з працы. Цягам апошніх пяці месяцаў паміж ёй і Стасам здараліся нейкія дробныя непаразуменні, якія часова пераходзілі ў спрэчкі і сваркі, а пасля ў маўчанне. Гэтыя «дробязі» так псавалі жыццё, што на душы рабілася непамысна і моташна. Знік давер у адносінах, размовы за сталом сталі радзейшымі, муж перастаў забіраць Адэлю з другой змены, тлумачачы, што вельмі заняты і не паспявае. Адэля рабіла для Стасіка ўсё, што толькі было магчыма: уставала разам з ім раніцай, (нават, калі яшчэ гадзінудругую магла адпачыць), збірала ежу на працу, бо муж не любіў абедаць у сталоўцы, нясмачна, маўляў. Жонка выконвала кожнае жаданне, хацела вярнуць былую цеплыню ў адносінах, але, здавалася, што ўсё бессэнсоўна. Мала таго, чым больш яна намагалася, тым больш складанымі рабіліся адносіны. Як сумавала сэрца Адэлі па тых вечарах, калі яны рука ў руку праходжваліся па набярэжнай, кармілі качак, слухалі плёскат рачных хваляў, ці проста моўчкі назіралі, як сонца апускаецца ў ваду і адлюстроўваецца там. Сонца свяціла іх сям'і ўвесь час, але не цяпер...

Ніхто не бачыў, як жанчына плакала па вечарах, калі муж пазніўся з працы. Ніхто не ведаў, як Адэля стамілася рабіць штодзённую марудную хатнюю працу для таго, хто раней так моцна любіў яе і захапляўся кожным яе рухам і крокам. Цяпер жа Стас ці не хацеў, каб жонка нешта рабіла для яго, ці проста не заўважаў гэтага. Калі яна чула апошні раз словы падзякі? Калі Стасік апошні раз трымаў яе за руку, цалаваў у вусны? Калі? Яна правальвалася ў думкі, нібыта ў багну... У такім настроі жанчына пайшла ў пакой, звярнула ўвагу, што там пуста, рэчаў мужа амаль няма, зазірнула ў шафу — і ледзь не абамлела: апрача пары кашуль і старых нагавіцаў нічога не было. Думкі пачалі свідраваць і без таго збалелую галаву. Кінуў, з'ехаў, нават нічога не сказаў, не патэлефанаваў... Проста так , моўчкі, гэтаксама ж ціха, як яны жылі апошнім часам.

Адэля нервова пачала хадзіць па кватэры. Што ж рабіць?

Глянула на гадзіннік — стрэлкі не рухаліся. Маленькая птушка ляжала на падлозе, крыло адкалолася... Жанчына на імгненне спынілася: цяпер яна так была падобная да тае птушкі са зламаным крылом! Маладая, прыгожая, закаханая ў свайго мужа і адначасова стомленая, разбітая, спляжаная. Ізноў шкадаваць сябе? Дык які сэнс? Нічога не зменіцца. У сініх вачах прамільгнула іскрынка — адпомсціць. Яна выцерла слёзы і стала абдумваць план помсты: апрануць сукенку, якая Стасіку падабаецца больш за ўсё, прыбраць свае доўгія светлыя валасы, як раней, да шлюбу, накрыць стол, паставіць гарбату і... Падумала і зрабіла. А што? Ёй прыемна было ўсё гэта рабіць для сябе. Нібы на першае спатканне збіралася. Нават сапсаваны настрой прыўзняўся. Дык што з таго, што адна? Затое прывабная, гожая, і патрэбная ў першую чаргу самой сабе. Бо птушка створана, каб лётаць... Крылы зарастуць, раны загояцца, а шнары? Кажуць, шнары ўпрыгожваюць мужчыну, але яна — жанчына,

хоць і маленькая на першы погляд, але дужая. Так, час павымае ўсе стрэмкі, загоіць усе мецiны лёсу, і жыццё пачнецца наноў. З ім ці без яго. І Адэля пайшла да дзвярэй — трэба ж запрасіць каго з сяброў, каб адзначыць яе новае жыццё. І тут яна пачула, што нехта звоніць у дзверы. Так позна? Хто б гэта мог быць? Калі глянула ў вочка, ледзь не страціла прытомнасць. Стасік? Развітацца, напэўна. Ды яшчэ такі вясёлы, аж свеціцца ўвесь. Адчыніла дзверы. Стасік працягнуў кветкі — яе любімыя валошкі. Падхапіў на рукі, пацалаваў, пачаў кружыць па кватэры:

— Адэлечка, віншую! Сёння роўна пяць год як мы разам! Ты такая прыгожая! Каханая мая! Стасік з замілаваннем углядаўся ў такія родныя рысы. Ад нечаканасці жанчына не ведала, што і казаць. На вейках заблішчалі слёзы. Пяць год. А яна забылася, ды і гэтая гісторыя... Як сябе паводзіць? Як і раней, яна ж даравала ўсё. Усё, бо пачынае з сённяшняга дня новае жыццё. — Каханая,ты чаго маўчыш? Што здарылася? Ах, птушка! Нічога, яна з раніцы яшчэ адкалолася, калі я батарэйку мяняў. І гадзіннік спыніўся? Дык гэта ж не бяда. Проста батарэйка сапсавалася. Я ўсё зраблю, любая, не хвалюйся.

— Ды не, не гэта... Твае рэчы...

— А што? Так, я іх сёння занёс у пральню, бо табе так цяжка ўсё ўпільнаваць. Заўтра забяру чыстае. І ў пакоях прыбраўся, хацеў табе свята зрабіць. Ты апошнім часам нейкая хмурая, без настрою. Ды і свята ж сёння ў нас. А ты малайчынка, так хораша падрыхтавалася. У мяне яшчэ добрая навіна ёсць. Мой праект, з якім я паўгода працаваў, адобрылі, мяне павысяць на працы! Я такі шчаслівы, Адэлечка, любая!

Жанчына ціха прытулілася да мужа і ледзь чутна прашаптала:

— Я кахаю цябе!



# Мікола Ляшчун

паэт, празаік, перакладчык. Аўтар паэтычных кніг: «Палескія сны» (2007 г.) і «Белая завея» ( 2009 г.). Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Губаравічы Хойніцкага раёна. Жыве ў Лагойску.

# Рэкс і Рыжык

Ніхто не ведаў, калі ён прыблукаўся ў двор. Але неўзабаве нечым прывабіў дваровую дзятву, і малыя няведама чаму нараклі яго гучнай мянушкай Рэкс.

Сабачка жвава адгукаўся на вокліч і, здавалася, што ён кеміць, з якой мэтай клікаюць яго да сябе дзеці. Рэкс, павіскваючы, гулліва падкатваўся да дзіцячага гурту і, становячыся на заднія лапы, з усяе сілы намагаўся каго-небудзь з малых лізнуць у твар.

Дарослыя падчас недаўменна праводзілі позіркам услед сабаку і стрымана ўсміхаліся. «Які ён Рэкс?! — бачыліся ў іхніх вачах словы. — Так, нейкае нягеглае шчанё. Клічку Рэкс даюць хутчэй за ўсё дужаму, зграбнаму сабаку, а не такому піскляваму, бруднаму смарчку. Рэкс... Лепш Шарык ці Жучок які?».

Рэксава мянушка сапраўды не пасавала яго несамавітай сабачай постаці. Ён быў на дзіва каротканогі, апрануты ў чорна-бурую недагледжаную поўсць, замест хваста нейкі збіты кутасік. Калматая чупрына навісала ледзь не на саменькія вочы.

Дзяцей, аднак, гэта ніколечкі не бянтэжыла, не зважалі яны і на кплівыя позіркі і нараканні дарослых. Яны з крыкам гойсалі з Рэксам па двары, дабіраліся ў пагодлівы дзень аж да бярозавага гаю, што бялеў у далечыні, частавалі сабаку ласункамі, употай прыносіўшы з дамоўкі кілбасу, кавалачкі мяса і нават пернікі.

Рэкс ад усіх прысмакаў не адмаўляўся, а калі такое і здаралася, дык рабіў гэта, як самы выхаваны госць. Блізка да пачастунку не падыходзіў, а зводдаль пацягваў пыскай паветра, а пасля борздка пачынаў павільваць хвосцікам-кутасікам. Гэта азначала, што ён дзякуе за гасцінец.

Рэкс шчыра аддзячваў сябрам адданай дружбай. З нецярплівасцю чакаў, пакуль тыя прыйдуць хто са школы, хто з дзіцячага садка. А то, бывала, увогуле паўдня пралежваў пад школьным плотам, пакуль у дзяцей скончацца заняткі. Часам жа з самага ранку на ўвесь дзень некуды знікаў. А неяк быў прапаў зусім надоўга.

Але вось аднойчы пад вечар у двары зноў пачуўся яго тонкі пісклявы брэх. Толькі ў паводзінах сабакі нешта змянілася. Штосьці яго моцна турбавала. Ён без ранейшай ахвоты прымаў пачастункі, сарамліва неяк ласаваўся і ўвесь час намагаўся кудысьці рвануць. Нарэшце, атрымаўшы ад некага з хлапчукоў ладны гасцінец — тоўстую, з рэшткамі мяса костку, Рэкс схапіў яе і, ледзь трымаючы ў зубах, павалок у прыдарожныя пасадкі.

Дзеці сіганулі следам.

Пад густой, разлапістай елкай, скруціўшыся клубком, ляжаў віславухі, лядашчы, у памутнелыя рыжыя крапіны сабака.

На прыход дзяцей ён адказаў толькі ледзь прыкметным пацепваннем доўгіх вушэй.

Рэкс паклаў ля яго пысы костку і спадылба, вінавата заазіраўся па баках. Віславухі Рыжык, як тут жа ахрысцілі яго дзеці, нехаця расплюшчыў вочы, баязліва падняў іх на дзяцей, але костку ўзяў. Асцярожна, без прагнасці абгрызаў і патроху смялеў. Сеў на заднія лапы. Справіўшыся з косткай, устаў і, ўсё яшчэ недаверліва косячы вочы на дзяцей, падкульгаў да Рэкса.

І тут толькі дзеці заўважылі, што на пярэдняй лапе Рыжыка была глыбокая, крывавая рана. Відаць, ушчаміў недзе бедалага, а мо і ў каго з людзей паднялася рука на бедную жывёліну. Ці мала што здараецца ў жыцці бяздомнага сабакі...

Нейкае імгненне дзеці жаласліва пазіралі на гэтых двух сяброў. Што з іх кожны думаў, сказаць цяжка, але такая адданая дружба двух жывёл моцна ўразіла хлапчукоў, і яны наперабой загаманілі, як дапамагчы няшчаснаму сабаку.

Відовішча сапраўды было незвычайнае. Адзін сабака быў маленькі, калматы, з чорнымі пацеркамі-вочкамі, другі цыбаты, з прылізанай поўсцю, з выцвілымі, амаль бясколернымі вачыма. Апошняму было, мусіць, ужо нямала гадоў. Хлопчыкі сталі лашчыць бедных жывёлін, і тыя абодва даверыліся дзіцячай дабрыні.

Нехта з бацькоў даў хлапчукам нейкай мазі, рана ў Рыжыка пачала гаіцца, і ён прыкметна набываў сваю былую сабачую весялосць. Абодва сабакі разам гулялі з дзецьмі ў двары, разам чакалі тых са школы. Пачаліся летнія канікулы. Рыжык цалкам ачуняў, і дзеці не маглі нарадавацца, што маюць такіх адданых, надзейных сяброў. Дарослыя часам сварыліся, што малыя вядуць гульню з блуднымі жывёламі, але дзеці ў адзін голас запэўнівалі таго ці іншага бацьку альбо матку, што ніякай шкоды сабакі ім не зробяць.

А ўлетку бацькі зусім змірыліся з нязванымі пасяленцамі, і нехта нават не пашкадаваў аддаць вялізную драўляную скрынку сабакам на будку. Аднак блізка да дзвярэй сабак не падпускалі, а скрынку-будку загадалі паставіць у глыбіні двара.

Але аднойчы здарылася няшчасце... У двары ўсе ўладальнікі машын добра ведалі Рэкса і Рыжыка, і стараліся, каб сабакі не трапілі пад колы. А нейкі незнаёмец не націснуў на тармазы, і куцалапы Рэкс не паспеў перабегчы дарогу...

Ён яшчэ быў жывы і толькі ціхенька скуголіў. Рыжык бездапаможна круціўся ля смяротна параненага сябра, пасля стаў жаласна выць, нібыта прасіўшы ратунку. Аднак удар колам быў моцны, сабачка стукнуўся галавой аб дарожны бардзюр. Ён хутка сканаў.

Рыжык доўга абнюхваў нежывога сябра, тыцкаючы пысай у бок, не дазваляў нікому да яго наблізіцца і на ўсіх нязлосна пагыркваў. А пад вечар пакорліва адступіўся, ціха лёг побач з забітым Рэксам на зямлю і больш ужо не ўставаў. Што б яму ні давалі дзеці, ён абыякава адварочваўся і маркотна заплюшчваў вочы.

Рыжык паміраў. Мокрая зямля вакол яго высахла ад кволай цеплыні ягонага згасаючага цела. Хацелася памагчы чым-небудзь гэтай беднай жывёліне, але ці зможа цяпер сабака зразумець чалавека, паверыць зноў у ягоную дабрыню і міласэрнасць, калі чалавек забіў самага блізкага ягонага сябра?..

У тыя хвіліны здавалася, што ў сабакі таксама ёсць душа, і яна не горш чалавечай. Проста ў душы няма мовы, але за душу шмат можа сказаць позірк вачэй, болей кажуць не словы, а нешта такое па-сабачаму высакароднае, вялікае, чаму не грэх павучыцца нават людзям.

Рыжык паміраў пакутна і мужна. На воклічы дзяцей ён толькі зрэдзьчасу падымаў галаву. Яго выцвілыя, загноеныя вочы пазіралі тады па-чалавечы сумна-сумна.. Ён паміраў так, як паміраюць ад тугі людзі, калі смерць назаўсёды разлучае іх з бясконца блізкім чалавекам.



# Наталля Галавач

паэтка, празаік. Аўтар кнігі паэзіі «На возеры Белым» (2011 г.). Нарадзілася ў 1961 годзе ў вёсцы Русілкі на Віцебшчыне. Жыве ў Бешанковічах.

# Казачны трыпціх кахання

## Месяц і Ручаінка

Калі тое здарылася, над зямлёю валадарыла цёмная-цёмная ноч. Усе Зоркі даўно паснулі. Яны б, можа, і не рабілі таго, ды вельмі ж ужо аблокі былі мяккія, бы пуховыя падушкі, вось і палеглі яны на гэтыя аблокі і спяць сабе — іх і не відаць нідзе. А Месяц-прыгажун, прыхарашыўся, нацёр да бляску свае залатыя чаравікі і выйшаў на шпацыр. Хоць і шляхетнага роду быў ён, не выхвальваўся, але ж падабалася прагульвацца яму ў акружэнні Зорак-прыгажунь ды блішчэць перад імі сваім залатым аблічачам. А яшчэ адукаваны вельмі быў — як пачне вершы паэтаў розных чытаць, заслухаюцца прыгажуні, і кожная ў думках бачыць сябе яго нарачонай. А Месяцу і самому хацелася вершы пісаць ці паэмы, але нешта ж тая навука не давалася. Нечага не хапала, можа таленту, а можа, яшчэ чаго. Звычайна не хапае паэтам натхнення. А натхненне, што б ні казалі, залежыць ад кахання. Часта, калі кахаюць, паэтычны талент і праяўляецца, ды і Мудрацы тое сцвярджаюць. Можа і праўда — на тое ж яны і Мудрацы, каб праўду ведаць.

А Месяц хоць і быў з усімі Зоркамі ветлівым ды ўважлівым, а ўсё ж не мог ніяк сустрэць сваю прыгажуню. Ды і Поўня-маці, паважаная ўсімі нябеснымі жыхарамі, марыла даўно сына ажаніць, толькі ён ніяк не мог выбраць сабе з тых Зорак улюбёную, усё нешта яму не так было — то недастакова прыгожая, то не занадта разумная. Вось і блукаў ён цэлымі ночкамі, свяціўся залатым ліхтарыкам. Але сёння, калі на небе не было аніводнай Зорачкі, пайсці б і яму прылегчы, можа б і не здарылася той бяды, ды дзе там — як можа суцішыцца сэрца, калі ў цябе пад нагамі амаль увесь свет? Вось і не хацеў Месяц класціся, усё блукаў і блукаў па сонным небе, нібы шукаў кагосьці, нібы наканавана было яму тое. А неба без Зорак — ну зусім непрывабнае, і тады падумаў ён: «А што, калі на зямлю спусціцца? Як там, ці цікава?» І ён асцярожненька, паставіўшы лесвіцу, зробленую Самым Лепшым Нябесным Майстрам з чысцюткага серабра, спусціўся на зямлю.

На зямлі панавала цемень. Яно й зразумела — Зорак няма, паснулі. Ды і Месяц пакінуў нябёсы — адкуль жа тое святло? Удзень Сонца свеціць, а цяпер жа яно таксама адпачывала, накруціцца за дзень, змучаецца, што рухне без прытомнасці ў свой ложак аж да раніцы, столькі ж працы назаўтра трэба перарабіць! Усім пасвяціць, усіх абагрэць — і зямлю, і расліны, і жывёл, і людзей. І, увогуле, незразумела, як яно столькі часу не стамілася шчыраваць? Гэта табе не тое, што Месяц — выйдзе, пакрасуецца, вершыкі пачытае, розумам блісне ды чаравікамі, начышчанымі да бляску, — тут папрацаваць трэба рупліва.

Але ж нічога благога пра Месяц Сонца не казала, бо ў кожнага свае справы, сваё, так бы мовіць, пакліканне, і прыгажуны таксама патрэбны — хто ж

будзе высокі мастацкі густ у Зорак выхоўваць? Раней, калі пайшла завядзёнка праводзіць конкурсы прыгажосці, яго запрашалі як найвялікшага эстэта ў прафесійнае журы, але пасля таго, як нейкая няўцямная Зорка зусім распранутая выйшла на подзіум, увогуле забаранілі тыя конкурсы як неадпаведныя высокаму паняццю прыгажосці мерапрыемствы.

Ну дык спусціўся ён на зямлю, натапырыў свой каптурок на вочы, ліхтарык паправіў, каб лепей бачна было, і стаў з цікавасцю разглядваць наваколле.

А яно хоць і знаёмым было, (бо чаго толькі ён зверху не бачыў !), але ўсё ж не такім з зямлі падавалася, як з нябёсаў. З вышынь, бывае, і не ўсё разгледзець добра можна было — і дрэвы не такія маленькія, і кветкі не такія прыгожыя, а самыя маленькія ды цнатлівыя з іх, нават і не адразу прыкмеціш. А тут раскінуўся перад вачыма луг вялізарны, ідзе Месяц па ім, а трава шаўковая, ну акурат, як коўдра на матулінай канапе, толькі колеру іншага, зялёнага, і раса на ёй зіхаціць, пераліваецца, бы безліч смарагдаў хто рассыпаў. А кветак розных — і Званочкаў блакітных, і Канюшыны чырвонай, і Рамонкаў белых з сардэчкамі жаўтлявымі, на Поўню-маці падобнымі, толькі маленькімі. Ну, а больш за ўсё вабілі залівістыя галасы птушак. Божа, што ж гэта былі за птушкі! Яны спявалі так, нібы ўсё жыццё працавалі ў Венскім оперным тэатры ці ў Ла-Скала. Іх галасы, аздобленыя багатымі адценнямі каларатурных сапрана, зіхацелі яшчэ ярчэй, чым нябесныя Зоркі! І столькі тут адкрылася яму нечуваных з нябёсаў гукаў — пырхалі Начныя Матылі, шамацелі крылцамі, стракаталі Конікі дзесьці ў траве, вухкала Сава ўдалечы ці, можа гэта яшчэ была якая птушка. А тут і зусім ледзь не спужаўся Месяц Начніцы, якая праляцела над яго галавой, махаючы вялізнымі крыламі. Але ж цікавы, вясёлы той гул стаяў у лузе, нібы спяваў вялізны хор пад акампанемент сімфанічнага аркестра. А Месяц, трэба дадаць, вельмі любіў музыку, таму можа і сумна яму бывала з тымі прыгожымі, але маўклівымі Зоркамі. Бо прагнула яго душа нечага большага, не толькі вонкавай прыгажосці. Ну, глядзіш ты на тую Зорку-прыгажуню, цешыш вока, а як слова разумнае сказаць, дык куды там... Пазірае сваімі пустымі няўцямнымі вачыма і маўчыць, толькі і можа, што сукенкі пераменьваць ды перад люстэркам круціцца. А яшчэ ён любіў спевы, ды не папсу якую, а сапраўдную песню, з густам, толькі на небе не так часта здаралася яе паслухаць — калі толькі Вецер барытон свой паспрабуе, ці Гром арыю якую напалову з рэчытацівам зацягне пад грукат барабанаў. Але асабліва Месяцу падабалася, як Летні Дожджык спяваў — пяшчотна, празрыста, узнёсла, калі-нікалі спрабаваў і трэлі ўстаўляць у тыя спевы, і фаршлагі, але ж не заўсёды атрымоўвалася, бо часта прастуджваўся, хрыпеў, а тады якія спевы могуць быць — самі разумееце.

Так наталяўся Месяц зямной прыгажосцю, што і не прыкмеціў, як у нейкім хмызняку аказаўся.

А хмызняк быў адмысловы —ляшчыннік, і столькі на ім арэхаў расло, што давай ён ірваць іх ды ў кішэні запіхваць, каб мамку пачаставаць, ды тых-сіх Зорак-сяброўак. Але не здаволіўся яшчэ, як пачуў нейчую песеньку — няспеш-

лівую, ласкавую. Голас той быў такі дзіўны, звонкі, ды не крыклівы, адразу густ добры ў спевака Месяц запрыкмеціў.

— І хто ж гэта можа так спяваць? — падумаў ён, асцярожненька саступіўшы ўбок, адкуль чутны былі тыя гукі, ды ўбачыў там звычайную Ручаінку, якая, пераліваючыся ў прамянях яго ліхтарыка, спявала і спявала, ні на хвіліну не прыпынялася, і нават незразумела было, калі яна подых бярэ паміж радкамі.

— Вось гэта вакал, вось гэта здольнасці! — нечакана сам для сябе прамовіў Месяц услых.

— Гэта Вы мне? — ціхенька запыталася Ручаінка і суцішыла спевы. — Я ж вучылася ў самай знакамітай выкладчыцы спеваў — шаноўнай Пані Рэчкі ў нашай вядомай Лясной акадэміі. Хочаце, і Вас навучу?

Месяц разгублена замаўчаў, бо ён проста знямеў ад нечаканасці. Перад ім была прыгажуня, прыгажэй яшчэ, чым яго маці-Поўня. Мала таго, што яна ўмела так вытанчана спяваць, дык яна яшчэ і гаворку падтрымаць магла.

— Хачу. Канечне, хачу, — выціснуў з сябе нарэшце Месяц, і так затрымцела сэрца яго ў гэтую хвіліну, што ён зразумеў: «Вось яна — мара ўсяго жыцця!»

У галаве адразу пачалі складвацца цудоўныя вершы пра Ручаінку, пра яе блакітныя вочы, пекныя даўгія валасы і добрае сэрца, пра каханне, якое было неспадзеўкі разбуджана. Ручаінка спявала і спявала ўсё новыя і новыя песні, і прапаноўвала яму паспрабаваць, але ён так хваляваўся, што не мог паўтарыць ані гука.

— Ручаінка, прыгажосць невымоўная! Паляцім са мною ў неба, я цябе пазнаёмлю з маці-Поўняй, са сваімі сяброўкамі Зоркамі! Бо там дом мой! Будзеш мне жонкаю? — мовіў закаханы Месяц запалёна.

— Канечне, палячу, куды іголка — туды і нітка, — адказала Ручаінка, — зараз толькі рэчы свае збяру.

Яна пачала рыхтавацца, сабрала ўвесь свой прыгатаваны пасаг — вясельны ўбор з лілеяў, аздоблены празрыстымі кроплямі вады і каляровымі каменьчыкамі з рачнога дна.

— Я гатова. Можам адпраўляцца!

Месяц пяшчотна падхапіў Ручаінку, і шчаслівыя закаханыя сталі падымацца ў неба па срэбранай лесвіцы, зробленай Самым Лепшым Нябесным Майстрам. Яны абдымаліся, мілаваліся, але нешта, чым бліжэй да неба падымаліся, тым млосней Ручаінцы рабілася, нібы жыццёвая моца пакідала яе, а калі ўжо амаль заканчвалася тая далёкая дарога, глядзіць Месяц — не стала Ручаінкі, толькі лілейная сукенка засталася, ды кропелькі вады ў руках замест улюбёнай. Ці ведала яна тое, што выпарыцца можа? Можа, і здагадвалася, але ж як магла адмовіцца? Як каханага засмуціць? Вось і лічы, ахвяравала сабою дзеля кахання.

А Месяц засумаваў з тае пары, замаркоціўся, спусціцца раз-пораз нізенька па-над зямлёю, дзе калісьці спявала Ручаінка свае незабыўныя песні, навісне па-над лясным гушчаром і ўсё глядзіць, можа вернецца яго прыгажуня? З тых часоў ён і складае свае сумныя вершы аб каханай.

Калі мне не верыце, запытайце ў Мудрых людзей. Бо чаму б, вы думалі, ён такі самотны?

## Дуб і Ясень

Жылі неяк двое сяброў — Дуб і Ясень. Можа й цяпер яшчэ адзін з іх жывы — не ведаю. Ясень па гадох быў значна маладзей Дуба (трэба сказаць, і прыгажэй, але тое ў дадзеным выпадку не мае вялікага сэнсу). Жытло ў іх было адное на дваіх, самі і сняданак, і вячэру сабе гатавалі, удвох разумныя былі занадта, кніжкі розныя чыталі, нават інтэрнэтам карыстацца маглі. Працавалі таксама разам у адным месцы і адпачываць разам ездзілі — то на цёплае мора, то за мяжу, звычайна ў Еўропу (а, можа, і ў Азіі бывалі, але ніхто мне пра тое не расказваў). Ясень быў хлопцам з узвышанай натурай, а Дуб прасцейшы, але была ў Дуба адна загана — вельмі ж раўніва ставіўся да ўсіх захапленняў сябра, меркаваў, што Ясень павінен прытрымлівацца такіх жа звычак і правілаў, як і ён. Але той на гэта ўвагі не звяртаў, бо лічыў, што сяброўства галоўнае.

Ды аднойчы Ясень пабачыў на ўскрайку дарогі маладзенькую Хваінку, невядома калі яна паспела вырасці там і раскашавацца. Стаяла Хваінка ладная, гонкая, зіхацела ўсімі сваімі зялёнымі іголачкамі як на Каляды, толькі што кароны на макаўцы не было. Закахаўся Ясень у Хваінку, мог любавацца бясконца зіхатлівымі на сонцы вачыма і тонкім вабным станам.

Стаяў ён так аднойчы вечаровай парой, гледзячы на каханую ў задуменні, і раптам чуе:

— Блазан! Блазан гарохавы! — данесліся гукі нечага знаёмага голасу.

Здзівіўся Ясень, пазнаўшы голас найлепшага сябра Дуба. А той гняўліва працягваў:

— Можа ты хочаш застацца сляпым? Яна ж выкале сваімі іголкамі твае прыгожыя вочы!

Як? Гэта кажа лепшы сябар, з якім ён заўсёды падзяляў свае радасці і гора? Чаму ён не разумее яго пачуццяў?

Ясень ускрыкнуў:

— Божа! Божа міласэрны, падкажы, што мне рабіць? Я ж не зведаў кахання ні разу, злітуйся нада мною, не праміні сваёй ласкай!

Бог пазіраў на яго са спагадай, але чамусьці маўчаў. І збянтэжаны Ясень абмяк, прыціх. Куды дзеўся яго запал, і прыслухаўся ён да сябравых слоў...

Шмат гадоў прайшло з тае пары. Хваінка стала яшчэ больш прыгажэйшай і вабнай, выйшла замуж за непрыгожага разлапістага Вяза, але раз-пораз за справамі і ўзгадае закаханага маладога Ясеня, уздыхне, дый болей не дае волі сваім думкам. А за каго ж выходзіць ёй было, як не за старога нялюбага Вяза? Бо нешта ж апошнім часам усе маладыя ды прыгожыя ўсё часцей, чым з жонкамі — з сябрамі знаюцца.

А во зусім нядаўна пачула я ізноў пра тых сябрукоў. Шэптам людзі кажуць, што памёр Дуб. Калі ляжаў у дамавіне, дык хто не прыходзіў, усе заўважалі на вуснах усмешку, а калі закопвалі ў зямлю, дык нехта і рогі на ілбе запрыкмеціў...

## Анёл, які навучыў мяне лятаць...

Мілы мой дружа, я раскажу табе гісторыю пра аднога Анёла, з якім мы пазнаёміліся вельмі даўно, акурат у Дзень майго нараджэння. Канечне,ты будзеш смяяцца і гаварыць, што гэта казка, але гэта самая-самая праўдзівая гісторыя.

Гэта быў вельмі дзіўны Анёл, не такі, як усе іншыя Анёлы. Ён быў не зусім ужо і маленькага росту, як усе яны, ды выглядаў даволі мажна. Валасы ў яго былі не белыя ці русыя, а цемнаватыя, і ў звычайных Анёлаў яны кучаравыя, а ў гэтага — проста прамыя валасы. Але самае адметнае — яго крылы, яны былі незвычайна празрыстымі і лёгкімі, такімі лёгкімі, што яму літаральна не трэба было аніякай натугі, каб падняцца ў неба. Але дзеля таго, каб так лёгка лётаць, як рабіў гэта ён, трэба было ведаць таямніцу, пра якую ты даведаешся крыху пазней.

Ён прылятаў да мяне заўсёды у Дзень нараджэння і прыносіў самыя дзівосныя падарункі, якія мог пакласці пад падушку, а мог, калі вельмі хацеў сустрэцца, запраста сесці на ўскрайчык ложка і чакаць, пакуль я не прачнуся. А калі яму бракавала часу, ён кранаў мой твар сваімі вуснамі ці крыламі, і я прачынаўся ад неймавернай пяшчоты і ўзнёсласці. Ён не павучаў, не патрабаваў ад мяне добрых учынкаў, але пасля тых сустрэч не хацелася рабіць анічога кепскага. Яшчэ ён прылятаў да мяне ў час хваробы, паіў мяне журавінным варам з маленькай срэбранай лыжачкі, якую падарылі маёй маме, калі яна была яшчэ зусім маладая, або расказваў мне казкі ці спяваў дзіўныя песенькі, яны былі і не сумныя, і не вясёлыя, а светлыя. І пасля тых журавін, і тых песенек я засынаў, каб ранкам прачнуцца зусім здаровым.

А потым неяк аднойчы ён сказаў мне:

— Хочаш, я навучу цябе лятаць? Гэта вельмі проста.

Ён адчапіў свае крылы (яны ў яго прымацаваны на такіх адмысловых прышчэпачках) і прышпіліў іх да маёй спіны. Спачатку ў мяне нічога не атрымоўвалася, але, калі ён патлумачыў, што я павінен думаць у той час, калі лятаю, аб нечым вельмі добрым — (гэта і была яго надзвычайная таямніца) у мяне ўсё атрымалася. Ён сядзеў, усміхаўся і глядзеў, як я кружляў у небе, боўтаючы рукамі і нагамі.

— Вось, — сказаў Анёл, — цяпер ты можаш гэтак жа лёгка, як і я, лётаць, куды табе толькі ўздумаецца. Мае крылы табе ўжо не патрэбны. Можаш вярнуць іх мне, бо час прыспешвае.

Ён прычапіў назад свае празрыстыя крыльцы і развітаўся са мною. Здаралася, узгадваў я пра яго, кружляючы дзесьці ў блакіце, а бывала, што й забы-

ваўся. Гэта быў самы адданы і незвычайны з усіх маіх сяброў, амаль такі, як мама. Толькі мама не ўмела лятаць, а ён умеў.

Калі я вырас, Анёл стаў наведваць мяне ўсё радзей і радзей. І я ўжо зусім стаў забывацца пра яго, затузаны жыццёвай сумятнёй, але вось што мусіла адбыцца аднойчы.

Ішоў я позна ноччу дадому. І раптам пачуў, як на лавачцы, што стаіць каля майго дома, нехта цяжка дыхае і стогне. Падышоў — і о, дзіва, я ўбачыў свайго Анёла. Пазнаць яго было цяжка, бо выглядаў ён вельмі сумна. У начной цемені яго выдавалі, бадай што, толькі вочы, але пагляд іх вельмі сцьмянеў, куды падзелася колішняе ззянне. Адзенне на імператварылася ў рыззё, а крылаў увогуле не было. Па твары каціліся слёзы. І, ведаеш, ён нават паліў цыгарэту адну за адной. Здзіўленню майму не было межаў, і я запытаў:

— Шаноўны Анёл! Што з табою здарылася? Чаму ты так выглядаеш?

Анёл, дрыжучы ад начнога холаду, ціха прамовіў:

— Ты ж ведаеш, што я часта даю людзям свае крылы дзеля таго, каб яны навучыліся лятаць, але аднойчы іх не вярнулі назад. Апошнім часам нешта стала адбывацца з людзьмі (ты ж ведаеш пра абавязковую ўмову думаць аб нечым вельмі добрым, калі хочаш навучыцца лятаць), бо лятаць яны хочуць, а думаць пра добрыя ўчынкі не жадаюць. Займеўшы крылы, лятаць не змаглі, дык парвалі, паламалі, растапталі іх і выкінулі на сметнік.

І ў вачах яго ізноў з'явіліся слёзы.

— Мілы, мілы і незабыўны мой сябар Анёл! — сказаў я яму. — Я зраблю табе новыя крылы! І не дзеля таго, каб адплаціць за тваю ранейшую дабрыню.

Тут і сонца, весела ўсміхаючыся, стала падымацца з-за шматпавярховіка. Я зачэрпнуў поўныя прыгаршчы вільготнай расы, перамяшаў яе з каляровымі фарбамі летняй раніцы і зрабіў Анёлу новенькія крылы. Ён так узрадваўся, прышпіліў іх да спіны, выцер слёзы і шчасліва падняўся ў неба. А я быў вельмі рады таму, што і я спатрэбіўся яму — майму Анёлу, пра якога часта забываўся. Не хочацца верыць, але раз-пораз прыходзяць думкі — а ці не было гэта ягоным выпрабаваннем для мяне, каб я яшчэ раз мог паверыць у свае сілы? Але нават калі і так, то адзінае, што я магу — толькі яшчэ болей ім захапляцца.

— Добры Анёл! — крычаў я тады яму. — Калі мне ізноў спатрэбіцца твая дапамога, прылятай, калі ласка, зноўку, бо, навучаны табою аднойчы лётаць, толькі хадзіць я ўжо не змагу...

Анёл з удзячнасцю памахаў мне на развітанне новенькімі крыламі, і адкульсці з вышыняў я пачуў:

— Кожны раз, калі будзеш даваць свае крылы каму-небудзь, падумай, а ці патрэбны яны яму... Але ніколі не шкадуй іх для іншых, бо абавязкова знойдзецца той, хто адкажа на спагаду спагадай, той, хто і табе таксама дапаможа...можа...можа...

Голас рэхам аддаляўся ў нябеснай вышыні.

*Ліпень, 2013*



# Вячаслаў Лапцік

**празаік, драматург, публіцыст. Аўтар кніг «Паядынак у ціхай затоцы», «Мой сум, Нарочча...», «Хвалі гамоняць пра легенды», «Ранішняя дарога», «Нарач горка плача». П'есы ставіліся на сцэнах драматычных тэатраў краіны. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Сіманы на Мядзельшчыне. Жыве ў Мінску.**

# «Інфлянцыя»

Знойдзеныя цацкі ён цішком прыносіў дахаты і хаваў у свой тайнік, падабраўшы пад яго надта выгаднае месца. Гадоў дзесяць назад бацька набыў новую спальню, але ў «двушку» тая не залазіла, не падыходзіла памерамі, таму нераспакаваны гарнітур зацягнулі ў большы пакой з надзеяй паставіць у новай кватэры. Чатырохгадовы Макс пад тайны складзік падабраў большую ўпакоўку, дзе напэўна захоўваўся ложак, і там ножыкам у тоўстым кардоне прарэзаў дзірку. Таемны лаз атрымаўся прасторным, глыбінёй па самы локаць, ён туды і хаваў прынесенае дзіцячае багацце. Толькі пракручваў сваю справу таемна і нікому не гаварыў.

Сям'я жыла ў зусім невялікай двухпакаёвай «хрушчоўцы», большы пакой занялі бацька з маці, а ў меньшым стаялі два ложачкі, яго і сястрычкі Веранікі. У сям'і эканомілі штодзень на ўсім. «Трэба збіраць на кватэрку! — у адчаі гаварыў бацька і вінавата глядзеў Максу ў вочы, — а то давядзецца тут пеклаваць да самай здэхі. Мы памром, а куды пойдуць дзеці? Як і дзе ім жыць? На вуліцы?»

«Няхай злодзеі-начальнікі задушацца са сваімі цацкамі! — нервова даводзіў той самы бацька маці на куханьцы і напэўна скрыпеў зубамі, бо цвёрдыя жаўлакі з'яўляліся на твары. — Маленькая машынка сыну ўжо каштуе сто пяцьдзясят тысяч пры маім заробку ў тры мільёнчыкі!»

Тады строгі мілы матулін твар яшчэ больш выцягваўся і худнеў, а запалыя вачніцы глыбелі і цямнелі. Бацькі ўдвух з гаротнымі тварамі часта разважалі пра нейкую немагчымую «інфлянцыю», што пераядае ўсю пячонку, а Макс, прыладкаваўшыся з кніжкай казак каля дзвярэй, маўкліва іх слухаў. Не ведаў значэння дурнога слова і доўга тое не мог запомніць, але пасля дзіцячая памяць знайшла выйсце. Флянцамі маці называла маладыя і прыгожыя парасткі ад вазонаў, якія вясной зразала і ставіла ў бутэльку з вадой у жаданні вырасціць новую кветку, каб не купляць у краме за грошы. Дык вось флянец, разважаў маленькі Макс, гэта новая кветка і радаснае жыццё, а «інфлянцыя» пайшла ад слова «флянец» і азначае ўдушэнне таго светлага жыцця. Хлопчык моцна не любіў гэтае моднае слова, якое заблудзілася і пасялілася ў іх кватэрцы. Лепш бы тут у Мінску яго не было, а то з ім надта цяжка жыць. Бацьку звалі Міша, быў ён чалавекам неблагім, але часта губляў спакой і вязаўся да маці: «Зноў растранжырвала грошыкі, да заробку пяць дзён, а ў сямейным кашальку вецер свішча! Трэба больш эканоміць!»

«А ў чым мая віна? — не пагаджалася яна, — грошы з'ядае інфляцыя!» Затым маўкліва хавалася ад бацькавай злосці — брала спіцы з клубком ніток і кіравала не ў свой пакой, а дзіцячы. Горкая напружаная цішыня агортвала кватэру, тады нават сястрычка Вераніка пераставала ўголас чытаць свае падручнікі і яшчэ ніжэй апускала галаву над кнігай, нібы і яна вінавата ў гэтай «інфлянцыі». А ён, Макс, садзіўся на падлогу, браў паламаную машынку, у якой не круціліся колы, і скрыпеў сваёй сапсаванай тэхнікай.

Ён марыў жыць добра, але яму, як і бацькам, перашкаджала тая гадкая «інфлянцыя», якую ён мог бы пабіць, калі б злавіў. Яна яму дзіка абрыдла, ён бы яе спаліў ці закапаў у зямлю, і таму дзівіўся, чаму падобную акцыю не пракруцяць дарослыя.

«Сёння не ўкрадзеш — не пражывеш! Вось асноўны дэвіз нашага жыцця! — даводзіў на кухні супакоены і больш вясёлы бацька ў дзень заробку, вяртаючыся ў сям'ю яўна пад добрым настроем, і клаў на тумбачку ў спальні свае грошы, а шчаслівая маці тыя пералічвала, асобна адкладаючы маленькі стугарок купюрак на новую кватэру. — Шкада, што мне ў цаху няма чаго стырыць, адразу спёр бы. Нас зараз прымусілі эканоміць нават на сурвэтках у прыбіральні. Калі тыя зноў падаражэюць — станем выкарыстоўваць газеты, галоўнае, каб не адбівалася на дупе свежая друкарская фарба.»

Чатырохгадовы хлопчык нечакана зрабіў сваё адкрыццё, пра што таксама нікому не казаў: чым меней бацьку налічваюць нейкіх працэнтаў да заробку — тым змрачнейшым той вяртаецца дахаты. «І нашто яны шкадуюць гэтыя працэнты? — разважаў малы. — Раздалі б люду і ўсіх развесялілі.»

Калі перад Новым годам у садочку нарэшце дачакаліся новых цацак, маленькі Макс быў у захапленні ад чорнага аўтамабіля з чырвонымі коламі і блакітным кузавам. Тры дні запар хлопчык нікому яго не аддаваў, гуляў толькі сам, нават адмовіў свайму лепшаму сябруку Ігару, які прапанаваў грузавічок памяняць на пад'ёмны кран з доўгай стралой і нацягнутай на ёй ніткай. Затым Макс, улучыўшы момант, калі Святлана Васільеўна па сотавым тэлефоне з некім загаварылася, какетліва стрыгучы тоненькімі броўцамі, і нават пайшла далей да вакна, каб ніхто не чуў, ён запхнуў новы аўтамабіль у вялікую кішэню сваёй чорнай куртачкі, купленай маці за паўкошту на нейкай зніжцы. Тая вопратка, праўда, была зашырокая ў плячах і задоўгая, затое цёплая і з глыбокімі накладнымі кішэнямі. Радасны хлопчык прынёс сваю цацку дахаты і ціха схаваў туды, у кардонны патаемны лаз.

Праз некалькі дзён Святлана Васільеўна заўважыла прапажу, праўда, можа ёй падказаў той самы Ігар, перад абедам яна вельмі ўважліва глядзела на Макса і пыталася, ці не бачыў новы грузавічок. Ігар стаяў збоку і таксама чамусьці стараўся зазірнуць у вочы. Збянтэжанаму Максу давялося схлусіць, што ён сам цацку шукаў, але не знайшоў, недзе яна згубілася, праўда, адчуў, як нечаканая гарачыня раптам з'явілася на тварыку і папаўзла па шчоках ад вушэй і да падбародка.

Зараз дзіцячая логіка заблыталася і збілася з панталыку: красці можна ці не? Бацька часта паўтараў сваё любімае выслоўе «Не ўкрадзеш — не пражывеш!», чым нібы падбадзёрваў на падобныя ўчынкі, але ж хлопчык помніў і супрацьлеглую думку нядаўна памерлай бабулі, мілай Аляксандры, якая даводзіла яму з сястрычкай: красці грэх, квапіцца на чужое толькі злачынца. Таму ён вырашыў пакуль паслухацца сваёй бабулі, а далей...Час пакажа, усё залежыць ад колькасці цацак у доме...

Але яму хацелася быць багатым і мець прыгожыя машынкі! Такія, як у крамах, і якіх яму не ўбачыць. «Пацярплю, лепш прасторная кватэра з асобным пакоем, чым купленая цацка!» — супакойваў сябе. І нечакана ў яго выспеў новы і па-свойму цікавы план. «Калі падрасту, я сам, без удзелу дарослых, змайструю яркую тэхніку! — натхніўся хлопчык. — Толькі для гэтага трэба запасціся, як кажа бацька, дэталямі.» Ён прынёс дахаты знойдзеныя ў траве пад плотам каля свайго садочка тры старыя пластмасавыя машынкі з выламанымі кабінкамі і выдзертымі коламі, таму, пэўна, іх і выкінулі. Зноў жа ўпотай засунуў у сваё сховішча. Яму моцна падабаліся на дарогах доўгія фуры з бліскучымі металічнымі бочкамі, што люстэркава блішчалі на сонцы, таму заўважыўшы ў сметніцы каля пад'езда дзве пустыя бляшанкі з-пад піва, таксама ціха прыцягнуў у кватэру: «Адшліфую татавай наждачкай, і яны моцна заблішчаць!»

Штодзень чужыя незнаёмыя дзядзькі з цёткамі ў рваным адзенні і са счарнелымі тварамі пароліся ў тых самых сметніцах, нешта вышукваючы, дастаючы і скідаючы ў прынесеныя брудныя цэлафанавыя пакеты. («Яны яўна эканомяць на ўсім і, нібы мае бацькі, збіраюць грошы на новую кватэру»!). Хлопчык зразумеў, што там, у невялічкіх ёмістасцях, сапраўды можна знайсці патрэбную штуку для рэалізацыі сваёй мары. Вось чаму, часам гуляючы ў дворыку без маці, выглядваў у сметніцах каля пад'ездаў самыя яркія абгорткі ад цукерак, даставаў тыя, моцна скамечаныя і месцамі рваныя, клаў на драўляную лаўку і выраўніваў, водзячы па іх кулачком, як прасам, туды-сюды, а затым хаваў сабе ў кішэню: «Пасля абклею імі кабіны і кузавы машынак, во дзе будуць прыгожымі, той Ігар абамлее!»

Пару разоў маці лавіла яго за нядобрым заняткам, зрэдку шлёпала па ручках і набранае выкідала назад: «Што ты за сын і ў каго ўдаўся? Нашто збіраеш смецце? Ну, выліты бомж!» І тады ад крыўды ў яго цяклі слёзкі. Кап-кап, па адной, і прама ўніз, і пасля кожнай слязінкі на карычневых чаравічках застывалі светлыя плямкі, нібы слёзы гарачыя і праядаюць скуру. Не разумеў, чаму маці так жорстка з ім абыходзіцца. «Ёй самой грошы пакаваць на кватэру можна, а мне цацкі і яркія абгорткі збіраць нельга? Чаму?» І тады Максу не даходзіла яшчэ адно: вочы ў добрай маці пачыналі блішчаць, і яна смаркалася носам, нібы падхапіўшы цяжкі прастудны вірус. «Мне ж баліць, калі б'е па руках, а не ёй, мне шкада сваіх яркіх паперак, а не ёй, тады чаго яна?»

«Я не бомж, я рыцар!» — казаў ён і злізваў язычком салёныя слёзкі. Бо рыцары, даўнейшыя смелыя і дужыя хлопцы ў металічнай дзярузе са шлемамі на галовах, мячамі і шчытамі ў руках, яму моцна падабаліся. Яны абаранялі ад ворагаў-прышэльцаў, як яму не раз гаварыла бабуля Аляксандра, не толькі родную зямлю, але і сваіх бацькоў, і дзяцей. «Не тое, што цяпер мой баязлівы татка, які ў час «інфлянцыі» часамі крычыць на маму і цэлымі днямі не адыходзіць ад свайго станка...Тату трэба толькі кватэра, ён не любіць шчыт і прыгожы доўгі меч...»

«Засранец ты, а не рыцар, — гаварыла ў адказ маці і горка ўздыхала. — Хаця што...Ты ў мяне...рыцар...сквапны рыцар!»

Тады хлопчык ганарыўся, што маці лічыць яго дужым ваяром, хоць і абазвала сквапным, і маўкліва дазваляў выварочваць свае кішэні і выкідаць назад сабраныя яркія абгорткі.

Як на тое, бацька ў гэты дзень атрымаў заробак зноў з нейкімі зрэзанымі прэміямі і вярнуўся моцна раззлаваны. У такім паскудным настроі, кругамі ходзячы па пакоі, хмура гледзячы сабе пад ногі і ўсё паўтараючы «Каб вас зямля не насіла, злодзеі!», ён раптам прыкмеціў дзірку ў кардоннай упакоўцы з мэбляй. «Зараза, няўжо пацукі з падвала пралезлі сюды?» — стаў на калені і засунуў руку ў патаемны Максаў лаз, дастаючы адтуль яркія абгорткі ад цукерак, акуратна складзеныя і накрыж перавязаныя нітачкамі, бляшанкі з-пад піва, да бляску начышчаныя наждачкай, чорны грузавы аўтамабілік з чырвонымі коламі ...»Ну і сікун! Нашто ты цягаеш усялякую дрэнь у кватэру? — скідваў багацце маленькага сына ў прынесенае з кухні вядро са смеццем. — Тут і так няма дзе павярнуцца, у прыбіральні не выцягнуць ногі, калені ўпіраюцца ў бараду, у ванне не сесці, пакойчыкі маленькія, як у СІЗА!» Зараз Макс усё разумеў, акрамя паняцця «СІЗА», але не мог удакладніць значэнне гэтага слова. Бо ён маленькі рыцар, а калі рыцара, хоць і скупога, адкрыта зневажаюць, тады той моцна злуецца і крыўдзіцелю пытанне не задае. Разгубленая маці з худым тварам нічога не казала, толькі застыла каля дзвярэй са спіцамі і клубком нітак у руках. Уважліва сачыла, як лятуць у вядро старыя машынкі і жаласна глядзела на сына, які з выглядам асуджанага на вялікую кару стаяў у цесным калідорчыку, нізка апусціўшы галаву і ўтаропіўшыся вачыма ў вынашаны да дзірак лінолеум з вымаляванымі жоўтымі ружамі, які два гады назад бацька аднекуль прыцягнуў і наклеіў зверху на старую падлогу, каб было прыгажэй і тая не скрыпела.

Праўда, маленькаму сынулю было так горка і крыўдна на душы! Няўжо ніхто не разумее, што прыхаваная ўсячына з'явілася ад таго, што яму, Максу, не купляюць новыя цацкі? Што гэта не напакаванае смецце, а вялікае багацце, само жыццё навучыла яго, рыцара, як і бацькоў, быць сквапным. Яны ж адкладаюць стугаркамі грошы на кватэру і трасуцца над кожным рублём, а ён, Макс, збірае стар'ё на цацкі. У чым ягоная віна? І прычым ён, чатырохгадовы сын, да безграшоўя і гэтай іхняй дурной «інфлянцыі»? Не ён жа яе цішком скраў у Святланы Васільеўны, быццам тую машынку, і за руку, сілай прывалок у «хрушчоўку», а прыдумалі яны, дарослыя, тады чаму ён павінен мучыцца і не мець нармальных цацак?..



# Алесь Аркуш

паэт, празаік, выдавец. Стваральнік Таварыства Вольных Літаратараў. Заснавальнік альманаха «Ксэракс Беларускі» і часопіса «Калосьсе». Каардынатар літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». Аўтар словаў гімна горада Полацка, а таксама чатырох раманаў і шэрагу кніг паэзіі і эсэістыкі. На Беларускім Радыё Рацыя вядзе перадачу «Жыццё з літаратурай». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Полацку і Беластоку.

# За таемнымі дзвярыма

***(Урывак з рамана)***

***

У маім пакоі ў бацькоўскай кватэры было двое дзвярэй. Адны выходзілі ў бок кухні. Другія злучалі пакой з гасцёўняй. Навошта архітэктары-праекціроўшчыкі так прыдумалі, дасёння для мяне загадка. Зразумела, дзверы, якія вялі ў гасцёўню, мае бацькі зачынілі, з боку гасцёўні заставілі секцыяй, а з майго пакоя — завешвалі дыванам, пад якім уладкавалі канапу. Як раз на той канапе я і спаў. І заўсёды адчуваў, што за дыванам ёсць дзверы. Амаль як у казцы пра Бураціна. І нават уяўляў, што тыя дзверы вядуць зусім не ў гасцёўню, а можа нават у іншы, дзіўны і казачны свет. У сне, напрыклад, я тыя дзверы мог адчыніць і адчыняў.

І дасёння памятаю дзіцячыя фантастычныя сны. Найбольш мяне здзіўляла, што сны мелі працяг. То бок, з ночы ў ноч адна і тая ж гісторыя разгортвалася ў цэлы фільм. Прычым я нават ведаў, дзе тыя падзеі адбываліся, мог туды схадзіць. Праўда, наяве там усё выглядала інакш. Зусім іншыя будынкі. Іншыя дрэвы. Не, якраз дрэваў з тых сноў не памятаю. Нібыта нават іх і не было. Але будынкі й сёння магу прыгадаць. Яны нечым нагадвалі элеватары — ёсць такія высотныя збудаванні для захоўвання збожжа. Ці былі ў іх вокны? Магчыма, былі.

Вельмі часта ў тых снах на вуліцах было пустэльна і бязлюдна. І я вяртаўся дахаты па гэтым голым, мёртвым урбаністычным ландшафце. І часам будынкі, якія я бачыў наперадзе свайго шляху, былі, як горы. Здавалася, да іх было зусім недалёка, а гэтае недалёка насамрэч ператваралася ў дзясяткі кіламетраў. І цэлы сон трэба было ісці і ісці, ісці і ісці. За будынкамі быў спуск да маёй рачулкі, а там і знаёмы масток. За мастком стадыён. І дадому ўжо зусім блізка.

І ва ўсіх гэтых снах я чамусьці толькі вяртаўся дадому. Адкуль? Чаму адзін? Што азначала гэтае вяртанне? Бадай, у свае юначыя гады я такіх пытанняў сабе не задаваў. Прычым я асцярожна прабіраўся, імкнуўся, каб быць найменш прыкметным. Штосьці варожае, я гэта ведаў дакладна, магло мяне перастрэць на дарозе.

І толькі ва ўласнай кватэры я адчуваў сябе ў поўнай бяспецы.

І сёння мне здаецца, што бацькі адмыслова хавалі ад мяне гэтыя патаемныя дзверы. Бо ў іх нельга было заходзіць наяве. Інакш можна не вярнуцца.

***

— Я так і не знайшоў тлумачэння, — нечакана сказаў Кастан, калі мы разам вярталіся вечаровымі полацкімі вуліцамі з імпрэзы Віктара Леанені. Прэзента-

цыя ягонага новага паэтычнага зборніка не была мнагалюднай. У вераснёвы суботні вечар не так проста сабраць людзей, нават у такім цудоўным месцы — як Музей беларускага кнігадрукавання. Ды і цікавасць да паэзіі ўпала, як сказаў бы Кастан, ніжэй ватэрлініі.

— Чаго тлумачэнне? — я не зразумеў, пра што гэта ён.

— Ну, чаму тады паваліліся кілішкі ў цябе на сядзібе. — Кастан крыху прыпыніўся і паглядзеў на мяне — ці то вінавата, ці то запытальна.

— Ты ведаеш, я так часта не знаходжу разумення для розных падзеяў і з'яваў, што ўжо й не імкнуся гэта рабіць. — Мне абсалютна не хацелася гэтую тэму далей абмяркоўваць.

Нейкі час мы ішлі моўчкі. На плошчы Свабоды панавала цішыня і бязлюддзе — ніводнай постаці. Лістота яшчэ трымалася галін дрэваў, але ўжо не верыла ў сваю несмяротнасць. Адсюль не было як пабачыць Сафію, бо яе закрылі ад горада вялізным дзевяціпавярховым гмахам, які ў народзе прazвалі «дом з вушамі».

— Пайшлі лепш я пакажу табе горад. — Раптам у мяне нарадзілася ідэя і я вырашыў здзейсніць даўнюю мару — узняцца ўвечары на дах «дома з вушамі». Сярод дня я ўжо там быў — уздымаліся з аеэратарам, каб зняць гарадскую панараму для дакументальнага фільма пра Полацак. Панарама гэтая мяне не вельмі ўразіла. Была яна нейкай будзённай, казённа-сіметрычна-правільнай. І нават Сафія выглядала не як храм з птушынага палёту, а толькі як элемент краявіду на паштоўцы. І тады падумалася: а як усё будзе выглядаць увечары, калі змрок пачне паглынаць горад, калі з таемных схованаў павылазяць гарадскія таямніцы, якім і сто, і тысячу гадоў?

— У сэнсе, прапаноўваеш прайсціся па горадзе? — азваўся Кастан без вялікага энтузіязму.

— Ды не, паглядзець на яго з вышыні.

Я памятаў, што трэба зайсці ў трэці пад'езд і ўзняцца на дзявяты паверх ліфтам. Менавіта ў гэтым пад'ездзе мы знайшлі незачынены люк на дах.

У пад'ездзе пахла нейкай цвіллю і яшчэ чымсьці, што мае дачыненне да гатавання ежы. Люк адчыняў я, спрабуючы зрабіць гэта асцярожна і павольна — без непатрэбнага нам рыпу.

На дах вылазілі, нібыта з труму на палабу вялікага карабля. Адразу насупраць выразна праглядаўся будынак гарвыканкама. Асветлены такім чынам, нібыта чакаюць там марсіян у госці, і каб месца міжпланетнага візіту было бачна ажно з космасу. Далей, за будынкам гарвыканкама, раўнюткай указальнай стралой ляжаў праспект Францыска Скарыны. Упрыгожаны шарамі ліхтароў і кучаравасцю каштанаў. Куды паказвала гэтая стрэлка — немагчыма было разглядзець.

Калі вакол плошчы Свабоды гарадское святло нібыта не баялася цемры і высока сягала ўверх, то на адлегаласці, за плошчай Скарыны, святло ўжо паводзіла сябе больш стрымана. Здавалася, што яно сур'ёзна прыціснута звер-

ху шматлікімі пластамі цемры. Узнікала нават трывога: ці вытрымае яно да раніцы гэты касмічны ціск?

— Ну як табе? — спытаў я Кастана, нібыта чалавек першы раз прыехаў у Полацак, яму зрабілі адмысловую экскурсію і цяпер пытаюцца пра ўражанні.

— Адвал башкі, — узнёсла адказаў ён. — Раскінуў бы крылы і паляцеў. Вось тут і варта праводзіць прэзентацыі кніг паэзіі. Ну скажы, праўда ж, файная ідэя?

— Файная, толькі дазвол ніхто не дасць.

— Ну вось так заўжды, калі нешта файнае, то на гэта няма дазволу, — блазнавата вымавіў Кастан і засмяяўся.

— Але гэта яшчэ не ўсё. Пайшлі на іншы бок — там нават цікавей.

Мы развярнуліся і старожка пасунуліся на супрацьлеглы бок даху, крыху слізгаючы падэшвамі сваіх туфель па рубероідзе.

Ё-ё-ё, галоўным героем панарамы з гэта боку быў, канешне, Сафійскі сабор. Яго таксама ў вечаровы час падсвечвалі з усіх бакоў. Спачатку Сафія мне падалася нейкім унікальным экспанатам у шыкоўным, багатым музеі. Такой перлінай, якую выстаўляюць адну на ўсю вялікую залу. Затым мне падалося, што сабор рухаецца ў бок Дзвіны. А Дзвіна — як Млечны Шлях, які адлюстроўвае сотні агнёў у сваёй вадзе — і зоркі, і Месяц, і святло ліхтароў. І Сафія выпраўляецца ў гэты далёкі-далёкі шлях, які нам не ўявіць, не асэнсаваць.

— Ты ведаеш, яны ўпалі, таму што мы ляцім да зор, — паэтычна прамовіў Кастан, і раскінуў рукі, нібыта сабраўся насамрэч паляцець.

— Хто ўпаў? — незразумела перапытаў я. — Такога Кастана раней мне не надаралася бачыць.

— Хто, хто — кілішкі, — выдыхнуў Кастан у цемру.

І тут мяне разабраў такі смех, што здавалася, яго чуюць ва ўсіх кватэрах гэтага жудаснага «дома з вушамі». Я смяяўся і смяяўся, і гэты смех чулі і ў Запалоцці, і у Задзвінні, і нават у Экімані. Смех ляцеў уздоўж Дзвіны і, як святло навакольных ліхтароў, з дапамогай батута чорнай вады, сягаў у бязмежжа космасу.

***

Таццяна ніяк не магла даўмецца, што гэта за гук. Штосьці ў доме ці то бразгацела, нібыта ў цягніку лыжачка ў шклянцы, ці шархацела, ці драпалася. Спачатку Таццяна падумала, што гэта зноў мышы. Яны па вясне неяк апанавалі сядзібу. Відаць, даспадобы прыйшліся ваўняныя ніткі, з якіх добра ладзіць утульныя гнёзды ў норах. Таццяна ў інтэрнэце ўзялася высвятляць метады змагання з аматарамі ваўняных гнёздаў. Усялякія пасткі і іншыя сярэднявечныя прылады прыціскання, адсякання і чацвертавання Таццяна адразу адмяла. Лепш ужо пазбаўляць жыццё цывілізаваным метадам эўтаназіі. Праўда, ніхто не збіраўся пытацца ў мышэй, ці сапраўды яны выбіраюць смерць па

ўласным жаданні — проста ў краме купілі адмысловую атруту і расклалі па ўсіх закутках. Праз тыдзень мышы зніклі. І ваўняныя ніткі атрымалі гарантаваную бяспеку.

Таццяна ўжо пачала згадваць, у якой такой краме прадаецца атрута для мышэй. Зноў прыслухалася. На гэты раз гук ёй падаўся зусім не мышыным. Па-першае, ён не гучаў ані з паддашку, ані з падполля. Аднекуль з пярэдняга пакоя. Прычым нібыта з буфета. Таццяна падышла да яго і пачала адчыняць усе дзверцы, спрабуючы высветліць — што гэта за насланнё такое. І калі зірнула за шкло аддзела, дык там, дзе роўнымі мініяцюрнымі мінарэтамі груваcціўся посуд, пабачыла тое, што ніяк не паддавалася яе разуменню — у салатніцы ляжаў той самы амулет, які Таццяна ўвесну знайшла ў сябе на градах, ён рытмічна вібраваў, як маленькае бронзавае сэрцэйка.

Некалькі хвілінаў Таццяна заварожана назірала за гэтым дзівам. Затым працягнула рукі і ўзяла салатніцу з амулетам. І адразу ўсё знікла. І рухі. І гук. Нібыта ўсё прымроілася. Нібыта надарыліся галюцынацыі.

— Нічога сабе! І што гэта было? — уголас, сама сабе, прамовіла Таццяна.

Яна ўзяла ў руку амулет. Ён здаўся ёй цёплым. Хаця можа толькі здаўся.

— Во дзіва! — яшчэ раз выгукнула Таццяна, і, ужо звяртаючыся да амулета, сказала: — Што, спудзіўся, як птушаня? Не пакрыўджу, не бойся.

Але амулет ніяк не адрэагаваў. Ён роўненька ляжаў на далоні.

Таццяна ўважліва пачала яго разглядаць. Нічога ў ім не змянілася. Быў дакладна такім самым, якім яна яго знайшла на градах.

— Во дзіва! — яшчэ раз прамовіла Таццяна. — Гэта ўжо нейкія чароўныя казкі братоў Грым.

Яна асцярожна паклала амулет назад у салатніцу. І пачала чакаць. Але і праз пяць хвілінаў, і праз дзесяць, і праз пятнаццаць нічога не адбылося. Бронзавы кружок са скручанаю змяёй ляжаў бездыханна.

***

І баран сарваўся з прывязі ў бальнічным двары майго дзяцінства. Збег у невядомым кірунку. Магчыма, у бок лесу, які мы называлі Пчэльнік. Недзе побач з гэтым лесам пасвіліся падвопытныя авечкі навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі. Магчыма, той баран-перавёртыш папсаваў шматгадовыя доследы вучоных. А магчыма, наадварот — істотна ім дапамог. Верагодна, і сёння баран ходзіць па Пчэльніку, цягае за сабой кавалак тоўстай вяроўкі. Бо хто можа злавіць перавёртыша? І як ён памрэ, калі ён несмяротны?

І Ленін сышоў з пастамента і пакрочыў-пакрочыў сваімі бетоннымі чаравікамі па асфальту галоўнай вуліцы. Высякаючы іскры. Бо, зразумела, дзея адбывалася ўначы. Тая сталоўка, якая некалі месцілася насупраць Леніна, і дзе можна было ў часы майго дзяцінства кульнуць кілішак якога трунку, даўно ўжо не сталоўка, а цэх па розліву воцату. Уяўляеш, во-ца-ту. Які пажадана не піць. Вельмі пажадана. І які Ленін будзе стаяць побач з цэхам па

розліву воцату? Ясная справа, ён пачне шукаць сабе новае месца. Штоноч. Штоноч. Штоноч. І куды ён мог пайсці? Мог пайсці ў бок Пчэльніку. Але там гаспадарыць баран-перавёртыш, а з ім лепш не сустракацца. Ніякі бетон не можа супрацьстаяць рагам таго барана. Мог пайсці ў бок Судабоўкі. Але якая карысць яму ад той вёскі, якую далучылі да горада, і якая так і не стала горадам. Ну ніякай карысці. Мог пайсці ў бок мясцовага аўтазавода. І гэта самы верагодны шлях. Бо там можна правесці сярод рабочых агітацыю. Раскідаць улёткі па цэху. Стварыць партыйныя ячэйкі. Павесіць кумачовыя транспаранты. Гэта тое, што трэба для Леніна. Але ёсць адна акалічнасць. Побач з домам культуры аўтазавода стаіць свой Ленін. І наўрад ці ён саступіць утульнае, уежнае месца для Леніна з майго дзяцінства. І здарылася тое, што здараецца, калі шмат шукаеш і доўга не знаходзіш. Аднойчы Ленін з майго дзяцінства, пасля бясплённых начных пошукаў новага месца, вярнуўся на ранейшае, а там не аказалася пастаменту. А раніца набліжалася няўхільна. З хуткасцю міжнароднага цягніка, які пралятае, як птушка, уздоўж станцыі майго дзяцінства. Што, што, што рабіць? І пабег Ленін уніз па Спартовай вуліцы да ракі. І скокнуў з моста ў халодную кастрычніцкую ваду. І больш яго ніхто не бачыў.

***

— Ты адмыслова свой дэтэктыўны аповед скончыў такой загадкай? — спытаў я Кастана, калі мы працавалі над чарговым нумарам газеты.

— Якой загадкай? — Кастан прыкінуўся, што нічога не разумее.

— А той загадкай, што кубак Баторыя недзе застаўся ў Полацку. Ты вырашыў стварыць яшчэ адну легенду пра полацкія скарбы?

— Ну так атрымалася, не хацеў я аддаваць кубак гэтаму злодзею Капцюгу. Бо задужа гэта містычная рэч, каб ёю можна завалодаць шляхам забойства. Разумееш?

Нейкі час мы сядзелі моўчкі, займаючыся сваімі працоўнымі справамі. Я пісаў артыкул пра сёлетнія археалагічныя раскопкі на Вялікім пасадзе, пра тое, што археолагі раскапалі сядзібу полацкага залатара-ювеліра. Учора я ездзіў на раскоп і гутарыў з археолагамі. Тыя казалі, што дзівяцца памерам сядзібы, якая была амаль як княская. Да таго ж, яе існаванне якраз прыпадае на час выраблення Лазарам Богшам Крыжа для Еўфрасінні Полацкай. Ці не сядзіба гэта самога Лазара Богшы? Даказаць гэта было досыць складана. У Полацку не захавалася адрасная кніга XII стагоддзя. Але калі ўлічыць, што Лазар Богша ў той час у Полацку быў самым вядомым, а значыць і самым заможным залатаром, бо інакш не атрымаў бы ад Еўфрасінні такой важнай і адказнай замовы, то цалкам магчыма, што гэта і ёсць рэшткі сядзібы слыннага майстра. Але якім бы ты не быў слынным і заможным, прыходзіць час, калі твая заможнасць ператвараецца ў тлен, вось у такія рэшткі, прысыпаныя тоўстым слоем зямлі. І толькі вынік працы, але такой працы, якая ператвараецца ў ле-

генду, здольная захоўваць тваё імя ў стагоддзях. Можна зруйнаваць магілы, знішчыць курганы,ператварыць у друз храмы, замкі і палацы, але немагчыма знішчыць легенду. Так мне думалася, калі я працаваў над артыкулам.

— А ты хацеў бы, каб кубак знайшоў следчы Цісовіч? — Кастан адарваў мяне ад маіх філасофскіх развагаў.

— Ды не, як раз гэта быў бы вельмі кепскі фінал. Бо кубак далей абавязкова сплыў бы ў расейскія, можа крамлёўскія сховы, як і сотні іншых нашых рэліквіяў, як і той самы Крыж Еўфрасінні Полацкай.

— Так што кубак цяпер захоўваюць падземныя крывічы, пра якіх напісаў у сваіх «Лабірынтах» Ластоўскі, — пажартаваў Кастан.

— Магчыма, гэта лепшы варыянт, — пагадзіўся я з сябрам.

***

Кірля ўпарта ныряла ў ваду Дзвіны ў адным і тым жа месцы. Рабіла прыгожае піке, як пры палётах на прэстыжных авіяцыйных салонах, бултых, некалькі секундаў у вадзе, узлёт, новы віраж, заход на тую самую пазіцыю, і зноў бултых.

І што яна там хоча здабыць? Можа там якая чародка верхаводак сабралася, утварыўшы гарантавана-шчаслівае рыбацкае месца?

— А можа ныряе па кубак Баторыя? — падумалася мне. Бо кубак той павінен моцна бліскчэць, прабіваючы наскрозь сваёй зыркасцю не такую ўжо й глыбокую дзвінскую ваду.

Вось так часам мастацкі твор уплывае на жыццё. Нават кірля паверыла ў рэальны кубак Баторыя. І я пасміхнуўся такой думцы.

— Часам важна ў нешта паверыць і яно — тое, у што паверыў, — робіцца для цябе рэальнасцю.

***

Галоўная вуліца Запалоцця, якая раней называлася Махіроўскай, па-ранейшаму заставалася незаасфальтаванай. Ніякія «Дажынкі», калі Полацак перафарбоўвалі і пераасфальтоўвалі цалкам, ніякія прыезды прэзідэнтаў і патрыярхаў, ніякія тысячагадовыя юбілеі горада не мелі ўплыву на вуліцу. Яна ўпарта трымалася сваёй патрыярхальнасці. Хоць адсюль да галоўнай полацкай плошчы можна прайсці за пятнаццаць хвілін. Па мастку праз Палату ўздымаешся на ўзвышша да Сафіі, праходзіш каля сабора, мінаеш полацкі ўніверсітэт, які месціцца ў былых езуіцкіх мурах, — і вось вам цэнтральная плошча Полацка.

Вуліца Махіроўская ўпарта заставалася ў ранейшай сваёй патрыярхальнасці.

Таму надзвычай натуральна на ёй выглядае невялічкі статак коз, які гоніць добра нам знаёмая бабулька ў сваім дэмісезонным брызентавым плашчы. Чаму яна іх гоніць днём? У прынцыпе, неістотна. Можа яна мяняе дыслакацыю.

Бо акрамя сутокі Палаты і Дзвіны бабуля пасвіць сваіх карміліц і на вялікім заліўным лузе паміж мікрараёнам Аэрадром і Запалоццем. Там таксама маляўнічая мясціна. Аднак трэба прызнаць, што на беразе Дзвіны ёй падабалася больш.

Таццяна мела два шляхі да сядзібы. Можна шыбаваць па маленькіх вулачках і завулках і выходзіць наўпрост на свой Міхайлаўскі завулак. За ўсё шматпакутнае і віхурнае XX стагоддзе ніхто так і не даўмеўся гэты невялічкі завулачак перайменаваць. Міхайлаўскім ён, прынамсі, называўся і на мапах XVII стагоддзя. Праз квартал амаль такая ж суседняя невялікая вулачка мела назву Якуба Коласа. Там нават на адным з дамоў вісіць мемарыяльная шыльда з тлумачэннем, праўда, на рускай мове, у гонар каго вулачка названая.

Таццяна добра ведала, што назва яе завулка не мае дачынення ні да аднаго з беларускіх пісьменнікаў — ні да Міхася Зарэцкага (а было б някепска), ні да Міхася Лынькова, ні да Міхася Стральцова (таксама было б някепска). Проста завулак выходзіць на вуліцу Міхайлаўскую (якая таксама дасёння захвала сваю назву), а Міхайлаўская раней выходзіла да Міхайлаўскай царквы, якая калісьці месцілася ў Запалоцці. Ад яе, праўда, не засталося і падмуркаў, а на святым месцы стаіць вялізная, у дзевяць вокнаў, хата. Адметная тым, што яе гаспадары трымаюць пчолаў, якія перыядычна люта атакуюць прахожых у наваколлі. Таму ў крытычныя для пчолаў дні Таццяна выбірае іншы шлях да сядзібы — па вуліцы Махіроўскай.

Але вернемся да бабулі з козамі. Калі Таццяна параўнялася з бабцяй, тая яе гукнула:

— Жанчынка, гэта, відаць, вашая стужка?

Бабця дастала з кішэні свайго дэмісезоннага брызентавага плашча невялікую чырвоную стужку і працягнула Таццяне. Таццяна ўзяла і пачала разглядаць. Гэта была ільняная стужка грубай ручной працы. Ніткі, з якіх тую стужку калісьці выткалі, відавочна, самаробныя — мелі розную таўшчыню. У гэтым Таццяна добра разбіралася. Стужку спачатку выткалі, а затым нечым пафарбавалі. Нейкай моцнай натуральнай фарбай колеру крыві.

— А з чаго вы ўзялі, што гэта мая стужка? — спытала бабцю Таццяна, працягваючы разглядаць гэты дзіўны кавалачак матэрыі.

— А гэта ваш сабака згубіў, я бачыла, дакладна ваш, — адказала бабця з прыязнай усмешкай на рахманым твары.

— Дзякуй, няхай будзе наша, — аддзячыла бабцю Таццяна.

На сядзібе Таццяна пачала разглядаць стужку на святло і заўважыла выразны надпіс Þorvaldr.

***

Паўлік забіў Стасіка.

Гэтая навіна ў мяне выклікала шок! Пра што можна так горача спрачацца, каб у выніку забіць апанента? Прычым брата-блізнюка. І чаму слабейшы,

ціхмянейшы Паўлік забіў мацнейшага, балагурыстага Стасіка? Для мяне гэта неверагодная загадка. Ніхто нічога не патлумачыў. Мае бацькі толькі паціскалі плычыма, маўляў, ведаем толькі тое, што ведаем.

І ўсе нашыя супольныя канцэрты ў дзіцячай музычнай школцы, і рыбалкі, і футбол, і дваровыя гульні адразу набылі іншы колер і смак. Колер смутку. Смак жальбы. Смак трызны.

Мая мама кажа: усё з-за гарэлкі. Але гарэлку п'юць мільёны людзей, далёка не ўсе з іх забойцы.

Што гэта было? Ці быў той шлях, якім ішлі браты-блізнюкі, шляхам наканавання? Шлях, якім калісьці нібыта мы йшлі побач. Але яны ўвесь час сыходзілі. А я ўвесь час вяртаўся. Сярод небяспечных вышэзных дамоў-элеватараў. Гэтую дарогу вяртання памятаю дасёння да драбніц. Галоўнае — дайсці да мастка праз раку. Цяпер я ведаў, што ў гэтым месцы, шчыльна захутаны водарасцямі, ляжаў Ленін майго дзяцінства. Рука, якой ён указваў дарогу ў лепшы свет, даўно адламілася і спыла ў Чорнае мора. Ленін, захутаны ў водарасці як егіпецкая мумія, цяпер не мог мяне бачыць. Магчыма, ён чуў мае крокі па мастку, але паспрабуй скрануцца, калі ты шчыльна захутаная мумія. Цяпер недзе побач з Леніным для мяне ляжалі й Стасік з Паўлікам. Паўліка пасадзілі ў турму, там ён захварэў на сухоты, па амністыі выйшаў і неўзбаве памёр у бацькоўскай кватэры. Адзін. Без бацькоў, якія на той час ужо адышлі ў лепшы свет, без брата-блізнюка, без Леніна.

Мне падавалася, што менавіта Ленін вінаваты ў гэтай трагедыі. Той самы, які ўсё нашае дзяцінства і юнацтва паказваў на сталоўку з бадзёрымі трункамі. Канешне, лёгка усё спісаць на Леніна. Але я яму ўсё адно не дарую — ні свайго сябра Дзімыча, ні многіх іншых сяброў дзяцінства. І не дарую Паўліка са Стасікам. Ніколі.

***

Пазней мне некалькі разоў снілася, як сава пераследуе крумкача. Гэта было добра зробленае відэа, верагодна, з удзелам кампутарнай графікі, з вялікімі відэа-планамі і вачыма птушак на ўвесь экран.

Я ўсё больш схіляўся да думкі, што сава можа быць добрай паляўнічай птушкай, штосьці на ўзор сокалаў і беркутаў, якіх раней выкарыстоўвалі для палявання.

Толькі гэтае паляванне мусіць быць зусім не на дзічыну. — А на каго? — спытаеце вы. На штосьці эзатэрычнае і містычнае. На д'яблавую сілу, напрыклад.

Уяўляю, як вялізны пугач сядзіць у мяне на плячы, па-савінаму мружыць вочы і прыслухоўваецца, і мы разам з ім выпраўляемся ў цямрэчу начы на паляванне.

Адразу ў маёй свядомасці ўзнікаюць гэтыя элеватары з цёмнымі вокнамі. Цяпер мне не так страшна. Я нават пачуваюся героем з міфаў Элады.

Але тут пугач нахіляецца ўсутыч да майго вуха і нейкім механічным галасам, якім гавораць ўваходныя дзверы ў пад'езд шматпавярховіка, скрыгоча: галоўнае — не даць сябе напужаць.

Затым вялізная птушка адштурхнулася ад майго пляча і паляцела праз Дзвіну ў бок Вострава. Некалькі хвілінаў я выразна чуў свіст яе магутных крылаў...



# Лявон Валасюк

паэт, празаік, мастак. Аўтар зборнікаў вершаў «Блики дня» (1999 г.), «Краски души» (2000 г.), «Под знаком Стрельца» (2001 г.), «Леаніды» (2003 г.), «Чырвоная вежа» (2004 г.), «Познія сны» (2006 г.), «Знакі на валуне» (2010 г.); кніжак прозы «Сцежкі да сядзібы» (2008 г.), «Вяртанне Берасцейскай Стралы» (2012 г.). Лаўрэат Берасцейскай абласной Мядовай літаратурнай прэміі (2008 г.). Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцянькі на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

# Я буду цябе ўспамінаць, як...

***Трыпціх***

## Лета

*...Памятаеш, як летам мы збіралі валошкі?..*
(З дзявочага ліста)

— Уставай, сонца ўжо высока. Косцік, уставай! Без снедання застанешся ды і бакі сабе адлежыш! — голас бабулі Ефрасінні лагодна даносіўся ад печы і прыемнымі хвалямі кранаў слых хлопца. — Уставай, а то хто прыйдзе, а ты ляжыш... Як той бэйбус!..

... У суботні вечар Кастусь прыехаў у вёску да дзеда і бабулі. Пасля вучобы ў школе хацелася хутчэй апынуцца там, дзе нарадзіўся, дзе бываў кожны год на канікулах і ў святочныя дні.

Які цудоўны, непаўторны час — лета!.. Кастусёва лета там, за вёскаю, па шэрай дарозе праз траву, праз поле. За палямі, дзе луг, дзе духмяныя травы, дзе вада ў рове, дзе чыстыя, не кранутыя нікім валошкі, рамонкі, фіялетавыя званочкі...

Вось пачалася пара касавіцы — і ажыў луг звонам кос і галасоў вяскоўцаў, рыпам вазоў, гулам матораў. Але нішто не заменіць песню жаўрука ў небе. Маленькага, ледзь бачнага, але такога блізкага і дарагога сэрцу спевака. У Кастусёвай памяці са словам «жаўрук» звязана пара сенажаці, высокага пякучага сонца, чыстага блакітнага неба і неагляднай, бясконцай зеляніны палёў, лугоў і лясоў. Як хораша бывае акунуцца ўспамінамі ў такое лета: ружовы ранак з расою на траве, дзед з касою ў руцэ, бабуля на падворку... Лета, лета... Як хутка сцелецца дыван featурознакаляровых кветак, духмяных траў — мяккіх, калючых, свежых...

Кастусь любіць усе кветкі, якія растуць на роднай беларускай зямлі: ці то палявыя, ці то лугавыя. Радуюць вока і тыя, што на балотах, у гародчыках, лясах. Яны — жывыя галасы, жывыя вочы і душы. Яны для яго сябры зямныя...

...Стаялі цёплыя, сонечныя дні. Усё ў наваколлі было настоена мядовымі пахамі летняй пары. Здавалася, свет — квітнеючы сад. Кастусю першы раз пашанцавала выйсці з Тамараю ў поле папрацаваць. Напярэдадні дамовіўся з таварышам памяняцца зменамі, каб толькі пабыць побач з ёю, дапамагчы. Тамара — студэнтка-практыкантка, будучы аграном. Даследаванні глебы ў раёне маючага адбыцца асушэння балот каля іхняй невялічкай вёскі. Яе летняя практыка праходзіць у полі, на лугах, балотах. Кастусь і ягоны сябра Мікола сёння працуюць пад кіраўніцтвам Тамары. Яны капаюць рыдлёўкамі шурфы да сямідзесяці — ста сантыметраў, а Тамара замалёўвае колер глебы ў свой рабочы сшытак, робіць патрэбныя запісы. Да іх ужо падышлі вясковыя хлопцы

са старэйшым мужчынам-геадэзістам, які галоўны ў гэтай летняй экспедыцыі. Яны праклалі трасу, па якой Кастусь з Міколам ходзяць з рыдлёўкамі.

Як прыемна адчуваеш сябе побач з дзяўчынаю, колькі цікавага пазнаеш! Так і хачацца гаварыць, гаварыць, кожны раз адшукваючы ўсё новыя і новыя тэмы для размовы. Кастусю прыемна адчуваць яе прысутнасць, чуць яе голас, бачыць вочы насупраць і стройную дзявочую постаць у купальніку. Бо калі сонца не вельмі прыпякае, то можна і пазагараць, што яны і робяць, склаўшы адзенне пад якім дрэвам ці кустом.

Навокал так многа кветак, што разбягаюцца вочы.

Тамара, як і Кастусь, любіць кветкі. Дзяўчына цяпер — гаспадыня палёў і лугоў, бо шмат ведае з жыцця раслін.

Сонца над імі танцуе ў квецені пырскаў і асляпляльных промняў. Падаецца, што тысячы люстэрак накіраваны на іх.

Кропка, ад якой геадэзісты пачыналі рухацца, кіламетраў за сем ад вёскі. Са сваім небагатым рыштункам яны даехалі туды на возе: прывёз калгасны брыгадзір. Месца было нізіннае, парослае асакою, сярод якой блішчэла роўная паверхня вады. Непадалёк віднеліся стрэхі нечага хутара, абкружанага кустоўем і высокімі дрэвамі. Там было ціха, і толькі будзённа сакаталі куры, парушаючы ранішні спакой.

Паціху Кастусь пачаў прывыкаць да новай, цікавай для яго працы. Ён капаў шурфы і быццам бы іншымі вачамі бачыў зямлю, на якой нарадзіўся. Чорная блішчастая глеба мянялася шэрай, далей праступалі палосы жоўтага жвіру і белага пяску, зеленаватай гліны. На такой зямлі яны жылі: хадзілі, бегалі, ездзілі на вазах, машынах і веласіпедах...

Кастусь з асалодаю капаў, даставаў рыдлёўкай камякі глебы з яміны. Вакол зелянелі травы, мільгацелі матылі, стракозы, у небе звінелі жаўрукі. Як хораша было сярод гэтай цудоўнай чыстай прасторы адчуваць сябе блізкім да роднай зямлі, якую чакалі перамены.

Хлопец не ведаў, не адчуваў, як усё зменіцца пасля меліярацыі. Спадзяваўся на добрае. Па прычыне сваёй маладосці не ведаў пра горкія наступствы непрадуманага асушэння балот...

Траса перасекла дарогу, пайшла полем. Капаць шурфы там было лягчэй, чым у нізіне: зямля не клеілася да ляза рыдлёўкі. Часцей траплялісяя каменьчыкі рознай велічыні. Самыя маленькія, што падабаліся, хлопец абціраў і хаваў у кішэню джынсаў. Вакол было шмат кветак: дробных, ледзь прыкметных, і большых — стракатых і прыгожых. Маленькімі зорачкамі выдзяляліся краскі ў густой траве. Хацелася збіраць іх, як і каменьчыкі, але як зберагчы іх да вечара. А так добра было б паставіць у слоік з вадою ў дзедавай хаце...

Сярод поля — валошкі. Яны прыцягвалі ўвагу чысцінёю фарбаў колеру нябёсаў.

Валошкі... Як проста і даверліва глядзяць яны на свет! Сціплыя палявыя кветкі, без якіх цяжка ўявіць сельскі краявід, ды і ўвогуле беларускую зямлю.

Кастусю вельмі спадабалася праца. Углядаючыся ў зрэзы зямлі, ён прыкмячаў, як пераплецена яна жывымі карэньчыкамі раслін, колькі бліскучых пясчынак і каменьчыкаў хаваецца ад вачэй у глыбіні. А якія толькі жучкі і кузуркі не жывуць глебе!

Жытняе поле засталося за спінаю, і яны трапілі ў малады алешнік, прабіты вузкай сцяжынкай трасы. Мясцінамі дрэўцы былі высечаны і абрэзана голле.

А сонца паднялося ўжо высока. Адчувалася невыносная спякота. І толькі алешына дарыла сваю ыратавальную прахалоду. Прыемна было пасядзець у цені і крыху адпачыць. Хлопец заўсёды хваляваўся, калі побач прысаджвалася Тамара, адчуваў сябе ўзнёсла-радасна. Дзяўчына даўно яму падабалася, таму кожнае яе слова, кожны дотык рукі рабіліся асалодай. На трасе яны былі перш за ўсё работнікамі, хаця і не забывалі пра тое, што маладыя...

Хлопцы ішлі па трасе з інтэрвалам у некалькі дзясяткаў метраў адзін ад другога. Тамара па чарзе падыходзіла то да Кастуся, то да Міколы. І кожны раз, калі яна набліжалася да Кастуся, ён з любоўю сачыў за дзяўчынай, назіраў за кожным рухам яе рук, цела... І Тамары прыемна было знаходзіцца побач. Ніколькі не адчувалася невялічкая розніца ва ўзросце: яна на той час была студэнткаю, а хлопцу заставаўся яшчэ адзін год вучобы ў школе.

Неяк сярод дня, калі Кастусь дакопваў шурф, Тамара засмучана сказала:

— Ведаеш, згубіла недзе шкельца ад гадзінніка. Можна стрэлкі пашкодзіць, ды і ўвогуле загубіць рэч. Дапамажы адшукаць. Мо знойдзем дзе, калі яшчэ не закапалі.

Кастусь уважліва пачаў абследаваць кожны след па траве, углядаючыся ў кожную травінку і пясчынку. І адшукаў тое маленькае шкельца! Хлопец быў вельмі задаволены. І якім цяплом свяціліся блакітныя вочы дзяўчыны, калі ён працягнуў далонь са знаходкай да яе рукі...

— Вялікі дзякуй! — сказала з усмешкаю Тамара і пагладзіла шурпатаю ад працы далонню чупрыну на галаве хлопца.

Непрыкметна яны выйшлі з алешніку і апынуліся на прасторнай паляне сярод дрэў і кустоўя. Наперадзе высіліся старыя прыгожыя ліпы, а далей стаяў хутар. Мучыла спёка, дапякалі авадні ды камары. І Кастусь з Тамарай былі такія задаволеныя, што нарэшце апынуліся на сонцы з ветрыкам, што цяпер можна прысесці ў цені ліп, адпачыць. Ля плота склалі свой небагаты рыштунак, прылеглі на траву. Прахалода прыемна абгортвала іх, стомленых ад працы і спякоты. Асабліва радаваў ветрык, які кранаў сваім нябачным крылом маладыя ўзмакрэлыя твары.

З хаты выйшла пажылая жанчына ў квяцістай сукенцы і светлай хустцы, выціраючы рукі аб фартух, запрасіла брыгаду да сябе. Яна цікавілася іхняй працаю, распытвала. Было відаць, што гаспадыні ўвогуле хацелася пагаварыць з людзьмі, бо, як выявілася, на хутары яна жыла адна. Дзеці даўно пара з'язджаліся, а яе чалавек некалькі год таму як памёр. Жанчына пачаставала работнікаў халодным хлебным квасам. А яны, дарваўшыся да яго, пілі і не

маглі напіцца. Гаспадыня прапанавала паесці, але яны далікатна адмовіліся. На такой спякоце і есці не вельмі хацелася...

Маладыя людзі пасядзелі яшчэ крыху на лаве ля хаты і гаспадыня з імі. І ўжо калі збіраліся адыходзіць, жанчына раптам звярнулася да Кастуся:

— А ты, хлопча, напэўна, унук Івана Трахымчуковага?!

— Так, унук! — пацвердзіў яе словы Кастусь. Хутаранка так абрадавалася, што ім давялося яшчэ крыху затрымацца. Яна распытвала і пра Кастусёвага дзеда Івана, і пра бацьку, бо добра ўсіх ведала. А хлопец з ахвотаю расказваў. На дарогу ізноў папілі квасу і яшчэ доўга пасля знаходзіліся пад уражаннем ад сустрэчы.

Цяпер яны працавалі на вялікім нізінным лузе. Тут спрадвеку касілі траву, сушылі яе, складвалі ў копы і стагі. Цяжкая, але разам з тым і прыемная сялянская праца.

Праз увесь луг мудрагелістай лініяй праходзіў стары, парослы кустоўем і асакою роў. Уздоўж яго, наколькі дазваляла вада, таксама капалі шурфы.

Калі ўжо выйшлі на сухое месца, зрабілі прыпынак. Мікола задрамаў у цяньку, а Кастусь з Тамараю ціха размаўляў, лежачы на баку побач. Іх вочы былі блізка як ніколі. Абоім было прыемна і ўтульна, яны гаварылі і не маглі нагаварыцца, час ад часу судакранаючыся пальцамі, а навокал лятала матылі, стракозы, падавалі галасы цвыркуны. У небе завіс жаўрук са сваёю звонкагалосаю песняю. Птах, як і яны, атрымліваў асалоду ад цёплага сонечнага дня. З яго вышыні людзі ўнізе, напэўна, выглядалі як маленькія карабельчыкі ў зялёным моры. Хлопцу здавалася, што яны з дзяўчынаю плывуць па бязмежным акіяне. Над імі рэдкія белыя аблачыны, блакіт высокага неба, а навокал ні адной жывой душы. Вяртаўся да рэчаіснасці — бачыў побач блакітнавокую дзяўчыну, стомленую працаю, шчаслівую, як і ён, як і ўсё наваколле, затопленае сонечнымі праменнямі.

Дзень працягваўся, працягвалася і праца, сагрэтая блакітнымі вясёлымі вачыма Тамары.

Нарэшце сонца паціху пачало спаўзаць уніз. Час хіліўся да вечара. Адыходзіла спякота, налятаў аднекуль свавольнік-вецер, і яны з задавальненнем падстаўлялі свае твары пад яго свежыя хвалі.

Луг абарваўся полем з лубінам, ад пахаў якога не было магчымасці схавацца. Жоўты дыван цягнуўся амаль да самай вёскі. Праца зроблена, дзень прайшоў не марна, а на сэрцы спакойна і свабодна — ад навакольнай прасторы, ад лета, ад луга і поля, ад маладосці.

Па дарозе дадому Кастусь зрываў любімыя кветкі, валошкі і рамонкі, дабаўляў іншыя, якіх і назваў часам не ведаў. Тамара дапамагала. Не заўважылі, як вярнуліся ў вёску.

А сонца ўжо амаль апусцілася, туды, дзе магутнаю сцяною трымала неба Белавежская пушча...

...Зараз, калі прайшло столькі гадоў, Кастусь прыпамінае ўсё, гледзячы на сціплы нацюрморт з палявымі кветкамі. Ён далікатна кранае іх. І раптам усё

ажывае: голас Тамары гучыць прыемнай музыкай, водар кветак напаўняе пакой. І ён зноў бачыць той ціхі летні вечар, сябе, вучня сярэдняй школы, які з рыдлёўкаю і букетам вяртаецца ў дзедаву хату.

За статкам кароў, якія час ад часу равуць, шукаючы сваіх гаспадынь, па дарозе плыве воблака пылу. Услед за пастухамі, крыху наводдаль ідуць хлопцы са сваім кіраўніком. На краі вёскі Мікола паварочвае ў свой двор. А Кастусь з Тамараю ідуць далей. Хочацца ўзяць яе за руку, прытуліць да сябе, але смеласці не хапае.

Хлопец думаў пра дзяўчыну. Яна ўсё яшчэ працягвала знаходзіцца побач. Яму не хацелася верыць, што хутка трэба будзе раз'ехацца.

Кастусю было добра ад адных толькі ўспамінаў. У апошніх промнях сонца блішчэла вада ў слоіку на падваконніку, у якой ажывалі палявыя кветкі, маленькая частка сабранага разам букета. Іх трымала ў руках Тамара.

І раптам Кастуся ахапіў такі настрой, што захацелася лётаць, павольна і доўга.

Ён уявіў, як Тамара зайшла ў двор дзеда Аляксея, дзе кватаравала, паклала на паліцу рабочы сшытак, узяла кубачак, напілася халоднай вады з вядра ля калодзежа. А пасля падышла да місы з нагрэтай за дзень вадою, пырскала вадою ў твар, абмывала пыл са стройных загарэлых ног. Кастусь уявіў, як блішчэлі на іх кропелькі вады, нібы зорачкі ранішняй расы.

Дзяўчына памылася і пераапранулася, перад люстэркам расчасала светлыя валасы. Потым села з гаспадарамі вячэраць на кухні ля акна. А за акном ужо праглядвалася ноч. І цемра пачынала ахутваць зямлю пад галасы цыкад.

Кастусь з дзедам выйшлі ў двор: стары пакурыць, а хлопец пасядзець побач з ім на доўгай лаўцы ля сцяны. Кожны вечар сюды прыходзіў нехта з суседзяў, адпачыць перад сном, падзяліцца навінамі.

Кастусь сядзеў на лаўцы і моўчкі пазіраў на хату дзеда Аляксея. Святло з пакоя Тамары прабівалася праз фіранкі. Часам бачны быў цень яе постаці. Хлопец ведаў, што абавязкова дачакаецца, калі святло пагасне. Гэта адбылося нечакана, і нешта нібы абарвалося ўнутры. Спаць не хацелася. І хлопец яшчэ доўга сядзеў моўчкі, убіраючы ў сябе водар і гукі летняй ночы, якая была такая кароткая і такая цёплая, нібы дотык Тамарынай далоні...

## Аўтапартрэт

*Прыязджаю ў панядзелак,*
*а над маім ложкам твой партрэт...*
(З дзявочага ліста)

Нечакана надышла восень. Ранняя. З дажджамі. Сонца схавалася за шэраю коўдраю хмар, заслонаю дажджу. Часам здавалася, што такое надвор'е настала назаўсёды, што сонца знікла зусім, і ад яго засталіся толькі светлыя плямы, якія праступаюць праз свінцовыя хмары.

Травы і лістота пачалі жаўцець, чырванець, абсмальваючыся па краях чорна-барвоваю акантоўкаю. Хацелася восеньскай квецені, яркай лістоты на дрэвах, пад нагамі; хацелася свята фарбаў, а за вакном сумна скуголіў вецер, гонячы апалае лісце па шэрых лужынах.

З'явілася жаданне сесці спінаю да акна, каб толькі не глядзець на панылую пару. А пасля — узяць у рукі пэндзаль, падысці да эцюдніка і вярнуцца ў лета. Яго светлавалосая царыца была ўсё яшчэ там: у зялёным полі з густым дываном кветак, з жаўруком, з залацістымі пчоламі, бясклапотнымі стракозамі і матылямі, духмяным водарам свежаскошанай травы...

Яны абменьваліся лістамі і жылі будучымі сустрэчамі.

Апавядалі пра сваё жыццё з маленькімі тайнамі, радасцямі, праблемамі.

Кастусь у думках бачыў дзяўчыну ўсё такой жа, якой яна была ў тое шчаслівае лета ў дзедавай вёсцы: прывабнай, светлавалосай, гаваркой, з усмешкай на твары.

Якім бачыла Кастуся Тамара?.. Можа з часам ён у яе думках і пасталеў, памужнеў. Ва ўсякім разе яму гэтага вельмі хацелася.

Тамара абяцала прыслаць свой фотаздымак, пра што вельмі прасіў хлопец, але нешта ўвесь час ёй перашкаджала гэта зрабіць.

А восень пастукала ў акно пакоя буйнымі кроплямі дажджу: то моцна, то на здзіўленне вельмі ціха. У такія дні Кастусю хацелася чымсьці парадаваць дзяўчыну, нагадаць пра мінулае лета...

Але Тамара была далёка ад яго са сваімі клопатамі, марамі, працаю, на якую ўладкавалася пасля заканчэння вучобы. І хлопец надумаў зрабіць свой партрэт алейнымі фарбамі, а потым даслаць ёй па пошце. Ды так, каб дзяўчына атрымала яго нечакана.

Атрымалася так, што Кастусь намаляваў свой партрэт амаль што за адзін сеанс. Выбраў дзень, калі нікога не было дома, уладкаваўся на кухні з фарбамі перад люстэркам, дзе заўсёды голіўся бацька.

Працавалася на дзіва лёгка і хутка. Спачатку зрабіў малюнак алоўкам на белым грунтаваным палатне, пасля ўзяў у рукі пэндзаль.

На цёмным фоне паступова выяўляўся светлы твар з зеленаватымі вачыма, кашуля аддавала блакітам веснавога неба.

У той час Кастусь апошні год наведваў студыю выяўленчага мастацтва і гатовы аўтапартрэт паказаў любімаму настаўніку.

— Добры атрымаўся, — пахваліў вучня Міхаіл Сяргеевіч, зводдаль разглядваючы палатно, — падобны, а гэта пакуль — галоўнае.

...На пошту хлопец прынёс ужо запакаваны падарунак: саромеўся цікаўных вачэй.

Як толькі выйшаў на вуліцу, адразу ўзнікла сумненне. А мо не сціпла, не трэба было гэтага рабіць. Мо варта было пакінуць аўтапартрэт сабе. Калі не ўпэўнены, што асіліў бы па памяці партрэт дзяўчыны, мог бы намаляваць і летні букет, лугавыя краскі, адзінокі хутар.

Кастусь час ад часу прыпамінаў, як пачынаў працаваць з алейнымі фарбамі са свінцовай абалонкай. Акварэльнымі ён маляваў даўно, умеў абыходзіцца з імі. Алейныя ж падарыў сябра старэйшага брата, які невядома чаму быў перакананы, што сапраўднае палатно можна намаляваць толькі імі...

Кастусь налюбаваўся на алейныя фарбы, надыхаўся іх прыемным ільняным пахам і рашыў паспрабаваць. Сувой выбеленага палатна захоўваўся ў маці яшчэ з таго часу, калі ў вёсках ткалі.

Хлопец аббіў палатном старую рамку, на белым полі алоўкам зрабіў малюнак знаёмага краявіду, падрыхтаваў фарбы і пэндзлі, палітру і паціху пачаў накладваць мазкі на палатно. Фарбы спачатку не разбаўляў, нават не змешваў. Клаў чыстыя колеры ды і толькі. Навыкі малявання набываў шляхам спроб і памылак. З часам пачало нешта і атрымлівацца. Праз месяц-другі Кастусь ужо мог перадаць блакіт нябёсаў, зяляніну лістоты на дрэвах, паказаць колер глебы — ад жаўтаватага пяску да цёмна-карычневага торфу.

Праз нейкі час з'явілася першая карціна — краявід «Поле». Гэта была яго адзіная праца на незагрунтаваным палатне, своеасаблівая спроба пэндзля. Хлопец паступова зразумеў, што палатно трэба абавязкова рыхтаваць па спецыяльнай тэхналогіі.

Такім чынам ён падняўся на наступную прыступку ў сваёй творчасці.

Праца пайшла весялей.

Кастусь эксперыментаваў з грунтоўкай, смялей змешваў фарбы і клаў іх на палатно. Яго палітра багацела. З часам пачаў рабіць копіі з каляровых рэпрадукцый майстроў жывапісу.

У той час Кастусь вельмі захапіўся кнігаю Джаваньёлі «Спартак». Малады мастак вырашыў зрабіць партрэт галоўнага героя. Першы варыянт — на палатне, загрунтаваным белаю фарбай. Пазней, калі крыху пасталеў, — на грунтаваным кардоне. Фонам стаў эпізод, дзе рабы спускаюцца з крутой гары па лесвіцах, сплеценых з лазы.

Кастусь шукаў і знаходзіў кніжкі па выяўленчым мастацтве, выпісваў рэкамендацыі, неабходныя для творчай працы. З цягам часу ў яго выпрацаваўся ўласны падыход да грунтовак, фарбаў, пэндзляў.

Творчая праца захапляла хлопца. Ён пакрысе спасцігаў недасягальныя раней яе таямніцы, навучыўся заўважаць памылкі і выпраўляць іх.

Так што аўтапартрэт маляваў хоць і малады, але ўжо дастаткова спрактыкаваны мастак.

Як потым Кастусь даведаўся з ліста Тамары, дзяўчаты, з якімі яна жыла ў адным пакоі інтэрната, атрымалі бандэроль без яе, і, заінтрыгаваныя, раскрылі яе і ўсё зразумелі. Партрэт павесілі на сцяне над Тамарыным ложкам.

А яна, прыехаўшы ад бацькоў, аніяк не магла дадумацца: адкуль ён.

Падалося, што хлопец недзе побач, што сяброўкі яго схавалі, каб зрабіць сюрпрыз. Але дзяўчаты супакоілі і адначасова засмуцілі: Кастусь не прыязджаў. У горадзе яго няма.

Як доўга вісеў партрэт, хлопец не ведаў. Іншым разам дзяўчына пісала Кастусю, што ён паглядвае са сцяны даволі строга. Напэўна, на тое былі свае прычыны.

...Тамара пісала Кастусю познімі вечарамі, калі суседкі па пакоі спалі. І ёй здавалася, што хлопец сядзіць насупраць яе, што яна размаўляе з ім. Яна пісала пра тое, што не магла сказаць пры сустрэчах. А сказаць хацелася вельмі многа — патаемнага, асабістага... Лісты атрымліваліся доўгімі, на некалькі старонак.

Кастусю так і не давялося ні разу з'ездзіць у яе цудоўны палескі горад над ракою, зайсці ў інтэрнат, пабачыць пакой, у якім жыла, пазнаёміцца з сяброўкамі. Напэўна, не хапіла нейкага штуршка, каб узяць квіток на чыгуначным вакзале і сесці ў цягнік.

Тамара і сама пазней, перад ад'ездам Кастуся на службу ў войска, сказала: — Якія мы дурныя былі! Столькі часу пісалі адзін аднаму лісты, а так ні разу і не сустрэліся. Столькі часу згубілі, столькі слоў не сказалі!

Тая апошняя сустрэча застанецца ў памяці Кастуся назаўсёды: непаўторны воблік дзяўчыны, яе светлы плашч, светлыя доўгія валасы, чырвоная сукенка і бяздонныя вочы.

Нечаканае пацуццё абудзіла жыццёвыя сілы, быццам сонца выглянула нарэшце з-за хмар.

Хлопец імкнуўся быць вартым свайго кахання.

Юнацкі аўтапартрэт Кастусю пабачыць болей не давялося. А дзявочыя лісты захаваліся — цікавыя, лірычныя, і да таго ж крыху недапісаныя... Кастусь захаваў іх як самую каштоўную рэліквію і даў сабе слова захоўваць заўсёды. Як памяць пра першае каханне, першую вясну юнацтва. У той вясне заўсёды квітнеюць сады, свеціць сонца, зелянее трава, лётаюць матылі і стракозы, гучаць дарагія галасы родных і сяброў...

## Я буду цябе ўспамінаць, як...

*Гэта добра, што ты памятаеш той час, калі мы былі разам...*
(З дзявочага ліста)

У пакоі Кастуся на стале ўжо два тыдні ляжыць павестка з абласнога ваенкамата аб прызыве ў войска. Маленькая паперка — шэрая ды вузенькая. Але яна знакавая ў жыцці хлопца.

Пралятаюць апошнія дні красавіка, апошнія імгненні цывільнага жыцця перад сустрэчай з цырульнікам на зборным пункце, які не будзе пытаць, як пагаліць? Такая проза васямнаццацігадовага ўзросту...

Непрыкметна надыходзіў дзень развітання з роднымі, сябрамі, суседзямі...

Было цёпла. Вясна шумела свежай зелянінай, бялелі сады ад буйнай квецені, п'яніла чаромха. Сонца дарыла зямлі і людзям цяпло.

Кастусю не верылася, што хутка ён развітаецца з гэтым родным, любым краявідам, шумам і звонам, цяплом і святлом. І загадкавая будучыня адкрывалася як невядомы сон надыходзячай ночы. Гадаць — цяжка, жадаць — можна...

У апошні дзень красавіка Кастусь вяртаўся дадому бліжэй да вечара ад свайго сябра — аднакласніка Сяргея. Павесткі аб прызыве ў войска былі падпісаны на адзін час. Пашчасціла...

На падыходзе да свайго дома хлопец сустрэўся з паштальёнкай — маладой, сімпатычнай дзяўчынай Святланай, якая намагалася адчыніць засаўку ад брамкі.

— Вы тут жывяце? — спытала яна і крыху зачырванелася. У той жа момант дастала са скуранай торбы тэлеграму і папрасіла распісацца.

Сэрца Кастуся спалохана-прыемна зайшлося, па ўсім целе разлілася гарачыня. Тэлеграмы не так часта прыносілі ў іх сям'ю, можна сказаць, усяго некалькі разоў. Але ў гэты момант хлопцу падалося, што гэта абавязкова яму, бо ў доме толькі і было размоў пра яго службу ў войску, пра далейшы лёс...

Стоячы ля брамкі, прызыўнік нецярпліва разгарнуў паперку і пачаў чытаць дарагія для яго словы. Яны былі адрасаваны толькі яму і нікому больш. «Прыязджаю заўтра першага ранкам дызелем. Цалую. Тамара».

Заўтра ранкам прыязджае яна, Тамара, якую ён не бачыў цэлыя два гады.

Кастусь неверагодна ўзрадаваўся гэтым скупым, але такім жаданым і дарагім словам. І яшчэ яму вельмі пашчасціла, што тэлеграму ён атрымаў з рук у рукі. Да яго ў доме ніхто не чытаў яе, не бачыў, не трымаў у руках...

Раптоўная хваля шчасця падхапіла хлопца і нібы на крылах панесла ў дом.

Кастусь па некалькі разоў разгортваў і складваў тэлеграму, чытаў, перачытваў, кожны раз знаходзячы ў скупых словах новае гучанне.

... Ранак святочнага майскага дня быў ветраны. Па небе, нібы на свежай акварэлі, расплыліся хмаркі зірванымі бакамі. Вецер гнаў іх, як вялізарныя бела-чорныя футбольныя мячы па шырокім полі. Аднак адчувалася, што надвор'е ўсё-такі не сапсуе свята. Светлыя сонечныя прамяні абнадзейліва прабіваліся паміж шэрых шматкоў брудных хмараў...

На вакзал Кастусь прыйшоў задоўга да прыбыцця цягніка. Людзі, па-святочнаму апранутыя, спяшаліся да цэнтральнай плошчы, месца, дзе павінна адбыцца святочная дэманстрацыя.

Гучала музыка. І свята адчувалася ва ўсім. Настрой быў такі, што хацелася ўзляцець высока над зямлёю і лунаць, пазіраючы зверху на вуліцы, дамы, па-святочнаму апранутых людзей.

Сонца паступова пачало прабіваць хмары, салідарнае з агульнай радасцю.

На вакзале таксама адчувалася ажыўленне.

Кастусь узрушана хадзіў па пероне, углядваўся ў твары людзей. Ім было весела, хаця ў кожнага — свае думкі, свае клопаты...

Чым менш заставалася хвілін да прыбыцця цягніка, тым больш хлопец хваляваўся. Розныя неспакойныя думкі прыходзілі ў галаву.

«А калі не прыедзе? А што, калі?..»

Усё магло здарыцца. А раптам Тамара перадумала ў самы апошні момант?..

А яму вельмі-вельмі хацелася, каб яна прыехала. Было б несправядліва, калі б гэта не адбылося.

Наступаў момант ісціны. Чаканы цягнік імкліва набліжаецца да вакзала.

Кастусь прыпыніўся ля пешаходнага моста бліжэй да выхаду.

Працяжна заскрыгаталі тармазы. Вагоны паціху замарудзілі ход і раптоўна спыніліся. Адчыніліся дзверы, і людзі пачалі шумна выходзіць з вагонаў.

Хлопец углядваўся і чакаў, але дзяўчыны не было відаць...

Вагоны пакінулі апошнія пасажыры. Перон пакрысе пусцеў... Тамары не было.

Кастусь пайшоў уздоўж саставу, азіраючыся па баках.

«Што здарылася?! Няўжо не прыехала? Чаму?»

Самыя розныя думкі мітусіліся ў галаве. Настрой пакрысе мяняўся. Кастусь няспешна пакрочыў у адваротным напрамку. Аднак усё марна.

Зноў прыпыніўся ля моста, пастаяў некалькі хвілін.Тамары не было . Стала сумна, самотна сярод людзей, сярод свята. Нічога не заставалася, як зноў пайсці ўздоўж цягніка...

Ужо зусім мала пасажыраў заставалася на пероне, а дзяўчыны не было

«Напэўна, усё ж такі не прыехала. Нешта здарылася ці перадумала? — мучыў сябе здагадкамі хлопец. — Што ж рабіць?»

Кастусь у каторы раз пайшоў уздоўж цягніка, які самотна прытуліўся да перона. Яшчэ больш пільна ўглядваўся ў постаці людзей.

І раптам нешта светлае, знаёмае мільганула наперадзе, справа ад прыпынку таксі. Быццам зямля знікла з-пад ног у Кастуся. Ён на нейкую хвіліну прыпыніўся, перастаў нават дыхаць. Сэрца закалацілася, як у злоўленай птушкі.

Хлопец убачыў Яе.

Тамара стаяла тварам да цягніка. Светлыя валасы (ён яе такою прыгожаю яшчэ ніколі не бачыў) развіваліся пад ветрам. Твар сур'ёзны, задумлівы. Светлага колеру плашч прыгожа аблягаў яе стройны стан. А ўся постаць нібы крычала:

«Дзе ён?! Чаму няма?!»

Дзяўчына прыкметна вылучалася сярод іншых, ёю нельга было не залюбавацца. Кастусь не мог адвесці ад Тамары вачэй, любаваўся ёю здалёк. Вось, нарэшце, і доўгачаканая сустрэча!

Яна не заўважала яго, і ён атрымліваў асалоду ад маўклівага сузірання.

Уся светлая, чыстая, дзіўная, яна стаяла ў чырвона-белым адзенні, як нявеста ў даўніну...

І вось, нарэшце, Тамара азірнулася і пабачыла Кастуся. Абрадавалася, крыху збянтэжылася, расчырванелася. Тая ж самая, але крыху пасталелая і яшчэ больш прыгожая.

Яны сціпла павіталіся і доўга не маглі знайсці адно для другога патрэбныя словы. Два гады, што не бачыліся, наклалі свой адбітак на гэтыя першыя хвіліны сустрэчы. У лістах усё было прасцей. І зусім іншая справа, калі побач,адно насупраць другога.

Яны крыху пастаялі на пероне, трымаючыся за рукі. Як не хапала абоім такіх вось сустрэч!

Хлопец з дзяўчынаю падняліся на пешаходны мост. Загучала музыка, і сталі чутны галасы людзей, якія спяшаліся на святочную дэманстрацыю. І нават сонца, як падалося, стала святлейшым.

Плячом да пляча яны ішлі па драўляным мосце і ўспаміналі...

Кастусю прыемна было побач з Тамараю, такою блізкай і ў той жа час пакуль яшчэ такой далёкай.

Яны накіраваліся ў цэнтр горада паглядзець святочную дэманстрацыю.

— Давай перакусім дзе-небудзь, — прапанавала дзяўчына, калі абое крыху прытаміліся ад хады.

Кастусь і Тамара падняліся па прыступках у невялічкую кавярню. Людзей было няшмат. Няспешна елі, падоўгу глядзелі адно на аднаго, кранаючыся далонямі рук.

Пасля паціху крочылі па вуліцах у бок старога горада.

Кастусь апавядаў дзяўчыне пра сваю працу на заводзе, куды ўладкаваўся пасля таго, як не прайшоў па конкурсе ва ўніверсітэт. Расказваў пра сяброў і настаўнікаў, якія дапамагалі адчуць сябе сапраўдным мужчынам, пра блізкую службу. Дзяўчына з цікавасцю слухала і толькі ўсміхалася.

Яна адчувала сябе як ніколі шчаслівай.

— Гэта — мой шчаслівы дзень! — радваўся Кастусь, прыгладжваючы па звычцы свае цёмныя валасы далонню, нібы правяраючы, ці не прайшла па іх машынка.

— Ён — быццам вясёлка пасля дажджу! І ўсё гэта, дзякуючы табе, Тамара.

Яны доўга гулялі па старым горадзе, моўчкі стаялі ля стэндаў ваеннага музея.

А ў самую спёку адшукалі ціхае месца ў цяньку на лаўцы. Сюды не далятала ніводнага гуку, і здалося, што навокал усё жывое дрэмле ў сонечнай калысцы.

Кастусь любаваўся дзяўчынаю. Сэрца гучна тахкала ў грудзях...

Яны абое пасталелі. Відавочна сталі больш сур'ёзнымі за прамінулы час. Яны ізноў успаміналі першыя сустрэчы ў вёсцы, калі бачыліся кожны дзень па шмат разоў, калі сонца і вецер былі іхнімі сябрамі...

Хлопцу ўвесь час хацелася пацалаваць дзяўчыну ў вусны — доўга-доўга, каб не адчуваць бегу часу, забыць пра ўсё навокал. Іхнія душы імкнуліся насустрач.

Дзявочыя далоні леглі хлопцу на плечы, іхнія вусны судакрануліся, як пад павевамі ветру лісце дрэва, у цені якога яны сядзелі...

... А час ляцеў. Трэба было збірацца. Увечары Кастусь яшчэ хацеў трапіць да сябра на провады. Яму вельмі хацелася, каб разам пайшла і Тамара, каб шчасце спаткання цягнулася як мага даўжэй.

— Пойдзем разам са мною. Ты не пашкадуеш, — прапанаваў хлопец, трымаючы рукі дзяўчыны ў сваіх, гледзячы ёй ласкава ў вочы, у якіх адбівалася блакітнае неба, белыя аблачыны і сонца...

Тамара думала. Ёй таксама хацелася пабыць разам з Кастусём, многае яшчэ сказаць яму. Але ў той жа час нешта перашкаджала, хаць наступны дзень быў таксама вольны.

— Ты зразумей мяне, Кастусёк, як я буду адчуваць сябе сярод незнаёмых людзей. Вам, хлопцам, прасцей. А мне іначай... Потым давядзецца ісці да тваіх бацькоў, там начаваць. Да ўсяго ранкам табе ў ваенкамат...

— Выбачай. Не магу, не гатова яшчэ... — Тамара гаварыла ласкава, пяшчотна, з каханнем у вачах, і Кастусь не пакрыўдзіўся.

Ён разумеў, як ёй было цяжка зараз паміж імкненнем застацца і вярнуцца дадому.

Урэшце дайшлі да вакзала. І дзяўчына ўсё ж такі не змагла перамагчы сябе, застацца з Кастусём.

Кастусь купіў білет.

— Пакінеш сабе на памяць аб нашай сённяшняй сустрэчы, — усміхнуўся ён і далікатна паклаў білет у далонь дзяўчыне.

Тамара ў адказ дастала са сваёй чорнай сумачкі сцізорык. Ён быў невялічкі, пляскаты, з малюнкам на абодвух баках. Такая маленькая, але патрэбная рэч. А галоўнае — памяць аб ёй.

Усё менш хвілін заставалася быць разам.

Кастусь трымаў дзяўчыну ў абдымках, як цудоўную птушку, баючыся яе адпусціць.

Ён адчуваў, як неспакойна калоціцца яе сэрца. Хлопцу здавалася, што калі Тамара зараз паедзе, то ён ніколі больш яе не ўбачыць. Не пацалуе, не абдыме, не скажа слоў кахання, якія пачуць павінна толькі яна, яго Тамара...

Цягнік крануўся, і дзяўчына, стоячы ў тамбуры, глядзела на Кастуся і ўсміхалася сумна і вінавата.

— Я буду цябе ўспамінаць, як... Ці то Тамара не дагаварыла, ці то Кастусь не пачуў яе апошнія словы. Грукат колаў заглушыў іх майскім вечарам на чыгуначным вакзале...

Знік цягнік, заціх грукат колаў... Хлопец нетаропка пакрочыў у бок свайго дому.

Здавалася: усё адбылося як у прыгожым каляровым сне, і спатканне доўжылася ўсяго адно імгненне.

Яны дамовіліся: калі толькі вызначыцца пастаяннае месца службы, Кастусь адразу напіша. Два гады праляцяць непрыкметна. І яны сустрэнуцца гэтак жа, як і сёння.

«Ты ўсё яшчэ са мною. Са мною пах тваіх валасоў, святло тваіх блакітных вачэй, дотыкі далоняў, шчок, вуснаў, дотыкі твайго дрыготкага цела... Ты побач са мною будзеш заўсёды,» — прамаўляў у думках Кастусь, паціху правальваючыся ў сон апошняй ночы ў бацькоўскім доме. Ягоныя вусны шчасліва ўсміхаліся.

...Лісты ад Тамары прыходзілі спачатку часта, а пасля ўсё радзей. Нарэшце, пасля працяглага перапынку, салдат атрымаў ліст, у якім яна паведаміла, што выйшла замуж.

«Ты абавязкова сустрэнеш яшчэ дзяўчыну з блакітнымі вачыма... Я ж буду ўспамінаць цябе, як...» — напісала Тамара. Апошнія словы былі густа замаляваны шарыкавай ручкай...



# Вінцэсь Мудроў

пражаік. Аўтар кніг прозы: «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Пераўтвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

# Дзень нараджэння

## *Алена, 24 гады*

*Дзе ўпершыню пачула пра «Бітлз»? Пачакай, зараз згадаю... А, ну так... я тады ў шостым класе вучылася і сядзела за адной партай з Веркай Дзюжавай. А яна страшэнная модніца была. Неяк косы абрэзала ды манікюр зрабіла, дык яе настаўніца біялогіі з урока выгнала. І вось гэтая Верка ўбілася неяк у Клуб інтэрнацыянальнай дружбы, і там ёй адрас далі — дзяўчыны з Будапешта. Такой жа, як і яна, шасцікласніцы. Напісала ліста і вугорка піша ў адказ: «Надашлі мне, Вера, джынсы і малінавы джэмпер». Відаць, у Будапешце думалі, што ў нас тут камунізм, і крамныя паліцы ломяцца ад джынсаў. А мы іх тады ў вочы не бачылі. А ў другім лісце прыслала выцінку з нейкага часопіса: чацвёра кудлатых хлопцаў стаяць на тле нью-ёрскага хмарачоса. Вугорка напісала, што гэта ансамбль «Бітлз», і што яна папросту вар'яцее ад іх песень. Мы тую выцінку ўсім класам па дзесяць разоў перагледзелі. Потым ужо стала цікавіцца — што гэта за ансамбль такі. Аднак ніякай інфармацыі не было. Даведалася толькі, што кіруе ансамблем Ленан, а намеснікам у яго Макартні. Распавядалі пра іх розную лухту. Маўляў, гралі на гітарах у нейкім ліверпульскім падвале, іх там пабілі, дык небаракі ў Нямеччыну падаліся. Сталі там граць у партовым шынку, а потым вырашылі шынок падпаліць, прычым, разам з наведнікамі... А ўжо праз пару гадоў прыйшла да той самай Веркі — мы з ёй разам алгебру рабілі — і сяброўка на радыёлу «Кругозор» паставіла. Часопіс быў такі, з вінілавымі кружэлкамі і з дзіркай пасярэдзіне. «На суткі далі», — паведаміла Верка, апусціла гуказдымальнік, і я пачула песню, ад якой нават галава закружылася. Ніколі раней не чула такой пранікнёна-шчымлівай мелодыі. Тры разы запар паслухалі, пытаюся: хто спявае? «Бітлз» — адказвае Верка. Я не дала таму веры, а сяброўка зняла «Кругозор» з кружэлкай і тыцнула мне пад нос. Я і прачытала: «Дзяўчына» Ангельская народная песня. Апрацоўка Ленан-Макартні». Ад здзіўлення нават рот разявіла. «Слухай, — кажу, — а дзе той здымак... з Будапешта?» Сяброўка ўздыхнула і падупалым голасам паведаміла: «Выкінула здуру. Я ж не ведала, што яны такія песні спяваюць».*

Яйкі маці, як заўсёды, перасмажыла. Доўга жую гумападобную масу, а каб нечым заняць рукі, адрываю лісток календара, што вісіць над сталом. Сёння ў нас 4 сакавіка 1977 года.

— «Сто гадоў з Дня нараджэння Аляксандра Гедыке — расейскага савецкага кампазітара», — уголас, з едзівам у роце, чытаю каляндарную зацемку і ўжо бязгучна дадаю: «І дваццаць пяць гадоў з Дня нараджэння Лёшкі Макарэні».

Увечары іду да Лёшкі на Дзень народзінаў. Праграма юбілейных урачыстасцяў вядомая: будзе, як заўсёды, балгарскі каньяк «Пліска», бутэлька шампану, музыка Вівальдзі (Лёшку ён вельмі падабаецца), рэстаранныя антрэко-

ты (жонка працуе бухгалтаркай у трэсце сталовых і рэстаранаў) і бясконцыя размовы на вольныя тэмы.

— Ма! — гукаю, спрабуючы перакрычаць шум вады ў ваннай. — Маці, як заўсёды такой парой, мые бялізну. — Сёння позна прыйду... у Лёшкі збіраемся.

— Ізноў нап'ешся?! — гучыць з ваннай.

Заплюшчваю, з гіморай незадаволення на твары, вочы, збіраючыся пачуць матчыны дакоры, а калі зноў расплюшчваю, бачу чырвоныя, з пісягамі празрыстай пены рукі і заклапочаны матчын твар. Маці ідзе на кухню, на хаду выціраючы рукі хвартухом.

— Выпіў раз, дык цяпер усё жыццё будзеш згадваць, — незадаволена мармычу сабе пад нос ва ўнісон з пакутлівым матчыным уздыхам.

На мінулым тыдні сапраўды даў лішку. Мішка Мандрык, мой даўні сябрук, набыў матацыкл. І не нейкі там занюханы «Восход», на якім разбіўся мой бацька, а ИЖ-«Юпитер-3». Два цыліндры, 347 кубікаў, 120 кэмэ па асфальце! Карацей, абмывалі да самай ночы.

Маці поўніць кубак гарачым малаком, і я рупліва, каб не рассыпаць каштоўны прадукт, кідаю ў кубак лыжку распушчальнай кавы, удыхаю духмяністы водар, і ў мяне злёгку кружыцца галава. Дзіва што! Кава бразільская, таварнага знаку «Касіке»! Алена, Лёшкава жонка, падаравала. А я ёй за гэта кілім на сценку павесіў. Шкада, мала засталося, на самым днечку.

Дарэчы, з Аленінага аповеду я і пачаў свае запісы. Цяпер іх роўна пяцьдзясят. Ехаў учора ў аўтобусе і поруч сеў хлопец маіх гадоў. Спытаў яго пра «Бітлз». Іншыя як пабачаць сшытак, дык адразу енчаць: а навошта гэта пісаць? А навошта вам маё імя? А ці будзеце вы гэта даваць у друк? А той хлопец і вокам не міргнуў — адразу стаў распавядаць.

## *Яўген, 23 гады*

*Мяне на летнія вакацыі ў вёску выпраўлялі, да цёткі. Вяртаўся адтуль загарэлы, брудны і кудлаты. І вось аднойчы прыязджаю з вёскі, і бацька, космы мае ўскудлаціўшы, выдаў: «Давай адразу ў цырульню, а то зарос як тыя бітлы». Я з дзяцінства не любіў цырульні, нават паху тамтэйшага не трываў, і мне карцела хаця б дзень пахадзіць кудлатым. Яшчэ тады падумаў: якія шчаслівыя бітлы, якія адгадавалі даўгія пэцалы, і якіх ніхто не гоніць у цырульню. Спытаў у бацькі — што за бітлы такія? І чую, што гэта нейкія сектанты, якія сваім неахайным выглядам пужаюць людзей. Якраз прачытаў аповесць «Ветер рвёт паутину» — пра сектантаў, — і мяне гэта надта ўразіла.*

*А дзесьці праз год упершыню пачуў тых «сектантаў». У аднаго нашага дружбака, забыўся ўжо прозвішча, сястра скончыла інстытут замежных моваў, патрапіла на стажыроўку ў Індыю і прывезла адтуль бітлоўскую кружэлку. Сябрук жыў у суседнім доме, на першым паверсе, і круціў яе, вакно адчыніўшы. А на кружэлцы не што-небудзь, а «A Hard Day's Night»! Варта*

*толькі вакну адчыніцца, як пад ім адразу ж народ збіраўся. А неўзабаве суседзі ў міліцыю патэлефанавалі — бітлы ім адпачываць перашкаджалі. Пасля таго канцэрты і скончыліся.*

Наш двор з усіх бакоў сціснуты старымі, пацямнелымі ад часу дамамі. У дальнім яго канцы стаіць нехлямяжы павільён — пункт прыёму посуду. Павільён яшчэ не адчыніўся, а ля яго ўжо кратаюцца людзі. Ды не, не кратаюцца. Проста сядзяць, скурчаныя, на скрынях з-пад піўных бутэлек, свецячы ў ранішнім паўзмроку жарынкамі цыгарэт.

Заўсёды са спачуваннем гляджу на тую чаргу. Мне здаецца, што і наша жыццё гэта такое ж перасоўванне ад адной счарнелай скрыні да другой. Спачатку жаніцьба, потым збіранне грошай на тэлевізар, потым доўгае чаканне кватэры... І як скурчаныя людзі ў чарзе лісліва глядзяць на акенца прыёмшчыцы, так і ты мусіш пакорна і з трывогай на сэрцы чакаць жыццёвых даброццяў.

Скажыце, ці ёсць у свеце штосьці больш панылае і безнадзейнае, чым пункт прыёму посуду? З надпісам «Няма тары» на абрыўку абгортачнай паперы, з каламутнай, пакрытай піўнымі налепкамі лужынай, з калейкай хісткіх скрыняў уздоўж сцяны, і густым смуродам мачы, што лунае па азімуту. І пакуль вы будзеце думаць, адкажу: ёсць! Гэта Спецыяльнае канструктарскае бюро станкабудавання, дзе я цягну лямку.

Наша КБ распрацоўвае аўтаматычную лінію. Дакладней, не распрацоўвае, а перарабляе на свой капыл крадзеную эфэргэшную дакументацыю. Адметныя, скажу вам, у немцаў рысункі. На цупкай паўпразрыстай вашчанцы, выканаyя тонкімі каляровымі фламастарамі. Вось мы і пераносім іх на лядашчыя, пакрытыя лёгкім пушком лісты, якія недарэчы называюцца ватманам. Праўда, з пераносам узнікаюць праблемы, бо замест швабскіх помпаў, рухавікоў ды іншай халеры трэба ўплішчыць наша абсталяванне. У немцаў усё кампактнае, мініяцюрнае, а ў нас усё важкае, нехлямяжае. Нічога нікуды не лезе. Гадзінамі стаіш перад кульманам, маракуючы — як замест кампактнага асінхроннага рухавіка ўперці аналагічны, які ў тры разы цяжэйшы і ў пяць разоў большы па памерах.

У тое чортава КБ я патрапіў па размеркаванні, і цяпер тры гады давядзецца калупаць у носе алоўкам фабрыкі імя Красіна. Аж 1096 дзён! На ўскрайку кульмана ўсе гэты дні дробнымі квадратамі пазначыў. Па абедзе адзін квадрат закрэсліваю. Сёння ў мяне 216-ты дзень працы.

... Ехаць даводзіцца чатыры аўтобусных прыпынкі. Цісканіна, вядома ж, неверагодная. Нейкая цётка ў вязанай махеравай шапцы, якая непрыемна казыча маю шыю, гукае ў левае вуха:

— З восені ж заквасіла цэлую бочку капусты. А ў ёй жа зусім няма кіселі.

— І я цэбар паставіла, — гукае ў правае вуха другая цётухна, скаланаючы прастору агідным часнычным перагарам. — І такая ж была храбусткая! А мой Вася ўзяўся ў расол салёныя гуркі піхаць. Смачныя, нібыта потым робяцца. Але ж капуста цяпер стала як вата — зусім не храбусціць.

«Божухна, няўжо так і памру тут, у гэтым горадзе, сярод гэтых напаўзвар'яцелых цётак?» — апанаваны панічнымі думкамі, спрабую прабіцца да выхаду і бачу кучаравую галаву Сені Мотыля.

Сеня класны хлопец. Працуе ў нашым сектары ўжо шосты год, а вышэй другой катэгорыі так і не ўзняўся. Відаць, ужо і не ўзнімецца, бо бацькі мелі неасцярожнасць з'ехаць у Ізраіль. Сеня страшэнны аматар шахмат. Другі разрад мае. Падчас абедзеннага перапынку ўсе бягуць у сталоўку, а другаразраднік дастае дошку і нейкія шахматныя эцюды прыдумляе. Іх потым у газетах друкуюць. Сам бачыў.

Сеня ківае мне галавой, маўляў зараз выходзім, і я, пад незадаволеныя ўздыхі, прабіваюся да задніх дзвярэй.

— Ну як, хвацка Палугаеўскі яго зрабіў? — захоплена пытаецца Сеня, калі мы выкульваемся з аўтобуса.

Згадваю — хто такі Палугаеўскі? Здаецца, у нашым КБ такога няма.

— І каго ён зрабіў? — пытаюся ў Сені, абабіваючы перапэцканыя калашыны штаноў.

— Як каго... бразільца Мекінга. У чвэрцьфінале прэтэндэнтаў, — суразмоўнік хмурыць бровы, не разумеючы — як гэта можна жыць, і не ведаць пра шахматны чвэрцьфінал.

— А, ну так... — мармычу, каб падтрымаць размову, — а ў іншых парах хто гуляе?

— Ты мяне проста здзіўляеш... Спаскі з Гортам, Карчной з Петрасянам і Портыш з Ларсенам.

— Слухай, а я цябе запісваў? — пытаюся, каб перавесці гаворку на іншую тэму.

Сеня ў адказ няўцямна трасе кучарамі.

— Ну пра «Бітлз».

— Ды запісваў... яшчэ да Новага года. Распавёў табе, як фільм на агітпляцоўцы круцілі.

Я лезу ў кішэнь па цыгарэты, але Сеня ляпае мяне па локці. Мы ўжо і так познімся на працу, а таму паліць не выпадае.

## Сымон, 29 гадоў

*Гэта гадоў дзесяць таму было, а можа і больш. У нашым двары дашчаную агітпляцоўку зрабілі. І там улетку лекцыі аб міжнародным становішчы чыталі ды «кіны» круцілі. Ну не мастацкія, а якія-небудзь «Навіны дня» за мінулы год, ці што-небудзь пра бонскіх рэваншыстаў. Аднойчы нават пра баптыстаў быў фільм. Там нейкі прайдзісвет у чорнай мантыі збіў разам два шавецкіх капылы, намазаў ступакі гуталінам і сярод ночы пазначаў падлогу малельнага дома чорнымі слядамі. А на раніцу абвясціў, што малельню сам Хрыстос наведаў і пакінуў па сабе сляды. Ну гэта я так... дзеля ілюстрацыі таго, што там дэманстравалі. Дык вось, аднойчы на агітпля-*

*цоўцы «Бітлз» паказалі! Спачатку на экране нейкія людзі беглі. Потым узнік размыты фотаздымак, і сіпаты голас за кадрам іранічна паведаміў: «А гэта сумна вядомы ансамбль «Бітлз». Потым з'явіўся здымак Рынга Стара і сіпун з насмешлівай інтанацыяй распавёў, як таму дзерлі гланды, а пад бальнічнымі вокнамі віраваў натоўп экзальтаваных дэвотак. Маўляў, зусім ангельскія дзеўкі з глузду з'ехалі. Затым узнік усё той жа Рынга Стар з нейкай дзяўчынай, і голас за кадрам паведаміў, што гэта Джон Ленан са сваёй жонкай. «Зараз яны прыстойна апрануты, — казаў дыктар, — а на сцэне выступаюць у адных майтках і з унітазнымі седаламі на шыях». А пры канцы паведаміў, што калі бітлы пазарасталі як дзікабразы, і пачалі сваімі фрызурамі пужаць людзей, іх узяў пад крыло адзін лонданскі дзялок, які вырашыў ababіць капейчыну на рэкламе гэтых гора-музыкаў. У выніку пачаўся масавы псіхоз: дзеўкі на канцэртах млелі і іх выносілі на паветра, а мальцы ламалі ў зале крэслы і біліся з паліцыяй. А яшчэ ў тым «кіне» бітлоў урубілі. Але ж ціха, ледзь чутна. Да таго ж сіпун увесь час балбатаў... І вось наш сусед, Сашка Мікуліч, — старэйшы быў ад мяне на пару гадоў, — як закрычыць: «Ды памаўчы ты, гад, дай песню паслухаць!» Нібыта дыктар мог яго пачуць. А як фільм скончыўся, Сашка падбег да кінамеханіка і стаў прасіць яшчэ раз крутнуць. Кінамеханік нібыта пагадзіўся, але дзядзька, што напярэдадні лекцыю чытаў пра імперыялістычныя падкопы, не дазволіў.*

Наш сектар месціцца на пятым паверсе. Бяжым па лесвіцы, пераскокваючы праз тры прыступкі, пхаем шкляныя дзверы і ўзбіваемся на загадчыка сектара Уладзіміра Ільіча Макагона. Той, па старой завядзёнцы, стаіць ля ўвахода, а ўбачыўшы нас, дакорліва хітае галавой.

Макагон рэдкасны зануда. Чытае натацыі як мінімум па паўгадзіны. Прычым чапляецца да любой лухты. Ну а калі хто спазніцца на працу, тут ужо можа трындзець цэлую гадзіну. Зрэшты, не... на гадзіну ў яго духу не хапае, бо раз-пораз бегае ў прыбіральню. Пакутуе на застарэлы прастатыт, а таму кабэшныя зласліўцы перайначылі ягонае прозвішча і міжсобку завуць Мачагонам.

Я плюхаюся ў крэсла, паныла гляджу на ліст з рысункам задняй бабкі і чую шаргатлівыя крокі па той бок кульмана.

— Што, зноў позніцеся?

— На тры хвіліны, — мармычу, пстрыкнуўшы пальцам па шкельцы гадзінніка.

— Тры хвіліны, — выдыхае Мачагон і па-ленінску выпроствае руку. — Гляньце, усе на сваіх месцах. Усе ўжо даўно працуюць. Вы ж малады спецыяліст... Вы мусіце з'яўляцца на працы адным з першых. Падрыхтаваць працоўнае месца, уключыць святло... — Мачагон тыцкае пальцам у лямпу, што прымацаваная да кульмана, але тут жа адкідвае руку і ляскае зубамі. Лямпа б'е токам. Мачагона, падобна, дзеўбанула як мае быць. Нават валасы ўстаўбурыліся. Загадчык сектара азіраецца, папраўляе збіты набакір гальштук.

— Ну Мотыль спазняецца, дык яму яшчэ можна даравацць, бо выконвае заданні ў тэрмін. А вы... Калі павінны былі здаць гэты вузел? Тыдзень таму? І што гэта ў вас тут за здымкі? — палец Мачагонавы з насцярожлівай павольнасцю блізіцца да бітлоўскага здымка, што прылеплены да кульмана. — Да вашага ведама: ніякія пабочныя рэчы ляпіць на кульман не дазваляецца. Калі што і вешаць, дык толькі ДАСТы ды іншыя даведачныя матэрыялы.

Прыкусваю вусну, неадрыўна гляджу на чорную поліэтыленавую сметніцу, што стаіць пад нагамі, і ў свядомасці нараджаюцца трывожныя думкі. Пару гадоў таму, як мне апавядалі, Мачагон так дапёк аднаго маладога спецыяліста, што той не вытрымаў і насунуў яму на галаў поліэтыленавую сметніцу. Ды яшчэ, дзеля большага эфекту, кулаком па днішчы ляснуў. Спецыялісту не было чаго губляць — яго ў войска забіралі. Мотыль казаў, збіраліся, небараку, крымінал шыць, потым на нейкую камісію выклікалі, але той ужо ботамі па пляцу бухаў.

— Не пазней пятніцы гэты вузел, — Мачагон ківае на мае крамзолі, — павінен быць здадзены.

Я ўздыхаю, нацягваю на руку гумовую хірургічную пальчатку — адмыслова набыў, каб токам не біла, — уключаю лямпу. У авале зыркага святла панылa торгаецца мой цень — віслая чупрына і нос-бульбіна.

— Парупіўся б лепш лямпы адрамантаваць, — прамаўляю, калі зануда, нарэшце, адыходзіць.

Поруч са мной стаіць Сеня Мотыль і, мылячы вуснамі, штосьці малюе на ватмане. Сеніна лямпа таксама б'е токам. Праўда, не так моцна. Я прапанаваў быў калегу другую пальчатку, але той адмовіўся ды яшчэ з усмешкай галавой пахітаў. А ўсё з-за таго сходу, на якім наша спецыяльнае канструктарскае бюро «павышаныя сацыялістычныя абавязацельствы» прымала. Я сядзеў ззаду, чытаў нейкую кніжку, а калі запыталіся: хто «за»? — выцягнуў з кішэні хірургічную пальчатку, надзьмуў і падняў угору. Відаць, гэта смешна выглядала, бо ўсе на мяне азірнуліся і пырснулі смехам. А ў начальніка аддзела кадраў Гнядых, які зачытваў абавязацельствы, ад нечаканасці з носу акуляры зваліліся. Гнюсны, дарэчы, тып. Адстаўнік. На працу мяне афармляў, дык загадаў у цырульню ісці. Фрызура мая не спадабалася. «Пакуль не падстрыжэцеся, на працу не аформлю». «Ну і не афармляйце, — кажу, — і яшчэ дадаў: не блытайце, таварыш начальнік, казарму са спецыяльным канструктарскім бюро». Давялося ўсё ж такі мяне аформіць. А калі выходзіў з ягонага катуха, кінуў мне ў спіну: «Такіх як ты свойчас да сценкі ставілі».

Фотку бітлоў нехта ўжо спрабаваў аддзерці. Ці не Мачагон? На левым верхнім ражку бачныя драпежныя белыя драпіны. Але надзейна прыклеіў — непасрэдна на драўляную паверхню. Тут у кожнага на кульмане штосьці прылеплена. Вунь, у Сені, прыкладам, фотаздымак Міхаіла Таля з нейкага латышскага часопіса. Гросмайстар сядзіць за шахматнай дошкай і паліць цыгарэту. Міхаіл Таль — Сенін кумір. Калі хто пытаецца — чыя гэта фотка? — калега спачатку крыўдуе — маўляў, як гэта так, не ведаць Міхаіла Таля, — а потым пачынае

захоплена апавядаць: «Уяўляеце, у сямнаццаць гадоў стаў майстрам спорту.... У дваццаць — чэмпіёнам Саюзу... У дваццаць тры — чэмпіёнам свету!» Аднойчы Мачагон і да Таля прычапіўся. Падышоў да Сенінага кульмана, кіўнуў галавой на здымак і з агіднай усмешачкай прамармытаў: «Ну і апанавалі ж вы шахматы». Габрэеў меў на ўвазе. Сеня звычайна, калі ягоную нацыю згадвалі, маўчаў, бровы насупіўшы. А тут не стрываў. «Дык у чым, Уладзімір Ільіч, справа? Сядайце за дошку насупраць Таля, выігрывайце — і вы шахматны свет апануеце». Макагон пасля таго і ўзяўся Сеню са свету зводзіць.

Ну а ў мяне куміры, як вы здагадаліся, бітлухі. Цяпер ужо і не магу згадаць, калі пачаў імі захапляцца. Відаць, тым навагоднім вечарам, калі я, трынаццацігадовы падшпарак, сядзеў ля радыёлы і круціў ручку настройкі. Бацька ніколі не падпускаў увечары да прыймача. Але ж менавіта ўвечары радыёэфір ажываў і поўніўся таямнічымі галасамі, няўцямнымі, падобнымі да выцця цыркуляркі зыкамі, і дзіўнай музыкай, якую ўдзень ніколі не пачуеш. Але вось бацькі выправіліся да суседзяў сустракаць Новы год, а я прысеў да радыёлы і націснуў клавішу КВ1. На кароткіх хвалях гучала агідная індыйская музыка, грымелі нейкія вайсковы маршы, нехта зацята бубніў на незнаёмай мне мове, і раптам да вушэй даляцела чароўная песня. Спявалі яе зычнымі галасамі, і ад таго спеву ў мяне на хвілю спынілася сэрца. Я прыціснуў вуха да гаргарыстай «Латвіі», каб лепей пачуць песню, але яна пачала аддаляцца, пакуль дарэшты не аціхла, саступіўшы месца замарачнаму шуму. Гэта была знакамітая All My Loving. Я тады ні назвы песні не ведаў, ні выканаўцаў, але зразумеў, што ў свеце ёсць мясціны, дзе жыццё зусім не такое, як у нас, і дзе маладыя зычныя галасы выконваюць такія зонгі, ад якіх на момант спыняецца сэрца.

Цікавая была пара, скажу вам. Час спазнавання свету. А з якім захапленнем разглядаў потым кожны бітлоўскі здымак! Але ж якія гэта былі здымкі... Цьмяныя, сто разоў перазнятыя, на якіх з цяжкасцю можна было разабраць — дзе там Джон, дзе Пол, дзе Джордж, а дзе Рынга. Мне наогул здаецца, што «Бітлз» — гэта лепшае, што было ў нашым 20-м стагоддзі. Скажы гэта таму ж Мачагону ці, яшчэ горш, Гнядых, дык відавочна напішуць куды трэба. Як жа... Не кастрычніцкая рэвалюцыя, не савецкая ўлада самыя лепшыя ў свеце, а нейкія патлатыя крыкуны з ліверпульскага падвала. Але Мачагон з адстаўніком памруць, а бітлы будуць жыць. Яны і савецкую ўладу пераўжывуць. Гэта не мая думка, а адной дзяўчыны з суседняга сектара. Праўда, я гэты сказ не запісаў. Халера яго ведае — у чые рукі можа патрапіць сшытак... Дык вось... Пра сшытак. Заманулася мне, акурат праз дзесяць гадоў пасля той навагодняй ночы, запісаць аповеды аднагодкаў пра тое — дзе і калі яны ўпершыню пачулі ліверпульскі квартэт. Цікавых аповедаў наслухаўся. На сённяшні дзень ужо сорак старонак спісаў.

Спрабую засяродзіцца, праводжу алоўкам першую рысу, і ў гэты момант у дальнім канцы сектара гарлаюць маё прозвішча. Там, у дальнім канцы, знахо-

дзіцца адзіны на нашым паверсе тэлефон, пры якім сядзіць дзяжурны і адказвае на званкі. Дзяжурыць даводзіцца раз на месяц. Звычайна той, хто сядзіць пры тэлефоне, нічога не робіць, бо ўвесь час трэба бегаць ды некага клікаць. Тыдзень таму і я «адбываў радоўку». Дык прыцягнуўся Мачагон, зірнуў на пусты кульман і скрозь зубы працадзіў: «Чаму не працуеце?»

... Бяру потную слухаўку і чую зумклівы Лёшкавы голас:

— Ну, не забыў? Сёння мой дзеньнар!

— Такое не забываецца, — жартам адказваю я. — Мінулы дзень народзінаў Аляксея Макарэні адзначылі па поўнай праграме. Двое з дарэшты ўпітых гасцей нават у апорны пункт міліцыі патрапілі.

— У Алены на мінулым тыдні бабуля памерла, таму ўсё будзе сціпла. Апроч цябе ды Мішкі яшчэ стрыечны брат прыйдзе. Ну, памятаеш, той самы, што на «Беларусьфільме» працуе. Так што чакаю.

У слухаўцы штосьці пстрыкае, абурана гудзе, нарэшце, жаласліва пікае.

«Яно і добра, што збіраемся вузкім колам», — думаю я, кідаючы слухаўку на вагар. Адно кепска — ізноў будзе гэты смоўж з «Беларусьфільма». Імя ягонае ўжо вылецела з галавы, а вось прозвішча памятаю — Бакулін. Кінематаграфіст надта ўжо ганарысты: палкай носа не дастаць. Лёшка казаў, асістэнтам рэжысёра працуе. Мішку Мандрыку, як і мне, такія дзеячы не ў прыкуску. Мінулым разам завёўся з кінематаграфістам за сталом, дык ледзь разнялі. Нават фужэр разбілі.

Мішка Мандрык, мой колішні аднакласнік, працуе слесарам на станцыі тэхабслугі. Вольным часам сабраў з нейкіх двух ламачын матацыкл. Хацеў мне прадаць, за сімвалічную цану. Але ж маці пасля бацькавай смерці пры слове «матацыкл» з твару марнее. А яшчэ сябрук страшэнны патрыёт. Апрача матацыклаў, цікавіцца ўсім беларускім. Кажуць, нават вершы піша на роднай мове. Праўда, ён іх мне ніколі не дэкламаваў.

Вяртаюся да кульмана, і Мачагон, глянуўшы ў мой бок, з робленай пакутай уздыхае. Ды так, што вымпел «Ударнік працы», што стаіць на ягоным стале, паволі круціцца вакол сваёй восі. Вымпел прымацаваны да пластмасавага, падобнага на шыбеніцу, старчака.

Божухна, каму патрэбная тая ўдарная праца? Славік Грахоўскі з эканамічнага аддзела, з якім разам абедаем у сталоўцы, падлічыў, што куды танней набыць у немцаў гатовую аўтаматычную лінію, чым утрымліваць нашу «кантору» ды марнаваць каштоўны метал. Славік не толькі спраўны эканаміст, але яшчэ весялун і зацяты курыльшчык. Увесь час тырчыць на калідоры, дзе ў нас месца для палення. Мачагон аднойчы і да яго пачапіўся. «Чаму, — пытаецца, — не працуеце, а ўвесь час курыце?» Калі хвалюецца, Мачагон заўсёды «ч» і «р» раскаціста прамаўляе. А Славік пусціў яму дым у твар і з тым жа пранонсам адказаў: «Я кур-ру, таму што я хач-чу кур-рыць!». Зануда ж яму не начальнік, таму так і адказаў. Цяпер хто з курцоў у калідор выходзіць, адразу пытаецца: «Чаму вы ўвесь час кур-рыце?» І яму ў адказ

гамузам адказваюць: «Таму, што мы х-хочам кур-рыць!» Грахоўскі, дарэчы, патрапіў у сшытак.

## Славік, 26 гадоў

*Дзе пачуў? Па тэлевізары. Перадача была такая: «У аб'ектыве Амерыка». Ну там розныя страхоцці пра Амерыку распавядалі. А пачыналася яна з застаўкі: паказвалі Брадвей і бітлы спявалі «Can't Bue Me Love». Заканчвалася перадача таксама гэтай песняй. Калі ўпершыню яе пачуў, проста ашалеў. Так яна мяне захапіла. Гэта было ў нядзелю. А ў панядзелак прыйшоў у школу, а там толькі і размоваў пра «Бітлз», якія ўчора па тэлеку спявалі. У мяне сябар быў — Пецька Рыжык. А ў яго дома магнітола «Нерынга» стаяла. Вось мы з ім і вырашылі запісаць, як будуць наступным разам пра Амерыку распавядаць, тую песню. Запісалі, і потым Пецьку адбою не было ад ахвочых бітлоў паслухаць. Аднойчы нават «Нерынгу» на школьны «агеньчык» цягалі. Цяжкая, халера. 26 кілаграмаў.*

Зранку было адліжна, а з вечару падмарозіла, і пад нагой прыемна храбусціць ледзяная кароста.

Бачу ў вечаровым паўзмроку няўклюдную Мандрыкаву постаць і махаю рукой.

— Уяўляеш, ехаў учора па Слуцкай шашы і ледзь не навярнуўся, — яшчэ здалёк апавядае Мішка пра свае мотапрыгоды. — Ганю ля Самахвалавічаў, і тут — бац! — нейкі ёлупень на «газоне» на сустрэчку вылятае. Ледзь ухіліўся. Скуранкай борт зачапіў.

— Ты там асцярожней, — кажу ў адказ, паціскаючы цёплую сяброву руку, — мой бацька дзесяць гадоў на матацыкле ганяў, а вось жа... — Я абрываю фразу, мы разам уздыхаем і глядзім на асветленыя вокны Лёшкавай кватэры.

— Сёння гармідару не будзе, — мармычу, выкалупліваючы з пачка цыгарэціну. — У Ленкі бабуля памерла, так што будзем адзначаць без шуму і пылу. Толькі нас з табой запрасіў, ды яшчэ стрыечнага брата.

— Гэта таго... кінематаграфіста? — са з'едлівай іроніяй у голасе пытаецца Мішка, і я сцішана мармычу: — Ты ўжо з ім асабліва не заядайся.

— Ды патрэбны ён мне, як сабаку другі хвост, — Мішка прыпальвае цыгарэту. — Колькі часу стаім і палім пра запас, бо Ленка не любіць тытунёвага дыму.

Кішэня Мішавай курткі злёгку пукаціцца, і я запытальна ківаю галавой. У кішэні, як высвятляецца, набор для галення з лёзамі Wilkinson. Старэйшая Мандрыкава сястра замужам за афіцэрам, што служыць у Вугоршчыне, яна і прывозіць адтуль дэфіцытныя рэчы.

— Памазок з барсучынага хваста, — тлумачыць Мішка, і даводзіцца сарамліва прыціскаць да грудзіны ўласны падарунак — раман Марыса Друона

з серыі «Праклятыя каралі». Кніга, праўда, не новая, ужо чытаная, але аўтар цяпер надзвычай папулярны.

Дзверы адчыняе Алена. На гаспадыні чорная сукня, якая выяўна дэманструе ідэальную жаночую паставу. Мне Ленка даўно падабаецца. І не толькі сваім алебастрава-белым тварам, доўгімі веямі і зграбнай постаццю, але і характарам. Ніколі Лёшку нічым не дакарае і не ўшчувае, як іншыя жонкі. А між іншым, на ёй трымаецца ўся хатняя гаспадарка, бо Лёшка, апроч кніжак, нічога ў свеце не бачыць і не дае рады нават павесіць кілім на сценку. Надоечы мне даводзілася вешаць.

— А вось і мы! — галасна азываецца Мішка з-за маёй спіны, а пабачыўшы невясёлы Ленчын твар, сцішваецца і моўчкі цалуе гаспадыні руку.

Асветлены мяккім святлом таршэра, у куце канапы сядзіць той самы Бакулін — Лёшкавы стрыечны братан. На твары братанавым усё тая ж трохміліметровая, шэрай водцені, шчэць, а ў вачах усё тая ж фанабэрыя. Ну як жа... Асістэнт рэжысёра... Лёшка кажа, кінасцэнары да ладу даводзіць.

Кіўнуўшы асістэнту, мелькам аглядаю пакой. Макарэні, як бачна, абжываюцца. Мінулым разам, калі вешаў кілім, сцены ў вітальні былі голыя, а цяпер вісіць пластмасавы гадзіннік з пазалочанай тарчай, а на падлозе лагодзіць зрок стракаты палас — няйначай, Ленка па блаце дастала. І каляровы тэлевізар ужо грувасціцца не на парэпанай тумбачцы, а на нейкім шэрым, з двума форткамі, шапіку.

— Міні-бар. Польскі. З падсветкай, — Лёшка адчыняе фортку. У бары самоціцца бутэлька «Пліскі».

— Даволі бедны рэпертуар у твайго бара, — азываецца Бакулін. Асістэнт рэжысёра, не ўздымаючы вачэй, гартае нейкі часопіс.

У Лёшкі ёсць адна, але палымяная жарсць: часопіс «Карэя». Кожнага разу бегае на вакзальны шапік — ён толькі там і прадаецца. Ну і, вядома, як толькі збіраемся ў Лёшкавай хаце, адразу пачынаем калектыўнае чытанне — з рогатам і нецэнзурнымі каментарамі — апокрыфаў пра жыцце вялікага правадыра Кім Ір Сена.

Вось і гэтым разам поруч з Бакуліным ляжыць падшыўка «Карэі», але гартае ён іншы часопіс — лядашчы, надрукаваны на ліхенькай паперы. Я падыходжу, зазіраю на старонкі. Там брывасты тыпус у шапцы «піражок» вітае ўзнятай рукой натоўп, а поруч з ім стаіць нейкая чарнявая кабета ў белым палітоне. У брывастым тыпусе пазнаю Нікалае Чаўшэску.

— А што за баба поруч?

— Жонка, — з неахвотаю адказвае Бакулін, перагарнуўшы старонку. На адвароце той самы Чаўшэску, але ўжо ў гарнітуры, знаёміцца з мастацкай выставай, а пад бокам ягоным усё тая ж чарнявая жонка. — Да Кім Ір Сена не дацягвае, але ж стараецца. Вялікім правадыром сябе абвясціў, — Бакулін кідае часопіс на канапу, а Мішка Мандрык, адкаркоўваючы каньяк, аптымістычным голасам зазначае: — Нічога... Яшчэ падцягнецца.

Выпіваем першую пляшку каньяку і, перабіваючы адно другога, балбочам абы-пра што. Гамонім, аднак, утрох: асістэнт сядзіць нямком, і толькі калі пачалі другую пляшку і згадалі кепскае надвор'е, падае голас:

— Я вось толькі што з Гаграў, дык там ужо першыя кветкі красуюць.

Мішка, здавалася, толькі гэтага сказу і чакае, бо адразу жвавее, і на твары ўзнікае іранічная гімора.

— А чаму так далёка заехалі? Партызан, здаецца, у Гарах не было.

Асістэнт адкідваецца на спінку канапы.

— Мы з вамі, здаецца, год таму ўжо высвятлялі адносіны. Але так і не высветлілі. Давайце вызначым нашы пазіцыі. Скажыце, якія прэтэнзіі да нашай кінастудыі? — апошні сказ кінематаграфіст прамаўляе па-беларуску.

— Прэтэнзія толькі адна. Вы сваімі «кінамі» прафануеце беларускую культуру і паказваеце нас, беларусаў, вахлакамі.

— Па-першае, даражэнькі, ніякай беларускай культуры і ніякай беларускай нацыі ў прыродзе не існуе. Ёсць толькі асобныя, адарваныя ад жыцця летуценнікі... У нас, дарэчы, на студыі «Летапіс» быў адзін такі... Беластоку са Смаленскам дамагаўся. Выгналі пад Новы год. За п'янку.

— Яшчэ адно пацверджанне, што на беларускай кінастудыі беларусам месца няма, — з помслівай інтанацыяй зазначае Мішка, і я неўпрыкмет стукаю яго нагой па галёнцы.

— Вось вы, паважаны кінематаграфіст, спрабуеце мяне пераканаць, што беларускай нацыі няма, а ёсць нейкія прымітыўныя, адарваныя ад сусветнай цывілізацыі істоты. А хто ў вас грае тых жа беларускіх жанчын? Станюта з Макаравай? Ствараюць вобразы альбо звар'яцелых бабуль, альбо вясковых Агат, што завіхаюцца ля печы. Тым часам на ролі інтэлігентных дам запрашаюцца выключна маскоўскія артыстычныя сцыкухі.

— Толькі не чапайце жанчын, — з неўласцівай для яе рэзкасцю прамаўляе Ленка і падаецца на кухню.

— Бачыце, гаспадыня незадаволеная. Запрасілі гасцей на Дзень нараджэння, а госці... — Бакулін, ні з кім не чокнуўшыся, куляе чарку.

— Ну дык можа выйдзем, каб нікому не замінаць? — Мішка паволі, як самнамбула, падымаецца з крэсла, я таксама падымаюся, хапаю сябра за локаць, і адчуваю як падлога прыкметна дрыжыць і плыве з-пад ног.

— Што гэта?! — выдыхае Лёшка. — Увабраўшы галаву ў плечы, юбіляр зацкавана глядзіць на кандэлябру. Тая злёгку хістаецца.

— У суседзяў столь абвалілася, — вось і страсянула, — спрабуе жартаваць Мішка Мандрык.

Ленка, з мокрай талеркай у руцэ, прыбягае з кухні, з панічнымі ноткамі ў голасе паўтарае мужава пытанне:

— Што гэта?!

— У першым пад'ездзе рамонт робяць. Ад ранку бачыў — кіслародныя балоны цягнулі. Можа яны выбухнулі? — Лёшка гучна ляскае просвамі, выходзіць на гаўбец.

— Куртку надзень, — крычыць услед яму жонка.

На двары, відаць, усё спакойна, бо Лёшка, вярнуўшыся з гаўбца, запытальна глядзіць на братана, чакаючы — чым той растлумачыць хістанне кандэлябры.

Бакулін безуважна смокча мінералку з келіха.

— Непадалёку ракетныя базы стаяць. Інфармацыя сакрэтная, але пра гэта ўсе ведаюць. Магчыма, якая ракета і дзеўбанула ў шахце.

— Прычым тут ракеты? — гарачліва азываецца Мішка Мандрык, — дом асадку даў... здрыгануўся.

— Якая асадка? Сем гадоў, як пабудаваны, — Лёшка бяжыць у калідор, пачынае накручваць тэлефонны дыск.

— Людзі спаць кладуцца, а ён іх тармосіць, — незадаволена наракае жонка, але муж рашуча махае рукой, маўляў, не звягай.

Пакуль юбіляр размаўляе па тэлефоне, Бакулін налівае ў кілішкі каньяку, кіўком галавы прапануе выпіць.

Замест глоткі трунак патрапляе ў насаглотку, і я зацята кашляю.

— Сервіз дзынкнуў?... Хто ашалеў? Твой спаніэль?... І ў нас гайданулася... — далятае ўзрушаны Лёшкавы голас.

— Вось так, хлопчыкі... Таляну пазваніў — у яго тое ж самае. Кандэлябра захісталася, і сабака збрахаўся ўвесь. Суняць не могуць.

Лёшка куляе кілішак, крахтае, спрабуе падхапіць нягнуткімі пальцамі скрылёк цытрыны.

— А можа гэта землятрус? — нясмела прамаўляе Алена: яна прынесла з кухні чыстыя талеркі.

Лёшка змучана крывіцца. Ці то ад кіслай цытрыны, ці то ад недарэчных жончыных слоў.

— У нас, каб ты ведала, землятрусаў не бывае. А калі і бываюць, дык надта слабыя. Толькі сейсмічныя прыборы і могуць зафіксаваць, — Лёшка плюхаецца ў крэсла, дастае з пачка цыгарэту, але тут жа запіхвае назад — жонка не дазваляе паліць у хаце.

— Землятрус — гэта ўвогуле страшная рэч, — падхоплівае тэму Мішка Мандрык. — Мой бацька Ташкент ездзіў аднаўляць. Памятаеце, у 66-м, «хлебны горад» увесь растрэсла? Казаў, толькі прыехалі, засяліліся ў інтэрнат, і раптам — як дзеўбане з-пад зямлі. Так сярод ночы і выбеглі на вулку, хто ў чым быў. І спалі пад адкрытым небам. Потым ужо намёты прывезлі. Спёка была неверагодная. Днём за сорак. Адзін рабацяга з яго брыгады нават памёр ад сквару. Выпіў звечара, а раніцою, шуфель у рукі ўзяўшы, галавой у ночвы з рошчынай абрынуў...

— Ладна, праехалі, — выдыхае Лёшка, ідзе да прайгравальніка і, перабраўшы кружэлкі, ставіць адну з іх на дыск.

Пакой поўніцца сіпатым зыкам трамбона. Гэта ансамбль Джэймса Ласта грае Mishell. Закідваю рукі за патыліцу, прымружваю вочы, каб прасякнуцца

ўлюбёнай мелодыяй, ды тут Ленка з грукатам ставіць на стол гарачую рандолю. У рандолі, мяркуючы па паху, бульба, запраўленая тушонкай.

— Ён у цябе яшчэ пра «Бітлз» не пытаўся? — гэта Мішка, ужо лагодным голасам, звяртаецца да Бакуліна.

Хаця гаворка пра мяне, я ніяк не рэагую. Сяджу ўсё ў той жа нерухомай паставе, паклаўшы патыліцу на далоні.

— А што такое? — Бакулін перахоплівае з Ленчыных рук талерку з бульбай.

— Ды вось... Апытвае ўсіх — пры якіх абставінах даведаліся пра ліверпульцаў і калі ўпершыню пачулі іх песні.

— А навошта гэта яму? — пытаецца Бакулін, настаўляе на мяне п'янаватыя вочы, але я па-ранейшаму маўчу.

— Калі цікава — магу распавесці, — Бакулін палавініць бульбіну, кідае ў рот і зацята, як той цюцька ў спёку, хукае. Бульбіна задужа гарачая. — Карацей, у нас сусед жыў, гадоў на пяць ад мяне старэйшы. Аднойчы некага пабіў на танцах і на Аршанскую зону выправіўся. І там вывучыўся на гітары брынькаць. Выйдзе на гаўбец і пачынае: «В ливерпульском кабаке — там, где пьют коньяк, — сидят четыре чувака с гитарами в руках...» Я тады ўжо ведаў, што гэта пра бітлоў песня. А хто такія бітлы — нават не ўяўляў. Думаў, раз сядзяць у шынку — значыць, як той сусед, з зоны адкінуліся.

Мішка разлівае трунак з бутэльчыны, я бяру кілішак, моўчкі чокаюся з Бакуліным.

«Вельмі гладка распавядае, па-літаратурнаму. Нездарма яму даручаюць сцэнары габляваць», — незадаволена думаю я. Гэтым разам трунак праходзіць у нутро без праблемаў.

— Не, да чаго дайшлі... Каньяк не долькай цытрыны заядаем, а тушанай бульбай, — жартам выдыхае Бакулін і я, нарэшце, ажываю:

— Ну а далей?..

— А далей... Пайшоў аднойчы ў кіно і там перад фільмам кароткаметражку круцілі. «На выселках» называлася. Кінастудыі «Малдова-фільм». І вось гляджу — на экране нейкі поплаў, а на ім хлопец з пераносным магам. І музыка грыміць, якой я дагэтуль ніколі не чуў. І раптам нехта ў зале як загарлае: «Бітлз»! Аб-ла-дзі. Аб-ла-да!»... А навошта табе гэтыя ўспаміны? — знянацку перарывае аповед Бакулін, і Мішка тлумачыць:

— Ён усё гэта ў сшытак запісвае. Хоча пакінуць нашчадкам дакументальныя сведчанні таго — як мы тут жылі і які музон слухалі.

— Дарма, — каротка выдыхае асістэнт рэжысёра.

Я кідаю на Бакуліна запытальны і, відаць, не зусім цвярозы позірк.

— Дарма, кажу, гэтым займаешся. Табою могуць зацікавіцца.

— Ну і хай цікавяцца, — азываюся я, адчуваючы, што голас мой злёгку дрыжыць.

— Ну тады хай... — Бакулін падлівае ў келіх мінералкі. — «Бітлы», вядома, афіцыйна не забаронены, але гэта заходняя, а значыць ідэалагічна шкодная

музыка. У цябе, вядома, свая галава на плячах, але вось табе парада: кідай гэтую справу, пакуль за цябе не ўзяліся.

— А ў «кіношнікаў» што... кожны крок ідэалагічна вывераны? — пытаюся прыкметна дрыжачым голасам і адчуваю штуршок вышэй шчыкалаткі. — Цяпер ужо Мішка стукае мяне мыском чаравіка.

— Ну навошта так груба? Я проста табе дабра хачу, таму і папярэджваю. Бо крыху ведаю працу «канторы».

— Адкуль такія веды? Ці не ўладкаваўся там на паўстаўкі?

— Стоп-кадр! — гукае Лёшка, лезе ў бар за чарговай пляшкай, і падупалым голасам выдае: — Во, халера, святло не адключылася. Пляшка цёплая.

— Мы і цёплую агораем! — гукае Бакулін, б'е ў ладкі, усё адно як і не чуў маіх слоў.

Куляем чаркі ў поўнай цішыні.

Знянацку мяне апаноўвае цяжкая дрымота. Тулюся патыліцай да канапы, яшчэ імгненне слухаю размовы, і абрынаюся ў мулкі сон. Гэта нават не сон, а нейкая віхура, што падхапіла і занесла ў даўгі і цёмны кабэшны калідор. І вось ужо нейкія людзі бягуць насустрач. Я прыглядаюся. У аднаго на галаве чорны капронавы сметнік з прораззю для вачэй, што робіць яго падобным да тэўтонскага рыцара. Гэта Мачагон. А ў другога — сівога і кашчаватага — у руцэ пісталет! Дык гэта ж Гнядых! Але адкуль у яго зброя? Прыгадваю, што адстаўнік ваяваў супроць «лясных братоў», з таго часу, відаць, яе і прыхаваў. Гнядых цэліць у мяне, я бязгучна гарлаю, прачынаюся і няўцямна гляджу на бутэльку, на самым дне якой яшчэ кволіцца трунак. Спаў, выглядае, даволі доўга, бо за сталом толькі я ды Бакулін.

— А дзе Мішка з Лёхам? — пытаюся пераселым спрасоння голасам.

— Мішка пайшоў — жонка пазваніла. — А Лёшка... — Бакулін ківае ў бок спальні, адкуль далятае здушанае храпенне.

— Ты кім увогуле працуеш? — не да месца пытаецца кінематаграфіст, разліваючы рэшткі «Пліскі».

Хвіліну думаю — ці адказваць на такое пытанне, — і незадаволена мармычу:

— Канструктарам трэцяй катэгорыі.

— І колькі маеш?

Насупліваюся, паціраю скроні: галава пачынае злёгку балець.

— Сто трыццаць калоў.

— Прэмія ёсць?

Адчайдушна хмыкаю ў адказ. Маўляў, якія могуць быць прэміі ў канструктарскім бюро станкабудавання.

— А ты колькі маеш? — пытаюся ў сваю чаргу, закінуўшы ў рот жменьку кіслай капусты, бо глотка дзіўным чынам перасохла.

— Сур'ёзныя людзі дабрабыт авансамі і палучкамі не вымяраюць. Я вось учора з Абхазіі прыехаў. Зімовае мора здымалі. А заадно машыну прыгналі з

акацыяй. Ну жоўтай такой... Якую тут мімозай называюць. Во, зірні, — Бакулін паказвае пазначаныя мазалямі пяцярні, — з сахорам завіхаўся... Мімозу на кодаб кідалі. Праз тры дні жаночае свята. Ведаеш, колькі за тыя галінкі атрымаем?

Бакулін падымае кілішак, гучна ікае, і каньяк ліецца праз край.

— Іншаму каму за такія словы... пра паўстаўкі... адразу б у лабешнік заехаў. Але тут не той выпадак. Давай, па апошняй, — язык у бяседніка ўжо заплятаецца.

«Пліска» апальвае глотку, захрасае дзесьці напаўдарозе. У асістэнта рэжысёра яшчэ горай: ён ізноў ікае, і каньяк ліецца ў яго з носу. Скрозь кашаль Бакулін гукае:

— Я б мог... пагаманіць... каб цябе... якім асвятляльнікам узялі...

— Ды не... — я таксама, з панічнымі ўсхліпамі, кашляю, — мне трэба тры гады... па размеркаванні адпрацаваць.

«А сапраўды... няўжо цэлых тры гады давядзецца гібець у тым чортавым кэбэ?» — з гэтаю думкаю паціраю п'яныя вочы. Мне хочацца спытаць — ці сапраўды ёсць магчымасць уладкавацца на кінастудыю, але спытаць ужо не выпадае, бо суразмоўнік сядзіць, звесіўшы голаў і пусціўшы пад ногі, усё адно, як карова на лузе, густую сліну.

Я згадваю маці. Уяўляю, як яна ляжыць у ложку і зацята глядзіць на бацькавы партрэт, што вісіць на сцяне. Не спіць. Чакае мяне. Быў бы дома тэлефон — пазваніў бы, сказаў, што затрымліваюся. А яго ўсё не ставяць, хаця ўжо восьмы год стаім на чарзе.

Бакулін, падсунуўшы калені да падбароддзя, куляецца на канапу. Я кладуся на бок, цiснуся вухам да мулкага падлакотніка, адсоўваю, як магу, бакулінскія ногі.

Ужо на мяжы явы і сну мне карціць вырвацца з скурчанага цяснотцця, з таго панылага жыцця, з праклятага КБ станкабудавання, якое ціснe на мяне усімі трыма гадамі адпрацоўкі, і я паволі, ужо сонны, спаўзаю з канапы і выпростваюся на мяккім паласе.

З пахмелля баліць галава, і сэрца заходзіцца ад млосці. Да таго ж, тупым болем азываецца шыя, бо спаў, падклаўшы пад галаву спачатку пустую бутэльку ад шампану, а потым падшыўку часопіса «Карэя».

За ўсімі тымі п'янкамі нават не заўважыў, як скончылася зіма. Да сапраўднай вясны яшчэ далёка. Наперадзе чарада панылых і шэрых дзён — з няўтульнымі познімі світанкамі і нудотнай халоднай імжой, але ў паветры ўжо запахла свежасцю. Так звычайна пахнуць маладыя агуркі на градцы.

Ноччу выпаў снег, і кожны крок пакідае за спінай цёмную мецiну. Але чым бліжэй падыходжу да аўтобуснага прыпынку, тым больш і больш іх на ходніку, і мае мецiны ўрэшце патанаюць у бязладнай таўкатні чужых слядоў.

На прыпынку купка людзей. Шмат у каго з мужыкоў зялёныя твары, і вочы, як і ў мяне, заплылі з пахмелля. Адзін такі, зеленатвары, у нацубленым на

вочы капелюшы, прыпальвае дрыжачымі рукамі цыгарэту і, ні да каго не звяртаючыся, выдыхае: — О-па!

Паварочваю голаў у той бок, куды глядзіць уладальнік капелюша, і ўражана прысвістваю. Жалезны комін ЦЭЦ, які надоечы рашуча падпіраў шэрае неба, стаіць перакрыўлены і гатовы абрынуцца на зямлю.

— Добра ўчора страсянула... Нават бутэлькі зазвінелі, — сіпата прамаўляе зеленатвары, і нізенькая кабета ў вязанай махеравай шапцы, відаць, жонка, тузае яго за рукаво: — Кідай папяросіну... Аўтобус едзе, — і ўжо ледзь чутна дадае: — П'янтос няшчасны.

— Што там бутэлькі. Брат званіў ноччу. У Адэсе жыве. У таго талеркі пасыпаліся з паліцы, — выбухнуў усярэдзіне натоўпу натужлівы бас.

— Землятрус у Румыніі. 8 балаў. Толькі што перадалі, — прамовілі за спіной, і галаву маю напоўніла вясёлая пустата.

«Можа якая цагліна на кумпал Чаўшэску звалілася?» — з гэтаю думкаю раблю крок да аўтобуса, і мяне хапаюць за рукаво.

Сеня Мотыль.

— Куды гэта ты? Ці не на працу? Сёння ж субота.

— На працу. Трэба тое-сёе дарабіць, — выдыхае Сеня, не адпускаючы маю руку.

«Калі ўсе спяць з пахмелля, чалавек устае і едзе на працу. Такім, далібог, трэба помнікі ставіць», — думаю я і, змагаючыся з млосцю, прыпальваю цыгарэту.

У Ізраілі, казалі, пустэльні ператварылі ў памаранчавыя плантацыі. Я таму не надта верыў, а цяпер перакананы: калі там усе такія, як Сёмка Мотыль, дык што ім варта ператварыць пустэльні ў сады Семіраміды.

— Учора ў абед да Мачагона нейкі чалавек прыходзіў, — шапоча Сёмка, пазіраючы на бокі. — Я за кульманамі сядзеў, прыхаваўшыся, ну і пачуў абрыўкамі іх размову. Пра цябе гаманілі.

Пад дыхніцай нараджаецца лёгкі халадок.

— Пытаўся ў Мачагона: што гэта ты за апытанні такія праводзіш? І што ў сшытку запісваеш?

Сэрца пачынае біцца з перабоямі, і твар робіцца гарачым. Выглядае, асістэнт ведаў, пра што казаў.

— Пачуў тую размову і канчаткова вырашыў — еду да бацькоў. — Мотыль заклапочана керхае ў далонь, — Папросту хачу заняцца сур'ёзнай справай. Па-сапраўднаму штосьці канструяваць і вынаходзіць, а не перадзіраць чужыя распрацоўкі. Ды яшчэ дзесяцігадовай даўніны. Ты ж бачыш, што тут рай толькі для адстаўнікоў і гарлапанаў, а нармальнаму чалавеку жыць не выпадае.

Мяне пачынаюць працінаць дрыжыкі. Паедзе за мора, а мне што, аднаму змагацца з Гнядых і Мачагонам?

— Ды не перажывай ты ўжо так, — Сеня ляпае мяне далонню па спіне. — Пратры вочы і зірні навокал. Зіму на вясну пераламіла. Так і наша жыццё павінна змяніцца да лепшага.

Праціраю вочы, азіраюся і навакольны свет паўстае нейкім дзіўным і нават незнаёмым. У мяне такое адчуванне, што я толькі што нарадзіўся, і што гэты натоўп, гэтыя завэдзганыя аўтобусы, і перакошаны землятрусам жалезны комін бачу ўпершыню ў жыцці.

Ківаю Сеню на знак падзякі, і мы, дыхнуўшы выхлапнога смуроду, лезем, падхопленыя натоўпам, у разяўленую пашчу аўтобуса.



# Дагнія Дрэйка

латышская пісьменніца польскага паходжання. Аўтар шматлікіх кніг вершаў і прозы. Сярод якіх: «Брунатыя зоркі» (1971 г.), «Лунатызм» (1975 г.), «Сагі і аповеды» (1981 г.), «Вецер вады» (1999 г.), «Коні Бога, Коні Хорта» (2005 г.), «Суседскія штучкі» (раман, 2015 г.) і інш. Лаўрэат прэміі года за лепшы пераклад («Moby Dick», 2004 г.) і прэміі Марыса Карэма (Бельгія, 2009 г.). Нарадзілася ў 1951 годзе ў Рызе. Жыве ў Рызе.

# Свінтус, які не меў шчасця

Свінтус быў скарбонкай — прыемна акруглай, са шчылінкай на карку. Бліскучыя манеткі правальваліся ў Свінтусава бруха — і ходу ім назад не было!

— Надта я ўжо ахвярны! — час ад часу ўздыхаў Свінтус. — Нясу ў сабе шчасце іншых, пра сябе зусім не дбаю!

Але маркоціўся Свінтус рэдка. Часцей усё ж яго распіраў гонар за паўнату шчасця, якім было напхана бруха. Шчасце гэта бразгацела і звінела, як звіняць звычайныя грошыкі.

— Цябе, часам, не ванітуе? — падцвільваў кот, труючыся аб бок скарбонкі-Свінтуса. — Як можна такое стравяваць?

— У мяне зайздросны апетыт! — пазвоньваў грошыкамі Свінтус. — А страўнік мой акурат разлічаны на жалеза... Слухай, Пухнацік, а ў цябе не завалялася якая капейчына?

— Магу прапанаваць рыбную луску — вялікую, круглую, бліскучую! І лёгкую — ёй страўнік не перагрузіш.

— Ну, луска! Што за яе дадуць? — абразіўся Свінтус. — Хіба кухталёў на кірмашы здабудзеш за такія грошы!

— На кірмашы можа і нічога не дадуць. Але ж яна ўсё адно каштоўная! Калі ззяе сонейка, з лускі можна здабыць вясёлку!

— Нешта ў мяне ў страўніку сонца не відаць! — прабурчэў Свінтус.

— Хто б сумняваўся! — чыхнуў Пухнацік. — Там цемра і цяжар, здольны толькі грукацець!

— Нічога ты не разумееш, Пухнацік! — адказаў незадаволены Свінтус. — Табе б толькі гуляць з вясёлкай і паляваць на мыльныя бурбалкі!

Акурат у гэтае імгненне каток зручна прымясцюрыўся на палічцы, дзе стаяла і скарбонка-Свінтус. Па сваёй кашэчай звычцы Пухнацік выгнуў спінку, пацягнуўся — і незнарок зачапіў Свінтуса. Забразгацеўшы, скарбонка рухнула долу і разбілася! Дробныя бліскучыя грошыкі рассыпаліся па падлозе.

Пухнацік здзівіўся:

— Трэба ж! І чаму гэтае пустое бразгаценне ўважаюць за шчасце? Няма тут яго ні на адну рыбіну луску!

І Пухнацік скокнуў у сноп сонечных промняў, даганяючы бязважкую вясёлую пылінку — гарэзлівую, як і ён сам.

# Восень Зялёнадзюба

Адгуляўшы бесклапотна ўсё лета, Зялёнадзюб напачатку восені адумаўся і пачаў збіраць прыпасы на зіму. У той год ягады арабін саспелі рана і былі сакавітымі, як ніколі, а на арэшыне было багата арэхаў. Зялёнадзюб завіхаўся, каб паспець сабраць прыпасаў.

Папугай Зялёнакрыл, які яшчэ ўлетку ўцёк з клеткі і зараз ужо пачынаў мерзнуць, сеў побач з ім на галінку і загаварыў.

— Здароў! — прамовіў ён урачыста і пакланіўся. — Нішто сабе тваё жытло ў гэтых кустах. Але маё ўсё адно лепшае!

— А дзе ж твой дом? — спытаў Зялёнадзюб.

— У клетцы! — адказаў Зялёнакрыл.

— Дык чаму ж ты там не жывеш? — спытаў здзіўлены Зялёнадзюб.

— Я здаў клетку Канарэйцы, няхай падтрымлівае там парадак, пакуль я адпачываю і падарожнічаю.

— І далёка ты лётаў? — зацікавіўся Зялёнадзюб.

— А то! Ты спытай лепш, дзе я не бываў!

— У цёплых краях? — пачаў гадаць Зялёнадзюб.

— Вось туды я наведаўся найперш! Што б я рабіў у халодных? Я б змерз у костку! А цёплыя землі — радзіма маіх продкаў! — ганарыста адказаў Зялёнакрыл.

— Тут таксама хутка будзе зіма! — сказаў Зялёнадзюб. — Халодная, доўгая! Гэта ведаю нават я! Таму і збіраю арэхі на чорны дзень.

— Ат! У маёй клетцы ўсяго стае! — паведаміў Зялёнакрыл. — Канарэйка, думаю, не шмат з'ела. Яна ж такая маленькая, і ўсё спявае, есці ёй некалі.

— Яшчэ я хачу сабраць як мага больш ягад рабіны! — сказаў Зялёнадзюб. — У тваёй клетцы наўрад такая будзе. Арабіны гэты год — смаката!

— Я аддаю перавагу вішням у цукры! — адказаў Зялёнакрыл. — А яшчэ мая гаспадыня Лавізушка пячэ бліны і есць іх з жэле з чорных смуродаў. Во дзе смаката! Як яна не бачыць, я саджуся на край талеркі і...

— Гэта ўсё выглядае завабліва, — перабіў яго Зялёнадзюб. — Але я ні за што не жыў бы ў клетцы!

— Паслухай, ты ж не абавязаны ўвесь час сядзець у сярэдзіне! — запярэчыў Зялёнадзюб. — Час ад часу дзверцы ў клетцы пакідаюць адчыненымі, тады можна палётаць па пакоі. А калі-нікалі і вакно адчыняюць...

Слухаючы балбатню Зялёнакрыла, Зялёнадзюб пераляцеў з куста на арабіну і пачаў абдзіраць з яе ягады.

— І ты напраўду думаеш зімой усё гэта з'есці? — здзівіўся Зялёнакрыл.

— Калі не сам, дык іншых пачастую! — патлумачыў Зялёнадзюб. — Я люблю частаваць гасцей.

— Але дзе ты збіраешся ўсё гэта захоўваць? — не жадаў спыняць роспытаў Зялёнакрыл.

— У паддашку, дзе ж яшчэ. Там, у цяньку, на скразнячку, усё цудоўна сохне.

Так усю восень Зялёнакрыл пырхаў з галінкі на галінку і балбатаў, а Зялёнадзюб здабываў прыпасы і цягаў іх на паддашак.

Час ад часу ў асабліва халодныя вечары Зялёнакрыл імкнуўся трапіць у пакой, дзе стаяла яго клетка. Але вакно было шчыльна зачыненым. Ніхто яго не бачыў і не чуў. Затое папугай чуў, як натхнёна спявала ў пакоі Канарэйка. На яго, відаць, усе ўжо забыліся.

Аднойчы, калі ён даўся крыламі аб шкло, у пакоі нехта спалохана закрычаў.

— Ой, ой, ой! — галасіла маленькая Лавіза. — Мамачка, прывід! Гэта здань б'ецца ў шкло!

На вуліцы ўжо сцямнела, і Зялёнакрыла не было відаць.

— Гэта альбо нейкая начная птушка не патрапіла з шыбай размінуцца, альбо дрэва галінкай пастукалася. Ветрана на двары, — супакоіла дачушку мама.

Хто аддае клетку за свабоду,

Жыве цяжка, а не сабе ў асалоду! — распявала Канарэйка. Ёй даспадобы прыйшлося прасторнае жытло папугая.

— Я хачу назад у свой цёплы куток! Да гаспадароў, якія заўжды накормяць! — лямантаваў Зялёнакрыл, але яго ніхто не чуў.

Зялёнадзюб тым часам аглядаў сваё багацце ў паддашку.

— Якая прыгожая сёлета восень! — захапляўся ён. — Якая багатая!

# Крот-Бармот і качынае яйка

Вось дык Крот — не крот, а сапраўдны Бармот! Толькі начапіў на нос зялёныя акуляры — знайшоў качынае яйка!

Яйка было строката-зеленаватым, каб быць незаўважным у траве — над гняздом жа няма даху!

Яйка з гнязда скралі тхор ці куніца — і пакацілі сабе проста на грудок зямлі, куды Крот-Бармот звычайна вылазіць крыху пагрэцца на сонейку. Акуляры ж яму патрэбныя дзеля таго, каб пры яскравым сонечным святле лепш бачыць! Вочы крата звыклыя да цемнаты, бо ён жыве ў падземных лабірынтах.

Невядомага яйкаеда, які выкаціў яйка з гнязда, відаць, спалохаў ці сабака, ці ліс, ці сам крот. І яйка засталося ляжаць на грудцы зямлі, накапанай кратом.

Крот-Бармот абышоў вакол яйка, абнюхаў яго, чыхнуў і пацёр лапкі.

— Ці не яйка гэта дажджавога чарвяка? — спытаў ён сам сябе. — Гэтыя чарвякі ядомыя і вельмі сакавітыя. І яйкі ў іх павінны быць смачнымі!

Але чакайце — дзе ў гэты час споўдалася сама качка? Можа ў зарасцях вербалозу шукала якога пракорму — нехта з цікаўных мышэй-палёвак пасля сведчыў, што там яе і бачылі. Яна там і корпалася, і кулялася. Ці то качка, ці то вуцяк, а наогул — ні так і ні сяк! Качка-Гулячка.

Зялёныя акуляры шмат што дапамагалі зразумець!

Мышы пачалі пытаць Крата, ці не належыць ён да партыі зялёных. Чаму б і не? Яйка ж ён вырашыў не есці — магло на што-небудзь так прыдацца.

Ісці да качкі і прасіць выкупу за яйка было пустой справай. Яна балюча дзяўблася і магла падняць гвалт. Тады ўжо нічога не застанецца, як хавацца ў падземных лабірынтах.

— Качка, гэй, Гулячка! — прапішчэла маленькая рудая мышка-палёўка, якая забралася на грудок. — Тваё яйка выстаўленае на продаж! Крот-Бармот думае, што яно велікоднае!

— Вялікдзень ужо даўно мінуў, — спакойна адказала Качка. — Двойчы на год гэта свята не паўтараецца!

— Але ж яйка, Качка, яйка! — пішчэла мышка, заламваючы ружовыя лапкі.

— Не дурыце мне галавы! Знясу другое! — адказала Качка, зусім не пераймаючыся.

— Пойдзем і выпрасім яйка ў Крата! — сказала маленькая мышка двум сваім большым таварышкам. — А не то загіне! Пакоцім яго назад у гняздо! Можа, гэта Качка-Гулячка надумае ўсё ж такі сядзе на ім?

— А калі не? — спытала большая мышка. — Сама будзеш тады грэць, ці як?

— А вось трэба будзе — і сагрэю! — разышлася маленькая мышка. — Як не будзе іншага выйсця!

— І навошта такія качкі-гулячкі наогул ладзяць гнёзды? — абурылася трэцяя палявая мышка. — Можа яна сама адмыслова ўсё і падрабіла з яйкам. Выкаціла, каб знайсці дурня, які выседзіць яго!

А тым часам Крот амаль ужо запіхнуў яйка ў лабірынт!

— Гэй, ты, аддай! Навошта яно табе? Сапсуецца, затхнецца і будзе смярдзець у тваім лабірынце! — крычалі мышы і куляліся адна цераз адну.

— Я яго знайшоў! — упарта адказаў Крот. — Дзе мая доля за гэта?

— Лепш памажы нам дакаціць яго да гнязда! Гэта Качка-Гулячка павінна яго выседзець! — пішчэлі мышы.

— Ну, угаварылі. Па-айшлі!

А куды было падзецца Крату, так насядалі мышы. І з імі разам ён пакаціў яйка ў бок гнязда. Але па дарозе яно трэснула.

— Гэй, вы, лягчэй там! — закрычала маленькая мышка.

— Крр-крр! — нечакана адгукнуўся галасок. Гэта было качаня, якое выбіралася з трэснутага яйка. — Трошкі далікатней, калі можна! А то ў мяне то галава ўнізе, то ногі наверсе!

— Вось усё само і вырашылася! — усцешылася маленькая мышка. — Качаня вылупілася, і мне не давядзецца грэць яйка!

Качаня ў атачэнні мышэй пакіравала да зарасцяў вербалозу. Крот зняў зялёныя акуляры і нырнуў у сваё падзямелле. Папраўдзе, яму добра надакучыла цягаць важкае яйка!

— Вось цікава, што ўжо знайду я іншым разам, як зноў начаплю гэтыя акуляры, — пытаў ён сам сябе, хуценька зарываючыся ў зямлю. — Відавочна, што гэта вельмі каштоўныя акуляры! Вельмі!

# Пугач-Хапач

Пугач-Хапач быў такім жахлівым, што пра яго гаварылі ўсе звяры і незвяры Бормат-лесу. Ён быў агромністы-агромністы, ці то пугач, ці то грыб. Хто пабачыў яго, не хутка на яго забываўся. Тыя ж, каму не давялося...

Сярод тых, каму не давялося, была і мыша Соня, якая жыла ў Дрэве-Мудрэве. Яна ў дупле так шмат спала, што наогул мала што бачыла.

— Чу, чу! Чубка! — час ад часу клікала яе суседка, вавёрка Белазубка. — Так усё жыццё можна праспаць і нічога не пабачыць!

— Ш-ш-ш-ш! — шыпела Соня, ладкуючыся ямчэй у дупле. — Не адганяй мае самыя салодкія сны, Белазубка! Нават твае арэхі не такія салодкія, як мой сон!

— Не Соня, а Беспрасонне! — злавалася Белазубка.

Яе ўласнае жыццё мінала ў бясконцай бегатні і скоках з дрэва на дрэва, ёй было не зразумець такога беспрабуднага сну.

А Соня спала сабе і пасапвала, ды яшчэ галаву хвастом прыкрыла — каб святло не перашкаджала...

Пугач-Хапач ляцеў мякка, бясшумна ўзмахваючы сваімі вялізнымі шэрымі крыламі. Каго заспеў — таго і з'еў! І мышэй, і кратоў, і маленькіх соў. Гэта была жуда жудасная Бормат-лесу.

Толькі Соня ні пра што не здагадвалася, бо толькі спала і мроіла. Хто спіць — не грашыць і не бачыць, што вырабляюць іншыя.

Так мінула доўгая халодная зіма. Дрэвы стаялі ў глыбокіх сумётах — Соня спала.

Вавёрка Белазубка скакала з дрэва на дрэва і незадаволена бурчэла — яна трываць не магла ні сонь, ні распусцёх. Сама яна была працавітая і няўседлівая — усё грызла, грымела, цягала і шабуршэла. Туды-сюды, ні на імгненне не прыпыніцца. Такая натура.

Аднойчы, калі пупышкі на дрэвах ужо набухалі, і сонейка шчодра саграваліа іх, Белазубка незнарок выкінула са свайго дупла палівачку — усё Дрэва-Мудрэва захісталася. І Соня прачнулася. Яна пакрыўдзілася, што яе разбудзілі, і забурчэла, і запішчэла і, высунуўшы сваю пысу з дупла, пазяхнула на ўвесь рот. Пасля глянулася ў люстэрка — і ў роспачы сашчапіла лапкі: вочкі без бляску, хвост — кудлаты. Цуда-Юда, а не Соня!

— Пад'ём, лянота! — усклікнула Белазубка. — Хвост расчашы ды памыйся! Досыць спаць!

Але Соня стаяла на парозе і няўцямна глядзела вакол. «Падняць паднялі, а пабудзіць забыліся!» — вось пра што сведчыў яе выгляд.

— Вяс-на! — прабубнела яна. — Пу-пыш-кі!

Якраз у тую пару побач пралятаў Пугач-Хапач. Пабачыўшы Соню, ён застыў у паветры, ледзь варушачы крыламі.

— Што гэта? — завухкаў ён. — Ніколі такога пудзіла не бачыў! Хто б падказаў, можна гэта з'есці ці не варта?

На шчасце, усё гэта бачыла і чула Белазубка. Яна схапіла Соню за хвост і зацягнула ў дупла.

— Што гэта ты красавацца надумала! — закрычала яна на адурэўшую Соню. — Хочаш, каб Пугач-Хапач цябе цопнуў? Пракаўтне — і не апомнішся! І хваста ад цябе не застанецца!

— Які з мяне наедак? — здзівілася Соня. — Скура ды косці. Я ж зусім схуднела, пакуль спала. Калі ўжо гэты разбойнік на каго і паквапіцца, то гэта будзеш ты — вунь якая гладкая ды ўкормленая!

— Ну, мяне яму не злавіць! — адказала Белазубка. — Я спрытная і ніколі не мрою. І такую раскошу як сны я не магу сабе дазволіць!

— Ты ўсё мітусішся, ні на імгненне не прыпыняешся! Так можна апынуцца дзе заўгодна, не толькі ў кіпцюрах Пугача! — гучна разважала Соня, лянотна спрабуючы аправіць свой неахайны хвосцік.

— Вось табе палівачка! Памый хвост! — прыйшла на дапамогу Белазубка. — Хіба ж можна так апускацца! Выкапанае пудзіла!

Хвост прамылі і звесілі з дупла на ветрык — сушыцца. А Соня зноў пачала мроіць.

А Пугач-Хапач нікуды далёка не зляцеў. Ён кружляў непадалёк і цікаваў за дуплом, у якім засталося незнаёмае цуда-юда. Вось і пабачыў хвост, які звешваўся сабе з дупла і сох.

Ох, як закарцела Пугачу-Хапачу адведаць невядомага ласунка! Ён паляцеў да Дрэва-Мудрэва, ціхенька наблізіўся — і цапу-лапу!

Добра, што Белазубка зноў не драмала! Яна ўхапіла Соню і штосілы пацягнула на сябе. Ды так моцна, што Сонін хвост адарваўся і забіў дзюбу Пугачу. Соня і Белазубка ўпалі на дно дупла, а Пугач загаласіў на ўсю моц:

— Ратуйце! Я удавіўся хвастом пудзіла! Нячысцік мяне падбіў паспытаць гэткую пачвару! Дапама-ажы-це!

— Ага, папаўся! — закрычала Белазубка. — Ад сёння будзеш харчавацца шкоднікамі, якія точаць дрэвы — калі іншага праглынуць не зможаш. Ніхто ва ўсім лесе не дапаможа табе выцягнуць з тваёй пражэрлівай глоткі хвост! Няхай толькі хто паспрабуе!

— Слава хвасту! — пішчэлі мышы, краты і соні, якія былі тут як тут: жыхары Бормат-лесу любяць відовішчы.

— Што ж гэта за жыццё — без мары! — заспана буркатала Соня, бессаромна аплятаючы арэшкі з запасаў Белазубкі. — Без хваста можна пражыць, без сноў — аніяк!

Пасля яна абшчапіла галаву лапкамі (ад хваста ж застаўся кароткі абгрызачак) і зноў спакойна заснула, пакуль мышыны хор на ўвесь Бормат-лес праслаўляў Сонін хвост.

# Котка і яшчаркі

У тых рэдкіх выпадках, калі адна з яшчарак вылазіла са шчыліны ў сцяне, каб пагрэцца на сонейку, Котка заўжды спрабавала падабрацца — павольна паўзла бліжэй, прыціскаючыся да зямлі, нібыта зліваючыся з ёй, натапырвала вусы і прыціскала вушы. Яе было не чуваць і не відаць — можна было нават

падумаць, што нехта кінуў на зямлю дыванок, выраблены пад паласатую кашэчую скурку.

Але дзе там — яшчаркі заўжды заўважалі яе і штодуху кідаліся прэч. Зеленавата-залатымі маланкамі бліскалі яны, знікаючы ў тых самых шчылінах, якія нагадвалі невядомыя рэкі ў нязведаных краях.

Паўзуны — яшчаркі і няяшчаркі — працягвалі свой бег па дзіўных лабірынтах у тоўшчы атынкованых сцен, куды вострыя кіпцікі Коткі не даставалі. Жыццё пад тынкоўкай, напэўна, было надзвычай цікавым, але каму не дадзена пабачыць пад вонкавым бокам іншы слой, таму не дадзена — застаецца толькі скарыцца.

У копанку, дзе жылі дзівосныя саламандры, хвастатыя трытоны і паласатыя пражорлівыя жабаедкі, можна было толькі ўзірацца праз блішчастую паверхню вады — усё гэта былі карцінкі з недасяжнага, але захапляльнага для Коткі жыцця.

Сцяна на сонцы моцна награвалася, і Котка любіла папеставацца ля яе. Змружыўшы вочы, яна цікавала за зіхоткім кругам у небе, ад якога ішла прыемная цеплыня. Ён нагадваў вялікую галаву рудога ката, светла-чырвонага кудлатага перса, і Котка час ад часу ціхутка мяўкала. Яна была адна, таму пачувалася вельмі самотнай.

Усё яе атачэнне і мітуслівае жыццё было танцамі стракатых паўзуноў на дзіравай сцяне, урачыстыя дэманстрацыі трытонаў у шкляной глыбіні копанкі і баязлівыя перабежкі яшчарак, якія драпалі тынкоўку сваімі маленькімі кіпцюркамі.

Калісьці тут жыла і Буразубка — істота, падобная да мышы, але з рыльцам, як у свінкі. Але яна невядома куды знікла, можа нават праз тое, што яшчаркі абгаварылі Котку. Яна не збіралася забіваць Буразубку! Але яшчаркі — гэта яшчаркі, чаго ад іх чакаць! Задумалі — і абгаварылі.

Яшчаркі вучыліся ў сваёй школе складанай навуцы — тынковачнаму клінапісу. І кожная маці спадзявалася, што менавіта яе дачка або сын стануць выбітнымі асобамі свайго віду. Яны былі своеасаблівымі, гэта праўда, людзям такія і не сніліся. Ну і добра! А то прысніцца адукаваная яшчарка, а чалавек спрасоння злякнецца і назаве такі сон кашмарам.

«Навука яшчарак прыдатная толькі для іх, — думала Котка, — гэта іх справа».

Яна муркатала і выгіналася перад вакном, якое ніколі не адчынялася і ўжо напалову было захінута павоем: у доме даўно ніхто не жыў. Можа гэта было да лепшага.

— Тупіца-дармаедка, котка-жываглотка! — насмешліва запішчэла дробная бессаромная няяшчарка і адразу ж слізганула ў адну з гэтых ненавісных шчылін.

Ніхто, нават самыя смелыя няяшчары не набліжаліся да Коткі, якая пеставалася ў промнях сонейка. Да самага палудня нічога не абяцала ні прыгод, ні нечаканасцяў.

Сонца паліла, у паветры дрыжэла смуга. Маладыя яшчаркі слізгалі па вечназялёных раслінах, а Котка драмала і нават не марыла пра нашэсце Паласатай Жабаедкі.

Але! Спачатку з'явіліся вясёлкавыя водбліскі святла, нібыта недзе схаваўся неслухмяны хлопчык і пускаў сонечных зайцоў з кішэннага люстэрка.

Котка шырэй расплюшчыла змружаныя вочы — яшчаркі перасталі драпаць сцены сваімі маленькімі кіпцюркамі. Ніводнага гарэзлівага хлопчыка Котка не пабачыла. Водбліскі гойдаліся, зыбаліся, як кругі на вадзе, калі па ёй бяжыць павук-вадамер. Котка млява пазяхнула.

Пра блізкасць Жабаедкі паведамляў хіба што смурод: зялёныя рапіры чароту нават не зварухнуліся, нібыта там ніколі і нікога не было. Котка натапырыла вусы.

«Гэта пражора павінна хутка з'явіцца! — імгненна скеміла Котка і зашыпела. — Мяу-сс! Хто там?»

Ні гуку ў адказ! І раптам нехта завуркатаў. Лясны голуб. Котка чуйна прыслухоўвалася. На вадзе яна пабачыла дробнае зыбанне. Зноў закружлялі вясёлкавыя водбліскі, затрымцелі стракатыя лісты... О, так! Зараз Котка нават не сумнявалася: там была яе даўняя варагіня.

Котка млява пацягнулася. Цікава, якая на смак гэта паляўнічая на трытонаў? Магчыма, яе мяса нагадвае мяса ракаў? О, гэта было б надзвычай хараша! Неяк суседскі хлопчык пачаставаў Котку хвастом рака, і яна не забылася тонкага водару і смаку гэтага надзвычайнага дэлікатэсу!

А Жабаедцы — так, гэта была яна — нічога ўжо не заставалася, як напалову высунуцца з чароту і абсушыцца на сонейку. Пры гэтым адным вокам яна цікавала за жабамі, другім — за Коткай. Нарэшце яна скокнула на круты пясчаны бераг копанкі, і адразу стала зразумелым, што Абжоры даўно не шчасціла на паляванні. Была яна ссохлая, а скура на ёй зморшчылася і зацвярдзела.

— Кц-кц-кц! —прамовіла яна, нібыта нешта жуючы. — Што я бачу?

— Сябе! — прамуркатала Котка. — Ну, зірні ў ваду!

— Ай, не хачу! — адказала Жабаедка. — Я ведаю, што жахліва схуднела.

— О, а я думала, ты адмыслова на конкурс прыгажосці рыхтуешся, на водарасцевай дыеце сядзіш! Ну дык табе пашчасціла: тут ні адной жабы няма! І спакусы парушыць дыету — таксама!

Зіхоткія вясёлкавыя водбліскі на лістоце згаслі. Водная гладзь выраўнілася — павукі-вадамеркі супынілі свой бег. Ну і нудота!

— Котачка! — раптам звярнулася да Коткі Жабаедка. — Я хачу табе нештачкі сказаць!

— Давай, выкладвай! — дазволіла Котка, згарнуўшыся ў клубочак. — Што за дрэнь цябе зноў непакоіць? Мінулы раз я паддалася на тваё ўгаворы і звалілася ў копанку, намагаючыся злавіць рыбу-напільнік, смак якой ты расхвальвала на ўсе лады. Што сёння скажаш?

— Ёсць яшчэ рыба-молат і рыба-піла! — абвясціла Абжора-Жабаедка. — А ў мяне ёсць план!

— Планка? Для чаго? — насмешліва перапытала Котка, змружыўшы вочы.

— Не смейся! — працягвала Абжора. — Мой унутраны голас кажа...

— Што за байкі ты баіш? Для ката ў мяшку! — прамуркатала Котка. — А ў мяне няма часу слухаць тваё трызненне!

— Ды даслухай ты! — настойвала Абжора. — Я чакаю, калі ў раскрыты мех пасыпяцца жабы! Ну ці нешта іншае ядомае! Але патрэбна твая дапамога!

Котка заплюшчыла вочы. Выдавала, яна нудзіцца, але — не! Яна вырашыла патрываць прысутнасць Абжоры-Жабаедкі, раптам з гэтага нешта атрымаецца (Котка заўжды заглыблялася ў разнастайныя навукі, абы новаму досведу на карысць).

— Справа такая, — працягвала Абжора-Жабаедка, натхнёная маўклівай згодай Коткі. — Я задумала раздзяліць Двухгаловае Цмачанё!

— Каго? Гэту няяшчарку з дзвюма галавамі, якія паміж сабой увесь час сварацца?

— Анягож! Пакуль яны будуць спрачацца, хто з іх важнейшы, мы гэтае Цмачанё і схопім! Вось і разгледзім, дзе там галава. А дзе — хвост! Толькі хапаць трэба разам. Я буду трымаць адну галаву, ты — другую. Ра-аз! І ў нас дзве няяшчаркі!

--Ты дзеліш здабычу, якую мы яшчэ не злавілі!

— Дык зловім! Галавы пачнуць цягнуць кожная ў свой бок, а хвост жа павінен застацца на месцы! Я ўжо ўсё пралічыла!

— Пані Абжора, а хіба можна есці няяшчара? Я іх ганяю толькі ад нечага рабіць, дзеля ўласнай радасці, алі ніколі не каштавала.

— Ды ўежныя яны, ўежныя! Нагадваюць на смак мяса курэй — таксама як і жабы.

— Фр-р-фу! — зморшчылася Котка. — Жабы падыходзяць для гульні, а не для ежы!

— О, як ты памыляешся! — сказала Абжора.

Двухгаловая няяшчарка выглянула са шчыліны толькі апоўдні, калі і Котка, і Жабаедка ўжо знемагліся на сонечным прыпеку. Галовы зіркнулі кожная на свой бок і адразу ж завяліся ў спрэчцы.

— Я хачу на Усход, туды, дзе ўстае сонца! — крычала меньшая галава.

— А я — на Захад, дзе сонца заходзіць!

— Але ж ты і дурная! — піскнула першая галава. — Там жа жывуць людаеды!

— Сама тупая! — адбрахнулася другая галава. — Яны ж харчуюцца людзямі, а не яшчаркамі!

— Мы — не яшчаркі! Мы — няяшчаркі! Маленькія цмачаняты! Усё ж гэта розніца!

— Не такая ўжо істотная!

— А як ты давядзеш людаеду, што ў нас няма нічога чалавечага?

Абедзве пішчалі ўсё мацней, Абжора задаволена чаўкала, а Котка насмешліва натапырыла вусы. Калі няяшчаркі ўжо махалі кулакамі, Абжора пачала

рухацца ў іх бок. І Котка лянотна-лянотна набліжалася з супрацьлеглага боку. А скандалісткі так захапіліся сваёй спрэчкай, што нічога вакол не бачылі.

— Ты кажаш не слушна! — крычала адна галава.

— Гэта ты разважаеш тупа! — шыпела другая.

— Раз, два, тры — ра-зам! — скамандвала Абжора.

І яны скокнулі. Мох і расліны, якія захіналі старую сцяну, паляцелі на ўсе бакі.

— Хапай! — фыркнула Котка.

— Трымай! — загаласіла Абжора. — Цягні! — ажно стагнала яна.

Але галовы, якія высвятлялі адносіны, нават не заўважылі, што іх схапілі.

— Я кажу слушна! А ты яшчэ атрымаеш на арэхі! — раўла большая галава.

— Сама пабачыш, што праўда на маім баку! — ажно заходзілася меньшая.

— Ну, ці не я казала, што будзе весела? — задаволена прамовіла Жабаедка. — Давай, цягні мацней! — падахвоціла яна Котку.

— У-ух! — натужліва ўздыхнула Котка. Абедзве цягнулі што ёсць сілы, упіраючыся ў зямлю.

— Плямсь! — пачуўся ціхі гук, нібы гумка на майтках лопнула. А галовы сварыліся і не заўважылі нават, што з двухгаловай няшчаркі сталі асобнымі істотамі невядома якой пароды. Яны ўсё сварыліся!

— Дурная рэптылія! — раўла большая.

— Сама такая! — не здавалася меншая.

— Што мы зробім з імі? Павэндзім на сонцы ці з'ямо як ёсць? — спытала Абжора.

— Я спачатку патрэніруюся ў скоках! — адказала Котка. — Толькі кіпцікі навастру!

Пакуль усё гэта адбывалася, сонца знікла ў хмарах, і на зямлю ўпалі першыя кроплі дажджу.

— Выдае мне, зараз будзе залева, — зашыпела Котка. — Нешта ў мяне аніякага натхнення мокнуць.

— Адрынутая істота! — крычала большая палова няшчаркі, працягваючы разборкі з меншай.

— Цяжкі выпадак! — прамовіла Абжора, цягнучы меншую частку няшчаркі ў бок копанкі. У гэтае імгненне неба як парвалася, і на зямлю абрынуліся патокі вады.

— Мокра! — пранізліва мяўкнула Котка, абтрасаючы з сябе ваду — і адпусціла сваю здабычу, адну з нявшчарак.

Але тая не спяшалася ўцякаць і хавацца ў шчыліне ў сцяне. Яна пусцілася наўздагон за другой і з лёгкасцю дагнала яе, бо зараз, аддзеленая ад агульнага хваста, мела больш месца для разбегу.

— Вось табе! — крыкнула яна і ўдарыла.

Але ўдар прыйшоўся не па другой нявшчарцы, а па Абжоры-Жабаедцы. Яна раптам сціснулася, нібыта з яе выпусцілі паветра.

— Ратуйце! — закрычала Жабаедка. — Рабаўнікі!

Залева ўсё мацнела. Котка пабрыла прэч, і нават не азірнулася. Яна згадала пра свой сподачак з малаком. Атрасаючы лапкі і абмінаючы перапоўненыя лужыны, яна яшчэ пачула гучны плёскат — відаць, гэта была Абжора, якая цяжка плюхнулася ў копанку.

Зараз ужо быў чуцен толькі ціхі плёскат вады і віскат абодвух нгяяшчарак, якія з усіх сілаў лупцавалі адна адну.

**Пераклад на беларускую мову Алены Масла.**

*Аўтар перакладу выказвае шчырую падзяку Вентспілскаму Дому творчасці пісьменнікаў і перакладчыкаў за цёплую атмасферу і магчымасць супрацы з аўтаркай казак — Дагніяй Дрэйка.*



# Ісмаіл Кадарэ

Сярод творчага набытку Ісмаіля Кадарэ, аднаго з самых вядомых еўрапейскіх празаікаў, ёсць некалькі твораў, прысвечаных жыццю і дзейнасці пісьменнікаў ва ўмовах дыктатуры. Аповед «Албанскі Звяз пісьменнікаў адлюстраваны ў жанчыне» — адзін з іх. Твор гэты аўтабіяграфічны, і ў ім аўтар апавядае пра трагічныя і, адначас, трагікамічныя моманты існавання майстроў мастацкага слова ва ўмовах дыктатарскага рэжыму Энвера Ходжа. Бясконцыя разборкі на сходах, забарона пісаць і друкавацца, кампаніі «чыстак» ды «пераковак», высылкі ў сельскія раёны, нарэшце, турэмныя нары — такімі былі рэаліі тамтэйшага жыцця.

У аповедзе, як правіла, не называюцца пісьменніцкія прозвішчы, але той, хто збольшага ведае албанскую літаратуру, адразу зразумее — пра каго гаворка. Так, старшынём Звязу пісьменнікаў Албаніі згаданым часам быў вядомы празаік Дзімітар Шутэрычы, які заўсёды вагаўся разам з лініяй партыі, але гэта яго не ўратавала. Падчас адной з палітычных чыстак ён быў выкінуты з пасады за страту рэвалюцыйнай пільнасці і накіраваны на «працоўнае перавыхаванне». Ну а пад ініцыяламі Э.Ч. у аповедзе фігуруе ўсясветна вядомы мовазнаўца Экрэм Чабэй. Падчас паездкі на Міжнародны кангрэс лінгвістаў гэты ўсімі паважаны навуковец меў неасцярожнасць пацалаваць руку знаёмай даме — удзельніцы кангрэса, — што было кваліфікавана як буржуазны выбрык. У выніку Экрэму Чабэю забаранілі выязджаць за мяжу. Ужо толькі гэты, амаль камічны выпадак, дэманструе — да якой ступені духоўнага маразму дайшла ў свой час камуністычная дыктатура ў Албаніі.

Сярод герояў аповеду ёсць яшчэ адзін персанаж — прадстаўніца самай старажытнай у свеце прафесіі — апошняя тыранская куртызанка Маргарыта. Пісьменнік нездарма праводзіць раўналежнікі паміж гэтай жанчынай і Звязам албанскіх пісьменнікаў, даводзячы, што куртызанка ўрэшце рэшт здолела, коштам уласнага жыцця, абараніць сваю чалавечую годнасць, тым часам як пісьменнікі навыперадкі спявалі хваласпевы на адрас «вялікага правадыра».

Чытаючы аповед Ісмаіля Кадарэ, міжволі згадваюцца і беларускія савецкія пісьменнікі — тыя, якія называлі сябе «салдатамі партыі» і якія шмат у чым былі падобныя да сваіх албанскіх калег.

# Албанскі Звяз пісьменнікаў адлюстраваны ў жанчыне

Параўнанне Звязу пісьменнікаў Албаніі з куртызанкай можа падацца вульгарным з-за незлічоных злоўжыванняў метафарамі, якія сталі надта пашыранымі пасля краху камунізму. Але маё жаданне скласці дакладную гісторыю Звязу (ці, прынамсі, гісторыю з 1962 па 1967 год) заўсёды абуджала ўва мне выяву адной жанчыны па імені Маргарыта. Я нават не мог іх аддзяліць адно ад другога; яны былі звязаны разам, як нейкі напаўзабыты водар.

Маргарыта была куртызанкай. Яна жыла ў маленькім завулку каля вуліцы Дыбра. Насупраць знаходзіўся яшчэ адзін завулак, дзе тым часам месціўся Звяз пісьменнікаў.

Я чуў пра аднаго французскага архітэктара, які стварыў насупраць класічнага сабора сучасны будынак з фасадам са шкла, каб адбіць яго веліч. З той пары такія прыёмы сталі вельмі папулярныя. Цяжка, аднак, уявіць якую-небудзь сувязь паміж будынкам Звязу пісьменнікаў і той установай, якая ў ім месцілася, і жанчынай, што жыла непадалёку. Гэта яшчэ цяжэй зрабіць, калі ўлічыць, што Звяз пісьменнікаў, перш чым тут атабарыцца — у былой віле міністра ўнутраных спраў часоў манархіі, — знаходзіўся на вуліцы Карнарвон, поруч з ранейшым палацам прынцэс і Нацыянальнай бібліятэкай. (Пазней, калі Звяз пераехаў у будынак на Кавайскай вуліцы, дзе кароль Зогу ў 1938 годзе святкаваў вяселле, людзі сталі падазраваць, што нейкі магічны цень манарха лунае над гэтай ультракамуністычнай установай).

Такім чынам, — у гэтым не было сумневу, — я даведаўся пра Маргарыту менавіта таму, што яе дом стаяў дзесьці ў суседнім завулку, насупраць Звязу пісьменнікаў.

На вуліцы Дыбра было колькі кавярняў, дзе маладыя рэпарцёры са Звязу пісьменнікаў у час сіесты асвяжаліся півам. Побач была прыватная крама садавіны. Менавіта там упершыню ўбачыў Маргарыту. Я выходзіў з кавярні, як раптам мой сябар са Звязу шапнуў: «Глядзі, гэта Маргарыта. Тая самая кабета, што жыве на другім баку вуліцы».

Да мяне ўжо даходзілі пра яе нейкія чуткі, але нагэтулькі блытаныя, што я нічога дакладна пра тую асобу не ведаў. Апроч таго, што яна была адной са старасвецкіх дам і жыла са сваёю састарэлай маткай у невялікім дамку ў завулку.

І, насуперак майму ўяўленню, што кабета тая засталася ў сваім часе, — дзесьці ў сярэдзіне трыццатых, — лёгкая летняя сукенка рабіла яе маладзейшай. Твар у кабеты быў бледны, а чырвона-брунатныя валасы спадалі распушчанымі кудзеркамі на шыю. Але пры гэтым яна зусім не выглядала вульгарнай. Гэта была свайго роду Ганна Карэніна, але без Уронскага і віскату

вагонных колаў. Замест таго, у шасцідзясятыя гады, ёй лёсіла стаць распуснай кабетай і векаваць у камуністычнай балканскай краіне.

Па дарозе да Звязу пісьменнікаў я ўважліва слухаў тое, што расказваў мне калега. Кабета была самай знакамітай і, магчыма, апошняй куртызанкай ва ўсёй Тыране. Даводзілася дзівіцца, што яна жыла тут, у Албаніі. Яе наведнікамі было абранае кола асобаў, якія даведваліся пра яе адзін ад аднаго. Кожнаму з іх яна дазваляла застацца нанач і пры гэтым ужывала забароненую форму звароту — «спадар». У тры гадзіны ночы яе маці падавала каву, а госць з асцярогаю пхаў грошы — тысячу лекаў — пад падушку Маргарыты.

Нячаста мне даводзілася слухаць гісторыі з такім захапленнем.

Калі б нехта сказаў мне раней, што буду захоплены жанчынай старасвецкіх манер — адной з тых спадарынь у міткалёвых капелюшах і вэлюмах, здымкі якіх можна знайсці ў сямейных альбомах буржуазных сем'яў Тыраны, — дык памёр бы ад смеху. «Ты ўсяго толькі смешны чувак, — сказаў бы я сабе, — сентыментальны дурань у стыльных штанах-клёшах, у швэдры з надпісам «XX» — знакам дваццатага стагоддзя, — і з наборам іншых недарэчных цацак, якімі ты карыстаешся, каб зрабіць уражанне на дзяўчын».

Як вада ўздымаецца праз расколіну ў лёдзе, так у маёй галаве нараджалася ісціна: дзяўчыны, якіх я ведаў — са здаровымі страўнікамі ды ідэальнымі фігурамі, адшліфаванымі шматгадзіннымі заняткамі спортам, фізічнымі нагрузкамі і плаваннем — здаліся мне раптам нейкімі стэрыльнымі. Ім, у параўнанні з целам Маргарыты, не ставала жаночай таямнічасці, якой я прагнуў.

Ужо было далёка за поўнач — магчыма, гэта быў той самы момант, калі маці Маргарыты прынесла другі кубак кавы ў спальню, — я ляжаў з адкрытымі вачамі і ўяўляў чорныя падвязкі Маргарыты, што віселі на спінцы ложка, і яе шаўковую, скамечаную любошчамі ніжнюю бялізну.

*Чорныя падвязкі дамы з іншага часу,*
*Нібыта сутонне, кідалі цень на мае думкі.*

Цяжка сказаць, колькі часу пульсаваў ува мне гэты юр. Здавалася, што яго сілкуе не адна крыніца, а некалькі, ручаі якіх зліваюцца ў адзін струмень. Мне здавалася, што я бачыў твары падобных кабет на фотаздымках надмагілляў старых тыранскіх магілак. Аднойчы, на рагу вуліцы каля кавярні «Час», я ўбачыў вядомага лінгвіста Э.Ч., які прыўзняў капялюш і павітаўся з адной такой кабетай. Гэта было незвычайна — бачыць такое ў албанскай сталіцы. Я рушыў следам за навукоўцам у спадзеўцы, што ён паўторыць жэст. Але сапраўдныя ледзі, відавочна, былі рэдкія на вуліцах Тыраны.

Я ведаў, што з-за падобнага жэста — ён пацалаваў ручку кабеце-лінгвісту з краіны, якая зараз была нашым ворагам, — Э.Ч. больш не дазвалялі наведваць міжнародныя канферэнцыі. Я ішоў следам з думкаю: якое ж гэта павінна быць для яго катаванне — пазбыцца згаданай звычкі. Мы, маладыя інтэлігенты, мелі перавагу перад ім, бо нават не ведалі, як пацалаваць кабеце руку. Калі б і паспрабавалі, дык нашы рухі, хутчэй, выглядалі такімі ж недарэчнымі,

як рухі шымпанзэ, ці, яшчэ горш, маглі б параніць іх далікатныя пальцы зубамі, якія ў нас выпіналіся наперад.

Мне падумалася, што госці Маргарыты былі, напэўна, людзьмі кшталту Э.Ч., хоць і не мог уявіць сабе — як стары прафесар можа пастукаць у яе дзверы. Не, яе госці, мабыць, былі іншыя. Іншыя... але якія? Хоць я і быў панураны ў думкі пра наведванне Маргарыты, план такі ўсё яшчэ быў ахінуты туманам. Як я змагу з ёю звязацца? І як сустрэць таго, хто ўжо хадзіў да яе? Прыйсці проста так, без запрашэння, не выпадала.

Маё захапленне Маргарытай магло б згаснуць з часам, як гэта звычайна бывае, калі б не выпадак, які яшчэ раз звёў мяне з ёю — каля той жа крамы садавіны. Я стаяў на вуліцы і заляцаўся да маладой паэткі. Прычым, даволі паспяхова, бо тая належала да тыпу дзяўчат, якія губляюць галаву, калі мужчыны з абыякавасцю глядзяць на іх і гавораць з недасяжным апломбам. Я распавядаў пра кастрыраваных індыйскіх студэнтаў, якіх давялося сустрэць у Інстытуце імя Горкага ў Маскве, і раптам убачыў Маргарыту. І тут жа забыўся — пра што казаў дагэтуль. Маргарыта ішла нясмела, амаль спалохана, праз дарогу. Можна было падумаць, што яна ўпершыню выйшла з хаты.

Збіўшыся з думкі, я стаў вярзці нейкую лухту. «Пасля апеляцыі Джавахарлала Нэру і расследавання камісіяй ААН дэмаграфічнага выбуху, індыйскія студэнты былі кастрыраваныя ў сваёй уласнай краіне, пад акампанемент музыкі, якая павінна была абудзіць іх патрыятычны запал. То бок, — я не спыняўся, — студэнты стаялі ў чэргах у імправізаваныя аперацыйныя, удыхаючы пах антысептыку, а ў гэты час аркестры гралі на працягу дня і ночы». Дзяўчына не вытрымала, перапыніла мяне і сказала, што гаманіць са мной вельмі цікава, але я зусім яе не заўважаю, кажу абы-што і, падобна, знаходжуся ў думках зусім у іншым месцы.

Мне хацелася адказаць: «Ты хоць уяўляеш, што адбываецца, дурніца? Поруч з намі Маргарыта!» Урэшце паэтка зразумела, што адбываецца. Яна скоса зірнула на кабету, якая ішла па вуліцы, потым зрабіла лёгкі рух вуснамі, як бы кажучы: «Я зразумела». Але мне было ўсё адно, што яна падумала. Мая ўвага была засяроджана на Маргарыце — тая якраз пераходзіла дарогу. Па вуліцы, разганяючы мінакоў, імчаў перапэцканы цэментам грузавік. На ягоным борце было напісана: «Няхай жыве Пяцігодка!»

Маргарыта, нарэшце, падышла да таго месца, дзе мы стаялі. Яна была апранута ў тую ж летнюю сукенку, як і мінулым разам. Яе валасы былі акуратна прычасаныя: фрызура не была моднай, але выгляд мела адметны і нагадала мне Грэту Гарбо. Так, Грэту Гарбо, але праз прызму правінцыйнай албанскай нуды.

Перш, чым увайсці ў краму з садавінай, яна азірнулася і, убачыўшы мяне, акінула далікатным позіркам. У яе вачах бліснула ўсмешка, і выглядала Маргарыта так, як выглядаюць кабеты, што ведаюць нейкую таямніцу, але не збіраюцца яе нікому распавядаць.

Бязладныя думкі віравалі ў галаве, як аўтамабілі, з-за якіх вось-вось можа надарыцца аварыя. Можна сказаць дакладна: яна ведала пра нас прыкладна столькі ж, колькі мы пра яе. Мы — гэта маладыя людзі, якія нядаўна вярнуліся з-за мяжы, дзе вучыліся, і цяпер працавалі ў газеце Звязу пісьменнікаў. Яна, напэўна, чытала кнігі. Як яшчэ праводзіць дні ў чаканні начнога падзення? Магчыма, яна цікавілася маладымі пісьменнікамі і мастакамі, якія, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, вучылі не французскую ці італьянскую мовы, а ўсходнія: польскую, мангольскую, расейскую, вугорскую.

Маргарыта выйшла з крамы з торбай яблыкаў у руцэ. Верагодна, хацела пачаставаць імі свайго госця падчас начной кавы. Яна адарыла мяне яшчэ адным далікатным, але мімалётным позіркам — без якіх-небудзь нюансаў, якія спадзяваўся ўбачыць.

Потым кабета перайшла на другі бок дарогі і схавалася ў сваім завулку. З грудзіны вырваўся ўздых палёгкі. Было адчуванне, што ўвесь гэты час вёў яе на ланцужку. Я няшчыра ўсміхнуўся паэтцы. У мяне не было ніякіх сумневаў наконт яе далейшых паводзінаў. Дзявочы позірк даў зразумець, што хоць паэтка мяне і паважала, але павага гэтая з кожнай хвілінай марнела. З'яўленне Маргарыты надало мне некаторай упэўненасці і я пачаў ізноў балбатаць пра цырымонію кастрацыі, якая, як я апісаў, праходзіла ў працятым пахам ёду бараку, пад акампанемент музыкаў, і назіралі за ёю Насер, Ціта і нашы кітайскія сябры.

Паэтка слухала мяне ўважліва, але ўжо без ранейшага сляпога замілавання. Мой позірк раз-пораз блукаў па дарозе, на якой ружова-ліловы бляск пазногцяў пальцаў ног Маргарыты, здавалася, пакінуў летуценны адбітак.

— Слухай, — звярнуўся я раптам да маладой паэткі, — ты калі-небудзь чула ад свайго дзядулі ці, прыкладам, ад дзядзькі, пра кабет лёгкіх паводзін? Я маю на ўвазе вулічных дзяватак, хоць гэта слова ў рэчаіснасці ім не адпавядае, бо тыя амаль ніколі не выходзяць з дому. Ці чула ты што пра кабет, якія маюць кола абраных каханкаў? Мяне цікавіць — як з імі можна звязацца?

Давялося паўтарыць пытанне некалькі разоў, перш чым яна зразумела пра што гаворка. І тут, упершыню, я ўбачыў пахмурны позірк. Такі выраз твару дзяўчыне, як ні дзіўна, вельмі пасаваў. Суразмоўніца раззлавалася. «За каго ты мяне прымаеш?» — выдыхнула з абурэннем. Я хацеў сказаць, што яна няправільна зразумела, што мяне, як пісьменніка і журналіста, цікавяць сацыяльныя стасункі, але дзяўчына не хацела больш нічога чуць. Яна кіўнула на развітанне і пайшла — з тым жа імпэтам, як і перапэцканы цэментам грузавік. Маладая паэтка не азірнулася, як гэта звычайна рабіла раней.

— Тупая сацрэалістычная карова! — уголас сказаў сам сабе і выкінуў яе імя з галавы.

Я вырашыў, што знайду спосаб, чаго б гэта ні каштавала, сустрэцца з Маргарытай. Думка тая апанавала маю істоту — ад мозгу да самых шлункаў.

Кожнага разу, калі адна частка майго цела суцішвалася, іншая частка пхала мяне наперад. Прычым, як ні дзіўна, распальвала мяне не толькі жаночая плоць.

У параўнанні са звычайнымі амурнымі справамі, у якіх папярэднія захады — шпацыры па парках, сядзенні ў кавярнях і пісанні лістоў — лёгкая справа, а фінал не заўсёды прадказальны, гэты выпадак быў куды больш складаным, бо тут трэба было знайсці кантакт. Мне патрэбна была альтэрнатыўная мапа Тыраны з сакрэтнымі кодамі і адрасамі, якія самастойна не меў ніякай магчымасці здабыць.

Аднойчы ўвечары я жлукціў піва ў бары «Бочка» з маім калегам па рэдакцыі, тым самым, які расказаў мне пра М. (так мы яе звалі). Неўзабаве нашы ногі панеслі нас туды, дзе, як меркавалі, быў яе дом. З вуліцы Барыкад перайшлі на вуліцу Дыбра. Я добра запомніў гэты ўваход у завулак, у якім знікла яна і яе пазногці колеру мары.

Была ціхая ноч, залітая слабым месяцавым святлом, якое, здавалася, было адмыслова створана для такіх мясцін, як гэты завулак у цэнтры горада. А сам завулак, у сваю чаргу, жыў сваім уласным жыццём удалечыні ад ззяння сацыялізму. Мы зазіралі ў дзвярныя праймы, за якімі былі бачныя маленькімі сады, у якіх раслі дрэвы хурмы. Дамкі тут мелі два паверхі, некаторыя былі з гзымсамі, а ў вокнах стаялі скрыні з кветкамі. Што%разу, калі бачылі асветленыя вокны, мы думалі, што гэта жытло Маргарыты.

Я дрэнна спаў тае начы. Урыўкі сноў, як смецце, праз якое з цяжкасцю прабіраўся, рабілі мяне яшчэ больш стомленым, чым ноч без сну. Я часта прачынаўся і амаль кожны раз перажываў адну і тую ж сцэну: нібыта ішоў па закінутым завулку, ужо ў якасці кліента Маргарыты, ліхаманкава пазіраючы на дзверы яе дома. Я нерваваўся і задаваўся пытаннем: ці насамрэч завулак знаходзіцца так далёка ад цэнтра горада, як уяўлялася? І ці можа такое быць, што ўсюдыісныя вочы Сігурымі[1] прагледзелі Маргарыту і яе наведнікаў? А можа яна была часткай сеткі інфарматараў? Мне раптам здалося, што так яно і было. І гэтага хапіла, каб астудзіць запал, і каб ліловы лак на пазногцях, чорныя падвязкі, кава а трэцяй гадзіне ночы і забароненае слова «спадар» страцілі сваю асалоду. Вызвалены ад путаў жарсці, я заснуў і прачнуўся на гадзіну пазней, нібыта ад гучных удараў звону. І ў тое ж імгненне згадаў словы стрыечнага брата, які працаваў у Міністэрстве ўнутраных спраў: «Ты думаеш, што мы бачым усё? Дазволь мне сказаць праўду. Усё якраз наадварот. Мы заплюшчваем вочы, каб не бачыць лайна. Мы тыя, хто стварыў гэты міф, каб усіх палохаць. І, як ні дзіўна, гэта спрацоўвае. Калі б ты толькі ведаў, што насамрэч адбываецца ў гэтай краіне».

Я ўзважваў гэтыя словы зноў і зноў, пакуль маё сэрца зноў не распалілася. *Калі б ты толькі ведаў, што насамрэч адбываецца ў гэтай краіне.* Той

[1] Сігурымі (алб. Drejtoria e Sigurimit te Shtetit) — албанскі аналаг КДБ.

хвіляй я быў перакананы: самая складаная справа, якая ёсць у краіне, гэта дабрацца да таго, што знаходзіцца паміж ног Маргарыты.

Урэшце пераканаў сябе, што страх перад Сігурымі безгрунтоўны. Нават калі Маргарыта будзе выкрытая, ведамства зацікавіцца толькі тым — ці хадзіў да яе які міністр ці генерал, — а не нейкі малады пісака. Асабліва ўлічваючы мае нядаўна надрукаваныя вершы. Я быў відавочна не тым чалавекам, каго сігурымшчыкі ўспрымуць усур'ёз, і сустрэчы з куртызанкай наўрад ці выльюцца ў вялікі скандал.

Прыгадаўшы, амаль са злосцю, раман, які напісаў падчас навучання ў Маскве, я выступіў у сваю абарону перад уяўным судом: «Ніколі не хаваў таго факта, што мяне прывабліваюць куртызанкі. Насамрэч, мой першы раман, які не змог апублікаваць, поўны імі аж па край. Вы можаце падтрымліваць кампанію з кім хочаце — з функцыянеркамі Выканаўчага камітэта Федэрацыі жанчын, з дэпутаткамі парламента, з удзельніцамі Пленума Партыі і г.д. Што да мяне, дык я падтрымліваю кампанію з тымі, каго варты: з куртызанкамі».

Наступнай раніцы, паснедаўшы з маім сябрам са Звязу пісьменнікаў, распавёў яму пра начныя жахі. Мы разам пасмяяліся. Потым ён сказаў, што жарты трэба адставіць, але я не маю рацыю ў адным: пасля нядаўняга палітычнага паслаблення рэжыму некаторыя раней забароненыя рэчы ўжо згубілі актуальнасць.

Гэта была праўда. Двума тыднямі раней сам Правадыр здзівіў усіх, зрабіўшы старамодны жэст, які быў так доўга ў нашай краіне пад забаронай. А менавіта: пацалаваў ручку жанчыне. І зрабіў гэта публічна, перад тэлекамерамі, падчас паседжання Народнага сходу!

Той пацалунак рукі прадстаўніцы грэцкай нацменшасці ў парламенце даў пачатак хвалі захаплення сярод інтэлігенцыі. Які джэнтльмен таварыш Энвер! У параўнанні з ім не толькі Хрушчоў і Готвальд[2], але нават Тарэз[3] у Парыжы выглядаюць вяскоўцамі.

Калі глядзеў вячаровыя навіны, прыгадаў лінгвіста Э.Ч., у якога былі вялікія праблемы з-за таго самага жэста. Тады мне прыйшло ў галаву, што менавіта дзякуючы Э.Ч. Правадыр Партыі прыгадаў гэтае правіла этыкету. На першы погляд, мая гіпотэза здавалася малаверагоднай. Але калі глянуць больш глыбока, дык у маіх здагадках быў пэўны сэнс. Яшчэ раней, на сустрэчы з інтэлігенцыяй, Правадыр Партыі ўхваліў працу Э.Ч. Упершыню за сямнаццаць гадоў. Ён, відавочна, шукаў нагоды пачаць адлігу і, таксама відавочна, прачытаў дасье Э.Ч., у якім меліся спасылкі на вядомы пацалунак рукі. Прыгнечаная падазронасць, рэфлексы малпы і настальгія па тых гадах, якія Энвер правёў у Францыі — усё гэта перамяшалася ў душы — і, магчыма, калі час надышоў, гэта падштурхнула Правадыра пацалаваць кабеце руку і, такім чынам, абвясціць пачатак адлігі.

[2] Готвальд, Клемент (1896 — 1953) — камуністычны лідар Чэхаславакіі, паслядоўны сталініст. Памёр праз два дні пасля вяртання з пахавінаў Сталіна.

[3] Тарэз, Марыс (1900 — 1964) — генеральны сакратар Французскай камуністычнай партыі.

Я быў перакананы ў тым, гэтак жа, як быў перакананы: адведкі Маргарыты зараз ужо не былі такімі небяспечнымі, як раней.

Адліга ў палітычным клімаце адначас суправаджалася, аднак, зачыненнем межаў. У аэрапорце Рынас[4] самалёты сталі прызямляцца ўсё радзей. Але паколькі скасаваныя рэйсы былі з краін Усходняга блока, людзі наўрад ці шкадавалі пра гэта: «Стала менш палётаў з Радавага Звязу і Усходняй Нямеччыны? І вы лічыце гэта дрэннай весткай?» Хоць пра гэта ніхто не казаў адкрыта, многія людзі марылі пра рэйсы з іншых краін, замест тых, з Усходу.

Паколькі паветраны рух скараціўся, на вуліцах стала менш сустракацца гасцей з сацыялістычных краін, і мы не ведалі — як сябе з імі паводзіць. Дагэтуль жылі з імі адной вялікай сям'ёй, а цяпер сталі адчужанымі.

Маргарыта заставалася ўбаку ад тых закалотаў. Яе цела было куды больш экзатычным, чым вугорцы, расейцы, латышы ці габрэі, з якімі наша пакаленне кантактавала. Яна належала іншай галактыцы, і мары пра яе былі падобныя палёту над безданню.

Рэдакцыя літаратурнай газеты займала два пакоі на другім паверсе Звязу пісьменнікаў. У адным з іх, меншым, сядзеў галоўны рэдактар; у іншым сядзелі журналісты. З шырокага вакна былі добра бачныя сад і каваныя брамы. Сад быў прыгожым заўсёды — як сонечнымі днямі, так і пахмурнымі, — а само вакно аднолькава добра пасавала як для мажорнага настрою, так і да спліну.

З гэтага пункта агляду мы бачылі наведнікаў, якія ўваходзілі і выходзілі з будынка. Калі глядзець зверху, яны выглядалі трохі крывымі ды камічнымі. Прыходзілі наведнікі без патрэбы, ці мелі нейкі клопат, — гэта немагчыма было вызначыць, як і тое — сыходзілі яны задаволенымі, ці расчараванымі. Візіты былі асабліва частымі ўвосень — тае пары выпраўлялі дэлегацыі за мяжу. Сёлета дэлегацый ехала значна менш, чым летась. Апроч Кітая, яшчэ былі магчымыя камандзіроўкі ў Карэю, В'етнам, на Кубу ды ў пару афрыканскіх краін. Выезды да арберэшаў[5] у Італію сталі такімі ж рэдкімі, як і з'яўленне камет у небе. Калі глядзеў з вакна на сад, які ўжо агаляла восень, у душы маёй нараджалася дылема, з якой часта сутыкаюцца ў казках, — выбар паміж двума аднолькава прывабнымі жаданнямі. У маім выпадку выбар палягаў паміж камандзіроўкай за мяжу і любошчамі з Маргарытай. Я б, вядома, выбраў першае, але са скрухаю ў сэрцы ў сувязі са стратай другога.

Ні я, ні мой калега больш не бачылі Маргарыты. Нам тады здавалася, што проста немагчыма знайсці дарогу, якая вядзе ў яе спальню. А можа сам лёс ратаваў нас ад таго, каб яе знайсці?

Пасля лістападаўскіх святаў зімовыя дні рабіліся ўсё больш нуднымі, асабліва ў Звязе пісьменнікаў. Нічога ў нашым жыцці не адбывалася. Пры-

---

[4] Рынас — міжнародны аэрапорт Тыраны.

[5] Арберэшы — (алб. Arbereshet) — адна з груп албанскага паходжання, якая пражывае на поўдні Італіі.

намсі, нічога такога, на што мы спадзяваліся. Я пачаў пісаць аповесць пад назвай, якая мне вельмі падабалася: «Прыкуты да пасцелі цыган». Праблема была у тым, што, апроч назвы і яркай ідэі, якая каштавала мне бяссоннай ночы і выглядала выключна інавацыйнай на той момант, я ўяўлення не меў — пра што пісаць. Ідэя была у тым, каб звязаць рытм аповеду з хваробай галоўнага героя. Іншымі словамі, калі ў яго ўздымалася тэмпература і паскараўся пульс, рытм твора, адпаведна, паскараўся. Але калі, прыкладам, цыган западаў у кому, дзея, наадварот, запавольвалася. І так усё павінна было развівацца ў адпаведнасці з яго ліхаманкамі, камянямі ў нырках і іншымі праблемамі.

Я напісаў толькі першую частку, у якой цыган быў агледжаны лекарам, і пачатак другой, у якой той чакаў вынікаў аналізаў. Праца спынілася, паколькі не мог вырашыць — якая хвароба павінна апанаваць цыгана. Мой калега — адзіны, з кім абмяркоўваў сваю ідэю, — заўважыў, што хвароба мае выключнае значэнне, бо ўсё астатняе ў рамане будзе ад яе залежаць. Калі б я планаваў вялікі раман у двух тамах, як гэта было модна апошнім часам, дык мог бы прыдумаць якую працяглую і цяжкую хваробу. А ў кароткім рамане цыган мог быць апаражаны хваробай, якая неўзабаве звяла б яго ў магілу. Я так замучыўся з завязкай рамана, што перастаў пісаць, і ад таго яшчэ больш пакутваў.

Аднойчы калега паведаміў, што даведаўся — як пазнаёміцца з М. Спосаб усталявання кантакту быў больш-менш уцямным, але не надта сакрэтным. Гіпатэтычны госць прыходзіў да яе суседкі, якая вязала і перакройвала швэдры. Там ён павінен быў згадаць асобны тып вязання, які ведала толькі Маргарыта і яе маці. Суседка клікала дзвюх кабет для гутаркі з госцем, ці вяла яго непасрэдна ў іх дом. Там аб усім і павінны былі дамовіцца. У душы мы нават узрадаваліся таму, што будзем «вязаць швэдры». Адзін для мяне — з пятлёй з падвойным «Х» — знакам дваццатага стагоддзя, — і адзін для майго калегі — з пятлёй на яго выбар.

Паколькі праца ў офісе была настолькі ж змрочнай, як і ўтомнай, мы часцяком марылі пра наш «дзень вязання», абмяркоўваючы візіт да суседкі М. А каб давесці, што мы сур'ёзныя людзі, вырашылі, што варта будзе завязаць гальштукі і надзець белыя кашулі. Тут жа ўзнікла пытанне аб нашым узросце. Паколькі баяліся, што нас адхіляць як занадта маладых людзей, мы ўзяліся абмяркоўваць розныя варыянты зачэсвання валасоў — каб выглядаць больш стала. Нам прыйшло ў галаву нацубіць капелюшы ці нядбайна прыпаліць цыгары — тыя самыя, якія прадаваліся ў гатэлі «Дайці». Я таксама надумаў выцягнуць, як бы выпадкова, зборнік апублікаваных падчас навучання ў Маскве вершаў, дзе ў прадмове гаварылася, што я пісаў іх пад уплывам пэўных узораў дэкадэнцкай літаратуры. Такі варыянт, хоць і рызыкоўны, здаваўся асабліва прывабным. Але, пасля першапачатковага захаплення такімі ідэямі, усё ж такі прыйшлі да высновы, што гэта занадта.

Усё адно як згадванне вяроўкі ў хаце шыбеніка. Нават гутаркі пра Грэту Гарбо, жахлівага Кафку ці Бенедэта Крочэ[6] — напачатку думалі, што яны былі б вельмі дарэчы — сталі выглядаць чымсьці недарэчным. Нас маглі прыняць за агентаў, правакатараў, ці, таго горш, за кандыдатаў на турэмныя нары. Хай лепш усё будзе натуральным.

Аднойчы, сакавіцкім халодным днём, наш галоўны рэдактар, які толькі што вярнуўся з нарады, што ладзілася ў Цэнтральным камітэце, паклікаў нас у свой кабінет. У рэдактара быў злавесны выраз твару, і словы ягоныя адразу ж астудзілі нашу кроў. Як вынікала, Партыя раскрытыкавала прэсу і, у прыватнасці, газету, што выдавалася Звязам пісьменнікаў. Гучала на нарадзе і крытыка самога Звязу пісьменнікаў. Але гэтае пытанне павінна было разглядацца на адным з наступных паседжанняў. Партыя, як вынікала, апошнім часам заўважыла пэўную млявасць газеты, адсутнасць рэвалюцыйнага запалу і пасіўнасць, што ніяк не спалучаецца з абавязковым аптымізмам у справе выхавання сацыялістычнага грамадства. Галоўны рэдактар прывёў некалькі прыкладаў, а потым звярнуўся да мяне: «Паслухайце, вы адказны за сектар знешнепалітычных дачыненняў, між тым матэрыялаў пра дасягненні літаратуры і мастацтва ў Кітаі, В'етнаме і на Кубе, а таксама пра рэвалюцыйнае і прагрэсіўнае мастацтва ў свеце з'явілася вобмаль. Тым часам было зашмат артыкулаў, скажам, пра смерць амерыканскага пісьменніка Хэмінгуэя, не кажучы ўжо пра чуткі і абвяржэнні факта самагубства Мэрылін Манро. Хацелася б ведаць — адкуль гэткая захопленасць ці, хутчэй, апантанасць самагубствамі? Нават паэму Маякоўскага «Воблака ў портках» надрукавалі з пазнакай «Напярэдадні ўгодкаў самагубства паэта». Я не ведаў, што адказаць. Пры якой іншай нагодзе выкруціўся б, сказаўшы, што мы заўсёды паведамлялі пра самагубствы і душэўныя крызісы заходніх пісьменнікаў як пра адну з праяваў агульнага крызісу капіталістычнага грамадства. Але выпадак з Маякоўскім, які скончыў самагубствам за часамі Сталіна, унёс у мае думкі сумятню. Іншыя аддзелы газеты таксама крытыкаваліся: за герметычнасць паэзіі і легкадумныя аповеды, за літаратурныя рэцэнзіі, якія дэфармавалі лінію Партыі. Пасля гутаркі з рэдактарам мы вярнуліся да сябе з панурымі галовамі.

Пазней даведаліся, што таго дня падобныя разбіральніцтвы ладзіліся паўсюдна: у Оперным тэатры, які быў недалёка ад нашага будынка; на кінастудыі; у Народным тэатры і, вядома, у выдавецтвах. Надзвычайны сход Звязу пісьменнікаў быў запланаваны на наступны тыдзень.

За два дні да сходу начальнік аддзела кадраў Звязу пісьменнікаў выклікаў мяне, каб высветліць абставіны маёй рэдакцыйнай камандзіроўкі ў Шкодэр, якая адбылася надоечы. Паводле інфармацыі, якую яму давялі, я наведаў там адну дэкадэнцкую ўстанову. Давялося ўскочыць на ногі, каб запярэчыць

---

[6] Бенедэта Крочэ (1866-1952) — італьянскі філосаф і гісторык.

гэтаму абвінавачанню. Я даводзіў, што не ведаю шкодэрскіх куртызанак, і наогул бавіў час выключна ў гатэлі, хаця тэмпература ў нумары была ніжэй нуля.

Кіраўнік аддзела кадраў слухаў мяне з іранічнай усмешкай. «Ну хопіць ужо, — сказаў ён нарэшце, — не трэба сядаць на каня. Дэкадэнцкія ўстановы — гэта не толькі публічныя дамы. І паколькі ад усяго адмаўляецеся, дазвольце паведаміць, што вы былі заўважаны ў так званым «літаратурным салоне» Шкодэра — у пацучынай нары старой каталіцкай буржуазіі горада, якая прагне вярнуць старыя часы».

Было такое ўражанне, што мне далі аплявуху. Уся мая былая фанабэрыя вобмігам знікла, бо насамрэч наведаў літаратурны сход. Паэт-гумарыст па імені Бік Х., рэдкі ёлупень, запрасіў мяне туды, сказаўшы, што наведванне вечарамі літаратурнага салона — гэта адна з тых традыцый, якую толькі наш любы Шкодэр здолеў захаваць.

Я быў у захапленні ад прапановы наведаць стары асабняк у цэнтры горада, дзе ўсё было як раней: дываны ў вялікай святліцы, камін і жароўня ў асманскім стылі, абраз Панны ў куце і, вядома, цікавыя асобы. Апроч гаспадыні, якую ўсе клікалі спадарыня Бімблі, якая агорала амаль семдзясят гадоў, і да якой, па чутках, Бік Х. рабіў залёты, была яшчэ мажная старая, якая за ўвесь вечар не прамовіла ні слова, і сляпы паэт Лэш Хуту.

Пасля таго, як мы папілі гарбаты з каньяком, Бік Х. прадэкламаваў нядаўна напісаны санет «Вясна восеньскай парою», які быў, зразумела, прысвечаны другой маладосці спадарыні Бімблі, хоць ніякіх прыкметаў той маладосці на ладна ўкормленым целе не назіралася. Потым сляпы паэт прачытаў верш, тэматычна зусім не падобны на санет. Гэта была абразлівая тырада ў адрас кабеты, якая некалі адхіліла яго заляцанні. Скончваўся верш словамі: «Вы не ўбачылі кахання ўва мне, ну дык жа заставайцеся сляпымі назаўжды».

Прыгадаўшы ўсё гэта, я крыху счырванеў. Начальнік аддзела заўважыў гэта і сказаў: «Вам, гляджу, самому сорамна».

Я яшчэ паспрабаваў давесці, што атмасфера, магчыма, і была старамоднай, але без якой-кольвечы настальгіі па мінулым.

Начальнік кадравай службы пакруціў галавой і стаў шукаць штосьці ў тэчцы, што ляжала перад ім. «Гэта толькі на першы погляд усё выглядае бязвінна, — сказаў начальнік, — але ж вы не ведаеце — што яны потым кажуць за вашай спінай. Прынамсі, не так важна — што было ці не было сказана на тых вячорках. Галоўнае — агульная атмасфера. Разумееце, пра што я кажу? Партыя, хай будзе вам вядома, назірае затуханне рэвалюцыйнага запалу. А гэта менавіта тое, чаго чакае вораг: страта пільнасці з нашага боку. Нашы так званыя «ліберальныя» паводзіны супарат расцэньвае як палітычную слабіну і хоча атрымаць поспех усюды, дзе мы спім у шапку. Калі вораг бачыць, што яго адкрытыя дзеянні праваліліся, ён пераключаецца на метады прытоеныя: алкаголь, кабеты, музыка, рэлігія, герметычная паэзія, мода.

Ён, вораг, паклаў вока менавіта на вас — маладых людзей, якія нядаўна вярнуліся з-за мяжы».

Яго вочы зіхацелі, як дзве жарынкі, а я слухаў і чакаў, што вось зараз начальнік пачне разбіраць прадмову да майго зборніка, дзе згадваецца дэкадэнцкі ўплыў на маю паэзію. Але, дзякуй Богу, пра гэта ён нічога не сказаў.

«Няма літаратурных салонаў, апроч салонаў Партыі, — працягваў начальнік. — Сустрэчы, кансультацыі з прадстаўнікамі рабочага класа, сходы — гэта самы вялікі салон мастацтва. А не нейкія там сырыя і брудныя дзіркі. Ты мяне разумееш, сынок?»

Падхапіўшыся на ногі, каб паказаць, што размова скончылася, начальнік падміргнуў мне, як гэта часцяком рабіў, калі хацеў падкрэсліць штосьці: «Надавайце крыху больш увагі таму, што пішаце, і прыслухоўвайцеся да парадаў, якія даюць нашы кітайскія таварышы. Вам усё зразумела?»

Я кіўнуў, збіты з панталыку плынню слоў, а яшчэ больш падміргваннем. «На сходзе, які адбудзецца паслязаўтра, таварышы будуць выказвацца па гэтых пытаннях», — сказаў ён наастачу. «Спадзяюся, маладыя людзі выкарыстаюць шанец, каб сказаць там сваё слова».

Сход праходзіў у адной з залаў Палаца культуры. У адрозненне ад папярэдніх падобных мерапрыемстваў, партыйныя функцыянеры, якія на ім прысутнічалі, сядзелі з незадаволенымі гіморамі на тварах. Тэма гаворкі была сапраўды суворай. Краіна знаходзіцца ў глыбокай блакадзе, і ў гэты час, калі албанскі народ і яго камуністычнае кіраўніцтва працуюць на ўсе жылы, спрабуючы прарваць блакаду, пісьменнікі і мастакі Албаніі, на жаль, паводзяць сябе не належным чынам.

Лухта з моўніцы лілася ракой: адарванасць ад працоўных мас, жыццё ў вежы са слановай косткі, буржуазныя звычкі.

«Дух абыякавасці, які не мае нічога агульнага з камуністычнымі ідэаламі, пашыраецца і ў нашым асяроддзі», — паведаміў старшыня пісьменніцкага Звязу. Усе настрыніліся ў чаканні — калі будуць называць канкрэтныя імёны. Напружанне ў зале нарастала. Мабыць, перш чым дабрацца да імёнаў, кіраўніцтва Партыі прыняло рашэнне пералічыць шкодныя ўплывы, якім мы саступілі. П'яніцы, сексуальна разбэшчаныя тыпы, гомасексуалісты, маральныя і палітычныя сутэнёры, карцёжнікі, уздыхальнікі па старых часінах, містыкі і герметыкі — усе яны не проста ўбіліся ў нашыя шэрагі, але і скарысталі свой уплыў для вербавання слабых духам таварышаў.

Сэрца маё павольна білася. Я здзейсніў, прынамсі, тры грахі, не кажучы ўжо пра захапленне самагубствамі, якое нядаўна асудзіў галоўны рэдактар, і маёй дакучлівай ідэі з чорнымі падвязкамі.

Прамоўца, мабыць, казаў заблізка да мікрафона, бо, калі ён выгукнуў слова «чыстка», гэта спарадзіла акустычны фон у зале. «Партыя выступае за чыстку сярод пісьменнікаў і мастакоў, — паўтарыў ён. — Вось дзеля чаго мы склікалі гэты сход. І гэта тое, што павінна быць на ім абмеркавана.

Натыкаючыся адзін на аднаго, мы, як тыя невідушчыя, гамузам шуганулі да выхаду.

Пасляабедзеннае пасяджэнне выглядала яшчэ больш гнятлівым.

Прамоўцы пераплёўвалі адно другога ў выкрывальніцтве, гаварылі пра заплямлены гонар інтэлігенцыі, пра эгаізм інтэлігенцыі, пра яе прагу да славы, грошай і раскошы. Перш, чым заклікаць да абавязковай «чысткі», адзін з прамоўцаў двойчы крыкнуў: «Ганьба нам!» Наступны прамоўца, не знайшоўшы нічога больш арыгінальнага, проста загарлаў: «Прыспеў час чарговай чысткі!»

«Як мы дакаціліся да такога бардака?» Менавіта з гэтых слоў, прамоўленых дрыготкім голасам, пачаў сваю прамову літаратар-ветэран. Пасля Першай усясветнай вайны ён пісаў п'есы для дзяцей, у якой сілы дабра заўсёды перамагалі зло; гэта забяспечыла яму поспех на працягу некалькіх рэжымаў. Цяпер жа ён абвясціў, што літаратары з'яўляюцца адкідамі грамадства і ляжаць на дне смеццевай скрыні.

У гэты момант ля ўваходу ў залу ўсчалася невялікая мітусня. Гэта жонка Вялікага Праваdыра вырашыла наведаць сход. Мы з калегам абмяняліся мімалётнымі позіркамі.

Пасля пісьменніка-ветэрана надышла чарга літаратурнага крытыка, а потым паэткі — той самай, якой распавядаў некалькі месяцаў таму пра індыйскае пакладанне. Дзікі позірк і звар'яцелы тон гаварыў пра яе небяспечную шчырасць.

«Мы, пісьменнікі малодшага пакалення, уваходзім у свет літаратуры з чыстымі пачуццямі, і вельмі засмучаны паводзінамі нашых старэйшых таварышаў. Але і дагэтуль не можам зразумець паходжанне таго нездаровага духу, які іх сапсаваў. Гэты сход адкрыў нам вочы!»

Маё сэрца заняпала. «Цяпер яна выгукне маё імя ў якасці прыкладу, — падумаў, праклінаючы сябе ў думках. — Якім ідыётам я быў, якім дурнем! Навошта распавёў ёй гісторыю пра пакладанне?»

Маладая паэтка доўжыла прамову са сталёвай рашучасцю. «Мы, маладыя пісьменнікі, ступілі на шлях літаратуры, будучы наіўнымі людзьмі, асабліва кабеты. Але ў гэтым няма нічога дрэннага, быць наіўным. Дрэнна, калі нехта спрабуе скарыстацца даверлівасцю іншых людзей».

Я быў агаломшаны. Цішыня ў зале стаяла абсалютная, бо амаль усе маладыя пісьменнікі пры Звязе спрабавалі займець з гэтай дзяўчынай адносіны, прапануючы за гэта надрукаваць яе вершы. Цяпер яны былі ўпэўнены, што іх імёны будуць названыя.

Што да мяне, дык наўпрост я не дамагаўся яе прыхільнасці, але гісторыя пра пакладанне выглядала як прэлюдыя да спакушэння.

Выступы рабіліся ўсё больш і больш агрэсіўнымі. «Да чаго мы дакаціліся, таварышы? — лямантавала з моўніцы кабета-літаратар, — іншыя здзяйсняюць вялікія справы на фронце працы, замярзаючы ў снезе, кідаючыся ў по-

лымя, каб выратаваць сваіх таварышаў, тым часам як мы тырчым на кухнях і нічога не робім».

Жонка Правадыра кіўнула на знак згоды, і некалькі сябраў прэзідыума гэты ківок паўтарылі.

Залу напоўніла цяжкое пачуццё віны. Некаторыя сядзелі з чырвонымі вачыма. Я быў упэўнены, што чую, як пара чалавек хлюпаюць насамі.

Як ачысціцца ад такіх абуральных хібаў? Дзе выйсце? Нібы чытаючы нашы думкі, старшыня ўправы Звязу пісьменнікаў, перад закрыццём паседжання, звярнуўся менавіта да гэтага пытання. «Сядзець і плакаць — гэта не выйсце. Мы павінны прыняць рашэнне. Сход лічу зачыненым, — абвясціў ён. — Наступнае паседжанне пачнецца заўтра раніцай а сёмай гадзіне».

Мы яшчэ раз абмяняліся позіркамі з калегам. Сход а сёмай раніцы? Тут не трэба каментароў.

Большасць пісьменнікаў і мастакоў ужо стаялі ля Палаца культуры, калі я туды прыехаў — з апухлымі і прыспанымі вачамі. Было шэсць трыццаць. Шкляныя дзверы яшчэ не адчынялі.

Я агледзеўся ў пошуках калегі. Той стаяў і паліў за калонай. «Прыйшоў сюды а шостай, а тут ужо поўна людзей, — прашаптаў ён. — За ўсю ноч вачэй не змежыў».

І вось сёмая гадзіна. Час адкрыцця паседжання, які напярэдадні здаваўся жудасна раннім, зараз выглядаў недаравальна познім.

Дзверы Палаца культуры, нарэшце, адчынілі, і людзі сталі ўваходзіць — з сур'ёзнымі тварамі і ў строгім маўчанні. Чальцы прэзідыума ўселіся за сталы з адпаведнай для такога выпадку годнасцю.

Старшыня адкрыў паседжанне, даўшы слова сакратару партарганізацыі пісьменніцкага Звязу. У таго быў падкрэслены аптымізм у голасе, які, аднак, не падаваў абсалютна ніякай надзеі. Наадварот, ён прымушаў нас яшчэ больш наструніцца. Калі наступны прамоўца прапанаваў занесці ў пастанову пункт пра зніжэнне заробку, зала аціхла, і хвіляй пазней я адчуў палёгку. Дык што яны тут плот гарадзілі! Хай скароцяць чортавы заробак ці нават прыбяруць яго зусім. Можа гэта дапаможа пазбыцца катаванняў.

Залу апанавала эйфарыя. Пісьменнікі гатовыя былі аддаць тое, што асацыявалася з задавальненнем і заганай. Іншымі словамі, яны развітваліся са сваімі заробкамі, як развітваюцца з самадайкай.

Пасярод усяго гэтага вэрхалу адзін пісьменнік, які толькі нядаўна заявіў пра сябе, падышоў да моўніцы і гучна, значна больш упэўнена, чым усе папярэднія прамоўцы, паведаміў, што незалежна ад таго, якое рашэнне па заробках будзе прынятае, ён адмаўляецца ад ганарара за раман, які толькі што выйшаў. Зала прывітала яго, хоць твары чальцоў прэзідыума засталіся абыякавымі.

Цяпер, калі напружанне крыху спала, я адчуў, як зацята білася сэрца. Не ведаю чаму, але той хвіляй падумаў пра Маргарыту. Яна, без сумневу, яшчэ спала, знясіленая начным каханнем. Пад падушкай госць пакінуў тысячу лек.

О, гэтая падушка, пад якой я таксама марыў пакінуць свой заробак. Гэты самы заробак, відавочна, і прымусіў мяне згадаць Маргарыту.

Залу чарговым разам апанавала цішыня. Паэт-актывіст з сур'ёзным выразам твару прамаўляў з моўніцы. З-за таго, што той заікаўся, словы ягоныя рабіліся яшчэ больш рэзкімі. «Мы казалі тут пра нашы раманы і нашы вершы, але я не пачуў, каб хто-небудзь успомніў самы велічны з усіх вершаў: паэму, якую нядаўна напісалі тут, у Албаніі».

Спатрэбіўся час, каб уцяміць, што паэт цытуе прамову, якую Правадыр агучыў у адным з гарадоў на поўначы краіны.

Мы зноў аціхлі і не паспелі перавесці дых, як здань віны, яшчэ больш злавесная, чым раней, вярнулася! Ледзяныя і пільныя вочы жонкі Правадыра ўтаропіліся ў залу. Мы не маглі зразумець — чаго ад нас хочуць.

Чыста паголены раманіст, які рэдка выказваўся на грамадскіх сустрэчах, папрасіў слова адразу пасля паэта. Перш, чым падысці да мікрафона, ён азваўся крыкам: «Зараз ці ніколі!»

Мы не паверылі сваім вушам. Раманіст заўсёды быў асцярожным чалавекам, і не аднойчы крытыкаваўся за інтэлектуальны герметызм. Цяпер жа ён таксама заклікаў да чыстак, але ў яшчэ больш рэзкіх выразах, чым папярэднікі. Сярод іншага, у яго прамове, нечакана і беззваротна, як тая хмара на небасхіле, з'явілася слова «перавыхаванне».

Усё стала зразумелым! Гэта была прамова Правадыра, перапісаная ў вершаванай форме, і ў якой Правадыр казаў пра тое «перавыхаванне». Але калі раней яно ўспрымалася з лёгкім сэрцам, бо датычылася, у асноўным, партыйнага апарата і бюракратычных урадоўцаў, дык цяпер збіраліся перавыхоўваць нас саміх. Такім чынам, не скарачэнне заробкаў ці якое іншае надуманае рашэнне было сутнасцю справы.

Паступова прыйшло разуменне сутнасці дзеі.

Гэта быў неверагодны тыдзень. Ніколі яшчэ не было столькі мітусні ў Звязе пісьменнікаў. З акна нашага кабінета мы назіралі мокрыя парасоны наведнікаў, якія вецер раз-пораз выварочваў навыварат.

Старшыня Звязу пісьменнікаў і партыйны сакратар гутарылі з кожным, каб высветліць — якім чынам падначаленыя збіраюцца ажыццяўляць уласнае «перавыхаванне». На іх думку, не гледзячы на аднагалосна прынятую пастанову, толькі частка пісьменнікаў была гатовая выехаць са сталіцы ў рэгіёны. Астатнія ж, відавочна, будуць сцвярджаць, што яны неабходныя тут, у Тыране.

Седзячы ў кабінеце старшыні, пісьменнікі, пачуўшы пра гарады і вёскі, дзе яны павінныя былі знаёміцца з сапраўдным жыццём, пачыналі казаць пра тыя праблемы, з-за якіх не маглі пакінуць свае дамы, у спадзеўцы, што Партыя выявіць велікадушнасць і разуменне.

Асабістыя праблемы, якія перашкаджалі ад'езду пісьменнікаў і мастакоў, былі даволі дзіўнымі. Неверагодна, што такая колькасць палымяных,

працятых сонцам твораў літаратуры і мастацтва, усяго таго багатага плёну албанскага сацыялістычнага рэалізму, была створана дарэшты хворымі і нямоглымі людзьмі. Праблемы з прастатай, гемароем, кілой, энурэзам здаваліся нікчэмнымі ў параўнанні з больш сур'ёзнымі хваробамі: гнойнымі язвамі, пустуламі, бубонамі, каростай, якіх не было ў Албаніі ўжо з часоў Асманскай імперыі

Пасля наведання кабінета старшыні, многія зноў прасіліся на прыём. На другім прыёме яны пералічвалі яшчэ больш сур'ёзныя захворванні, пра якія не згадалі падчас першай гутаркі, бо ім перашкаджаў іх «пракляты неабуржуазны гонар». Некаторыя нават расшпілялі порткі, каб паказаць генітальную экзему, пакрытую болькамі машонку ці яшчэ якія жахі. Адзін чалавек слёзна жаліўся на бясплоднасць жонкі і на тое, што яна, у дадатак, здраджвае яму з суседам. Яшчэ адзін жаліўся на сына, які яго збівае, а трэці прынёс дакумент, які сведчыў, што ён псіхічна хворы.

Чуткі пра тое, што заходняя прэса ўжо звоніць пра выгнанне пісьменнікаў са сталіцы Албаніі, дала надзею на тое, што выганяць прынамсі толькі траціну творчай інтэлігенцыі. Другая чутка сцвярджала, што гэта звоніць не заходняя, а албанская эмігранцкая прэса. Надзея паволі раставала. І ўсё ж па-ранейшаму лічылася, што нават у самым горшым выпадку, выганяць не больш паловы творцаў.

Неўзабаве стала вядома, што ні заходняя, ні эмігранцкая прэса і слова не напісалі пры тыя бедствы, якія неўзабаве зазнаюць албанскія пісьменнікі ды мастакі. І толькі адна эмігранцкая газетка, не без некаторага задавальнення, паведаміла, што ўсё, чым будуць займацца цяпер албанскія пісьменнікі, пойдзе ім на карысць. Бо стварыла ім «шчаслівае жыццё» сістэма, якую яны апявалі, дык хай цяпер карыстаюцца тым шчасцем напоўніцу.

Прыканцы тыдня мы зразумелі, што бессэнсоўна веславаць супраць плыні. Усе наўкол перавыхоўваліся, нават старшыня Звязу пісьменнікаў. У ягоны кабінет па-ранейшаму ішоў бясконцы канвой вядомых і менш вядомых асобаў; камуністаў і беспартыйных; людзей, якія здзейснілі палітычныя памылкі і людзей, якія іх не здзяйснялі; тыя, каму наканавана было здзейсніць памылкі ў будучыні і тыя, хто ніколі б іх не здзейсніў, і нават тыя, хто ўжо зусім нічога не мог здзейсніць. Апошнімі, каго выклікалі ў кабінет старшыні, былі супрацоўнікі апарата Звязу пісьменнікаў. Старшыня выглядаў спакойным, але мяшкі пад вачамі былі цяжэйшыя, чым звычайна. Ён прапанаваў нам сесці на канапу.

— Ну, зараз наша чарга, — без хітрыкаў пачаў старшыня. — Мяркую, вы ўсе чулі. Асабіста я еду ў Рубік і буду жыць сярод шахцёраў.

Мы з калегам кіўнулі на знак таго, што пра тое начутыя. Пакуль яго слухаў, мімаволі задаваўся пытаннем: чаму заўсёды ўнікаў гэтага чалавека? У трыццатых гадах ён вучыўся ў Францыі, заўсёды быў добра апрануты, часцяком у берэце і з люлькай, што рабіла яго падобным на французскіх пісьменнікаў, якіх

мы бачылі на здымках. Я знаходзіў усё гэта даволі цікавым, а за два тыдні да гэтага, мроячы пра Маргарыту, падумаў — як было б выдатна, калі б ён пазычыў мне свой берэт і люльку для першага візіту.

Але яшчэ з моманту нашай першай сустрэчы, калі ён запрасіў мяне на каву, як гэта звычайна рабіў з навічкамі, я адчуў, што наладзіць сяброўскія адносіны з ім будзе цяжка. Нягледзячы на берэт і люльку, размова наша была даволі нацягнутай. Падумаў тады, што гэта з-за мяне, і стаў хвалявацца. Я наогул не надта гаманкі, але тут проста з цяжкасцю варочаў языком і ў асноўным маўчаў. Наткнуўшыся на сцяну майго маўчання, ён таксама згубіў цікаўнасць да размовы. Яго люлька некалькі разоў згасала, і суразмоўца важдаўся з ёю, сюд-туд мяняючы тытунь.

Потым ён распытаў мяне пра навуку ў Інстытуце імя Горкага і расказаў крыху пра свае маладыя гады, праведзеныя ў Францыі. Пазней, згадваючы нашу сустрэчу, я, здаецца, зразумеў прычыну нашай няёмкасці. Гэты чалавек адвярнуўся ад Захаду і аддаў перавагу Усходу. Я ж толькі што вярнуўся з таго жудаснага Ўсходу, і ў маёй душы нараджалася сімпатыя да іншага геаграфічнага боку. Мы сустрэліся на скрыжаванні пад назвай Албанія, і кожны з нас трымаў банер, які паказваў у супрацьлеглы бок. Гэта амаль тое ж самае, калі б мы казалі адно другому: «І куды ж гэта вы накіроўваецеся... вы, дурань няшчасны?»

Ён разбураў маю мару, я рабіў то ж самае з ягонай. Было відавочна, што мы не маглі стаць сябрамі.

«Вось і ўсё, хлопцы», — сказаў старшыня. Я зірнуў на яго берэт і люльку, якімі ён прыціснуў куты свайго вялікага стала. Ён ужо не верыў у тое, што гэтыя рэчы выратуюць яго. «Вось і ўсё, хлопцы, — паўтарыў ён, ціснучы нам рукі, — хай поспех будзе з вамі, дзе б вы ні знаходзіліся».

Яшчэ праз тыдзень я апынуўся ў маленькім мястэчку В. Хадзіў на тэкстыльную фабрыку як малады пісьменнік, што вывучае жыццё рабочага класа, а яшчэ працаваў карэспандэнтам у мясцовай штотыднёвай газеце.

Раніцамі я тырчаў на фабрыцы, прычым у даволі прыемным асяродку. Там было шмат інжынераў і бухгалтараў, якія надоечы прыехалі з Тыраны, а таксама тых, хто скончыў навуку на Усходзе. Усе яны праводзілі вялікую частку вольнага часу ў заводскім клубе за кілішкам каньяку. З першага дня я цешыўся гэтай кампаніяй. Людзі былі спрэс вясёлыя і жартоўна непачцівымі да ўсяго. Мне асабліва падабалася, як яны звалі адзін аднаго мянушкамі, звязанымі з краінамі, дзе дагэтуль вучыліся. Тадж Пахол, верхавод сябрыны, быў Панам, таму што вучыўся ў Польшчы, а Сонма Ібрагім — Герам, бо грыз граніт навукі ва Усходняй Германіі.

Я быў адзіным, хто вучыўся Маскве, але ў іх вачах — нават не ведаю, чаму — Масква лічылася адсталай мясцінай. Слухаючы новых сяброў, я ніколі не спрабаваў абараніць расейскую сталіцу, але не адмаўляў сваёй захопленасці дарэшты адсталай рэччу: літаратурай. Адзінай праблемай было піць з

імі ўровень. Гэта служыла для іх пацверджаннем таго, што літаратура і сапраўды з'ява дарэшты адсталая.

У непагадзь другая палова дня ў мястэчку была асабліва нуднай. А вечары яшчэ горшымі. Асабліва суботнія, калі мае новыя сябры-інжынеры сядзелі на бясконцых нарадах.

Муза мяне там не наведвала, і рукапіс «Прыкутага да пасцелі цыгана», які я прыхапіў з сабой, ляжаў некрануты на дне валізкі. Даводзілася блукаць па галоўнай вуліцы ўбок адзінай гарадской гасцініцы, спыняцца каля афіш кінатэатра з дарэмнай надзеяй, што змянілі адзін і той жа штотыднёвы фільм, і рушыць па вуліцы ў адваротным напрамку.

Мінакі таго вечару сустракаліся рэдка. Брудны рэстаран, дзе я абедаў, яшчэ быў зачынены. Дзве сястры, якіх усе тут лічылі маральна няўстойлівымі з прычыны ўласцівай ім слабасці да мужчынскага полу, асабліва да прыезджых сталічных мужыкоў, шпацыравалі пад ручку па вуліцы, калышучы пры гэтым клубамі. Убачыўшы іх, мой сплін узмацніўся. «Наелі тлустыя дупы, самадайкі!» — мармытнуў незнаёмы мне мінак.

У рэстаране, нарэшце, адчынілі дзверы. Я сеў у кут і замовіў адну з дзвюх страў, якія былі ў меню: тушанае мяса з квасоляй. Нейкі чалавек, які ўвесь час штосьці няўцямна бубніў, сеў побач. «Пайшоў адсюль, смярдзяк!» — выгукнуў ён у мой бок. Замовіўшы падвойную ракію, сусед залпам яе выпіў.

«Якога чорта я тут раблю?» — падумалася мне.

Я выкуліўся з рэстарана. Церусіў дробны дождж. Было каля дзевяці гадзін вечара. Аніводнага знаёмага інжынера так і не сустрэў. Мая надзея прабавіць вечар за гульнёй у карты раставала. Мінулай суботы сход інжынераў таксама доўжыўся да поўначы.

Дзве сястры закладвалі апошняе кола па цэнтры горада. Калі праходзіў міма, дык нутром адчуў — як яны тужаць па вялікім горадзе, — і гэтая туга напоўніла мяне пачуццём вышэйшасці. *Калі б толькі гэтыя правінцыялкі ведалі — што я пакінуў ззаду!* Ап'яняльная пустэча ўтварылася ў душы. *Калі б яны толькі ведалі...* Але пра што канкрэтна яны маглі ўведаць? Пра мае жыццёвыя страты? Як гэта ні дзіўна, на розум прыйшоў не пах мімоз Галоўнага бульвара, не кавярня «Флора», дзе сустракаўся з калегамі, не мастацкая галерэя, не Звяз пісьменнікаў і не які-небудзь амурны раманчык. Замест усяго гэтага прыгадалася падзея, якой ніколі не было: візіт да куртызанкі высокага класа па імені Маргарыта. Прыгадалася, магчыма, з-за таго, што яна кіравалася такімі ж няўстойлівымі маральнымі правіламі, як гэтыя дзявоткі, а, магчыма, гэта ўсё з-за духоўнай пустэчы ўнутры, у выніку чаго ўяўная падзея раптам стала здавацца рэальнай.

Я страціў здольнасць інтэрпрэтаваць уласныя думкі. Больш, чым які-небудзь іншы знак, куртызанка прымушала адчуць сувязь са сталіцай. І я не ведаў — смяяцца з гэтай нагоды ці плакаць.

Зрэдку мы наведвалі Тырану. І калі гэта рабілі, дык імкнуліся трымацца ў цені. Партыйны друк раз за разам заклікаў тых, хто «перавыхоўваўся», маца-

ваць сувязь з шырокімі народнымі масамі і, такім чынам, устрымлівацца ад паездак у сталіцу. Мы баяліся таго, што нашы сем'і — адзіная сувязь з Тыранай — будуць таксама высланыя.

Увосень нас выклікалі ў сталіцу на сход, і ўпершыню за апошні час мы ўсе разам сустрэліся. Пры гэтым са здзіўленнем разглядалі адзін аднаго, як быццам вывучалі ўласную выяву ў люстэрку. Усе мы не толькі схуднелі, але і састарэлі. Наша адзенне не адпавядала нам, у нашых вачах з'явілася рабскае адценне, а галасы асіплі.

Ехалі на сход з пэўнай з надзеяй: *«Вы, таварышы пісьменнікі і мастакі, прайшлі выпрабаванне і зведалі ў правінцыі цяжкасцяў больш, чым павінны былі. Вяртайцеся ж зараз у сталіцу з высока ўзнятымі галовамі!»* Але адразу ж зразумелі, што палітычная атмасфера не стала лепшай, і страцілі надзею. Мы нагадвалі непажаданых свякрух, якія ўсім замінаюць. Мала таго, што не адчулі ніякай спагады; на нас увогуле, як падалося, сталі глядзець з варожасцю.

Тыя, хто падрыхтаваў прамовы з лёгкай крытыкай, піхнулі іх назад у кішэні і пачалі жагнаць перунамі. Яны дзякавалі Партыі за тое, што тая расплюшчыла ім вочы і адкрыла перад імі грандыёзныя перспектывы. Слухаючы такое, я згадаў два сваіх надоечы напісаных апаведы і міжволі жахнуўся. У апаведах галоўнымі героямі былі прадстаўнікі рабочага класа — поўныя стваральнай радасці. Над імі было вясновае сіняе неба — без аблокаў і праклятушчага дажджу, якія былі характэрныя для маіх юначых літаратурных спробаў.

Пра «Прыкутага да пасцелі цыгана» ніхто нічога не ведаў. Прынамсі, быў упэўнены, што ніхто нічога не ведае, хаця аднойчы ў бары «Бочка» мы дзяліліся ў кампаніі маладых паэтаў літаратурнымі навінамі, і я меў неасцярожнасць заявіць, што чытачы будуць у шоку ад той часткі майго новага рамана, дзе цыгана апаноўвае страшэнны сверб, і той аповед можа збянтэжыць нават дэрматолага.

Нягледзячы на ўсе нашы абяцанні ствараць па-сапраўднаму сацыялістычную літаратуру, твары чальцоў прэзідыума заставаліся змрочнымі. Слова тым часам узяў адзін з іх, сакратар гарадскога партыйнага камітэта Тыраны. Ён заявіў, што Партыя не задаволена творамі пісьменнікаў і мастакоў. Партыя працягнула нам клапатлівую руку падтрымкі, але не дачакалася падзякі. Два драматургі зноў напісалі п'есы, поўныя ідэалагічных памылак. Адзін з раманістаў у сваім новым творы ізноў ачарніў сацыялістычную рэчаіснасць. Колеры, што выкарыстоўваюцца некаторымі мастакамі, выглядаюць дэкадэнцкімі. Гэта гаворыць пра тое, што класавае змаганне ў свеце мастацтва павінна яшчэ больш узмоцніцца. Сярод адмоўных прыкладаў прагучала імя моваведа Э.Ч.. Замест таго, каб падзякаваць за велікадушнасць Партыі і яе Правадыру, якія закрылі вочы на ягоныя мінулыя грахі і адкамандзіравалі за мяжу на кангрэс лінгвістаў, той паўтарыў сваю ранейшую памылку і зноў пацалаваў руку той самай асобе жаночага полу з варожай нам краіны.

Падчас перапынку, спрабуючы знайсці свайго калегу ў буфеце, я зрабіў дзіўнае адкрыццё. Не ўсе наўкол выглядалі прыгнечанымі, як чакалася. Былі нават усмешлівыя твары і вясёлыя галасы. «Хто гэтыя незнаёмыя мне людзі?» — падумалася той хвіляй. Новыя літаратурныя таленты з рабочага асяродку, пра якіх шмат чуў апошнім часам? Але адкуль іх з'явілася столькі за такі малы адрэзак часу? Падобна, што гэта яны. Чуў таксама, што ў сітуацыі, якая склалася, супрацоўнікі Сігурымі таксама не гублялі часу і апрацоўвалі новых пісьменнікаў, напяваючы ім штосьці накшталт: «Вы — будучыня літаратуры! Вы станеце годнай зменай тым нягоднікам, якіх Партыя паслала па навуку за мяжу, а яны вярнуліся сапсаванымі і споўненымі фанабэрыі істотамі».

Чым больш я назіраў за маладзёнамі, тым часцей саркастычна ўсміхаўся. Якраз у той момант, калі заўважыў сярод іх знаёмую маладую паэтку, прагучаў званок, які абвясціў пачатак паседжання, і ўсе памкнуліся да дзвярэй.

Сход доўжыўся да поўначы.

Наступнага дня, перш, чым вярнуцца ў В., я доўга блукаў па Тыране. Кучы апалага восеньскага лісця ляжалі ўздоўж Галоўнага бульвара. Вулічныя кавярні стаялі зачыненыя, але, нават такія, пустэльныя, яны поўнілі мяне настальгіяй. Я згадваў маркотны рэстаран у В., куды хадзіў абедаць у поўнай адзіноце, і пытаўся сам у сябе: «Ці ж гэта не вар'яцтва?».

Уся дзяржсістэма раптоўна абрынулася на нас з жахлівым грукатам. Што гэта за бясконцы псіхоз? Чаму ўсе такія маўклівыя ды пакорныя? Аніводнага голасу супраць, аніякай праявы грамадзянскай адвагі. Мы знікаем гэтак жа ціха, як жоўтае лісце на Галоўным бульвары. І гэтак жа няўмольна.

Ідучы па Эльбасанскай вуліцы, пачуў жаночы голас: нехта мяне паклікаў. Гэта была тая самая паэтка. Яна махала рукой з супрацьлеглага боку вуліцы.

Я падышоў. У адрозненне ад мінулых сустрэч, паэтка трымалася надзвычай упэўнена. Упэўненасць была ва ўсім: у жэстах, у гаворцы, у смеху. Яна такім чынам дэманстравала сваю перавагу. У яе вачах я быў нічым, таму што гібеў у правінцыі. Надарылася выдатная магчымасць адпомсціць мне за тыя шалёныя гісторыі, якія раней распавядаў.

Бязладныя думкі віравалі ў галаве, і я стаяў збянтэжаны. Але ж гэтая тупая карова не мела рацыі, калі думала, што можа плюхнуць на мяне ляпеху! Тое, што я па жыцці заняпаў, было відавочна, але ўадначас меў перавагу: мне больш не манулася яе спакушаць.

— Думаў, вы возьмеце слова на ўчорашнім сходзе, — сказаў я. — Ваша мінулая прамова была вельмі добрая.

— Вы праўда так думаеце? — спытала яна ў адказ, лыпаючы вачыма.

Было ўражанне, што яе ўпэўненасць, якую напачатку прадэманстравала, пачала раставаць, каб саступіць месца мінулай наіўнасці.

— Ведаеце, ёсць яшчэ шмат людзей, якія пхаюць шосткі ў колы, і яны ніколі не здадуцца, — працягваў я. — Уяўляеце, што пачуў сёння? Адчынілася фабрыка па вытворчасці прэзерватываў, і нейкі тамтэйшы дурань меў нахабства

прапанаваць імя нашага нацыянальнага героя Скандэрбега ў якасці назвы для першага прэзерватыва албанскай вытворчасці.

Дзяўчына пачырванела, не ведаючы куды падзець вочы.

— Не разумею ўсяго гэтага глупства, — мармытнула яна. — Як яны могуць бэсціць імя нашага нацыянальнага героя? Яны калі-небудзь навучацца думаць?

— Менавіта так я і сказаў, пачуўшы гэта. Але дурань апраўдаў назву тым, што прэзерватыў павінен быў быць трывалым і надзейным, а паколькі няма ніякага лепшага знаку супраціву, чым імя Скандэрбег...

Суразмоўніца ўсё больш пунсавела. Сумеўшыся, яна паціснула на развітанне маю руку. На імгненне затрымаў на дзяўчыне позірк і пашкадаваў, што так недарэчы яе падкалупнуў, напяўшы дзявочыя нервы.

Таго ж дня я сеў у цягнік, што накіроўваўся ў В. Палі ўжо прыхапілі першыя прымаразкі. Я глядзеў у вакно і намагаўся ні пра што не думаць. Якраз у той момант, калі мне падалося, што гэтага дасягнуў, згадалася з'едлівае абвінавачанне, кінутае мне адной высокапастаўленай асобай: «Мы зрабілі з вас пісьменнікаў, і мы ў тым вінаватыя!». У запале гневу яны сказалі тое, што насамрэч думалі пра нас. Дзіўна, але замест абурэння, адчуў душэўную палёгку. Магчыма, мы не былі сапраўднымі пісьменнікамі, а толькі падробкамі пад пісьменнікаў. Дакладна такімі, як сурагатны парашок, які замяняў каву ў ваенныя гады. Дакладна такімі, як сотні іншых танных імітацый, да якіх усе даўно прызвычаіліся.

Манатонны грукат цягніка дарэшты мяне залюляў. Кубак кавы, які падаваўся а трэцяй гадзіне ночы, паспрабаваў пракрасціся ў мой сон, але не здолеў. Штосьці спыніла яго.

Зіма выклікала дэпрэсію, якой раней не бывала. І рэч не толькі ў золі ды халадэчы, што мяне даймалі. Раман, які пісаў, выглядаў ад пачатку правальным. Нібы рэнегат, які змяніў рэлігію, я павярнуўся спінай да халоднага клімату і стаў ушаноўваць на алтары вясну. Але стары бог па-ранейшаму непадзельна панаваў і, абражаны маёй здрадай, даў выхад сваёй помсце: у мяне была серыя прастудаў і прыступаў бранхіту.

Дні цягнуліся бясконца, як і вечары, з неадменнымі праходкамі дзвюх сясцёр, пранізліва-халодным рэстаранам і выпадковай гульнёй ў карты перад сном.

Са сталіцы між тым прыходзілі трывожныя навіны. Ніякіх згадак пра лёс албанскіх пісьменнікаў у міжнароднай прэсе, нават у эмігранцкай, не было. У Тыране зачынілі апошнюю прыватную кавярню. Прыканцы снежня чакалася новая хваля «чыстак».

Аднойчы ўначы я знянацку прачнуўся. Спачатку падумаў, што нехта мяне абудзіў, але ніводнага гуку не было чуваць, і ў дзверы ніхто не стукаў. Круглая поўня вісела ў вакне, струменячы дзіўнае, рэзкае святло, падобнае на шкло, якое вярталася да жыцця пасля мільёнаў гадоў свайго інертнага стану. Я падышоў да вакна і стаў вывучаць неба.

Было тры гадзіны ночы. Не думаючы пра тое — што раблю, — стаў апранацца. Ціхенька адчыніў дзверы і на дыбачках спусціўся ўніз па сходах. Я ўпершыню выйшаў адзін на вуліцу сярод ночы. Горад паўстаў перада мной нежывым і бліскучым. Як надмагільная пліта. Поўня была ўсё такой жа яркай, але выглядала больш прыязнай, чым там, у пакоі.

Я ішоў па дарозе ў бок невялікага каменнага моста, белы сілуэт якога маячыў як закінутая дэкарацыя. Раптам нейкае неўтаймоўнае і ап'яняльнае пачуццё, якога не ведаў раней, авалодала маёй істотай. Гэта было незвычайнае ап'яненне, прычыну якога не мог да канца зразумець. Яно мільгала ў спратах розуму, як палахлівая лань. Але надзея, якую яна пакідала ззаду, поўніла грудзі свежым паветрам. Цяжкія часы, якія мы перажывалі, вядома, некалі скончацца. Апошняя кавярня ў Тыране хай нацыяналізавана, але існавалі іншыя знакі і сімвалы, якія выжылі і працягвалі супраціўляцца.

Я рэзка спыніўся і спытаў сябе: «Але што гэта за знакі і што за сімвалы?» Дакладна не мог сказаць, але, так ці інакш, я ведаў, што яны ёсць і прыхаваныя ў тумане нашага існавання. Яны чакалі свайго часу, каб з'явіцца. Людзі былі, магчыма, проста ценямі, а ззаду іх знаходзіліся фігуры, якія спавядалі іншыя прынцыпы і кодэксы. Так, апошнюю прыватную кавярню зачынілі, але а трэцяй гадзіне ночы адзін кубак кавы ўсё яшчэ падавалі, і ля ложка Маргарыты да некага ўсё яшчэ звярталіся зваротам «спадар».

У праблісках розуму я ўбачыў сцяг над рэзідэнцыяй Правадыра, упрыгожаны размаітымі знакамі: ад арла да чорных падвязак. Гэты хаатычны відарыс пастунова арганізоўваўся. Там, у Тыране, у сталіцы краіны, грамадзянінам якой я быў, на месцы сцяга, што лунаў над рэзідэнцыяй Правадыра, замест эмблем Дукадзіні, Кастрыёці[7] і дынастыі Анжу[8] — усіх тых белых, чорных і сініх, аднагаловых і двухгаловых арлоў, — я ўбачыў новы знак, які на маіх вачах набываў усе больш знаёмыя абрысы: чорныя падвязкі Маргарыты, якія шкуматаў вецер.

Унутраная напружанасць паволі знікала. Я вярнуўся ў свой пакой і плюхнуўся на ложак. Не было сіл нават зашморгнуць фіранкі, і я заснуў, адчуваючы, як промні алебастравай поўні лашчаць мой твар, быццам бы фармуючы пасмяротную маску.

Я вярнуўся ў Тырану за два дні да Новага года.

Горад здаўся чужым і бязладным. Я пайшоў завулкамі, спадзеючыся сустрэць каго са знаёмцаў, але так ні з кім і не сустрэўся. Усе, напэўна, пахаваліся.

Потым зайшоў на паштовае аддзяленне, у якое ніколі дагэтуль не заходзіў, і патэлефанаваў свайму калегу ў надзеі, што ён таксама вярнуўся, каб сустрэць Новы год з сям'ёю. Спачатку яго маці не пазнала мяне па голасе і сказала, што сына няма дома. А калі пазнала, паклікала таго да тэлефона.

---

[7] Дукадзіні, Кастрыёці — старажытныя албанскія феадальныя сем'і.

[8] У 13-м ст. Анжуйская дынастыя валодала прыбярэжнай часткай Албаніі.

Неўзабаве мы ішлі па вуліцы ў нашых доўгіх зімовых палітонах, задыхаючыся ад холаду і абменьваючыся апошнімі навінамі — перадусім, пра высланых калег і сяброў. «Няма ніякіх прыкметаў адлігі, — сказаў сябар. — Хутчэй, наадварот».

Я прыпальваў другую цыгарэту, калі калега спытаў мяне: «Ты чуў, што здарылася з Маргарытай?».

— Не, — сцепануўся я. — А што з ёю здарылася?

Як толькі прагучала імя Маргарыты, мяне наведала трывожнае прадчуванне.

— Яе выслалі разам з маткай, — паведаміў калега. — Яны выслалі з Тыраны ўсіх, каго палічылі амаральнымі: прастытутак, гульцоў у карты, гомасексуалістаў. Але гэта не ўсё, — працягваў сябар, — іх выгнанне скончылася трагедыяй.

— Трагедыяй? Што ты маеш на ўвазе? Якая трагедыя?

— Маргарыта і яе маці... — калега сцішыў голас, — наклалі на сябе рукі.

У мяне заняло мову, і я страціў здольнасць рэагаваць на што-небудзь. Не чакаючы таго, калі пачну яго распытваць, калега стомленым голасам распавёў — што адбылося.

— Іх пасадзілі на грузавік з усімі клункамі і вывезлі на нейкае балота ў Люшненскай акрузе. Там паведамілі, што іх будуць перавыхоўваць у вытворчым кааператыве і далі маленькі катух. Яны за ўвесь час не прамовілі ні слова. Проста кінулі свае рэчы ў катуху, пайшлі ў кааператыўную краму і набылі там дзве рэчы: кавалак мыла і вяроўку. Адвячоркам, пасля таго, як скончылі вячэраць, выпілі кавы і засіліліся. Маргарыта, падобна, спачатку дапамагла матцы, а потым павесілася сама.

Калега ўсё гэта распавядаў, а я лічыў дні, спрабуючы высветліць дакладна — калі яны загінулі. Мой мозг здранцвеў. Я быў перакананы, што жанчыны забілі сябе тае ночы, калі ў мяне было азарэнне душы пры святле поўні. Так, гэта, відавочна, здарылася ў тую ноч, калі поўня разлівала сваё святло на ўсю маленькую Албанію — ад захаду да ўсходу.

Я думаў пра пісьменніцкі сход і саміх пісьменнікаў, чыя худыя целы матляліся ў шырокіх кашулях, і пра тое, што ніводзін з іх не здзейсніў самагубства.

Кабеты здзейснілі гэта за ўсіх нас.

Нейкая містычная сувязь злучыла нашы гальштукі з мармурова-белай шыяй Маргарыты і з яе голым целам, у якім, паводле майго ўяўлення, адбіваўся, як у люстэрку, албанскі Звяз пісьменнікаў і мастакоў.

Неўзабаве пасля таго, як быццам не вытрымаўшы супрацьстаяння са сваім адбіткам, Звяз пісьменнікаў пераехаў на іншую вуліцу, дзе і знаходзіцца дагэтуль.

Праз шмат гадоў, калі стаяў перад сучасным будынкам са шкляным фасадам, у якім адлюстроўваўся Ам'енскі сабор, я думаў пра тую кабету з далёкай Тыраны.

Я даўно рыхтаваўся да гэтага моманту.

Як і ўсё, што мае патрэбу ў душы, каб жыць, гэты нежылы будынак скарыстаў вонкавую абалонку сабора. Ён змяняў свой настрой цягам часу і сезонаў. Ён быў розным на досвітку і ў прыцемках, у красавіку, восенню і зімой. Ён адчыняўся і зачыняўся, як жывы арганізм.

Любы дом, які б стаяў насупраць будынка, населенага паэтамі і мастакамі, атрымаў бы ад яго святло і душу. Але ў выпадку са Звязам пісьменнікаў спусцелы дамок Маргарыты стаў саборам.

Цяжка сабе ўявіць, каб у моманты сваёй ціхай адзіноты Маргарыта калі-небудзь шукала суцяшэнне ў албанскай літаратуры. Наадварот, як кабета, якая ведала толькі адно — дарыць сябе, — і якая пастулала так давеку, нешта ёй перадала.

Гэта запозненая ўзнагарода табе, Маргарыта.

**Пераклад з албанскай мовы Максіма Мудрова.**

# ВЕРАСЕНЬ

# КРЫТЫКА
# ПУБЛІЦЫСТЫКА
# ЭСЭ

кацярына массэ андрусь такінданг
кацярына шчасная альдона мартыненка
вольга кардаш ала петрушкевіч
сяргей чыгрын анатоль трафімчык
анатоль мяльгуй



# Кацярына Массэ

паэтка. Студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Аўтарка вершаваных збонікаў: «Льётся свет в моё окно» (2012 г.), «Двоичный код» (2015 г.) і электроннай кнігі паэзіі «Аўтакамунікацы... Я» (2016 г.). Пераможца міжнароднага конкурсу «Залатая страфа — 2012», літаратурнага конкурсу, прысвечанага юбілею Якуба Коласа і Янкі Купалы (2014 г.) і інш. Нарадзілася ў 1997 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Называю, значыць, існуе,
## або Што для мяне добрая паэзія?..

Паэзія — асобая форма існавання мовы, мастацтва моўнай пластыкі. Чалавечая мова — дрэва: яно расце і развіваецца паводле існуючых законаў прыроды і культуры; у ім кожны элемент знаходзіцца на сваім месцы, бо ён абмежаваны даволі жорсткімі, ледзь рухомымі структурнымі дачыненнямі з іншымі элементамі.

Паэтычная мова — гліна: яна ўзнікае ў руках творцы. У сваім станаўленні яна парушае ўсе законы прыроды і культуры і ацэньваецца тым вышэй, чым болей бязлітасна і адначасова нязмушана яна гэта робіць. Мова — не сродак зносін. Мова — сродак праяўлення і замацавання: называю, значыць, існуе. Чым больш раскідзістае дрэва, тым больш неба яно ахоплівае; чым больш раскідзістая мова, тым болей неабсяжнае неба нашага пазнання.

Нам не дадзена пазнаць змест — затое дадзена пазнаць форму. А паэзія — асобая форма, бо не абмяжоўвае змест. Што б ты нізляпіў, разам з гэтым адкрыецца і новае сэнсавае радовішча. Але далёка не кожнае з іх вартае адкрыцця. Пачварная форма раскрывае пачварны змест. Паэт не здольны прадбачыць рэч — затое здольны назваць яе. Ён называе няіснае і тым самым прымушае яго існець.

Даруй яму, ён не ведае, што ўвасабляе. Ён ведае толькі адно: паэзія стварае паводле свайго вобразу і падабенства. Чым ёсць добрая паэзія для мяне? Добрая паэзія — гэта ключ: асобыя суадносіны элементаў адчыняюць асобыя замкі. Добрая паэзія — гэта 361-ы градус. Добрая паэзія — гэта густ і смак. Густ — гэта колькасць смакавых рэцэптараў на паверхні душы. Добрая паэзія — гэта калі іх шмат.

## Дрэва, якое расце карэннем дагары

Рэчаіснасць не мае патрэбы ў адлюстраванні паэзіяй, яна ведае і больш дасканалыя спосабы рэфлексіі. У сваю чаргу, паэзія, якая згаджаецца быць толькі функцыяй аргумента, ужо, відаць, стала функцыяй, але шчэ не стала паэзіяй. Калі паэзія і люстра, то люстра такое, якое адлюстроўвае не столькі рэчаіснасць, колькі Урэчаіснасць. У гэтай сітуацыі ўзаемаадлюстравання паэзіі і рэчаіснасці паэзіяй мусіць называцца тое, чыё адлюстраванне перамагае. Пакуль перамагае рэчаіснасць, паэзіі як такой яшчэ няма, бо калі паэзія ёсць, яна непазбежна перамагае.

Паэзія — гэта тое самае дрэва, якое расце зверху ўніз. Зерне, кінутае ў глебу вядомага, ніколі не дасьць невядомыя плады. Слова, прарошчанае знізу ўверх, можа расказаць небу пра зямлю, але не зямлі пра неба. Але паэт, як не круці, усё шчэ зямны жыхар, абмежаваны законамі зямнога прыцягнення. І

кожны ягоны тэкст, спароджаны згодна з гэтымі законамі, імі ж і абумоўлены. Як разабумовіць мову?

Падобнае прыцягвае падобнае. Існае прыцягвае існае. Адзіны спосаб перахітрыць прыцягненне — не ведаць: не ўздымацца ад зямлі ў неба, ад вядомага да неспазнанага, а падаць — з неба на зямлю, як камікадзэ, рассякаючы законы слова- і прасторазлучэння, апладняючы небам зямлю. «Калі паэт ведае, што ён хоча сказаць, ён не здолее гэтага сказаць (прынамсі, як паэт)...». Прынцып вершавання вымагае іншага ладу мыслення: прамаўляць не тое, чым ужо авалодала і што тым самым уцялесніла ўласная думка, а тое, чаго не ведаеш, але спазнаеш у працэсе прамаўлення. Рызыкоўнае мерапрыемства. Гэта ўсё адно што крочыць да ісціны па мосце, які павіс над прорвай абсурду. Адзін нязграбны рух — і можна, на хвалях плыні сваёй свядомасці, так і прашмыгнуць міма зямлі з кавалкам неба пад пахай.

І ўсё ж добры паэт — заўжды смяротнік. Калі пісаць — то насмерць. Калі падаць — то на зямлю, а не ў неба.

## Як не разумець паэзію

Мова мяккая і пакорлівая, пакуль не застыла ў паэзію. Пасля гэтага яе ўжо не возьмеш ні рукамі, ні сякерай, не прамацаеш углыб — можна толькі разбіць. Бо паэзія — непадступная: чым больш набліжаешся — тым менш выразным становіцца яе абрыс. Цвёрдая, бы дыямент і няўлоўная, бы вада: віламі не перапісаць, скальпелем не разрэзаць. Можна толькі выпіць і адчуць палёгку, спатоліць смагу. Чаму ж так смачна? А таму, што цячэ яна з такіх глыбокамоўных крыніц, звон якіх мы маглі чуць хіба толькі ў апраметнай бездані сну, дакранацца да якіх маглі толькі краёчкамі крылаў, якіх у нас няма. Такая прахалодная і чыстая... Дык што ж усім гэтым хацеў сказаць аўтар? Ён нічога не хацеў сказаць, ён проста сказаў. Напісаў — не словамі, а віламі па вадзе. Усляпую і ўнямую — навастрыўшы душу, у чаканні таемнай праявы.

Ці магу я зразумець паэзію? Не. Але істотна іншае: ці мушу я да гэтага імкнуцца? Роўна настолькі, наколькі яна дазваляе рабіць гэта з сабою. У кожнага верша свой парог чуллівасці, свая непаўторная мера раскрыцця. Усё, на што мы здольны і маем права — спазнаць яе меру. Там, дзе парушаецца мера, наступае гвалт. Паэзія ўзбуджае і вядзе за сабой, агаляючы свае берагі, усё далей і далей, пакуль твае ногі яшчэ дастаюць да дна, а потым — за імгненне да вечнасці — захінае расхінутыя сэнсы, нібы засцерагаючы: далей нельга — патонеш! І трэба спыніцца, бо паэзія праклінае таго, хто ідзе напралом.

Калі б паэт пры стварэнні верша карыстаўся тымі ж спосабамі, з дапамогай якіх мы спрабуем паэзію «расшыфраваць», ні пра паэтаў, ні тым больш пра паэзію, гаварыць бы ўжо не прыйшлося. Загадку паэзіі немагчыма разгадаць

хаця б таму, што катэгорыі, якімі мы пры гэтым аперуем, несувымерны яе ўласным катэгорыям, а дакладней, іх адсутнасці. Тады: ці можна паэзію адчуць? Не. Бо і адчуванні, і пачуцці, і эмоцыі ёсць вытворнымі ўсё той жа прычынна-выніковай рэчаіснасці.

У такім разе, ці можна не зразумець паэзію? Мяркую, гэта якраз тое, чаму нам трэба вучыцца. Паэзія не ведае ноўменальна-фенаменальнага размежавання — яе ноўмен выяўляецца непасрэдна ў феномене, і ў гэтым яе галоўная гнасеалагічная пастка. Наша задача, такім чынам, палягае ў тым, каб навучыцца бачыць відавочнае скрозь прызму нашай прэтэнзіі на скрытае. Як бы дзіўна не гучала, але ў паэзіі ўсё настолькі глыбока, што ляжыць на паверхні. Дастаткова мець вочы, каб пачуць, і вушы, каб пабачыць. Толькі тады мы можам быць сувымернымі паэзіі, калі не патрабуем ад яе нічога, акрамя таго, чым яна ўжо ёсць — наўпрост перад намі, ва ўсёй сваёй рацыянальнай ірацыянальнасці.

Я думаю, паэзію можна толькі пражываць — піць са святарных крыніц, не высвятляючы хімічны склад вады.



# Андрусь Такінданг

музыка, мастак, спявак, паэт, тэлевядоўца, рэжысёр. Скончыў Гімназію-каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры. Кіраўнік музычных гуртоў «Рэха» і «Гаротніца». Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# У спадзяванні на Бога...

***Слава пра гэтага маладзёна коціцца «Рэхам» ад Віцебска да Брэста і ад Гомеля аж да Гародні... Сёння яго можна пабачыць з домрай у руках на экране БТ, а заўтра ён «гаротнічае» ў падземным пераходзе на плошчы Перамогі... Ён мог бы запраста без грыма сыграць Атэла ў аднайменнай трагедыі Уільяма Шэкспіра... Бо ён — гэта вядомы беларускі музыка, мастак, паэт, тэлевядоўца і рэжысёр Андрусь Такінданг.***

**Эдуард Акулін:** — *Андрусь, вас не бянтэжыць, што ваша этнічнае вызначэнне як «афрабеларус» — гучыць як моўны антонім? Чорны бусел — гэта яшчэ куды не йшло... Чорны гумар — таксама... А вось чорны беларус — гэта сапраўдны нонсенс... Як лічыце — гэта ваш жыццёвы вырак ці наадварот падарунак лёсу?*

**Андрусь Такінданг**: — Колер скуры мяне не бянтэжыць, я звыкся са сваім выглядам, спадзяюся, што і для большасці маіх суграмадзян гэта не з'яўляецца перашкодай. Вядома, сумна, калі ступень пігментацыі з'яўляецца крыніцай станоўчай ці адмоўнай увагі, але такіх выпадкаў няшмат, усё ж беларуская супольнасць адэкватная і цывілізаваная.

**Э.А.** — *Я ведаю, што ваш бацька, ураджэнец Рэспублікі Чад, — па адукацыі матэматык. Што ці хто падштурхнуў вас зрабіць крок насустрач Творчасці? Вучоба ў мастацкім каледжы Ахрэмчыка — гэта ваш свядомы выбар ці жаданне бацькоў — адгарадзіць сваё «чада» ад згубнага ўплыву вуліцы?*

**А.Т.** — Пачатковую школу я наведваў у вёсцы Чэрцы, дзе жыў у дзядулі. Тады і пачаў маляваць, родныя заахвочвалі і падтрымлівалі мае мастацкія высілкі. Каледж Ахрэмчыка, у народзе названы "Парнат", стаў лагічным завяршэннем дзіцячага жывапіснага перыяду. Я пераехаў у Мінск і распачаў у "Парнаце" прафесійнае мастацкае навучанне. Каледж Ахрэмчыка не Сувораўская вучэльня, там не схаваешся ад "шкодных" уплываў вуліцы. На час майго навучання каледж быў найперш месцам, дзе панаваў вольны мастацкі, хуліганскі дух.

**Э.А.** — *Дзе вы падхапілі «вірус» Беларушчыны? Як уздзейнічае беларуская мова на вашых суразмоўцаў?*

**А.Т.** — Мая маці — беларускамоўная, таму выраз "матчына мова" для мяне цалкам натуральны. У дадатак асяродак, навучанне спрыялі маёй "беларусізацыі". Суразмоўцы напэўна здзівіліся, калі б Андрусь раптам змяніў мову.

**Э.А.** — *Доўгі час разам з Аленай Анісім вы былі вядоўцам перадачы «Беларуская мова» на АНТ, заявіўшы ў адным з інтэрв'ю, што трапілі на тэлебачанне выпадкова... Гэта як?*

**А.Т.** — Прапанова ўдзельнічаць у тэлепраекце была для мяне нечаканай, але прыемнай. Студыя здымала рэкламу, для роліка патрэбны быў мой ты-

паж. Рэкламны ролік малака, здаецца, так і не выйшаў, але мая беларуская мова натхніла здымачную групу на стварэнне лінгвістычнай перадачы.

**Э.А. —** *Патлумачце, калі ласка, сваё выказванне: «Не трэба махаць мовай, як сцягам...» Вы сапраўды лічыце, што двухразовыя ўрокі роднай мовы па БТ могуць уратаваць беларусаў ад нацыянальнага нігілізму? Што неабходна для таго, каб карэнным чынам змяніць сітуацыю з беларускай мовай у Беларусі?*

**А.Т. —** Мова існуе, калі функцыянуе, калі з'яўляецца сродкам сувязі, камунікату між людзьмі. Мова жыве, найперш у побытавым, а не ў гераічным, паэтычным, мастацкім фармаце. Калі мова ператвараецца ў сцяг, поле яе жыццядзейнасці значна звужаецца, абмяжоўваецца. Цяпер беларуская мова пазбаўляецца ад німбу элітарнасці, моўныя курсы, музычныя гурты, маладыя моднікі, раварысты, каталіцкі касцёл спрыяюць моўнаму ўнармаванню.

Чакаю тых часоў, калі выпадковыя суразмоўцы не будуць дзякаваць за беларускую мову. Для гэтага неабходна прынцыповая дзяржаўная пазіцыя, беларускамоўнае чынавенства, беларускамоўная школа і праца музыкаў, мастакоў.

**Э.А. —** *Што прымусіла вас арганізаваць гурт «Рэха»? Чаму менавіта фольк-мадэрн абраны як асноўны стылістычны накірунак гурта? Вы прыхільнік танцавльнай музыкі?*

**А.Т. —** На самой справе, гурт Recha не працуе ў стылістыцы фольк-мадэрна, не ведаю, чаму гэта вызначэнне прычапілася да нас. Калі казаць пра музычны накірунак, то гэта хучэй, рок ды шансон. Напісаннем песень я пачаў займацца ў старэйшых класах, акурат тады знаходзіўся пад уплывамм беларускага року. Стварэнне музыкі выдавала на чараўніцтва, вельмі хацелася спрычыніцца да гэтага магічнага дзейства. Што тычыцца танцавальнай музы-

*Гурт* Recha.





кі, як і лірычнай, магу адказаць станоўча, я прыхільнік усякай музыкі. У юнацтве моцна пільнаваўся музычнай "правільнасці"(толькі рок!), цяпер жа кіруюся музычным плюралізмам (усё цікава).

**Э.А. —** *Ці згодныя вы з выказваннем, што беларусы створаны толькі, каб «гараваць і змагацца»? Чаму тады ўзнік новы музычны праект «Гаротніца»? «Ска-джаз-рэп-панк» — ці не занадта шырокі стылістычны дыяпазон для аднаго гурта? Можа варта было б скіраваць творчыя намаганні на нейкі адзін накірунак? Той жа джаз — гэта цэлы акіян у сусвеце музыкі...*

**А.Т. —** З майго гледзешча, беларусы імкнуцца максімальна ўнікнуць памежных, скрайніх станаў. Мы імкнемся да "нармальнасці", да "сярэдзіны". У большасці беларусы не гатовыя а ні гараваць, а ні змагацца. Мы прагнем "святога спакою". Harotnica (першапачатковая назва "спевы прастытутак") задумвалася, як філасофскі праект, як галашэнне самотнай душы да Бога. Дэструктыўны, нязручны, скіраваны супраць слухача, такім мусіў быць гэты праект. Аднак цяпер, Harotnica наблізілася да эстрады, адышла ад першапачатковай сваёй экзальтаванасці. Harotnica ўзнікла таму, што была неабходнасць выказвацца пранізліва, надрыўна, была неабходнасць у галашэнні.

**Э.А. —** *Мне вельмі падабаецца ваша праца ў выяўленчым мастацтве. Прынамсі, цыкл карцін прысвечаны біблейскай тэматыцы... Здаецца, такога яшчэ не было ў гісторыі беларускага іканапісу... Але існуе строгі канон іканапіснага мастацтва. Вас не папракалі ў парушэнні гэтага мастацкага канону?*

**А.Т. —** Дзякуй! Ёсць розныя традыцыі іканапісу: строгі візантыйскі канон, больш вольны заходні рэлігійны жывапіс, ёсць беларускі народны іканапіс. Калі працую ў рэлігійнай тэматыцы заўжды азіраюся на выпрацаваныя каноны, імкнуся захоўваць сутнасць іканапіснага мастацтва. Але, вядома, мае рэлігійныя карціны не прэтэндуюць на ўзорнасць.

**Э.А. —** *Напісанне вершаў — гэта для вас вытворчая неабходнасць ( як тэксты для песень) ці творчае пакліканне? Калі плануецца выхад вашай першай паэтычнай кнігі?*

**А.Т.** — Даўно не пісаліся вершы, усё больш тэксты для песняў. Словы нараджаюцца адначасна з музыкай, вытворчасць і творчасць у сяброўскіх стасунках. Выдаваць паэтычны зборнік не планую, працую над чарговым музычным альбомам.

**Э.А.** — *Вы чалавек горада ці вёскі? Што вас натхняе на паэзію? Ці праўда, што перад напісаннем вершаў вы, як Уладзімір Караткевіч, апранаеце белую кашулю? Дзеля чаго вы гэта робіце?*

**А.Т.** — Сваё дзяцінства я правёў у вёсцы, гэта шмат у чым мяне сфармавала, але ўсё ж я месціч. У Менску мой дом. Так, была смешная гісторыя з белай кашуляй, у пачатковай школе я гуляўся ў "паэта" і пад уплывам Караткевіча спрабаваў пісаць вершы за сталом у гарнітуры, трэба будзе як-небудзь паўтарыць дзіцячы вопыт.

**Э.А.** — *Аднойчы вы сказалі, што ваш творчы дэвіз: «Смех і шчасце скрозь прыносіць людзям...» Амаль такі ж, як у музыкаў з Брэмена... Таму вы так любіце выступаць на вяселлях і карпаратывах? Вас не бянтэжыць, што градус радасці на такіх мерапрыемствах узрастае разам з градусам выпітага алкаголю?*

**А.Т.** — Паколькі Recha працуе ў рэчышчы папулярнай музыкі, то выступы на карпаратывах, вяселлях для нас надзвычай важныя. Менавіта там можа быць найбольш строгая, патрабавальная публіка. Выступ на карпаратывах — гэта, як іспыт, экзамен на прафгоднасць для музыкаў. Ну і, вядома, такія канцэрты дазваляюць артысту жыць.

**Э.А.** — *У чым шчасце Андруся Такінданга? Гэта праўда, што можна быць шчаслівым жабраком? Ці гэта проста метафара нашага сённяшняга жыцця?*

**А.Т.** — Маё шчасце ў спадзяванні на Бога. Так, напэўна, нехта можа быць шчаслівым жабраком, але не кожны.

**Э.А.** — *Раскажыце, калі ласка, пра самыя рамантычныя выпадкі, якія здараліся падчас вашых канцэртаў... Гэта праўда, што пасля вашага выступу на адной з плошчаў Магілёва вулічная прадавачка кветак падарыла вам увесь свой латок з таварам?*

**А.Т.** — Пра Магілёў не памятаю, але падарункі атрымліваем. Да прыкладу аўтарскі торт пад назвай "Усмешка Андруся". Маю свой партрэт прэзентаваны падчас аднаго з канцэртаў. Былая скрыпачка і цяперашні басіст Recha пазнаёміліся ў гурце, на сёняшні момант у іх цудоўная сям'я, дзве прыгожыя дачкі.

**Э.А.** — *Вас не бянтэжыць, што гурты «Рэха» і «Гаротніца» запрашаюць на выступы афіцыйныя ўстановы ўлады... У той час, калі забараняюцца канцэрты іншых беларускіх музыкаў?*

**А.Т.** — Рады за сябе, перажываю за калег. Уздымаю пытанне адносна чорных спісаў пры любой магчымасці. Нядаўна размаўляў пра гэту праблему на АНТ.



*Гурт Harotnica*.

**Э.А.** — *Што для вас з'яўляецца крытэрам жаночага хараства? Якой павінна быць вашая абранніца? Якое месца каханне займае ў вашай творчасці?*

**А.Т.** — Прага кахання стымулюе творчасць. Жаночая краса разнастайная, мне цяжка вылучыць агульны крытэр. Мая абранніца прыгожая і пяшчотная, разумная і верная.

**Э.А.** — *І напрыканцы невялікая бліцапытанка:*

*Ваша любімая песня:* на дадзены момант гэта выканаўца Stromae і яго твор "Formidable".

*Ваша любімая кветка:* дзядоўнік (не ведаю толькі на колькі ён кветка).

*Ваша любімая кніга:* на гэтыя тры гады — Вінцук Адважны. «Выбраныя творы».

*Ваш любімы горад:* Менск.

*Ваша любімая пара года:* лета.

*Ваш любімы музычны інструмент:* голас.

**Э.А.** — *Дзякуй, сп. Андрусь, за цікаую гутарку. Новых творчых здзяйсненняў!*



# Кацярына Шчасная

паэтка, празаік, мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Верасень», альманаху «Тэксты»... Нарадзілася ў 1984 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

# Беларускі «Кінаконг»

***«Фільмы па-беларуску ў кінатэатрах — гэта перамога!» — так адрэагаваў адзін з інтэрнэт-карыстальнікаў на навіну аб тым, што ў мінскім кінатэатры «Перамога» пройдуць сеансы двух замежных фільмаў «Цудоўна ласка» і «Лютар»[1] у беларускамоўнай агучцы. Прагляды сабралі чатыры поўныя залы на 500 чалавек. Уваход быў бясплатным. У зале было багата асоб «ад філалогіі-гісторыі-культуры-рэлігіі», зацікаўленых школьнікаў і проста жадаючых адпачыць з добрым кіно людзей. Значыць, сучасная культура па-беларуску запатрабавана і можа быць прыбытковай. Аб каштоўнасці і кошце цудоўнага праекта кінакампаніі «Кінаконг» расказалі яго кіраўнікі — Надзея і Андрэй Кім.***

## Аднадумцы

Назва «Кінаконг» — гэта гульня слоў ад назвы славутага фільма «Кінконг». Спачатку гэта быў напаўдабрачынны праект, сцвярджаюць Надзея з Андрэем. Яна — перакладчыца, вывучала англійскую мову ў сталічным лінгвістычным каледжы, прынцыпы эканомікі — у Галандыі. За мяжой дзяўчына адчула каштоўнасць сваёй культуры і беларускай мовы. Зараз Надзея завочна вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ па спецыяльнасці «Літаратурна-мастацкая творчасць». Андрэй пачынаў вучыцца на гісторыка, а скончыў Літоўскі эдукалагічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «Беларуская філалогія». І, дарэчы, у свой час паспеў папрацаваць гукарэжысёрам у вядомым расійскім фільме «Стылягі». *«Хутчэй фільмы нам дапамаглі ва ўдасканаленні адукацыі, а не наадварот. То бок, у нас спачатку ідзе праца, а потым мы давучваем тое, чаго нам не хапае»*, — заўважае Надзея.

Але сюжэт пра «Кінаконг» быў бы няпоўны без трэцяй дзеючай асобы — вядомага акцёра Паўла Харланчука. Яшчэ 8 гадоў таму Андрэй і Павел прыйшлі да высновы, што ў беларускім пракаце няма беларускай агучкі. Першы фільм, узяты для працы, і быў «Цудоўна ласка». Беларускамоўныя паказы праводзіліся ў межах розных мерапрыемстваў, а каля чатырох гадоў таму «Кінаконг» стаў паўнавартасным асобным аб'яднаннем. У 2013 годзе праект атрымаў адразу тры ўзнагароды фестывалю беларускамоўнай рэкламы «Аднак»: 1-е, 2-е і 3-е месца ў розных намінацыях.

Дзякуючы Паўлу Харлачуку адбылося знаёмства і сумесная работа з іншымі вядомымі акцёрамі — Алесем Малчанавым, Ганнай Хітрык, Сяргеем Жбанковым,Уладзімірам Глотавым, Святланай Цімохінай. Акрамя творчасці пару Кім і Паўла яднаюць і агульныя рэлігійныя погляды.

---

[1] У тэксце захаваны арфаграфічныя варыянты перакладу назваў фільмаў і імёнаў персанажаў аб’яднаннем “Кінаконг”.

## Беларусам патрэбны герой...

Якім чынам кампанія «Кінаконг» выбірае кіно для агучкі? Першае, ідэйнае — патрэбны добры фільм, дзе прапагандуюцца вечныя каноны дабра, а не кіно, што культывуе сямейныя здрады, распусту, забойствы. Трэба, каб фільм быў адукацыйны, пажадана — не агучаны на рускую мову або ўвогуле невядомы, каб у людзей быў стымул прыйсці і паглядзець. Надзея і Андрэй Кім — шчырыя вернікі і кіно паказваюць адпаведнае хрысціянскаму светапогляду.

Акрамя вечных каштоўнасцей глядач можа заўважыць падобнасць рэфарматара Марціна Лютара і англійскага парламентарыя, барацьбіта з рабствам, Уільяма Уілберфорса — гэта мэтанакіраваныя, абаяльныя асобы з бліскучым розумам, якія гатовыя доўгі час і праз многія перашкоды ісці да карысных перамен, ахопліваючы сваімі ідэямі больш і больш людзей.

*«Беларусам у пэўным плане патрэбны герой, таму што ёсць нацыянальныя стэрэатыпы аб цярплівасці, аб тым, што «наша хата з краю», — разважае Надзея Кім. — У амерыканскай кінакультуры гераізм праслаўлецца, чаго нам не стае. Насамрэч, і ў Беларусі было шмат выбітных асоб. Гэта не было нашай супермэтай, але, сапраўды, у нашых фільмах ёсць такі чалавек-ідэал».*

## Колькі каштуе дабрачыннасць?

*«Была б наша воля, мы б не рабілі бясплатныя паказы»,* — гавораць Надзея і Андрэй Кім. Але гэта ўмова ліцэнзіі. Аказваецца, не ўсе прадстаўнікі замежнага кінабізнэсу гатовы супрацоўнічаць з Беларуссю. *«Нам кажуць: мы пра ваш рынак не ведаем, у вас ёсць руская мова, ёсць украінская мова, навошта вам беларуская? Не бачым у гэтым ніякага сэнсу»,* — распавядае Надзея Кім. Таксама могуць прадаставіць стары фільм па вялікім кошце, што зусім не апраўдана. «Цудоўну ласку» «Кінаконг» атрымаў бясплатна, але толькі на бясплатныя прагляды. Неўзабаве гледачы ўбачаць дзіцячы фільм «Падынгтан» пра прыгоды мядзведзіка ў горадзе — за мінімальны кошт (1,5 рублі).

Для таго, каб паказаць фільм, патрэбна таксама арэндаваць кіназалу на пэўны час. Плюс выплочваюцца ганарары акцёрам агучкі, гукарэжысёрам, якія маюць і «зорнасць», і вопыт, і шчыльны графік.

*«Фільм пра Лютара больш за ўсё прасілі перакласці каталікі, прадстаўнікі касцёла хацелі паказваць яго падчас пілігрымак. Мы, дарэчы, зрабілі беларускамоўным вядомы ў Польшчы фільм «Караль. Чалавек, які стаў Папам»,* — расказвае Надзея. Ёсць асобы, якім падабаецца творчасць «Кінаконга», і яны гатовы даць на падтрымку праекта грошы. Зараз кінакампанія плануе праз краўдфандынгавую пляцоўку «Талака» адкрыць інтэрнэт-кашалёк, куды можна было б пералічаць ахвяраванні.

Галоўнае, у чым зацікаўлены ўдзельнікі праекта, гэта, каб як мага больш людзей убачыла, што беларуская мова можа натуральна выглядаць ва ўсіх



*Андрэй і Надзея Кім.* **Фота Антона Матолькі.**

сферах жыцця. Калі фільмы выклікаюць ажыятаж, значыць, ёсць прыхільнасць да «свайго», і з цягам часу можна будзе змяніць стэрэатыпы аб бясплатных, «дармавых» беларускамоўных мерапрыемствах. Паказы адбываліся пры сапраўдных аншлагах, і многім элементарна не хапіла квіткоў, што адразу выклікала папрокі ў бок арганізатараў і супрацоўнікаў кінатэатра. Нават пры мінімальных коштах на білет паказы праходзілі б больш камфортна.

## Пра мову

З «Кінаконгам» працуе некалькі перакладчыкаў. Пры падрыхтоўцы адаптаванага тэксту галоўнае, каб акцёр мог хутка і лёгка чытаць. Напрыклад, будуць замінаць паўторы гукаў, слоў, тыпу *«трэба **пра**лезці **пра**з **пад**коп **па**д **пло**там»*, збег свісцячых і шыпячых гукаў: *«можа спустошы**ць чы**сцец»*, *«абыходзіцца **з ч**ужынцам»*. Важна, каб перакладчыкі прысутнічалі ў студыі і чулі, як чытаюць акцёры — гэта дапамагае зразумець, чаму часам трэба ахвяраваць дакладнасцю дзеля зручнасці. У выпадку цяжкасцей для вымаўлення словы лепш перастаўляць месцамі ці замяняць.

Асаблівай увагі заслугоўваюць устойлівыя выразы і гульня слоў. Надзея Кім падзялілася прыкладамі з анімацыйнай стужкі «Падынгтан». У адным сюжэце «злы герой» едзе на машыне, і яму навігатар кажа: *«Праз 100 метраў павярніце налева»*, у англійскай мове для павярніце ёсць слова *bear*, а *bear*, больш вядома, гэта і *мядзведзь*. І сапраўды, па сюжэце персанаж паварочвае галаву, а за ім бяжыць мядзведзік Падынгтан. У беларускім літаральным перакладзе атрымалася б наступнае: *«Праз 100 метраў злева — мядзведзь»*. Вырашылі не пакідаць дакладны пераклад, і гэтая гульня слоў згубілася. Удалося перадаць наступны момант: Падынгтан заходзіць у метро, а там шыльда, што сабак трэба браць на рукі. Персанажу падалося, што, каб праехацца на эскалатары, трэба знайсці і ўзяць сабачку.

Перакладчыкі «Кінаконга» стараюцца ўводзіць у свае тэксты адмыслова беларускія словы. У «Цудоўнай ласцы» ёсць жарт пра *пранцы* (венерычнае

*Сяргей Жбанкоў рыхтуецца да агучвання.*



захворванне). *«Пры паказах 6 гадоў таму аўдыторыя зразумела, пра што ідзе размова, пры апошнім сеансе — амаль ніхто. Але не хочацца змяняць* ***пранцы*** *на сучаснае слова, бо трэба гістарычны каларыт»,* — тлумачыць Надзея Кім. У адной з серый пра свінку Пэпу персанажы вучаць назвы адзення. У творчай каманды былі ваганні паміж больш дакладным *«**надзелі** шапку і рукавіцы»* і *«**апранулі**»*, і ўсё ж пакінулі *«апранулі»*, каб не было паралелей з рускай мовай і дзеці запомнілі адметную беларускую лексему.



*Афіша фільма «Цудоўна ласка».*

## Якія планы?

У Мінску плануецца паказаць некаторыя фільмы на калядныя святы. Таксама ў наступным 2017 годзе будзе зноў дэманставацца «Лютар» у сувязі з супадзеннем двух значных падзей — 500-годдзем Рэфармацыі і 500-годдзем беларускага кнігадрукавання.

У іншых гарадах творчая група «Кінаконга» таксама вельмі хоча правесці паказы. Але пакуль не атрымліваецца дамовіцца. Яшчэ аб'яднанню для працы ў рэгіёнах патрэбны аднадумцы і памочнікі.

*«Галоўнае — каб людзі імкнуліся да беларускай мовы і беларускай культуры, каб кіно заахвочвала іх размаўляць на роднай мове»,* — акрэсліваюць сваю мэту Надзея і Андрэй Кім.



# Вольга Кардаш

дызайнер. Скончыла Інстытут сучасных ведаў імя А. М. Шырокава (2012 г.) і жаночы курс для прафесіяналаў італьянскага Інстытута моды «Sitam» ( 2015 г.). Нарадзілася ў 1989 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Трэба толькі крыху ўключыць фантазію...

***Чамусьці пра Парыжскі альбо пра Міланскі тыдзень моды ведаюць літаральна ўсе. Але, калі вы падыдзеце да жанчыны ў краме і спытаеце, у якіх датах праходзіць Беларускі тыдзень моды, як вы думаеце, што яна вам адкажа? Наўрад ці вы пачуеце ад яе якую-небудзь карысную інфармацыю пра тыдзень моды. Але чаму так адбываецца? Чаму ў краіне, дзе даволі развітая ўласная вытворчасць, так мала ўвагі надаецца творчасці, звязанай з пашывам адзення? Мы пагутарылі з Вольгай Кардаш — адной з самых заўважных фігур у сферы дызайну адзення ў Беларусі, каб даведацца яе меркаванне пра сучасную модную індустрыю і падрабязнасці працы дызайнера.***

**Альдона Мартыненка:** — *Скажыце, калі ласка, калі вы распачалі сваю дызайнерскую кар'еру? Ці былі ўпэўнены ў сваёй будучыні дызайнера?*

**Вольга Кардаш:** — Пачынала я даволі рана. Тады я яшчэ вучылася ў школе і не разглядала гэта як магчымую прафесію. Але зараз сітуацыя змянілася, і для мяне дызайн адзення — гэта прафесія і нішто іншае.

**А.М.** — *Вы думалі, што аднойчы станеце вядомым дызайнерам?*

**В.К.** — Не, аб гэтым зусім не думала. Зараз я проста радуюся таму, што такое цудоўнае захапленне пераўтварылася ў прафесію. Бо калі займаешся любімай справай, то і праца прыносіць задавальненне.

**А.М.** — *А бацькі маюць дачыненне да сферы мастацтва?*

**В.К.** — Не, зусім не маюць. Мая мама — повар, тата — кіроўца. А вось бабуля заўсёды шыла. Раней часы былі складаныя, часта проста не было чаго насіць, а купіць нешта вартае было практычна немагчыма. Таму ўсе і шылі сабе адзенне самі: хтосьці дома, хтосьці ў атэлье. Наша бабуля ўсю сям'ю апранала.

**А.М.** — *Якія эмоцыі вы ўкладаеце ў свае мадэлі адзення?*

**В.К.** — Імкнуся пазітыўныя. Бо людзям у гэтым хадзіць, жыць, існаваць. Хочацца, каб адзенне прыносіла радасць, каб чалавеку хацелася даставаць з шафы адну і тую ж рэч і насіць яе часцей, таму што яна яго чымсьці радуе. Кліентка аднойчы сказала мне: «Кардаш, ты не ўяўляеш, які шчаслівы твой світшот!». Я яе спытала: «А што здарылася?». А яна працягвае мне руку з пярсцёнкам. Аказалася, што яна пазнаёмілася з хлопцам у маім світшоце, а праз два тыдні гэты хлопец прапанаваў ёй ажаніцца, калі яна была ў гэтым жа світшоце. Было вельмі прыемна гэта чуць. Я заўсёды радуюся, калі мне кажуць, што адзенне «Kardash» — шчаслівае. У многіх жа ёсць нейкія шчаслівыя рэчы: заколка, асадка, туфлі. Мне прыемна, калі мая рэч — для кагосці талісман.

**А.М.** — *Вы самастойна кіруеце брэндам «Kardash»?*

**В.К.** — Цяпер у нас ужо калектыў. Невялічкі, але ўсё ж такі калектыў. Напачатку было цяжка прывыкнуць да такой змены. Трэба думаць пра атмасферу ў калектыве, пра службовыя абавязкі супрацоўнікаў. Размеркаванне задач — гэта вельмі складаная рэч, асабліва ў маленькім калектыве. Таму для мяне гэты досвед даволі няпросты.

**А.М.** — *Памятаеце самы першы прадмет адзення, які вы стварылі сваімі рукамі?*

**В.К.** — Так, гэта была спадніца. Калі не памыляюся, я тады вучылася ў класе сёмым. Тады было модным адзенне на ўцяпляльніках: штонікі, безрукаўкі. І я сабе пашыла джынсавую спадніцу на сінтыпоне. З тонкага джынсу, але на сінтыпоне. Мне здавалася гэта было так крута! Я гэтую спадніцу нават насіла, так што ўсё добра атрымалася.

**А.М.** — *Дагэтуль захоўваеце яе?*

**В.К.** — Так, яна павінна недзе ў мяне быць. Калі добра пашукаць у шафе, то знойдзецца.

**А.М.** — *Праз дзесяць год яе можна будзе прадаць...*

**В.К.** — Як рарытэт? (смяецца).

**А.М.** — *Як вы лічыце, адбыліся якія-небудзь істотныя змены ў разуменні моднай індустрыі ў Беларусі?*


Фота Лізаветы Бахурэвіч

**В.К.** — Так, безумоўна. Калі я паступала ў інстытут, у мяне нават і думак не было, наколькі ўсё закруціцца. Потым я ўдзельнічала ў конкурсе «Мельница моды». А калі я вучылася на чацвёртым курсе, з'явіўся тыдзень моды, самы першы яго сезон. З кожным годам становіцца ўсё болей і болей fashion-мерапрыемстваў. Людзі звяртаюць увагу на моду, пачынаюць разумець, што ўсё ж такі беларуская мода...

**А.М.** — *Ёсць!*

**В.К.** — Так, і гэта не феномен. У прынцыпе, часткова ёсць разуменне таго, што азначае беларускі дызайн. Але выразна выражанага стылю ў яго пакуль што няма, большасць дызайнераў усё-ткі дзейнічаюць у рамках агульнавядомых тэндэнцый. Ведаеце, можна ж сказаць, што азначае італьянская школа дызайну, французская школа і гэтак далей. Я магу сказаць, напрыклад, што азначае ўкраінская школа дызайну. Таму што ўкраінская ў пэўным сэнсе ярчэйшая, чым расейская. Але наконт беларусаў сказаць вельмі цяжка. У нас шмат дызайнераў, але большасць з іх усё яшчэ шукаюць сябе. І я ў тым ліку. Я

разумею, што ў маёй маркі не на 100% сфарміраваўся яе ДНК. Але гэта толькі пачатак. Мы працуем толькі трэці год. Трэба прааналізаваць брэнд, зрабіць больш сур'ёзную працу, каб дакладна вызначыцца, хто наш пакупнік, які ў нас стыль, і што з гэтым рабіць далей.

**А.М. —** *А мне здаецца, што як раз брэнд «Kardash» мае свой ДНК. Калі я ўбачу вашае адзенне без аніякіх апазнавальных знакаў, хутчэй за ўсё, я ўсё адно пазнаю яго альбо задумаюся: «А часам не «Kardash» гэта?»*

**В.К. —** Вельмі прыемна гэта чуць! Канешне, мне вельмі б хацелася, каб брэнд быў пазнавальным. Зараз у нас ёсць сімволіка ў выглядзе буслоў, якую цяжка не заўважыць. Яны яркія. Я і сама надзвычай рэдка абыходжуся без сваіх жа «буслоў». Ужо другі раз надзяваю спадніцу на гэтым тыдні! (смяецца).

**А.М. —** *Жах які!*

**В.К. —** Так, жудасць! (смяецца). Проста вельмі камфортныя рэчы. Я радая, што ў той момант, калі я стварала калекцыю «Буслы», у мяне атрымалася захаваць элегантнасць і зрабіць зручнае і камфортнае адзенне. Зразумела, што ў калекцыі прысутнічаюць розныя рэчы, але на той момант я імкнулася зрабіць тое, у чым людзі захочуць хадзіць кожны дзень. Гэта была мая асноўная мэта. Я не пазіцыяніpsую сябе як дызайнер класічнага адзення альбо вячэрніх убораў. Калі ў маіх калекцыях і ёсць святочныя рэчы, то ў большасці сваёй, вы можаце іх апрануць пад кеды альбо пад любы іншы абутак, а ўвечары станеце на абцасы і будзеце выглядаць святочна. Мне здаецца — гэта найлепшы ўнёсак у гардэроб, калі ты можаш насіць рэч пастаянна. Нават а-ля святочныя сукенкі з калекцыі можна надзець хоць сёння, абыграўшы масіўным абуткам, напрыклад. Трэба толькі крыху ўключыць фантазію. Зусім нядаўна мы выпусцілі базавую лінейку, дзе прадстаўлены рэчы, якія можна насіць абсалютна з любой нагоды. Але гэта не проста базавыя рэчы, якія вы можаце купіць у любой краме, ідэнтычныя з брэнду ў брэнд, а канкрэтна з нейкай асаблівасцю брэнду «Kardash». Яна не будзе дакучлівай, ярка выражанай, але яна будзе. Таму я стараюся пазіцыяніраваць і сябе, і свае рэчы як такія, якія можна насіць і на святы, і кожны дзень.


Фота Лізаветы Бахурэвіч

**А.М. —** *Як вы лічыце, у чым праблема моднай індустрыі ў Беларусі? Чаго нам не хапае?*

**В.К. —** Не хапае сістэмнасці, на жаль. У Беларусі склалася такая сітуацыя, што ўсе стараюцца



Фота Настассі Дзейлік

падысці да нейкай агульнавядомай у свеце тэндэнцыі. Возьмем, напрыклад, паказы. У нас яны арганізоўваюцца па традыцыі на сезон наперад. Але для Беларусі такая сістэма не працуе. У нас няма баераў. А людзям прасцей і танней купляць рэчы непасрэдна ў дызайнераў, чым у крамах, якія прадаюць са сваёй нацэнкай. Таму мы прыйшлі да таго, што рабіць паказы сезон у сезон — гэта найлепшае рашэнне на дадзены момант. Гледачы прыйшлі на паказ, паглядзелі і захацелі заўтра пачаць гэта насіць. Таму бліжэйшую калекцыю мы будзем рабіць ужо сезон у сезон. Бо нашыя баеры — гэта нашыя кліенты. І яны хочуць насіць гэтае адзенне ўжо заўтра, пасля паказу, а не праз паўгады.

**А.М. —** *Што вы думаеце наконт супрацоўніцтва з іншымі краінамі?*

**В.К. —** Мы імкнемся з суседнімі краінамі супрацоўнічаць. Гэта даволі складаная сістэма, бо ўва ўсіх свае крытэрыі, якім трэба адпавядаць. Даволі шмат людзей з іншых краін цікавяцца брэндам. Таму ў гэтым годзе мы будзем старацца выйсці на кантакт, каб брэнд «Kardash» быў прадстаўлены не толькі ў Беларусі.

**А.М. —** *У вашых калекцыях ёсць які-небудзь пэўны прадмет, які вы вырашылі захаваць на памяць?*

**В.К. —** Ведаеце, мяне больш радуе, калі я бачу кагосьці ў сваім адзенні. Гэта лепей, чым проста трымаць нешта ў сваёй шафе і нікому не аддаваць. (смяецца).

**А.М. —** *Што вас натхняе?*

**В.К. —** Ідэя можа прыйсці зусім нечакана. Гэты момант немагчыма як-небудзь сістэматызаваць альбо апісаць. Звычайна я доўга выношваю ідэі, жыву з імі і праз нейкі перыяд магу сесці і за дзень-два «бамбануць» нешта і пачынаць шыць. У кожнага гэты працэс па-рознаму адбываецца. Многія могуць гадамі калекцыі маляваць. А ў мяне ўсё па-іншаму. Я пачынаю прамалёўваць калекцыю толькі тады, калі адчуваю, што поўнасцю гатовая да яе. Бо, пагадзіцеся, мяняюцца тэндэнцыі, мяняецца дызайн. Калі я пачну маляваць нешта зараз, а паказваць праз два гады, гэта будзе ўжо не актуальна. Свет мяняец-

ца. Сваю калекцыю, якую я прадстаўляла на BFW (Belarus Fashion Week — **заўв. аўт.**), я пачала маляваць у траўні, але напачатку жніўня я вырашыла змяніць большую частку калекцыі. Мой свет змяніўся ў чымсьці, і я змяніла многія мадэлі, якія яшчэ не вырабіла. Частку калекцыі я вырашыла зусім не прадстаўляць на тыдні моды. Усё мяняецца, часам зусім раптоўна.

**А.М. —** *Ці здаралася вам расчароўвацца ў сваёй працы?*

**В.К.** — Былі складаныя моманты. Я ж шмат чаго не ведаю. Вельмі важна разумець, што я не магу быць проста дызайнерам: намалявала і пайшла. Трэба вырашаць вельмі шмат сур'ёзных пытанняў. Былі моманты, калі я нават не разумела, што рабіць далей... Але пасля прыходзіла пераасэнсаванне зробленага, і зараз я працую з цэлай камандай. Адзін у полі не воін. Мне здаецца, што адзін з галоўных момантаў поспеху любой справы — гэта калі ў цябе добрая, зладжаная каманда. Тады можна не турбавацца і спакойна працаваць.

**А.М.** — *Калі кліенты прыязджаюць на прымеркі, асабіста вы з імі кантактуеце?*

**В.К.** — На прымерцы ў тэорыі мяне можа і не быць, калі я занятая нечым іншым. Мы ідзем да таго, каб я прысутнічала, толькі тады, калі я сапраўды неабходна. Бо калі патрэбна, напрыклад, падгонка, гэта можна зрабіць і без мяне.

**А.М.** — *Калі вы пачыналі ствараць адзенне, вы адчувалі попыт на яго? Склалася ўражанне, што любоў да беларускіх дызайнераў прачнулася ў людзей літаральна пару гадоў таму.*

**В.К. —** Зараз проста больш увагі прэсы да гэтай індустрыі. Раней арганізоўваліся толькі маркеты, невялікія мерапрыемствы. А цяпер аўдыторыя пашыраецца. Таму ўсё адбываецца актыўней і прыкметней.

**А.М.** — *Што вы адчуваеце, калі сустракаеце на вуліцы людзей у адзенні «Kardash»?*

**В.К.** — Калі сумленна, я заўсёды вельмі радая бачыць людзей у нашым адзенні. Многія спецыяльна апранаюць нешта з калекцый, калі ведаюць, што могуць мяне сустрэць і што мне будзе прыемна. Я на самой справе вельмі радуюся гэтаму. Мне прыемна, што людзі з задавальненнем носяць маё адзенне.

**А.М.** — *Якая мэта для вас першачарговая на дадзены момант?*

**В.К.** — Бліжэйшая мэта — гэта нарэшце закончыць рамонт нашага шоурума. У мяне складваецца ўражанне, што гэты рамонт ніколі не скончыцца. Вельмі хочацца, каб у нас была свая прастора, дзе мы будзем прымаць сяброў брэнду, кліентаў.

**А.М.** — *І апошняе пытанне: якую параду вы далі б маладым дызайнерам, якія знаходзяцца толькі на пачатку свайго шляху?*

**В.К.** — Працаваць, працаваць і толькі працаваць! Я абсалютна сур'ёзна! (смяецца). Проста, калі спынішся ў сваім развіцці, ты ўжо не зможаш прыдумаць нічога новага...



# Ала Петрушкевіч

паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Апублікавала звыш 200 навуковых прац, сярод якіх кнігі: «Іду па слядах: Літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997 г.), «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы» (2002 г.), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2010 г.) і інш. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гародні.

# У гады вайны

**(З кнігі «Шчонаўскія абразкі»)**

***Прайшлася вайна па маім Шчонаве, прарэдзіла людскую грамаду. Зусім маладзенькія хлопцы і маладыя, здаровыя мужчыны палеглі недзе далёка ў брацкіх магілах, зніклі без вестак. Маладыя, здаровыя кабеты, іх жонкі, ураз пастарэлі, тыя весткі страшныя атрымаўшы. Да пераліку гэтага сумнага дадамо і дзетак іхніх, што яшчэ нарадзіцца маглі б.***

***Ды і тут у часы тыя страшныя гінулі людзі. Па розныя бакі вайны.***

## Летам 41-га

Як у маім Шчонаве пачыналася вайна? Тыя, хто гэта памятаюць, кажуць: «Прыйшлі немцы». Нашы людзі спрадвеку жылі тут, а ўлады, заўсёды чужыя, прыходзілі і сыходзілі.

Цётка Фаня Лысішына расказвае, што проста прагналі немцы саветаў. Ішлі яны з Галянова праз двор панскі. І тэхнікі ўсялякае было поўна. Ніхто не ўцякаў, ніхто не баяўся. «А чаго было баяцца? — пытае. — Тыя немцы былі прыгожыя, высокія, прыстойныя. Прыйшлі і пайшлі сабе далей».

Мужчыны, што працавалі ў двары, стаялі і глядзелі. Знаёмая карціна. Калі немцы прыпыніліся адпачыць, звярнуліся да мужчынаў:

— За два тыдні Маскве капут.

Уладак, бацька цёткі Фані, нямецкую мову ведаў, бо ў маладосці быў забраны ў Нямеччыну на працу. Некалькі гадоў там прабыў. Удовін сын, не было каму заступіцца, то і забралі. Нат і не думаў ён тады, што з гэтае вайны, якая быццам паўз іх прайшла, ён не вернецца.

## Не вярнуліся

У кнізе «Памяць. Карэліцкі раён» пералічаныя мае шчонаўцы, што не вярнуліся з вайны. На помніках у Райцы і ў Карэлічах іхнія імёны выбіты. Хай ім вечная памяць будзе.

Хоць імёны іхнія пададзеныя, але разабрацца, хто ў гэтым спісе, цяжка. Тым больш людзям з малодшых пакаленняў, якія не вельмі ў мінулае ўзіраюцца. А ў Шчонаве маім суцэльныя Гілі, Таўлуі, Дубені, Навумчыкі, Яўсеі. Таму вырашыла расшыфраваць той спіс пры дапамозе старэйшых шчанаўцоў. Падаю яго ў кнізе з тлумачэннямі, поруч з імёнамі — мянушкі, па якіх лягчэй зразумець, чыя сям'я не дачакалася з вайны сына, мужа, бацькі.

## Захаравічы

Трое сыноў Захара Навумчыка былі забраныя на фронт. Двое не вярнуліся, Антон загінуў у Германіі, а Захар прапаў без вестак. Ёсць і такія між шчанаўцоў. Вельмі хацелася б верыць, што выжылі яны, што трапілі ў якія далёкія краіны і жылі яшчэ доўга-доўга. Бо і такое бывала.

Вось жа, Захар быў зусім маладым, калі забралі яго ў войска яшчэ палякі. Відаць, у 1939-ым. Сямнаццаць гадочкаў меў. Добра памятае яго цётка Вера Лідзіна. Быў вельмі вясёлы, добры. Надта любіў дзяцей. Збярэ малых, казкі ім расказвае, кнігі чытае. Дзяўчынка моцна любіла яго. Калі даведалася, што ў войска забіраюць, упала на зямлю, доўга плакала, што не ўбачыць Захара, не пачуе яго. І не ўбачыла болей ніколі.

Слаў Захар з фронту лісты дахаты бацькам, сястры Надзі. Сцвярджае цётка Вера, што знешне вельмі падобны на яго пляменнік Алёша, сын брата Тамаша, які таксама на фронт забраны быў, але, на шчасце, смерць абмінула гэтага Захаравіча.

## Вярнуліся

Да болю мала іх з тае бойні вярнулася. Успомнім фільм Мікіты Міхалкова «Натомленыя сонцам-2». Праўда, фільм той фантастычна-шчаслівы канец мае, як ніколі не было ў баях за тыя страшныя вышыні. Зразумела цяпер, дзеля чаго іх у 44-ым бралі. І чаму так многа хлопцаў нашых беларускіх у канцы вайны палегла.

Да 25-й гадавіны перамогі, вясной 1970-га года, зладзілі ў Карэлічах святкаванне, парад удзельнікаў вайны. Падышоў Навумчык Тамаш, адзіны Захаравіч, што вярнуўся, да настаўніцы Валі Барэйкавай і кажа:

— Гляньце, хто тут ідзе. Адныя недабіткі засталіся. Там намнога больш нашых мужчынаў палегла.

Сапраўды, загінулі, па афіцыйных звестках, са Шчонава сямнаццаць чалавек і з блізкага Хвалава сем, а вярнулася значна меней...

## Дэзерцір

Быў адзін такі ў Шчонаве. Дубень Апанас, муж Параскі. Няшчасны чалавек. Прасядзеў некалькі гадоў у гумне, у склепе, хаваючыся, на свет белы не выходзячы. Жыў у вялікім страху. Як і ўся сям'я ягоная.

А ў іхняй хаце ў вайну і пасля вайны школа была. Дзеці, здавалася б, сваім занятыя, а ўсё навокал прыкмячаюць. Бачылі яны, як хадзіла Параска ў гумно, нешта пад *хвартухом* хаваючы. Згледзелі, што рукі пад ім трымала, быццам грэла. Есці мужу насіла жанчына.

Нарадзіла Параска сына Колю, які мянушку Дэзерцір з-за тых бацькавых сховаў атрымаў.

Ды хто мае права судзіць гэтага чалавека? Насуперак таму, чаму вучылі за саветамі, усё ж самае каштоўнае для чалавека — жыццё. А калі яшчэ невядома, за якія ідэалы гінуць патрэбна, то тым больш зразумець яго можна.

Як бы ні было, усё ж жыццё збярог. Бо палеглі нашы шчонаўскія мужчыны на тых вышынях, пераправах па ўсёй Еўропе.

## Адседзелі

І турма маіх шчанаўцоў не абышла. Адседзелі ў страшныя сталінскія часы ў турме Таўлуй Уладзімір (Барын) і Кастусь Навумчык, якога ўсе Тунікам называлі. Па возу снапоў у калгасе ўкралі. Ажно па дзесяць гадоў мужчынам далі. Гора зазналі. Хто данёс, як даведаліся, не памятаюць таго ў Шчонаве. Старшынёю (*прадсядацялям*) тады Лапацкі быў.

Да бедных удоваў пасляваенных шчонаўскіх яшчэ і гэтыя жанчыны, Барыніха і Тунічыха, дадаліся.

Вярнуўся Тунік надта *нервенны*. Рабіць усё ўмеў. ГУЛАГ усяму навучыў. Ды лаяўся матам страшэнна. Тады ў Шчонаве ніхто сабе такога не дазваляў. На жаль, сёння брудная лаянка наскрозь працяла маю вёску. Асабліва з вуснаў апошніх маладзейшых шчанаўцоў.

Васіль Таўлуй таксама ў турме адседзеў. Солтысам быў у вайну. Далі дваццаць пяць гадоў. Адседзеў быццам васямнаццаць. Абараніць мне яго хацелася перад шчанаўцамі:

— Нехта ж павінен быў тым солтысам быць. Сілаю прызначылі. Ён жа нічога злога не зрабіў.

— Не, нядобры ён быў, людзей у абоз гнаў, выслужваўся.

Але самае галоўнае злачынства, якое яму прыпісваюць, — Аленавіча *ўдаў*. Выдаваць, даносіць, наогул, лічылася вельмі ганебнай справай. Так і казалі ў Шчонаве — *удаваць*. А тут немцам, фашыстам выдаў чалавека. На пакуты страшныя, на смерць.

Успамінае цётка Фаня Лысішына:

Прыехаў з Гродна міліцыянер. Выклікалі мяне. Тэчку — на стол. І пытае:

— Як Васіль быў солтысам? Ці біў каго?

Я не хацела расказваць. А ён у тэчцы паглядзеў і чытае, што нейкі камсамолец чуў, як Васіль казаў пра Аленавіча:

— Біця яго, біця, сабаку гэтаго...

Гэта не адзіныя сведчанні пра тое злачынства.

Адпакутаваў і Васіль сваё.

## Аленавіч

Неаднойчы чула пра гэтага чалавека ад цёткі Ганны Юлькавай. Звалі яго Мікалай, гэта дзядзька Віці Афіцэравага. Але і сёння памятаюць апошнія шчонаўцы яго як Аленавіча.

На пытанне, чаму немцы схапілі Аленавіча, цётка Фаня Лысішына тлумачыць:

— Бо Аленавіч за саветаў быў. Як узялі, то страшно катавалі. Увесь збіты быў. Завезлі на машыне ў Піляке. Пусцілі. Ішоў у Лукаты. Застрэлілі.

Загінуў страшнаю смерцю. Пахаваны на шчонаўскіх могілках. Чамусьці ў кнізе «Памяць» не знайшлося згадкі пра яго. А быў героем. Супраць фашыстаў змагаўся.

## Расстрэл, які не адбыўся

Пра гэта таксама ад цёткі Фані Лысішынай даведалася.

Прозвішча чалавека, які наклікаў смерць на Уладка Гіля (Лысага), Фанінага бацьку, Уладак Кадлубай. Родны брат Параскі і стрыечны Тунічыхі.

Быў звязаны з партызанамі, што дыслакаваліся за Нёманам. Меў даўнюю крыўду на Уладка Гіля. Яшчэ з тых часоў, калі разам у пана Ждана служылі. Ведае гэтую гісторыю цётка Фаня, бо ад бацькі, непасрэднага відавочцы і ўдзельніка, неаднойчы чула.

Данёс Кадлубай партызанам на Уладка. Што ён там нагаварыў, хто ведае. Але з'явіўся ноччу ў хаце Уладка з двума партызанамі, якія забралі бацьку з сабою.

Калі даехалі да Пілякоў (недалёка ад Малюшычаў), заўважылі здалёку, што з Карэлічаў па дарозе едуць уласаўцы. Кадлубай адразу ж уцёк у двор. Уцёк і маладзейшы партызан. А старэйшы дапамогі ў Уладка просіць:

— Што рабіць? Ратуй!

У Малюшычах жыў даўні сябар Уладка Барыс, з якім таварышаваў яшчэ з мінулае вайны. Паімчаліся да яго. Той схаваў небаракаў у сена. Наляцелі ўласаўцы, але пашанцавала тым, не знайшлі. Хоць сена штыкамі ад вінтовак паролі.

Атрымалася, што Уладак партызана выратаваў. Даехалі яны да атрада, дзе той і расказаў пра сваё выратаванне. Адпусцілі партызаны шчонаўца. Яшчэ і сала з сабою далі. Даведаўся ён там, што хваліўся Кадлубай:

— Завязуць Уладка Лысаго за Нёман і расстраляюць...

Абышла яго смерць тым разам. Але не на доўга. Забяруць яго на фронт у 1944-ым. У тым жа годзе і загіне ў Латвіі.

## Смерць ад партызанскае кулі

Вайна не толькі забівала тых, хто змагаўся па розныя бакі. Яна часам рыкашэціла і траплЯла ў тых, хто проста жыў, працаваў на сваёй гаспадарцы, ніякіх адносінаў да тае вайны не меў.

Так недарэчна загінуў на шчонаўскіх хутарах Мікалай Таўлуй, муж Гэлі Сахлэевай. На вачах суседзяў, жонкі і дзяцей. Зайшлі на іх надворак партызаны. Між іншых той жа Уладак Кадлубай, брат стрыечны Мікалая. Вінтоўка ў партызана была зараджаная. Мікалай трымаў на руках сына Віцю. А тут якраз прабягаў сабака. Кадлубай выстраліў. Куля зрыкашэціла і трапіла ў гаспадара. У

жывот. Паспеў яшчэ сыночка з рук перадаць... Як тое было насамрэч, ніхто дакладна не скажа. Адны гавораць, у сабаку страляў, іншыя — проста выпадкова націснуў на курок...

Як пачуваў сябе той «ваяка», вяртаючыся ў атрад? Ці паведамлена было камандзіру пра ягоны «подзвіг»? Як наогул чалавеку жыць з такім грахом на душы? Не маю адказаў на гэтыя пытанні. Пэўна, усё яны на вайну спісвалі, а яна, у сваю чаргу, мусіла таксама ўсё спісаць.

Двое дзетак засталіся сіротамі, двое хлопчыкаў, Коля і Віця.

## Смерць Кадлубая

Урэшце і сам Кадлубай смерці не пазбег. Расстралялі яго партызаны.

Быццам паставілі яго на варту, а ён уцёк да свае каханкі, што жыла недзе ля Мокрава. Даведаліся пра тое, прыехалі некалькі чалавек, забралі з хаты, прымусілі яму выкапаць. Паставілі перад ямай. Загад зачыталі. Быццам чатырнаццаць засадаў партызанскіх сарваў, немцам пра іх паведамляючы. Але не былі тыя партызаны, большасць з якіх нашы хлопцы вясковыя, да загубы чалавека здольныя. Ніхто не хацеў страляць. Тады выступіў адзін, нетутэйшы:

— Такога падлеца жалееце? Он чатырнаццаць засадаў сарвал.

І выстраліў.

Прысыпалі яму і зніклі.

Было гэта недзе ля Варончы. Сем тыдняў праляжала цела ў яме. Пакуль не даведаліся сваякі. Прыехалі на возе сястра Параска, Тунічыха і каханка Кадлубаева. Адкапалі. Але з ямы цела выцягнуць жанчыны рады не далі. Прыехаў на кані Тунік, за ногі прывязалі цела вяроўкай, канём выцягнулі.

Пахавалі на шчонаўскіх могілках.

## Выратавалі людзі

Пагроза расстрэлу навісла і над братам Кадлубая Колем. Мянушку ён меў Казёл. У чым яго абвінавачвалі партызаны, цяжка сказаць. Быў жанаты, меў трое дзяцей.

Хадзіў па хатах і прасіў людзей падпісацца, што нікому зла не зрабіў, што невінаваты. Усе падпісваліся.

Ці не адзіны гэта прыклад калектывізму, калі папера, на якой подпісы ставілі звычайныя вяскоўцы, выратавала чалавеку жыццё?

Пасля вайны Коля з сям'ёю з'ехаў у Карэлафінск. Неаднойчы прыязджаў, адведваў родныя мясціны.

## Шчонаўцы-партызаны

Нямнога іх са Шчонава было. Пайшоў у партызаны Алёша Барэйкаў. Сам пайшоў. Свядома. Змагацца з немцамі хацеў. Шмат гора нацярпеўся, і замяр-

заў, і галадаў, і смерць неаднойчы побач была. Але яшчэ больш нацярпелася сям'я ягоная, маці з малодшымі дзецьмі. Не, каб іх даглядаць, працаваць на зямлі, як усе ў Шчонаве, дык пакінуў ён іх не толькі на працу невыносна цяжкую, але і на небяспеку смяротную. Бо колькі прыходзілі немцы, столькі мусіла бедная ўдава Волька Барэйчыха з дзецьмі ўцякаць, хавацца. Добра яшчэ, калі летам, цёпла. А як зімою? Толькі па хатах чужых схавацца можна было. Але ж не ўсе пускалі, бо ведалі, што і на сваю сям'ю бяду наклічуць. Ніколі не адмовіла, не выправіла са свае хаты суседка Ліда Абэлгава. Заўсёды ў яе беднай хаціне маглі Барэйкавы навалу перачакаць.

А яшчэ ж партызан павінен каня мець. Большасць тых коней па вёсках здабывалі. Не мог Алёша ў людзей забраць. А ў мацеры змог. Вывеў з хлява, каб не бачыла. Нагараваліся без каня, пакуль на другога ўзбіліся. І накрыць каня таксама нечым трэба было. Прыйшоў дахаты, калі мацеры не было, і дастаў з куфра перабіранку каляровую, якую жанчына вельмі шанавала. Плакала па ёй не меней, чым па кані.

Быў у партызанах і Толя Якубаў. Праўда, значна пазней пайшоў. Прыйшлі партызаны, загадалі збірацца. Аднекваўся, не хацеў ісці. Цётка Жэня Мялешчыха кажа:

— Выстралілі, то і пайшоў. Дзе ж падзеняшся?

Такая вось мабілізацыя ў партызанскі атрад.

## Самы прыгожы будынак

Такім быў на ўсю ваколіцу шчонаўскую дом святара, што стаяў недалёка ад маёнтка, каля Мокрава. Двухпавярховы, ганак высокі. А вакол — сад, кветнікаў многа. Мала хто з маіх землякоў быў там, бо зайсці без запрашэння нельга было, усё вакол агароджана.

Калі прыйшлі саветы, адкрылі ў тым доме школу. У вольныя дні і ў святы гулянні там ладзілі. А калі немцы з'явіліся, хацелі зрабіць у тым доме камендатуру. Ды партызаны не далі, спалілі той самы прыгожы будынак.

## «Намі расчыняюць...»

Шчонаўцы заўсёды спачувалі гаротным. Бо і самі гора шмат зведалі. А ў вайну асаблівае спагады яўрэі патрабавалі, бо былі гнаныя, бо здзек вялікі трывалі толькі за тое, што яўрэі. Спрадвеку з нашымі людзьмі побач жылі. І спрадвеку іх у нас жыдамі называлі, без усялякага намеру пакрыўдзіць.

Хто як мог ім дапамагаў. І ў хаты пускалі, і хавалі, і есці давалі.

Цётка Фаня Лысішына ўзгадвае жыда Вэрваля, ганучніка, які да вайны тавар па вёсках вазіў, *лапенё* збіраў. Хаваўся ён ад немцаў недзе ў кустах за Мокравам. Прыйшоў аднойчы да бабулі іхняе Фядоры. Пакарміла яго, нанач пусціла. Запомніла кабета словы ягоныя мудрыя, быццам прыпавесць:

— Фядорко, Фядорко, намі расчыняюць, а вамі падмесяць...

Расказала яшчэ тады пра гэта ўнучцы і наказала:

— Унучачко, не кажы ж нікому, што ён тут быў. Бо і яго заб'юць, і мне будзя, і ўсіх нас паб'юць.

Знайшлі ўсё ж таго няшчаснага Вэрваля, не схавалі яго кусты мокраўскія. Бачылі людзі, як гналі яго па дарозе на Карэлічы, здзекаваліся, білі. «Кацюшу» спяваць прымусілі. Спяваў. А куды ж падзенешся?..

## «За сваю мацяру»

Было гэта летам 44-га. Немцы адступалі. Асобныя групы бадзяліся па лясох, ад сваіх адбіўшыся. Партызаны злавілі некалькі чалавек, у палон узялі. А сярод іх адзін зусім маладзенькі. Сеў на зямлі каля млына і просіцца:

— Не біце мяне, мне толькі дзевятнаццаць гадоў...

Быў між партызанаў Коля Качкарыкаў з Кайшоўкі. Маці ягоную ўласаўцы расстралялі. Падляцеў ён да таго немчыка з вінтоўкаю:

— Я за сваю мацяру буду вас біць і кроў вашу піць!

І прыкладам па галаве таму. Ажно пырскі разляцеліся...



# Сяргей Чыгрын

паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

# Песні Жальбы

Сумны сабе псеўданім выбраў у 1920-я гады юнак з вёскі Гірычы, што на Дзятлаўшчыне. Звалі яго Аляксандр Бяленка, а літаратурны псеўданіў быў у яго — Жальба. Гэтае слова азначае смутак, тугу, бедаванне, а таксама скаргу і нараканне. Тугі і бедаў у жыцці вясковага юнака было шмат, але ён не маўчаў, не насіў у сабе затоеную жальбу і крыўду, а ўсё жыццё змагаўся за светлую долю беларусаў, за родную мову і школу, за развіццё беларускай нацыянальнай культуры.

Пражыў Аляксандр Бяленка (1898-1991) 93 гады на роднай Дзятлаўшчыне: нарадзіўся ў вёсцы Гірычы, але пабудаваў сабе хату і жыў з сям'ёй у суседняй вёсцы Труханавічы.

Маленства хлопчыка Бяленкі было не вельмі радасным. Ён усё жыццё памятаў тыя часы, калі працаваў парабкам у багатых людзей, а потым батрачыў і зноў працаваў ад раніцы да вечара. Але з маленства хлопчык быў вельмі здольны да навукі. Таму бацькі знайшлі сродкі і аддалі яго ў царкоўна-прыходскую школу. Вучоба давалася яму вельмі лёгка, ён шмат чытаў, цікавіўся кнігамі, газетамі і часопісамі. А з беларускім друкаваным словам яго пазнаёміў старэйшы сябар Кастусь Сцяпура. Калі сябра за падпольную дзейнасць арыштавалі і пасадзілі ў Лукішскую турму ў Вільні, то справу яго працягнуў Аляксандр Бяленка.

Найперш Аляксандр актыўна пачаў знаёміцца з віленскім беларускім друкам. І напачатку 1920-х гадоў сам дасылае туды розныя нататкі пра падзеі і здарэнні, якія адбываюцца на Дзятлаўшчыне. Але пад нататкамі падпісваецца псеўданімамі: Н. Жальба, Нікіфар Жальба, Жальба, А. Жальба.

Першыя допісы Жальбы з'явіліся ў газетах «Наш сцяг» і «Змаганне» у 1923 годзе. Вясковы пазаштатны карэспандэнт паведамляў пра сваю вёску Гірычы і пра тое, як вяскоўцы атрымліваюць беларускую прэсу: «У нас нядаўна змянілі старога войта і пісара, і беларускія газеты сталі атрымліваць крыху лепш. Праўда, і цяпер яшчэ ў нашай гміне парадак у выдачы газетаў дужа дрэнны. Прыходзіць, напрыклад, наша газета, яе адштамплююць і кінуць на вакно, і тут яна церпіць немалы здзек з боку цёмных асобаў, якія часта вырываюць цэлыя артыкулы, а то і зусім падпісчык яе не ўбачыць. Вельмі балюча робіцца на сэрцы, калі дазнаешся, што знаходзяцца гэткія людзі і сярод беларусаў. Я сам бачыў, як солтыс Яварскай Руды (назва вёскі — С.Ч.) забраў з гміны ўсе газеты, нават не паглядзеўшы на іх адрасы. Такім чынам, шмат нумароў прападае, падпісчыкі пазбаўляюцца сваёй роднай газеты, якая з'яўляецца пуцяводнай зоркай у нашым жыцці...».

У 1926 годзе ў «Беларускай ніве» Жальба друкаваў інфармацыю аб розных вясковых здарэннях, якія адбываліся ў вёсках Дзятлаўшчыны, а ў газеце «Жыццё вёскі» за 1925 год апісваў цяжкае жыццё сваіх вяскоўцаў, называючы яго «безнадзейным палажэннем».

Цікавую інфармацыю Жальба апублікаваў у «Беларускай газеце» (1933, № 6) пад назвай «Асвета пашыраецца»: «Ад 1916 года ў нашу вёску Гірычы пранікла касуля беларускага нацыянальнага адраджэння ў выглядзе друкаванага слова, якім была пад той час выходзячая ў Вільні беларуская газета. З тае пары наша вёска амаль што не жыла без беларускага друкаванага слова. Трэба сказаць, што праз увесь час, пачынаючы ад 1922 года найбольшая ўвага ў нас была звернута на культурна-асветную працу, якая, хоць паволі, але пракладвае сабе дарогу. Цяпер мы маем да сотні беларускіх кніжак і паступова праводзім самаадукацыю, а з беларускімі газетамі ніколі не разлучаемся. Дзеці, якія ходзяць у польскую школу (беларускай не адчынілі, хоць два разы складалі дэкларацыі), таксама горнуцца да роднай кніжкі і ўжо многія бойка чытаюць і дэкламуюць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа».

Жывучы на роднай Дзятлаўшчыне, Аляксандр Бяленка хутка знаёміцца з мясцовымі грамадскімі актывістамі і літаратарамі. Яго сябрамі становяцца паэты і змагары за роднае слова: Сяргей Хмара (Сяргей Сіняк) з мястэчка Казлоўшчына, Пятрусь Граніт (Іван Івашэвіч), Гарасім Прамень (Іван Пышко) і Васіль Струмень (Аляксандр Лебедзеў) — усе з вёскі Зачэпічы. Сябраваў Жальба і простымі звычайнымі вясковымі хлопцамі: Ігнатам Пацэлем з вёскі Змяёўцы, Браніславам Лянко і Кастусём Кашко з вёскі Засецце, Іванам і Пятром Гурскімі з Малых Круглёў. Ігнат Пацэль і Кастусь Кашко працавалі на карысць КПЗБ. А Браніслаў Лянко, як і Жальба, таксама спрабаваў пісаць, дасылаў допісы ў віленскія газеты і часопісы. Але найбольш актыўна пісалі і друкаваліся ў многіх віленскіх выданнях Сяргей Хмара, Пятрусь Граніт, Васіль Струмень і Гарасім Прамень. З некаторымі хлопцамі Жальба па некалькі разоў бываў на тайных сустрэчах у Дзятлаве, куды прыязджалі і выступалі з цэнтра інструктары КПЗБ. Разам з сябрамі Аляксандр Бяленка сустракаўся і з палітыкам, літаратарам і педагогам Ігнатам Дварчанінам у Дзятлаве, які быў родам з суседняй вёскі Погіры. Дзятлаўскія юнакі на сваёй маленькай радзіме

*Хата Н. Жальбы.*



актыўна арганізоўвалі літаратурныя-драматычныя гурткі, ставілі спектаклі па п'есах беларускіх драматургаў, змагаліся за адкрыццё беларускіх школ, узначальвалі Таварыствы беларускіх школ і гурткі Беларускай сялянска-рабочай Грамады.


*Нікіфар Жальба, 1980-я гады.*

Разам з рознымі допісамі, найперш пра культурную працу свядомай беларускай моладзі на вёсцы, Нікіфар Жальба спрабуе пісаць і дасылаць у Вільню і свае вершы. Ён пісаў пра тое, што, найперш, хвалявала пры Польшчы беларускіх сялян. У сатырычным вершы «Неаплатная ласка», які быў апублікаваны ў часопісе «Авадзень» (1925, №2), аўтар напісаў пра тое, як сяляне з цяжкасцю плоцяць падаткі, аддаючы ўсё да апошняй капейкі:

*Пісар важна сядзіць*
*За пісьменным сталом--*
*Ён сягоння прымае падаткі.*
*Ды на зло людзі йдуць*
*Неяк вось па адном,*
*Аж у пісара робяцца складкі.*
*— Што за ліха, Янук!*
*Падыходзь да стала —*
*Цяпер будзем мы браць ад скаціны.*
*Рэгістрацыя ў нас*
*Ўжо даўно прайшла,*
*А ніхто не плаціў з нашай гміны.*
*Янук, колькі табе*
*За худобу плаціць?*
*Але... ў кнізе звядзём твае счоты...*
*Процант твой можам тут*
*Да граша палічыць,*
*Хоць не многа, а будзе работы...*
*— Я не знаю, панок, колькі вам з мяне ўзяць,*
*Бо кабыла нядаўна прапала.*
*Не пакінуў па ёй*
*Я яшчэ бядаваць:*
*Яна рукі ў мяне адабрала...*
*— Дык мо скуру садраў,*
*Ды ўжо жыду прадаў?*
*Гміна грошы табе не прашчае.*
*— Дамагаешся, пан, каб астаткі прадаў?*

*Няхай пан гэта мне выбачае.*
*— Як не будзеш плаціць —*
*Мусім во напісаць*
*Да старосты аб гэтым пасланне...*
*— Колькі ж, пане, яно будзе мне каштаваць?*
*— Адной скуры на гэта мне стане...*

Аднойчы ў хату Бяленкаў завітала паліцыя. Яна перавярнула ўсё ўверх дном, аднак нічога крамольнага знайсці не змагла. Забароненую літаратуру і прэсу Аляксандр хаваў у страсе дзядзькавага гумна. І хоць нічога не знайшлі, але юнака забралі ў пастарунак вёскі Накрышкі. Там, апісаўшы ўсе прыкметы, яго адпусцілі.

У 1935 годзе сям'ю Бяленкаў напаткала гора. Самы малодшы брат Аляксандра Антон Бяленка быў забіты панскім аканомам пры разгоне забастоўкі ў маёнтку Міроўшчына. Гэты трагічны факт вельмі ўсхваляваў паэта Жальбу. І ён піша верш «Заміж вянка на магілу брата, забітага 23.XI.35 г.». Верш апублікаваў часопіс «Шлях моладзі» (1935, № 13). Першыя страфы верша гучалі так:

*І паў ты нявіннай ахвярай*
*З рук подлага служкі паноў —*
*Жыцця маладога не стала*
*Між верных Айчыны сыноў.*
*Закрыліся светлыя вочы*
*У нема халодзячым сне,*
*І голас, да песні ахвочы,*
*Заціхнуў на ранняй вясне.*
*Злажыў ты працоўныя рукі*
*На вечны магільны пакой —*
*І болей ні скаргі, ні мукі*
*На сцежцы жыццёвай тваёй.*
*Ляжыш ты, навылет прабіты,*
*Абмыты ва ўласнай крыві,*
*Ляжыш ты, як цяжка пакрыты*
*Слязамі і жалем радні...*

У 1930-х гадах паэт Жальба шмат піша, актыўна супрацоўнічае з беларускімі віленскімі выданнямі. Але не ўсе яго паэтычныя радкі трапляюць на старонкі газет і часопісаў. У «паштовых скрынках» выданняў яму часта робяць заўвагі, вучаць пісаць, бо супрацоўнікі выданняў бачылі, што хлопец мае талент. «Пісаць можаце, толькі будзьце добры, не «адрывайцеся ад зямлі», не ўцякайце з яе, а апісвайце ўсё тое, што дзеіцца на гэтай жа зямлі. Паэт працы не лётае на нябёсах, але нага ў нагу ідзе з працоўнымі. Чакаем далейшых Вашых твораў», — паведамляў часопіс «Літаратурная старонка» ( 1934, №1). А «паштовая скрынка» часопіса «Шлях моладзі» (1934, №1) аднойчы Жальбу парадавала: «З прысланых вершаў пару нішто, па магчымасці будзем карыстаць. У супрацоўнікі прымаем. Радзім Вам больш чытаць беларускай прыго-



*Н. Жальба з В. Іпатавай, 1980-я гады.*

жае літаратуры. Цешымся, што часопіс Вам падабаецца і высылаць яго Вам будзем. Пішыце часцей!».

І Жальба пісаў, шмат друкаваўся, асабліва на старонках «Шляху моладзі». Пісаў ён аб тым, што бачыў, што перажыў, што хвалявала яго. І хоць вершам вясковага паэта часам не хапала лірычнай глыбіні, адзінства думкі і эмоцый, яны былі праўдзівыя, напісаныя ад шчырага сэрца, з целынёй і дабрынёй. Вось як хораша паэт апісаў жніво, тое жніво, якое ён бачыў, якое любіў і шанаваў («Шлях моладзі», 1939, № 14):

*Ідзе жніво, калосікі худыя*
*Ў зямлю ўбітыя і градам, і дажджом.*
*Як цяжка іх збіраць, — сагнута спіна ные,*
*І льецца пот усцяж няўпынным ручаём.*
*А сонца зверху паліць, як агнём, заўзята,*
*І вецер дзесь ў бары заснуў і ні сапе.*
*Ды толькі мятлікі надзеяю крылатай*
*Змякчаюць працы боль і радуюць цябе!*
*Азвецесь жнейкі ўсе вы — песняй-весялухай,*
*Хай рэхам адаб'е яе вяковы бор!*
*Няхай яна ўзляціць працоўнай раці духам,*
*І зойме ўвесь хутчэй жыццёвы свой прастор!*

Пасля разгрому Грамады, Аляксандр Бяленка з сябрам спрабуе з Заходняй Беларусі перабрацца ў БССР, але спроба канчаецца непамысна для яго і трагічна для яго сябра. Бяленка трапляе ў турму. А пасля турмы зноў аднаўляе сувязі са сваімі сябрамі і падпольшчыкамі. Шмат піша. Некаторыя вершы атрымліваюцца рамантычныя, напоўненыя імкненнем да нацыянальнай і сацыяльнай справядлівасці, яны заклікалі моладзь і ўсіх землякоў да лепшай долі, бо «толку з гэтага ўжо мала — ніхто нічога нам не дасць!»:

*Павінны самі мы змагацца*
*За свой людскі і лепшы быт,*

*На здзек і крыўду не даваццa —*
*Дык будзьма цвёрды, як граніт!*
(«Шлях моладзі», 1939, №10)

Магчыма, і замнога было ў вершах Жальбы вобразна-стылёвай адналінейнасці і лозунгавай рытарычнасці, але тады паэты-заходнікі сваімі заклікамі сцвярджалі патрыятычны дух, сілу, волю, перамогу:

*Гэй, браточкі мае, дарагія,*
*К вам я словы звяртаю свае:*
*Распаляйце парывы святыя,*
*Што таяцца у сэрцы на дне.*
*За прыклад вы таго не бярыце,*
*Дзе сільнейшы слабых перамог,*
*Патаптаўшы ўсю праўду на свеце*
*І для волі зрабіўшы вастрог.*
*Мы не хочам такой перамогі,*
*Каб слабейшы нам стаўся рабом.*
*Расцярэбім сабе мы дарогі,*
*Што здаўна заваліў буралом.*
*Нам не трэба ганебнага шляху,*
*Па каторым вякамі ўсё йдуць...*
*Мы ў жыцці сваім хочам размаху,*
*Чысту праўду усім разгарнуць!*
(«Шлях моладзі», 1934, №10)

У 1939 годзе моладзевы грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс «Шлях моладзі» адзначаў сваё 10-годдзе. Не застаўся ўбаку і паэт Жальба. Ён напісаў і прыслаў свой верш «Шляху моладзі» ў 10-я ўгодкі», які быў апублікаваны ў часопісе ў №7 за 1939 год. У вершы паэт усіх запэўніў:

*Хай крычаць груганы, няхай б'юць пяруны —*
*Нам не страшны ніякія сілы.*
*Ў нашых сэрцах агонь і адважна мы йдзем*
*Адраджаць край наш родны і мілы...*

«Шлях моладзі» у 1939 годзе ў №15 пісаў, што на беларускай літаратурнай ніве пачалося ажыўленне. Выйшаў зборнік вершаў Сяргея Хмары «Жураўліным шляхам» (Вільня, 1939), з'явіўся зборнік маладога паэта Анатоля Іверса «Песні на загонах» (Вільня, 1939), У друкарні знаходзіўся зборнік вершаў Міхася Машары. Рыхтаваліся да друку байкі Вінцука Адважнага, вершы Ганны Новік, Петруся Граніта і Нікіфара Жальбы. «Жадаць толькі трэба, — пісаў часопіс, — каб беларускія выдавецтвы змаглі і паспявалі выдаць іх».

Але зборнік вершаў Жальбы так і не пабачыў свет. На землі Заходняй Беларусі прыйшла савецкая ўлада, а потым — вайна, падчас якой Аляксандр Бяленка быў сувязным партызанскага атрада, ён распаўсюджваў зводкі савецкага Інфармбюро.

З другой паловы XX стагоддзя Н. Жальба (Аляксандр Бяленка) жыў з сям'ёй у вёсцы Труханавічы на Дзятлаўшчыне і асабліва ў вялікія паэты не лез, друкаваўся толькі ў мясцовым раённым друку і сяды-тады яго вершы траплялі ў абласную прэсу. Праўда, Уладзімір Калеснік адзін яго верш змясціў у зборніку заходнебеларускай паэзіі «Ростані волі» (Мн., 1990).

Сёлета я наведаў вёску Труханавічы Дзятлаўскага раёна. Вёска зусім не тая, якая была 30-50 гадоў таму. Цяпер у ёй пражывае толькі 36 чалавек на дзвюх вуліцах, якія называюцца Новая і Гагарына. Праўда, сярод вяскоўцаў жывуць у Труханавічах і дачка Аляксандра Бяленкі Ганна Мілейка і ўнук Іван. Спадарыня Ганна неяк здзівілася, што прайшло шмат гадоў і ўспомнілі яе бацьку. Яна шчыра разгубілася і сказала, што да сённяшніх дзён у яе не захавалася ні фотаздымкаў бацькі, ні вершаў. Стаіць і хата паэта Нікіфара Жальбы, на дзвярах вісіць вялікі замок, але вакол хаты чыста і прыбарана. За падворкам і агародам прыглядае ўнук паэта Іван.

Па словах вяскоўцаў, Аляксанд Бяленка быў вельмі адукаваным чалавекам. Ён верыў у Бога, пастаянна хадзіў у царкву. Заўсёды ў кішэні насіў нататнік і аловак, калі надавалася вольная хвіліна — ён пісаў вершы. Яны часта друкаваліся на старонках раённай газеты. А яшчэ, прыгадваюць вяскоўцы, паэт шмат чытаў, да яго часта прыязджалі госці...

На вялікі жаль, паэтычная спадчына Нікіфара Жальбы да сённяшніх дзён не сабрана пад адну вокладку і не выдадзена асобнай кніжкай. Хаця вельмі шмат у яго вершаў, якія варта захаваць для нашчадкаў.

У адным з вершаў, які Жальба прысвяціў свайму народу, ён пісаў:

*...Хай цвёрдую ў сэрцы надзею*
*Нясуць перамогі над злом.*
*Нас выбіць ніхто не здалее*
*Турмою, жалезам, агнём!*

(«Шлях моладзі», 1937, №1).





# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт.
Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку.
Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы.
Жыве ў Мінску.

# Паміж невымоўным і невыгаўкным...

***Кудасава Н. Маё невымаўля: вершы. Мінск: Кнігазбор, 2016. 116 с.***

Трэці паэтычны зборнік Насты Кудасавай пачынаецца... з вокладкі. Карціна Ніно Чакветадзэ арганічна ілюструе выданне. Прычым не на ўзроўні логікі. А менавіта — пачуццяў. Бо што такое паэзія? Паводле аднаго з азначэнняў, яна перадае словамі тое, што стаіць за імі. (Гэта, канечне, наша адвольная інтэрпрэтацыя.) Фактычна пра такую рэтрансляцыю гаворыць і назва новай кнігі паэткі.

Зрэшты, Н. Кудасава толькі працягвае традыцыю падобных назваў. Успомнім, дзеля прыкладу, «Безназоўнае» Янкі Купалы, «Ненапісаную аповесць» Івана Пташнікава, а таксама быццам бы ненапісанае апавяданне Міхася Стральцова. Урэшце, не мінём азначэння Алеся Разанава паэзіі як «уводзін у невымоўнае». (Тут маецца на ўвазе толькі творчы падыход.) Такім чынам маладая аўтарка ясна і якасна ўпісвае феномен свайго выдання ў пэўную сістэму літаратурных каардынат. Аднак свядома (думаецца, што свядома) напрошваючыся на тыпізацыю сваёй творчасці, Н. Кудасава не збіраецца пазбаўляцца індывідуальнасці свайго паэтычнага голасу, які гучыць ужо са старонак газет і часопісаў добры тузін гадоў. Лепшым доказам — зарыгеналеная назва новага зборніка (што, тым не менш, не перашкаджае яе ўспрыманню).

З першага верша ў зборніку («вершалінаў вершалініі...») паэтка тонка выражае сваё адчуванне паэзіі ў свеце:

*...як жукамі-караедамі*
*словы пад карой свярбяць,*
*павучынай абзэцэдаю*
*тчэцца codeвершавая бязь...* (с. 3)

І тут жа, у наступным творы, раскрывае дэтэрмінізм такіх перажыванняў:

*Мне вечнасць абдымае плечы*
*і боль вымае — па радку...* (с. 4)

Працытаваны верш — выразная алюзія да біблейскага сюжэту пра Лота і яго жонку, ператвораную ў саляны слуп з-за непаслушэнства. Але тут жа прытаілася і сувязь з інтэлігібельнай герменеўтыкай тэмы па-ранейшаму любімага літаратурным маладняком Борхеса, які зазначыў асаблівую чалавечнасць учынку Лотавай жонкі, бо азірнулася яна з прычыны свайго шкадавання да грэшных людзей, жорстка пакараных Богам. Лірычная гераіня, прататыпам якой з'яўляецца сама паэтка, гэтым самым становіцца на бок чалавецтва і, значыць, чалавечнасці.

Мала які паэт не спрабуе асэнсаваць сябе. Прычым у кожным часе асабістага жыцця. Таму гэта не ёсць прыкметай толькі маладых творцаў. (Хоць для пачынальнікаў філасофска-паэтычныя рэфлексіі натуральныя найперш.) Піша свой партрэт і Н. Кудасава.

*...я й сама, што ні ўдых, рухомая —*
*пругкіх сэрцаў гартую спрыт!*
*закунежу і вылечу ў комін...*
*варажбітка. завея. ліліт.* (с. 6)

Тым не менш гарэзлівае вырашэнне азначанай тэмы выдае ў аўтарцы маладосць не толькі прыродную, але і творчую (ці наадварот).

Не мінаецца Н. Кудасавай і тэма кахання. Толькі што працытаваны вершык — пра гэтае пачуццё таксама. Але яшчэ хіба не зусім выразна. Як, напрыклад, у наступным:

*недарэчна мне тут — рачной!*
*залячы хоць якой лячбой —*
*накармі з небасяжных далоняў,*
*рытмаплёскатам адары*
*і ў віры мяне забяры —*
*я ссыхаюся ў гэтым палоне.* (с. 9)

Прыведзены 6-радковік (а большасць вершаў Н. Кудасавай вельмі кароткія, таму прынадна цытаваць іх цалкам) — тыповы для характарыстыкі ўсяго зборніка, калі не ўсёй творчасці паэткі. Па-першае, падкрэслім яшчэ раз лаканічнасць формавую. Па-другое, як правіла, верш уключае ў сябе адзін вобраз, намаляваны хоць і з мінімумам фарбы, але густа, каларытна. Для гэтага (тут маем па-трэцяе) аўтарка пастаянна выкарыстоўвае асабістыя новатворы (што нярэдка нагадваюць эксперыменты маладнякоўцаў, на якіх намі зроблена алюзія вышэй). Па-чацвёртае, правілы пунктуацыі і правапісу вялікай літары, як бачым, выкарыстоўваюцца толькі часткова (напэўна, служаць зместу кожнага з твораў). У суме (двухсэнсоўнасць прачытання фразы — ад слоў «сума» і «сум» — вітаецца) атрымліваецца густоўная эсэнцыя, якую аматары могуць не піць нагбом, але смакаваць, як дэгустатары.

Паэзія Н. Кудасавай выдае чалавека «не от мира сего». Аднак жа, як выдае і разглядаемы зборнік, сярод вершаў сістэматычна знаходзяцца пра сям'ю, пра дзяцей (у «Калыханцы для дзетак» (с. 96) называюцца нават іх імёны). Відавочна, аўтарка жыве і зямным жыццём з яго праблемамі. Яны — такія, як ва ўсіх. Але, што і натуральна для тонкай паэтычна-душэўнай арганізацыі, перажываюцца вастрэй і бачацца вобразней:

*а яшчэ можна легчы сцяне на плячо*
*і паслухаць рахманых жукоў.*
*ці маўчыць ён пра тое, што ўрэшце знайшоў,*
*кволы жук у бліскучым трыко?*
*ці ў адчаі малітвы не можа заснуць,*

*калі болем заходзіцца сын?*
*ці таксама шукае шчакою сцяну,*
*бо баіцца не выжыць адзін?* (с. 104)

Зрэшты, пра што б ні пісала Н. Кудасава, усё глядзіцца арганічна і гарманічна. Вонкавая аднастайнасць, на якую нехта можа ўказаць пасля павярхоўнага погляду, — гэта якраз голас, выпрацаваны, пастаўлены, свой. Пра ўсё, што кранае, Н. Кудасава прамаўляе, стараючыся зазірнуць за мяжу чалавечага разумення і нават успрымання. Адсюль — нестандартны стыль філасафічнасці: паэтка для фенаменалізацыі ёю ўбачаных з'яў прымяняе фармальна магчымыя (чамусьці падумалася па-кудасаўску — можабытныя) хады словаўтварэння. Пра гэта не раз і пісалі, і выказваліся. Але такую адметнасць нельга не адзначыць лішні раз. Таму ў паэтычным свеце Н. Кудасавай існуюць «міраносіца песеннажылая» (с. 22) і «забойцатварыя гаргоны» (с. 26), «спевашчокія жабы» (с. 27) і «моўкнік недатыкальны» (с. 35), «бог дасканалаязыкі» (с. 48) і «дрэваверніца, сцежканосіца» (с. 70), а слоўнікавая наяўнасць пустазелля дае падставы паэтцы ўбачыць і «паўназелле» (с. 20).

Хочацца шэраг працягваць. Тыя прыклады — ужо сама па сабе паэзія. А з улікам таго, што яны граюць ролю сродкаў стварэння вобразнасці, дык можна казаць пра паэзію ў квадраце.

Асаблівую цікавасць ўяўляе, як Н. Кудасава знаходзіць узаемасувязь, здаецца, паміж некарэлюемымі рэчамі. Прычым — што часам здзіўляе — паэтка бачыць не толькі абстрактна- і суб'ектыўна-пачуццёвую пераклічку, але і яе рацыянальныя нітачкі. Таму закаханыя «радняцца ў адно радно» (с. 47), сеецца «бязбожнаму збожжа» (с. 49), шыецца «вырай навырост» (с. 19) і г. д. Калі тут і можна ўбачыць школу Алеся Разанава, дык варта прызнаць яго вучаніцу не проста адной з лепшых, але і адной з тваравітайшых (прабачце за чарговы кудасавізм і за ўжыванне яго без двухкоссяў).

Прычым з боку Н. Куставай азначаныя асаблівасці стылю нельга аднесці да постмадэрнісцкай гульні ці самамэтнага фармалісцкага эстэцтва. Увогуле, як ствараецца ўражанне, тыя «адхіленні» прыходзяць аднекуль, звыш. У прынцыпе, так і павінна быць з сапраўднай паэзіяй. Тым больш, што сама паэтка міжволі, у падтэксце і інтанацыях прызнаецца, што яе творы хутчэй намоленыя, чым надуманыя. Часам гэта нават эксплііцыруецца, вылазіць празрыстымі агаворкамі:

*я з усмешак і малітваў*
*зладжу моцны добры трос...* (с. 19)
*а я спяваю мантры горам*
*і мандрагорам...* (с. 26)
*у сабакі на донцах вачэй*
*адбіваецца свет невыгаўкны:*
*будкі храм,*
*дзе малітвамі ў лапках*
*колкі студзень пячэ...* (с. 101)

Таму і голас паэткі гучыць больш падобна да шэпту. (Хаця ёй далёка да ўзросту, у якім Іосіф Бродскі, пераспрабаваўшы звязкамі «все звуки, помимо воя», перайшоў да тоеснай артыкуляцыйнай танальнасці.) У сваю чаргу менавіта гэтакім спосабам прамаўлення і карыстаюцца *шаптухі*, да таго ж «варажбіткі ва ўсіх пакаленнях» (цытату прыводжу па памяці, бо старонка так і не адшукалася, у чым таксама бачыцца праява невытлумачальнага). Такім чынам, шэпт Н. Кудасавай мае медытаўны характар. Але яна гэтага і не хавае, калі кажа ў вершы, які і даў назву зборніку:

*Люляй мяне, маё невымаўля,*
*Закалышы ўвесь боль, на сэрцы змоўчаны.* (с. 95).

Аднастайнымі, як правіла, нейкімі восеньскімі рытмамі суправаджаецца ўся кніга. Яно і не дзіўна:

*Вечным бабіным летам*
*будзе песня мая...* (с. 93)

Пры гэтым паэтка шчыра прызнаецца:

*што адну кунежу мару:*
*хай на сконе дзён і дат —*
*за абрывам каляндарным —*
*будзе вечны лістапад...* (с. 28)

Як наглядна дэманструе прыклад радкоў гэтага водгука і яго аўтара, творчасць Н. Кудасавай жыве і сама па сабе, развіваючыся ў часе і прасторы, спараджаючы як мінімум новыя словы, а — эвентуальна — і вобразы. З прычыны такога, сугестыўна-крэатыўнага ўздзеяння вершы паэткі добра чытаць на філалагічных факультэтах. Тым самым шліфавалася б прафесійная жылка. Бо такія вершы дапамагаюць анатаміраваць мову і заглянуць за падручнікава-тэарэтычныя далягляды.

Больш таго, перажыванні лірычнай гераіні, якая ўзростам яшчэ не адышла далёка ад студэнцкага, блізкія гендэрна-дысбалансным аўдыторыям філфакаў.

Па шчырасці, так шчыльна з творчасцю Н. Кудасавай аўтар гэтых слоў знаёміцца ўпершыню. Вельмі дарэчным тут было б здзіўленне феноменам творчасці паэткі. Аднак гэтага няма. Яна падрыхтавала рэцэпцыю сваёй творчасці. Прынамсі для тых людзей, якія ведаюць слова «кудаса» і яго значэнне. Да гэтага можна дадаць і словы з коранем «куд», якія, паводле слоўніка Уладзіміра Даля, азначаюць чараўнікоў і чараўніцтва. Несумненна, яны этымалагічна блізкія і з рэгіянальна беларускай кудасай, і з прозвішчам агульнабеларускай паэткі. Яна сама пра гэта (ва ўсялякім разе даросшы да трэцяй кнігі) ведае і прымяняе пры суб'ектывацыі: «*я твой вернік з атраду кудзесных*» (с. 42). Адзін верш так і называецца — «Кудаса». Можна лічыць, што лірычная гераіня названага твору сабою анімізавала прыродную з'яву:

*выдзьму твае спадзевы,*
*дзеі прыцерушу,*

*вусцішнай каралевай*
*выстуджу ўсю душу.* (с. 65)

Прызнаюся ў сувязі са сказаным, што да нядаўняга часу прозвішча Н. Кудасавай у галаве гучала з націскам на першым складзе. Зрэшты, колькі не спрабаваў у працэсе чытання «Майго невымаўля» пераакцэнтаваць прозвішча, не атрымалася. Вершы толькі ўмацавалі *кудаснасць*. Варажбітка? Завея? Ліліт?



# Анатоль Мяльгуй

журналіст, музычны аналітык. У суаўтарстве з Вітаўтам Мартыненкам выдаў кнігі: «Праз рок-прызму» і «222 альбомы беларускага року і ня толькі...». Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

## ***Дыскаграфія***

# Якая яна, мелодыка роднага слова?

***Цяпер мы перажываем чарговы вiток тэхнiчнай рэвалюцыi ў музычным бiзнэсе, у спосабах захавання музычнага матэрыялу (кантэнту). Гэтыя працэсы адбываюцца ў iнтэрнэце, бо менавiта там ёсць усе магчымасцi да аператыўнага прадстаўлення доступу да яго вялiкай колькасцi слухачоў, пры гарантыi захавання аўтарскiх правоў на музычны прадукт.***

***Нягледзячы на гэта, новыя тэндэнцыi падабаюцца не ўсiм, асаблiва калекцыянерам, якiя мараць мець у сваёй фанатэцы тое цi iншае фанаграфiчнае выданне. I гэта дае шанц музыкантам яшчэ працяглы тэрмiн спалучаць актыўную працу ў iнтэрнэце i выпуск кампакт-дыскаў. А гэта — дае больш шырокiя i гнуткiя магчымасцi для росту вядомасцi выканаўцы i яго твораў.***

***Зыходзячы з гэтых тэндэнцый, якiя характэрны i для беларускага музычнага руху, сёння мы пагаворым пра новыя айчынныя музычныя рэлiзы, якiя шырока прадстаўлены ў сецiве, i маюць свае копii на CD.***

## Музычны «Kufar»

Не прайшло i года з моманту выдання гуртом Re1ikt альбома «Лекавыя травы», якi быў вельмi горача прыняты як беларускiмi слухачамi, так i адмыслоўцамi. «Лекавыя травы» былi прызнаны крытыкай лепшым альбомам 2015 года. Гэтае прызнанне матывавала музыкантаў на працу над новым альбомам. Iдэя яго з'явiлася, па словах бубнача гурта Алеся Дземiдзенкi, выпадкова.

Потым асноўная iдэя перарасла ў канцэпцыю альбома «Kufar». Бо ў музыкантаў доўгi час нарастала жаданне сабраць пад адной вокладкай тыя кампазiцыi гурта Re1ikt, якiя сведчылi б пра ўменне беларусаў сябраваць, рабiць добрыя справы талакой. А таксама пра тое, што нашыя суайчыннiкi, асаблiва маладыя, могуць ганарыцца нашымi традыцыямi, нашай культурай i мовай, прыродай роднага краю...

Музычным intro да альбома стала кампазiцыя «Хвалi часу», па гучаннi якой можна меркаваць пра стылiстычны напрамак новай працы музыкантаў. Удзельнiкi гурта сёння адмаўляюцца ад тых стылiстычных вызначэнняў, якiя раней яны вызначалi як post-metal, прагрэсiў-рок.

Цяпер новы альбом, лiчаць музыканты, больш шырэйшы ў музычных сродках, у iм скрыжавалiся шматлiкiя стылi, ёсць эксперыменты з гуказапiсам i гукатварэннем. Вяртаючыся да кампазiцыi «Хвалi часу» адзначым, што гэта складанае па форме музычнае i гукавое палатно з выразна акрэсленай цэ-

ментуючай функцыяй рытм-секцыі (бубнач А. Дземідзенка і басіст Зм. Наркевіч) і шматпланавымі партыямі гітар В. Макшуна. У цэлым жа «Хвалі часу» — гэта філасофскае разважанне на вечную тэму хуткаплыннасці часу і жыцця: «Заўтра няма,/ Ёсць толькі зараз./ Учора няма,/ Мы губляем час марна...» З гэтымі думкамі суадносіцца і музыка твора — «цяжкі» арт-рок з элементамі сімфанізму і пранікнёным, артыстычным вакалам У. Казлова.

Кампазіцыя «Сваточкі», запісаная ад Марыі Сямёнаўны Амос, жыхаркі вёскі Халопенічы Крупскага раёна Мінскай вобласці распачынае фолк-рокавую старонку альбома «Kufar». Бо гэта кампазіцыя была запісана ўдзельнікамі гурта ў адной са сваіх канцэртных паездак па вёсках і мястэчках Беларусі.

«Сваточкі» — заручальная песня, якія ў беларускім фальклоры вызначаюцца своеасаблівай паэтыкай, акрэсленай структурай. Так і ў выкананні гурта Re1ikt, і яго вакаліста У. Казлова твор набывае драматызм, дзякуючы лірычнаму зачыну і эмацыянальным зваротам, характэрным для заручальных спеваў: «Сваточкі-галубочкі, просім вас, каб не было нашай Анечцы дрэнна ў вас»...




Адна з фальклорных перлін альбома — спеў «Дробненькі дожджык», які быў запісаны Рыгорам Барадуліным ад сваёй маці і ўзяты музыкантамі са зборніка «Песні Матчыны з Вушаччыны». Кампазіцыя паводле гэтай народнай песні вядома ў выкананні гурта Re1ikt у акустычным варыянце, а на дыску прадстаўлена, як кажуць, у «электрычнасці». Але ад гэтага твор не губляе сваёй актуальнасці і можа дадаць новыя адценні да шчырасці пачуццяў лірычнага героя песні. Мелодыя песні мае вельмі арганічнае развіццё, а аранжыроўка мае выразныя аўтарскія рысы і завяршэнне ў стылі фолк-року. Не здарма, да гэтай кампазіцыі музыканты плануюць здымаць відэакліп.

З фолк-рокавага шэрагу і кампазіцыя паводле палескай песні «Вэлытай», запісанай у супрацы з лідарам гурта Vuraj Сержуком Доўгушавым (вакал, драўляныя духавыя інструменты). Трэба адзначыць, што дзякуючы гурту Re1ikt, агульнаму шматгалоснаму мужчынскаму спеву гэтая песня набыла сапраўды магутнае шаманскае гучанне, падмацаванае фірмовымі «рэліктаўскімі» рокрыфамі.

Аўтарскую частку праграмы альбома «Kufar» можа рэпрэзентаваць стыхійная па задуме кампазіцыя «Навальніца», у якой сродкамі рок-музыкі вы-

канаўцы імкнуцца перадаць неўтаймаванасць прыродных з'яў і пагрозу, якую нясуць яны чалавеку. Дзеля гэтай мэты выкарыстоўваліся кантрастныя рытмічныя пераходы і інструментальныя сугуччы, характэрныя для post-metal-року. А агульны стан трывогі перадае вакал саліста гурта У. Казлова.

Кампазіцыя «Кропля» — наадварот, больш атмасферная, месцамі медытатыўная музыка, у запісе якой гучаць розныя экзатычныя інструменты ад кохана да вістла. А вось завяршэнне кампазіцыі выводзіць слухача з медытатыўнага стану і акцэнтуе ўвагу на асноўнай думцы твора: «Пакуль жывы, буду ісці, буду шукаць!» Падобнай да папярэдняй кампазіцыі можна назваць песню «Пакуль усе спяць», бо яна месцамі падаецца трохі другаснай адносна «Кроплі», бо ў аранжыроўцы мае некаторыя агульныя з папярэднім творам рысы.

На дыску можна заўважыць яшчэ адзін дуэт гурта з саксафаністам і вакалістам П. Аркелянам («Крамбамбуля»). Саксафон Паўла надаў кампазіцыі «Толькі снег» на лірычны верш Янкі Купалы эмацыянальнага запалу і рысы «гарачага» фры-джаза...

Адным з сюрпызаў дыска можна назваць яскравы гімн футбольнага клуба «Крумкачы» — «Разам!», які музыканты напісалі спецыяльна для гэтай беларускай каманды з нялёгкім спартыўным лёсам. Падчас прэзентацыі дыска выказваліся перасцярогі, маўляў: а не разбурае фанацкі гімн канцэптуальнасць альбома «Kufar»? На што музыканты зазначылі, што вызначэнне слова «куфар» у беларускай мове такое, што азначае скрыню для захавання ўсяго неабходнага ў побыце. А беларускамоўныя гімны, безумоўна, патрэбны нашым камандам і з гэтай задачай выдатна справіліся музыканты гурта «Re1ikt».

Новы дыск пабачыў свет у выніку намаганняў саміх музыкантаў гурта, якіх падтрымала выдавецкая кампанія «Вігма». Сродкі на яго выданне былі сабраныя ў выніку цудоўна арганізаванай кампаніі па збору сродкаў, якая ажыццяўлялася на краўндфандынгавай платформе Talaka.by. Таму вопыт і выкарыстанне сучасных эканамічных інструментаў гуртом Re1ikt у выданні альбома «Kufar» мае вялікае значэнне для развіцця сучаснай беларускай музычнай культуры.

## Як утаймаваць час па рэцэпту IQ48?..

Пераможцы фэсту маладой беларускай музыкі «Басовішча-2003» заўсёды радавалі сваіх прыхільнікаў цікавымі трэкамі, незвычайнымі рытмамі і рыфмамі. Іх кампазіцыі займалі самыя высокія месцы ў айчынных хіт-парадах, а крытыкі шмат разоў адзначалі разнастайнасць аранжыровак песень і ўзнятых у тэкстах тэм. Прынамсі пра гэта казалі і на прэзентацыі перадапошняга альбома гурта IQ48 «HMR» (2011). І вось праз пяць гадоў «Здаровыя лосі» (менавіта так мянуюць сябе музыканты) прадставілі на суд слухачоў сваю новую працу — альбом «Трымай свой час».

Ад выканаўцаў, якія зарэкамендавалі сябе як сталыя прыхільнікі фанка, рэп-кору і «цяжкіх рыфаў» хард-року, чакаць эксперыментаў наўрад ці лагічна.

Таму музыканты спадзяюцца на распрацоўку новых тэм і хітовых мелодый, якія будуць прыцягваць увагу слухачоў. Ці ёсць новыя рысы ў песнях гурта з альбома «Трымай свой час»?

Што ж глянем на трэк-ліст новай кружэлкі гурта IQ48. Распачынаецца ён традыцыйнай для музыкантаў формай сацыяльных рок-маніфестаў. Маю на ўвазе кампазіцыю «Бруд», які нясе выразны заклік адмовіцца ад пошасцяў д'ябальскага свету грошай і вар'яцтва «салодкага жыцця». Выйсце аўтары і выканаўцы бачаць у жыцці, дзе будзе «месца сонцу ў сэрцы».

Такія ж заклікі да пошуку сваёй жыццёвай сцяжынкі «...якую ты сам сабе абіраеш» (Якуб Колас) можна пачуць і адчуць у іншай кампазіцыі альбома — «Выбар», у якой выканаўцы горача дэкларуюць: «Твой выбар — твая свабода. Твой дух не падуласны вырадкам!».

Гэтыя і іншыя зонгі, кшталту матывуючай кампазіцыі «Можаш», філасофскай «Трымай свой час» ці антываеннай песні «Зброя», аб'яднаны не толькі агульнай паэтычнай танальнасцю, але і на гукавым узроўні: з дынамікаў гучаць магутныя гітарныя рок-рыфы Я. Бузоўскага, якія зліваюцца з пераменлівымі рытмамі баса У. Плюшчава і ўдарнымі інструментамі А. Мацулевіча (вядомага як Tony Fadd). Бываюць у некаторых кампазіцыях IQ48 і інструментальныя цікавосткі. Напрыклад, у загалоўнай песні альбома «Трымай свой час», яскравыя меладычныя рысы якой дадаў флейтыст А. Семянюк.

Традыцыйнымі для гурта сталі кампазіцыі сатырычна-гумарыстычнага накірунку. Не выключэннем з'яўляецца і альбом «Трымай свой час». У яго праграме ёсць, напрыклад, кампазіцыя «Вова», якая ў фанкавай стылістыцы распавядае пра жыццё і турботы «сапраўднага валютчыка Вовы з Міхалова». А вось трэк «Бандэрлогі», прысвечаны недарэчнаму існаванню інтэрнэт-залежных хакераў, троляў ці карыстальнікаў сацыяльных сетак і порна-сайтаў. Актуальны тэкст створаны на падставе інтэрнэт-лексікона, што робіць песню вельмі спецыфічнай і надзвычай блізкай пакаленню «Z», якое не ўяўляе жыцця без гаджэтаў. У запісе гэтага трэка адзначыўся гітарыст Я. Бузоўскі, які выканаў шыкоўнае псіхадэлічнае сола.




Яшчэ адзін цікавы твор, які прыцягне ўвагу слухачоў — сумесная праца ўдзельнікаў гурта IQ48 з вядомым журналістам і лідарам гурта «Дрымон» Іллём Маліноўскім — кампазіцыя «Арол». Гэта, так бы мовіць, алюзія на тэму хі-

та гурта «Крама» — «Неба — лёс арла», але стоадсоткава «айк'юшны»! Тут і фанкавыя гітары, і чытка тэксту, і харавыя спевы ў фінале трэка. На гэтым звычайным для IQ48 гукавым фоне выгадна вылучаецца моцны голас Іллі, які надаў кампазіцыі выразныя блюзавыя адценні.

Завяршаючай кодай альбома стала экспрэсіўная кампазіцыя «Пыл», створаная ў нязвыклай для IQ48 стылістыцы speed-rap-metal, з такой жа хуткай чытанкай тэксту. Пры такіх тэмпах выканання музыкантам цяжка зрабіць нешта арыгінальнае, хоць аднаму з іх такое ўдаецца. Маю на ўвазе гітарыста Я. Бузоўскага, які парадаваў вуха слухачоў віртуозным гітарным трэмала.

Што тычыць пытання, ці можна лічыць новы альбом гурта IQ48 «Трымай свой час» удалым даробкам музыкантаў, адназначнага адказу пакуль няма. «Здаровыя лосі» дэманструюць сапраўдны прафесіяналізм пры стварэнні песень, мелодый і тэкстаў, а на іх падставе ствараюць відовішчныя, запамінальныя «жывыя» рок-шоу. Але многія кампазіцыі новага альбома цяжка назваць наватарскімі, бо створаны яны па выпрабаваных шаблонах. Пазбыцца гэтых хібаў цяжка, але гэтага чакаюць адданыя прыхільнікі гурта.

## З Беластока з любоўю і натхненнем

Неяк апошнім часам ідэі з музычнымі праектамі ўсё больш рэалізуюцца па той бок Буга, у Польшчы, на землях Беласточчыны. Да прыкладу, хаця б і ўспомніць новы фэст «Партызан-рок» ці рэмэйк «лепшага беларускага альбома» па версіі «Рок-каранацыі-1997» — праект «Народнага альбома. Праз 20 год» у Беластоцкай оперы. Прыемным і нечаканым дадаткам да гэтага пераліку нашага культурнага адзінства стала выданне альбома праекта «25 АБ-БА Аркестр».

Гэты музычна-спеўны праект паўстаў дзякуючы дапамозе грамадскай ініцыятывы «АБ'яднанне БАцькоў», якое складаюць бацькі дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову ў польскіх школах. А менавіта вучняў беластоцкай пачатковай школе №4, якія і дапамагалі па-новаму выканаць хіты беларускага року пакалення XX — пачатку XXI стагоддзяў. Ажыццяўленню задумы дапамагалі беластоцкія музыканты Юрка Асеннік і Хрыстафор Сяськевіч, а таксама запрошаны госць Лявон Вольскі, які ўзяў на сябе ролю мастацкага кіраўніка праекта.

«Жывая» прэзентацыя песень у рамках праекта «25 АБ-БА Аркестр» адбылася ў Гарадку на «Басовішча-2014», калі яго арганізатары і слухачы святкавалі 25-годдзе адзінага незалежнага фестывалю музыкі маладой Беларусі. Выступленне беластоцкіх дзетак, якія дапамагалі зоркам беларускай рок-музыкі выконваць самыя знакавых беларускія хіты, былі ўспрыняты з неверагодным энтузіязмам, стала незабыўнай падзеяй фестываля. А для ўдзельнікаў праекта «25 АБ-БА Аркестр» — матывацыяй займацца музыкай і вывучаць родную мову, а для яго арганізатараў — падставай для выпуску аднайменнага CD-дыска з песнямі праекта. Гэта ўзяліся ажыццявіць на студыі WeM Studio (гукарэжысёр Марыуш Грашоўскі).

Калі зірнуць на плэй-ліст гэтага музычнага выдання, то адразу можна выдзеліць некалькі блокаў песень, якія выконваліся самімі аўтарамі хітоў і хорам навучэнцаў, якія спасцігаюць прыгажосць беларускай мовы пад апекай настаўніцы Аліны Ваўранюк.

Першы блок праекта можна назваць «мроеўска-зэтаўска-энэрэмаўскі». Ён складзены з незабыўных песень гэтых супер-папулярных у краіне гуртоў і іх амбасадара ў праекце «25 АБ-БА Аркестр» Лявона Вольскага. Такіх як, драматычны заклік да суайчыннікаў «Зямля», супер-хіты гурта N.R.M. «Партызанская», «Песні пра каханне», «Тры чарапахі» і драйвавая кампазіцыя гурта ZET «Радзіма-свабода». Асноўны вакал і танальнасць песняў тут задае, канешне, Лявон Вольскі. Але мэтр дазваляе і маладым беластоцкім прыхільнікам айчыннага року паказаць свае спеўныя магчымасці.

Ад іх вакалу і так экспрэсіўныя песні Вольскага набываюць дадатковую энергетыку і шчымлівыя ноты настальгіі. Цяпер нават у Беларусі іх аднагодкі не заўсёды разумеюць радкі гэтых песень. А тут зусім юныя польскія беларусы дэманструюць цуд неверагоднага для дзіцячага ўспрыяцця заглыбленення ў кантэкст твора, прымушаюць часцей біцца сэрца тых, хто адстаяў права народа на незалежнасць і дэмакратыю ў Беларусі ў мінулым стагоддзі.

«Бондаўска-крамаўскі» блок праекта прадстаўлены кампазіцыямі «Слуцкая брама», «Стэфка» гурта «Бонда», а таксама хітом «Крамы» — «Будзь разам з намі». У гэтых каверах з праекта «25 АБ-БА Аркестр» знаёмы голас Ігара Варашкевіча, падтрыманы энтузіязмам беластоцкіх дзетак, гучыць яшчэ больш яскрава і аптымістычна. А самі творы ў новых вакальных аранжыроўках становяцца ледзь не рамантычнымі, нагадваюць пра гераічную гісторыю краю. Калі дзеці спяваюць рэфрэн «Слухай, слухай...», то здаецца, што гэта падаюць голас тыя самыя ваяры, якія ў мінулым ахоўвалі Слуцкую браму. Відавочна, што юныя выканаўцы па-дзіцячаму рады, што заспявалі з сапраўднай рок-зоркай!

Таксама беластоцкія школьнікі добра дапамаглі Аляксандру Памідораву і гурту Pomidor/OFF пры выкананні песні «Дым», дадаўшы да песімістычнага, мінорнага строю гэтай песні адценні надзеі на змены да лепшага ў нашым жыцці. Бо як спяваюць удзельнікі праекта: «Гоніць вецер дым, мы пакуль гарым...»

Відавочна, што асаблівую павагу ў вучняў выклікаюць землякі з беластоцкіх беларускамоўных гуртоў «R.F.Braha» і «Kardon». Іх кампазіцыі — «Шызафрэнія» і «Радыяцыя» гучаць на дыску «25 АБ-БА Аркестр» калі не зусім па-новаму, дык прынамсі заглыбленымі ў кантэкст кампазіцый, якія больш блізкія жыхарам усяго краю. У гэтай сувязі варта адзначыць і музыкантаў з Беласточчыны, якія вельмі далікатна і з вялікай павагай да арыгіналу зайгралі і перазапісалі знакамітыя хіты. Нельга ўявіць дасканалы вынік працы ўсяго праекта «25 АБ-БА Аркестр» без гітарыста і басіста Павала Азяблы, гітарыста Рыгора Карповіча і перкусіяніста Пётры Азяблы.




Часта прыходзіцца чуць пра тое, як безаблічна выступаюць нашыя дзеці на сцэне шматлікіх конкурсаў і тэлефестываляў, кшталту «Дзіцячага Еўрабачання». Адразу ўзнікае пытанне да тых «прадзюсараў», якія рыхтуюць іх да выступаў: нашто вы псуеце душы гэтых ні ў чым не вінаватых дзетак? Бо тое, што яны дэманструюць на сцэне гэта не проста сорам, гэта — катастрофа. Дарослыя забіраюць у іх дзяцінства, з маленства рыхтуючы да кар'еры спевакоў рэстараннага ўзроўню.

Такія праекты, як «25 АБ-БА Аркестр» разбураюць пошлы стэрэатып, даводзяць, што ёсць творчая альтэрнатыва сляпому малпаванню растыражаваных песенных узораў. Выйсце — у пошуку мелодыкі роднага слова!

